# Рэволюцыі



Часопісь
літаратуры,
мастацтва
і марксыцка-ленінскай
тэорыі і крытыкі

КНІГА ШОСТАЯ | СЁМАЯ

1 / 9 / 3 / 4



# Полымя Рэвалюцыі



ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ КРЫТЫКІ

Орган
Праўлення Саюза
совецкіх пісьменнікаў
БССР

*КНІГА ШОСТАЯ—СЁМАЯ*



МЕНСК ЛІМ
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
1934

ЗМІТРОК БЯДУЛЯ

# НАБЛІЖЭННЕ

## І

Два лесарубы—шырокаплечы рыжы Антось з шчуплым хлапчуком сынам—падрэзваюць стромкую хваіну. Бліскучая, колеру чыстай вады, піла з вострым і вясёлым візгатам усе глыбей і глыбей угрызаецца ў шурпаты камель. На стаптаны мох сыплецца жаўтаватае пілавінне.

Воддаль стаіць малады лясны прыказчык Левін. Ён наглядае за работай і пры гэтым (быццам адным вокам) чытае Кнута Гамсуна „Вікторыю“. За тонкім раменным поясам у яго засунуты падобны да пажарніцкай сякеры лясны адбой з ініцыяламі купца Барыса Лур'е. Кішэні яго сіняга пінджака адтапыраны ад запісных кніжак і алоўкаў.

Рыжы Антось спыняе працу.

— Стой, Ляксейка!—папераджае ён сына такім гучным голасам, нібы Ляксейка стаіць на некалькі гоняў ад яго.—Сцеражыся! Ах ты! Сце ра-жы-ся!

Ляксейка адскоквае, прыгінаецца, натужвае рукі, усоўвае галаву ў плечы, нібы хоча яшчэ далей бегчы і ад толькі што спыненых імпэтных рухаў на яго ілбе яшчэ дрыжыць вераб'іным чубком пасмачка кволых валасоў.

Рыжы Антось упіраецца засмоленымі рукамі ў бронзавыя грудзі хваіны, і твар у яго наліваецца, як вішня. Дрэва трапечыцца знізу да верху і вершаліна адклікаецца трывожным шолахам. Стромкая хваіна нахіляецца, усё шырэй, разяўляючы ля камля белы свежы рот. Працяглы крэхт роспачы—пераможанае дрэва ляжыць пластам на зямлі і некалькі мігаў уздрыгвае, нібы канаючая жывёліна.

У розных аддалях хвойніка прачынаюцца неспакойныя пошчакі. Са спалоханым чыліканнем узнімаюцца ў неба птушкі.

Прысадзісты рыжы Антось шчыра, як дзіцё, любуецца зрэзанай хвояй:

— Ах, ты! Сіла...

Вочы яго такія сонечныя, яркія і пранікілівыя, нібы бачаць перад сабою прастор куды далей за звычайнае чалавечае вока. Антось паўтарае:

— Ах, ты! Сіла...

— Пра якую гэта сілу кажаш, Антось?—цікавіцца прыказчык.

Рыжы Антось круціць з махоркі папяроску і кпліва жмурыцца на „Вікторыю“ Кнута Гамсуна.

— Пра якую сілу кажу? Калі на цябе ні гляну—ты ўсё кніжкі чытаеш, а не разумееш таго, што людзі табе гавораць. Мабыць у кніжках не напісана аб гэтай сіле. Я кажу пра нашу мужыцкую сілу.

— Ну.

— Ты не нукай, я табе не конь. Яна, сіла гэта, о-го-го, якая. Сам падумай—я вось просты, непісьменны чалавек, з пілой і сякерай працую, працую, яшчэ вось малога хлапца прыпрог да работы, а колькі-ж гэта няпростых людзей за маімі плячыма стаяць і вартуюць маю працу; першым вось ты тырчыш. За табою—старшы прыказчык Соркін. За ім упраўляючы Плоткін. За Плоткіным—бракаўшчык немец. За немцам—купец Лур'е і пан Манілоўскі. За імі—віленскія розныя гільдзіі, а там яшчэ. Ці я знаю гэтых усіх чарцей? Я знаю адно—стой з пілой і сякерай і кармі ўсіх!—Антось жмурыць вочы і смяецца нядобрым смехам.—Значыць я—немалая сіла? Гэтулькі дармаедаў кормяць рабочыя рукі.

— А мазгамі працаваць гэта па-твойму глупства?

— Ах, ты! Як гэта цябе кніжкі не навучылі... Яны то, розныя Лур'е і Манілоўскія, мазгамі на каго працуюць?—На сябе! А я рукамі на каго працую? таксама на іх.

— А табе нічога за працу не даюць?

— Ах, ты! Даюць мне гэтулькі, каб з голаду не здохнуць. Вось гэтай пілой і сякерай іх усіх, хто на чужым карку сядзіць, варта разануць і секануць!

— Таксама і мяне?—жартуе прыказчык.

— Хто цябе ведае! Быў вось да цябе Пінхасік, дык той вышэй пайшоў, бо нашаму брату пры рахунках круціў шэльма. Усё гэта ён рабіў на карысць купца. Зрываў з мазольнай працы беднага чалавека. Яму, Пінхасіку, нашы аднаго разу лоўка бакі натаўклі. Ты, вядома, не такі, як ён. Аднак, ты надо мною вось з гэтымі струмантамі стаіш, а не я над табою.

— Я ж працую!

— Гэта табе, братку мой, не сякерай і не пілой. Ты цягнешся ўверх да купчыкаў. Як гаворыш са мною, дык, здаецца, наш чалавек, а як сядзіш на купецкай брычцы, хоць побач з фурманом, дык ты ўжо купецкі чалавек. Ты і наш, і не наш.

— Ад каго, Антось, мудрасці такой нанюхаўся?

— Ад сваёй спіны і сваіх рук. Вядома і ад людзей чуў. Помніш Юрку, нізенькага Герасіма сына? Ён нейдзе там у Менску працаваў. Прыязджаў да нас яшчэ да японскай вайны. Разумна з людзьмі гаварыў. Не словы, а кліны ўбіваў у мазгі.

— Помню Юрку. Ён здаецца ў турме сядзеў? Потым у Сібір выслалі?

— Той самы. Вось ён усё...

— Та-та-а! Глядзі!—перапыняе яго Ляксейка.

— Бачу... Зайчык...

У бацькі і ў сына аднолькавыя, глыбока ўсаджаныя, шэрыя вочы. Цяпер іхнія вочы аднолькава прыемна здзіўленыя і такія праменістыя, напружаныя і вясёлыя, што здаецца—вось-вось зазвіняць.

— А цю-га-а! Ацю-у-у!

— Ах ты, шэранькі! Ах ты...

Шчуплы Ляксейка свішча тоненька і высока ў самае сонца, а прысадзісты Антось цокае цвёрда языком—акурат цокат капыт па каменнях.

Зайчык скача з купінкі на купінку. Быццам зусім не ўцякае ад небяспекі, а гойсае, грае і забаўляецца на сонцапёку. Ад яго скоку аж у вачах пярэсціць. Ён стрыжа доўгімі вушамі і скача ўсё далей і далей. Бацька цюкае і люкае, а хлапчук—у дагонку за зайцам.

Хутка рыжы Антось бярэцца зноў за пілу і кажа:

— За працу, Ляксейка! Годзе зайцамі забаўляцца. Усе мы зайцы. Я—заяц у Левіна. Левін—у Соркіна. Соркін—у Плоткіна і так яно ідзе аж да пана Манілоўскага і вышэй.

Раптоўна і неспадзявана ўспамінае Левін гэты абразок з бытнасці сваёй колькі год таму назад лясным прыказчыкам.

Цяпер рыжы Антось на вайне. Яго сын, пятнаццацёхгадовы Ляксейка, арэ, косіць і, каб паказаць сваю сталасць, вучыцца курыць.

За доўгім сталом у Кантаровіча сядзяць „зайцы" і заядла рэжуцца ў карты. Цяпер—у тысяча дзевяцьсот пятнаццатым годзе—называюць зайцамі дэзертыраў вайны. Ім пагражае расстрэл, а ў найлепшым выпадку іх адразу выпраўляюць на пазіцыю—„на першы агонь". Аднак у мястэчку Каганцы і ваколіцы нямала зайцаў. Гэта мясцовасць, хоць яна перарэзана шырокім трактам на Менск, лічыцца самай бяспечнай заховай для зайцаў часу вайны.

Шалясцяць замасленыя карты. У руках зайцаў яны мільгаюць веерамі над сталом і пад сталом, або лятаюць у адзіночку ад аднаго да другога з нейкім віртуозным спрытам пад шумок лёганькай гутаркі:

— Во-во, папаўся!

— Цяпер сур'ёзна пагаворым.

— Гуляю ў сляпую.

— Зараз вам усім канец.

— Не шанцуе, хоць ты трэсні?

Левін не гуляе ў карты. Ён сядзіць на крэсле воддаль ад стала і іранічна ўсміхаецца крыху дрымотнымі шэра-зялёнымі вачыма. Двума пальцамі многазначна чэша кучаравую цёмна-бронзавую чупрыну і думае:

— Ніякага падабенства да зайцаў.

Шалясценне карт і прыглушаны шумок надае спакой і адчуванне цёплага прытулу.

Малады гаспадар, Шыман Кантаровіч, сочыць за гульнёй вачыма арбітра. Ён спрытны і хударлявы чалавечак з паслухмянымі цёмнымі вочкамі-шпілечкамі, з густой стрыжанай чорнай бародкай, у шэрым пінджачку і ў такіх-жа нагавіцах, засунутых у мяккія халявы запыленых ботаў.

Ен стаіць у такой позе, нібы ў кожную хвіліну гатоў нешта незвычайнае ўчыніць ад вялікай гасціннасці—падскочыць у паветра і стукнуцца зашмальцаванай без колеру і формы кепачкай у столь, вылецець птушкай праз вакно, ці бараніць усіх ад нападу бандытаў худзенькімі кулачкамі з вострымі шашачкамі суставаў на пальцах. Ён на варце. Вартуе гасцей—зайцаў і часта выбягае на двор паслухаць і паглядзець, ці ўсё спакойна. Ён—як цень. Непрыкметна знікае і непрыкметна зноў з'яўляецца.

Вокны ў гарод адчынены і заслонены белымі фіранкамі, якія моршчацца ад лёгкага ветрыка, нібы іх перабіраюць нейчыя рукі. З двара пахне скошанай травою і яблыкамі. Пакой доўгі, перагароджаны габляванымі, жоўтымі, як воск, дошкамі. Уваход у бакавы пакой—за дошкамі—не мае дзвярэй, а завешаны паркалёвай заслонай, на жоўтым полі якой шчодра насаджаны чырвоныя буйныя макі.

З-за паркалёвай заслоны чуваць ніто гуд пчол, ніто дзіцячае румзанне. Часта румзанне спыняецца і апэтытнае асалоднае чыханне сыплецца ўрывіста і няпрошана ў карцёжны роўны, як нацягнутая нітка, шумок.

Левін зацікаўлена слухае.

У гэтым манатонным румзанні ледзьпрыкметным зігзагам змяіцца іранічна-сумная талмудычная мелодыя. За дашчанай сценкай сядзіць стары гаспадар, Лейба Кантаровіч. Левін добра ведае гэтага ненасытнага кніжніка, які ўдзень не менш ненасытна займаецца гандлем. Той, пэўна, сядзіць цяпер над кнігай „Эйг Яков“ (Вока Іякава) і п‘е, нібы старое віно, тысячагадовую несуразіцу рэлігійных легенд. Можа цяпер, у самую гарачку вайны, ён аналізуе стратэгію бітваў паміж войскаў Давіда і філістымлян. Жоўтымі ад нюхальнага тытуну пальцамі праводзіць па ліняючых старонках кнігі лінію бітваў часоў бібліі. Да кожнага выпадку ў цяперашнім жыцці стары Лейба знаходзіць аналагічны выпадак і поўнае тлумачэнне ў мінулых часах Ханаана і Сіная.

Зайцаў трое. Пара з запушчанымі барадамі. Барада—гэта скок на дзесяць-пятнаццаць год з маладосці ў старасць. Барадач зусім не заяц, не дэзертыр вайны, а пажылы, богу душой вінаваты, чалавек. Барада скрадвае гладкасць і маладосць твару, нібы пудра і фарба—маршчыны ў стараватых жанчын.

Левін назірае за барадачамі. Ля кожнага з іх купка медзякоў. Гавораць яны, зайцы, прыцішанымі галасамі. Не забываюць, што яны зайцы, хоць стараюцца аб гэтым не думаць.

— Пры іх не можна гаварыць аб вайне,—папярэджвае Левіна гаспадыня.—Слова „вайна“ псуе ім нервы.

Левін знаём з імі ўжо некалькі дзён.

Вось першы—Гарэлік—патаемна ўсміхаецца. Кладзе мядзяк на карты і прыціскае пальцам з такім выглядам, нібы з-пад карты павінна зараз выскачыць мыш. Гэта сын ляснога купчыка з суседняга мястэчка. У яго твар у рабаценні, напуджаныя вочы і залацістая барада. У кожным яго руху страх і асцярожнасць, недаверлівасць і клапатлівасць. Сумнаватыя і настарожныя вочы пранізваюць, сочаць ці не вораг перад ім, не здраднік, што палюе на зайцаў. Як толькі Левін на яго зірне—то ў адказ так утаропіцца, аж Левіну прыкра. Гарэлік прымае ўдзел у гандлях Кантаровіча. Ён дае на гэта шмат грошай і, як кажа Шыман Кантаровіч: „грошы ў гешэфтах—усё!“ Шыман Кантаровіч даў яму мянушку: „ціхі анёл“.

Другі заяц—Сакалоўскі, сын тутэйшага багатага селяніна, спульніка Кантаровіча. У яго тоўстыя, саломянага колеру, вусы і прыжмураныя невыразныя вочы. У яго вясёлы выгляд чалавека, што заўсёды святкуе, заўсёды гатоў гаварыць вясёлыя анекдоты, але стрымліваецца і маўчыць. Ён любіць заглядаць у чужыя карты.

Трэці заяц—Шагал, настаўнік з Смаргоні. Брат гаспадыні. Нізкі, з вільготнымі чорнымі вачыма. Яго матавы твар абрамлены чорнай, як аксаміт, і круглай барадой. На галаве ружовая лысінка. Ён маўкліва, сур‘ёзна і ўважліва грае. Такі выгляд, нібы ад гэтых карт залежыць лёс яго жыцця. Аднак Левін прыкмячае ў ім нейкую робленую міміку, чужы голас і штучную зацікаўленасць. Шагал вучыць дзяцей Кантаровіча.

Ад Шымана Кантаровіча Левін яшчэ колькі год назад чуў пра Шагала. Ён адзін з арганізатараў забастоўкі сярод гарбароў Смаргоні ў тысячу дзевяцьсот пятым годзе, доўга сядзеў у турме; цяпер жыве пад чужым прозвішчам Шагал, а яго сапраўднае прозвішча Лінкін. Калісці ведаць не хацеў сваякоў-гандляроў, але вось паміры́ўся з імі і адседжваецца тут ад вайны.

Пры стале яшчэ пара местачкоўцаў—аматараў карт. Па-за спінамі гульцоў стаяць, як збраяносцы, чарнявыя, чорнавокія хлопчыкі. Усе

яны бадай аднаго росту і выгляду; смуглявыя, бы цыганяты. Кожны з хлопчыкаў аблюбаваў аднаго з гульцоў і сочыць за яго ўдачамі і няўдачамі з найвялікшай увагай. Ведае Левін і свецкую адукацыю гэтых хлопчыкаў: бацька вышкаліў іх па-свойму. Калі праязджае каля іх ганка пан, яны выстройваюцца ў рад, здымаюць шапкі, ды крычаць нібы па камандзе—„дзень добры!“

— Цодык, Борах, Мэндаль, Зорах—заве, і іх па імені маці—маладая гаспадыня Кантаровіч, і імёны, разам сказаныя, маюць рытм і рыфму, як народная частушка.—Вячэраць і спаць.

Яе загад кароткі і ясны.

— Ай, не хочам!—чуваць у адказ іхні чатырохгалосы хор таксама каротка і ясна.

— Гадуюцца на ўзвей вецер,—скардзіцца Левіну гаспадыня.—Што з іх будзе, як вырастуць?—і таропіць на Левіна вочы-гузічкі.

І Левін не ведае, што з іх будзе, як вырастуць, аднак упэўнена адказвае:

— Вырастуць і вялікімі будуць.

Гаспадыня плыве па пакоі туды і сюды, як бочка па возеры. Яна падае к сталу гарбату і самаробнае пячэнне. Сёння яе галоўная ўвага Левін. Ён госць. Нядаўна з Вільні прыехаў. Гаспадыня шчабеча, як птушка, і з'яе двума запаленымі свечкамі-вачыма.

Ля самага вакна на мяккай канапе сядзяць дзяўчаты. Левін п'е гарбату і паглядае на іх ласым вокам. Адна ціха хахакае і аб нечым шэпча другой. Здаецца, што ім вядома нешта вельмі цікавае, але нікому не скажуць. Абажур вісячай лямпы атульвае іх у смуглы цень. Вось чаму вочы ў іх бліскучыя, а зрэнкі буйныя і чорныя. Адна думка захапляе Левіна: „дзяўчаты вельмі прыгожыя“. А тры гады таму назад, як Левін адгэтуль выехаў у горад, яны былі падлеткамі. Ён куды старэйшы за іх. Калісці гаварыў ім „ты“. Цяпер яны дарослыя. Тры гады не малы час. Як тут быць? „Ты“ і „вы“ сур'ёзная праблема. Левін кпіць з самога сябе і знаходзіць выхад, будуе фразы без „ты“ і „вы“.

— „Як жывецца?“

— „Прыгожыя тут дзяўчаты“.

— „Такой дзяўчыне варта было-б свет пабачыць“.

У Маўры, дачкі старавера, надзвычай белыя валасы і горды выгляд, а ў гімназісткі Іры светла-каштанавыя, пухленькія губкі і карыя вочы. У першай брат у акопах, у другой—у нямецкім палоне. Яна сумная не таму, што брата няма дома, а з іншых прычын: у мінулую ноч абакралі яе маці.

Ужо думаў быў Левін прысесці да іх на канапу, як раптам пачуў за сваімі плячыма трывожнае „ша“ Шымана Кантаровіча.

— Ша! Здаецца, сюды ідуць стражнікі.

Усе ўскакваюць са сваіх месц з такой трывогай і страхам, што сам Левін палохаецца. Ён успамінае сваю нядаўную прыгоду з чорнай палярынай і чорным капялюшам.

— Дык вам усім няма чаго непакоіцца,—кажа Шыман Кантаровіч.—Сядзеце спакойна, а вось яны... І ён паказвае худой рукой з растапыранымі пальцамі на зайцаў:—а вось ім...

Зайцы ўжо ля адчыненых вакон, асцярожна і спрытна лезуць праз вокны на двор. У іх позах шмат камічнага і забаўнага. Хлопчыкі Кантаровічаў голасна хіхікаюць, а гаспадар злосна крычыць:

— Ша!

Спіны зайцаў сутуляцца. На міг відаць адшліфаваныя падошвы іх ботаў з белымі кропкамі драўляных цвічкоў.

— Якраз зайцы,—думае Левін і гулліва жмурыць вочы на дзяўчат. Усе выходзяць нават не развітаючыся з гаспадарамі.

Гаспадыня скардзіцца:

— Калі ўжо скончыцца гэта вайна? Хоць вы тут заставайцеся,— просіць яна Левіна.

— Я застаюся,—кажа Левін рыцарскім тонам.

Ён з усёй сілай адчувае цяпер свой талісман ад вайны: ледзь прыкметнае бяльмо на правым воку і белы білет у кішэні.

Прыгожая дзяўчына-работніца прыбірае з стала. Звон шкла, кволы і дрыжучы, супакойвае трывогу. Шыман Кантаровіч зачыняе вокны, а стары Лейба за дашчанай сценкай не спыняе свайго пчалінага гуду. Чарнявыя хлопчыкі, прывыклыя да такіх сцэн, садзяцца самі за карты.

— Дык дзе-ж стражнікі?—дзівіцца Левін.

Шыман Кантаровіч глядзіць на яго загадкавымі вачыма гандляра.

— А як вам здаецца, пане Левін?

— Мабыць, прыдумалі самі гэтых стражнікаў, каб пажартаваць.

— Стражнікі стаяць за дзвярыма ды чакаюць, пакуль зайцы схаваюцца. Яны-ж бяруць ад кожнага па пяць рублёў у месяц.

У Шымана Кантаровіча пераможніцкі выгляд.

Яны, стражнікі, уваходзяць бокам, асцярожна аглядаючыся, нібы праціскаюцца праз вузкую шчыліну. Іх двое. У чорных доўгіх шынелях выглядаюць духоўнікамі. Блішчаць мядзянай аддзелкай нажны шабляў.

— Ужо?—пытаецца адзін з іх шальмоўскім голасам і коліць вясёлымі вачыма ўсе куткі пакоя:

Гаспадар супакойвае:

— Ужо!

На Левіна ніякай—увагі. Відаць, яго асоба ім ужо вядома. Яны садзяцца за стол. З такой упэўненасцю, нібы іх ужо запрасілі на пачастунак.

— Вячэраць:—загадвае адзін з іх і нюхае паветра вострым носам-дзюбам. Другі маўкліва і сур'ёзна кладзе на стол каленкоравую папку.

— Дзеці, спаць!

На гэты раз дзеці паслухмяна выходзяць у другі пакой. Стражнікі рашпільваюць шынелі і бяруцца за карты.

Гаспадыня соўваецца з пакоя ў пакой, камандуе дзяўчынай-работніцай, якая ставіць на стол закускі. Шыман Кантаровіч, паслухмяны і спрытны,—гатовы цяпер на паслугі да таго, што, здаецца, у рэчку кінуўся-б, каб толькі „начальства" загадала,—прыносіць з патаемных захоў пляшку гарэлкі і трасе перад лямпай. Гарэлка пеніцца і кіпіць белым зернем.

Левін хоча ісці.

— Пачакайце,—просіць гаспадыня,—разам павячэраеце.

Левін аднекваецца, але гаспадыня ўмее так пяшчотна прасіць вачыма, што ён мусіць астацца. Знекуль чуваць пах яечні.

— Малайчына гаспадыня!—хваліць адзін стражнік, і вусы яго ходзяць хадыром, як у таракана.

— Правільна!—кажа другі, а шэрыя вочы ў яго нахабныя да прыкрасці.

Прыносяць яечню. Гарэлку наліваюць у чаркі.

— Каб хоць сівы сюды не прыскочыў,—непакоіцца адзін стражнік.

— Ціпун табе на язык,—злуецца другі.

Левін ведае, што „сівы“ гэта цар ваколіцы—ураднік. Той бярэ па дзесяць рублёў у месяц ад кожнага зайца. „Па крэўнасці,—кажа ён,—а.то трэба было па дваццаць“. Крэўнасць такая: прозвішча ўradніка—Заяц.

Сівы ўраднік сягоння ў Каганцах увесь дзень, бо ў мястэчку адбылася вялікая падзея—абакралі ў мінулую ноч крамнічыху Войскую. Высокая худая крамнічыха плача цэлы дзень. Ураднік Заяц і стражнікі рабылі вобыскі шмат па якіх хатах, але нідзе не знайшлі ніякіх слядоў злачынства.

Левіна цікавіць, што такая дробная падзея ўскалыхнула ўсё мястэчка куды больш, чым вайна, куды больш, чым небяспека наблі-жэння фронта. Мястэчка Каганцы жыве яшчэ ў ідыліі спакою, і „зайцы“—маленькі толькі, ледзь прыкметны, цень вайны, нібы цень вайны, нібы цень вераб'я.

Гаспадар выходзіць на двор. Рашпілены пінджачок матляецца на ім ад шпаркіх рухаў, нібы ад ветру. Ён сам шпаркі, як вецер, прыносіць неспадзяваную вестку:

— Здаецца, валачэцца сюды сівы... Знекуль прыехаў...

У яго вачах заклапочанасць і шчыры спалох.

— А халера на яго,—злуецца той, што з каленкоравай папкай.

— Вайна, нічога не зробіш,—па—філасофску тлумачыць другі.

Яны спешна п'юць па чарцы. Тым часам услужлівы Шыман Кантаровіч адчыняе вокны, і абодвы стражнікі шась на двор, шмаргаючы доўгімі шынелямі па падваконніках. На міг свецяцца ў паветры абцасы іх ботаў з бліскучымі падкоўкамі.

— Чым яны лепшыя за нашых зайцаў,—пытаецца ў Левіна Шыман Кантаровіч і давай смяяцца без голасу, нібы косткай давіцца. Смех пырскае з яго вачэй, з твару, з усёй яго шчуплай і жвавай фігуркі. Левіну не па сабе ад гэтага смеху.

— Шыман, што з табою?—непакоіцца гаспадыня.

— Да нічога са мною. Толькі я іх абмануў, стражнікаў. Ураднік няма. Хацеў проста збавіць Левіна ад такой кампаніі. А каб сапраўды быў ураднік, я-б напалохаў і яго прыставам. А там вышэй—аж да міністра. Будзем цяпер вячэраць з Левінам. Трэба пазваць зайцаў у хату.

Гэты жарт Левіну да таго спадабаўся, што ён згадзіўся выпіць з гаспадаром і рыхтаваўся апавядаць яшчэ нікому тут невядомую сваю прыгоду па дарозе з Вільні дамоў.

II

Левін піша вершы. Ён рамантык. Ён выображае сябе незвычайным жрацом незвычайнага культа ўсхода і захода сонца, ціхіх вясковых пейзажаў і пяшчотных песень кахання. Яго бронзавая кучаравая шавялюра падобна да густога хмызняка, шэра-зялёныя дрымотныя позіркі заўсёды ўтароплены ўдаль. З Дон-Кіхоцкім захапленнем ён стараецца павялічыць знадворны выгляд свайго „жрэцтва“. Набывае чорны капялюш з шырокімі палямі і чорную палярыну з замысловатым капюшонам і бліскучай засцежкай у выглядзе двух масянжовых ільвіных галоў. У гэтым аблачэнні ён падобны ці то да аскета сярэдніх вякоў, ці то да вандроўнага скрыпача.

У Вільні на чорную палярыну ніхто ўвагі не зварочвае, але едзе Левін у роднае мястэчка—у Каганцы... Уцякае ад вайны... Немцы хутка займуць горад. Па вуліцах незвычайны рух, грукат і стукат. Эвакуацыя ўстаноў, бежанцы, вайскоўцы, паляванне казакаў на зайцаў. Спалох і трывога.

Нялёгка Левіну дастаць білет. На вакзале вайскоўцы касавурацца на яго чорную палярыну. Не раз ён прыкмячае на сябе пільны калючы погляд маўклівага пышнага жандара. Аднак ніхто яго не спыняе і не пытаецца дакумантаў. Мабыць чамадан з рэчамі служыць абаронай. Чалавек падазроны не будзе важдацца з такімі цяжкімі чамаданамі. Яго нават забаўляе таямнічасць свайго выгляду і калючыя позіркі пышнага жандара. Дакуманты ў парадку—белы білет у кішэні і бяльмо на правым воку. Ён сам зацікаўлена назірае за рухам і пякельнай мітуснёй на вакзале.

Цэлае мора людзей featurerознага выгляду, узросту і адзення; вайсковыя і штацкія, багатыя і бедныя імкнуцца туды і сюды, нібы хто іх пугай паганяе. Крычаць, штурхаюцца, просяць прабачэння, лаюцца і адзін аднаго не чуе. У вачох радасць, сум, заклапочанасць, трывога, страх, нецярплівасць, смех, кпіны, асцярога. Пах тонкай парфумы расфуфыранай дамы змешаны з прэласцю мокрых лапцей.

Хутчэй-хутчэй на поезд, у вагоны... Хутчэй-хутчэй...

Штурхаюцца ў белых фартухах насільшчыкі з чамаданамі, з пакамі, кашолкамі. Хтосці крычыць нечалавечым голасам: „насільшчык“, насільшчык!“ Візгат дзяўчынкі: „мама! ма-а-ма-а!“ А вунь сялянка ломіць рукі, галосіць, рве валасы;

— Абакралі, жулікі, абакралі! А божа-ж мой! А людцы! Ратуйце! Вунь яны панеслі! Вунь, вунь!

— А чаго вароніла, бабка?. Трэба было глядзець. Жулікаў не мала тут!

Гэта гаворыць з спачуваннем у голасе пажылы чалавек, голены, з маленькімі светлымі вусікамі, з дабрадушнай ухмылкай на шырокім маршчатым твары. Не гледзячы на ўвесь гармідар навакол, шэрыя вочы яго да таго спакойныя, нібы тут пануе цішыня, або ён знаходзіцца на прызбе вясковай ці местачковай хаткі адвячоркам пасля працы. Сівенькі пінджачок з круглымі чорнымі латкамі на локцях надзеты на сацінавую касаваротку. У руках невялічкі пакуначак.

За сваім насільшчыкам Левін бяжыць аглушаны, спацелы і толькі дзівіцца: насільшчык ідзе наперад поўным ходам і так спрытна прабівае сабе дарогу між жывой людской кашы, так свабодна, нібы тут зусім нікога няма.

Зараз будзе трэці званок. Шмат народу застанецца.

Увесь гэты верхал, гвалт і лямант коліць, нібы вострым шылам, раптоўны свісток. Натоўп людзей узнімае рукі, крычыць, праклінае. Сотні вачэй маюць цяпер адзін выраз—выраз роспачы і злосці. Сотні вачэй гіпнатызуюць поезд:

— Пачакай яшчэ хвіліну, поўхвіліны... Пачакай! Пачакай!!

Поезд сапе цяжка, як велікан, торгаецца з месца, нібы хтосьці неасцярожны яго штурхае, і пачынае рухацца. Поезд становіцца лягчэйшым, спрытнейшым, сам сабе падпявае дзеля храбрасці!

— Тах-тах-тах! Тах-тах-тах!

Сотні вачэй, узнятыя рукі, гул галасоў—усе гэта застаецца ззаду, як нешта нялюдскае.

Тэмп песні робіцца карацейшым:

— Та-та-та! Та-та-та!

Хутчэй-хутчэй у прасторы паміж тэлеграфных слупоў, у цішыню і бязлюддзе палёў...

Левін перапоўнены радасцю; ён у вагоне, едзе ў вясковую зацішш, на адпачынак, а там далей відаць будзе...

У вагоне поўна. Левін чуе сваркі за месцы, мірную гутарку аб вайне, спрэчкі аб міры ў хуткім часе, аб тым, што вайна працягнецца

доўга-доўга, аб нямецкіх зверствах, аб слаўных саюзніках. Усё гэта разам ірвецца-імкнецца ручайкамі ў мора гукаў і гутарак і падае, як шрот. Ён ловіць пятае праз дзесятае, стараецца нічога гэтага не чуць, хоча аддацца цішыні, адпачыць, супакоіцца ад вакзальнай мітусні ды яшчэ пільней прыслухоўваецца да мяцеліцы людскіх галасоў.

На ніжняй лаўцы супроць Левіна сядзіць маленькі, як лялечка, дзядок, піпкае з вялізнай самадзялковай люлькі і нешта апавядае суседцы. Яго галасок кволы, тоненькі і піскліві, як у дзяўчынкі. Ён часта спыняецца, хрыпіць люлькай і гаворыць далей:

— Быў я ў дзярэўні Вільні. У свайго сына, у Міколы. Эге. Дык ён ранены, значыцца, на вайне. Чуць-чуць дапытаўся дзе гэта лечаць раненых салдат, дзе той (як ён там?) шпіталь. Эге. Бо дзярэўня тая вялі-ікая. А сына немец, гад, у плячо смальнуў. Ляжыць ён там, сын, і стогне, ляжыць ён там і войкае—Мікола мой. А многа там салдацікаў ляжаць і стогнуць. Эге. А дзеўкі там у белых балахондрах тыцмыц туды і сюды.

Смяюцца пасажыры. Да іхняга хора далучаецца і Левін.

Усе пазіраюць на дзядка, як на смешную, цацку. У яго рэдзенькая казліная бародка, празрыста-бледны твар і маленькія слязліва-светлыя вочкі з чырвонай каемачкай навакол. Ён у новых лапціках, белыя анучы аплецены аборамі вакол тонкіх ножак-палачак. Шарачкі, суконная сівая світка і магерка на галоўцы надаюць поўнае ўражанне штучна зробленай лялечкі-мужычка.

Урачысты смешны дзядок пaглядае з дзівам навакол: „чаго смяюцца?“—і крыўдліва пыхкае. Увага да старога бацькі раненага салдата хутка астывае.

Жаласлівыя дамы раптам узварухнуліся:

— Ранены салдат...—імчыць чутка з купэ ў купэ.

— Ранены воін...—плыве навіна з вуснаў у вусны.

Жаласлівыя дамы ў старамодных шапачках у кветках і пер'ях падхопліваюць навіны з салодкай трывогай:

— Дзе? Дзе ранены воін?

— Дзе наш герой?

— А вунь там на полцы.

— З бінтом на твары.

— Вока правае выбіта нямецкай куляй.

— Мы не ведалі!

— Ох, божа мой...

„Ранены воін“—чарадзейнае, узнёслае слова для пасажыраў. Нібы па нейкаму таямнічаму загаду, у большасці пасажыраў, расчыняюцца сэрцы да гарачага пачуцця, і шчодрыя рукі лезуць у разнастайныя чамаданчыкі, у лакіраваныя кашолачкі, у плеценыя кошыкі, у звычайныя папяровыя скруткі. У адзін момант. Вочы блішчаць дабратою, рахманасцю, захапленнем, і музыка сэрца ператвараецца ў падарункі, у гасцінцы, у знак пашаны і любасці да раненага воіна. Хто дастае яблыкі, хто шакаладкі, пірожныя, булачкі, канфеты, папяросы. Усё-усё для героя вайны!

І стары дзядок нясе даніну „ірою“: пару віленскіх абаранкаў. І Левін дастае з чамадана частку з тых гасцінцаў, што вязе ў Каганцы сваім братам і сёстрам.

Побач з раненым яшчэ некалькі салдат. Шырокі белы бінт наўскос твару раненага ахапляе правае вока і надае чалавеку падабенства да бедуіна. Левае вока ўсміхаецца хітрай і легкай усмешачкай. Шырачэзныя сківіцы ходзяць туды і сюды, нібы жорны. Рукамі ён робіць

княжацкія гэсты. Мэталёвым вібруючым тэнаркам апавядае, і ў той-жа час прыспешна жуе прынесеныя гасцінцы.

...Вось, землячкі, што былі разам са мною ў акопах недалёка ад Горадні, салгаць не дадуць. Пайшлі мы гэта ўночы ў разведку. Цемра такая, што адзін аднаго не бачым. Ідзем-ідзем і чуем; „гер-гер-гер". „Гэта-ж немцы!"—шапчу сваім. Я, значыцца, старшым быў. Мы ціханька на іх. Коратка кажучы, усіх перакалолі. А мне нешта як жыгане ў правае вока. Герман папаў мне штыхом у самае, коратка кажучы, вока. Палячылі ў больніцы, а вось еду на пабыўку дамоў. Землячкі салгаць не дадуць.

Усё гэта ранены гаворыць з доўгімі спынкамі, апетытна жуючы тое-сёе з прынесенай даніны. Пасажыры моўчкі ловяць кожнае яго слова.

З іранічнай усмешкай на маршчыністым твары недаверліва адносіцца да раненага толькі адзін пажылы чалавек у сівым пінджачку з маленькім пакуначкам у руках.

— Еж, сынку, еж, родненькі,—не адстае маленькі дзядок і совае раненаму яшчэ пару абаранкаў...

Ранены спакойна кладзе іх у кучу разнастайных падарункаў і зыркае здаровым сквапным вокам ва ўсе бакі, чакае, ці яшчэ хто з гарачых прыхільнікаў не нясе чагосьці смачнага. А гарачыя прыхільнікі глядзяць на яго здаровае вока і паціханьку ўздыхаюць, уяўляючы пад белым бінтам пустую яміну-рану замест вока... Калі-ні-калі аднавокі позірк салдата спыняецца цяжкай кропкай на чорнай палярыне Левіна. Спыняецца праз меру ўважліва. Крыху прыкра становіцца Левіну. „Зайздросціць, што мае вочы цэлыя"—думае Левін і пачынае шкадаваць: „палярына вызначае мяне з усіх іншых"...

— Калі, сынку мой, скончыцца гэта ліха?—не адстае дзядок-лялечка ад раненага.—Пара, здэцца, памірыцца, Эгэ-ее! Вось я, скажам, застаўся адзін на хазяйстве. І бяда—пусцее поле. Не магу справіцца. Сын у мяне ўся сіла. Вайна з'ела яго. Дык што-ж ты, чалавеча, зробіш цяпер, што зробіш? Вайна, пагібель... Эгэ-ее! Эхе-хе!

Вока на забінтаваным твары раненага да таго спрытна зыркае ва ўсе бакі, нібы працуе за дзесяць вачэй. Яно, сіненькае з вясёлай хітрыкай, то жмурыцца, нібы ад сонца, то шырока расплюшчваецца, нібы ад дзіва. Кожны раз яно спыняецца на чорнай палярыне Левіна; прыцягвае магніт—бронзавая засцежка з бліскучых ільвіных галоў.

— Эх, дзядок, дзядок!—кажа ранены з чуллівасцю ў голасе.—Эх, ты бацька мой... Што нам немцы?—Ярунда! Цьфу! Мы-б іх заплявалі, мы бы іх шапкамі закідалі. Даўно вайне быў-бы канец.

— Даўно-б!—пацвярджаюць яго таварышы.

— Дык чаму-ж не канчаецe?—вылупіў на іх дзядок вадзяністыя вочкі з чырвонай каемачкай.

— Чаму не канчаем? О-го-го! Вось тут і закавычка з кістачкай. (Ранены робіць доўгую паузу, бярэ з купы падарункаў шакаладку і запрашае сваіх таварышоў рабіць тое самае. Дзядок глядзіць на яго з разяўленым ротам). Бо шпіёны губяць Расію, прадаюць яе немцам.

Вока раненага робіцца грозным, цямнее. Таварышы раненага гнеўна касавурацца на чорную палярыну Левіна.

— Уцякай адгэтуль,—шэпча Левіну на вуха другі невідочны, нутраны Левін.—Не! Ніяк нельга цяпер. Пры чым тут ён, Левін? А як пойдзе—горш будзе. Куды ён можа ісці з вагона? Ды чаго баяцца...

Такія развагі займаюць у думках Левіна долю секунды.

Імчыцца поезд. Строга, нібы пагрозлівыя пальцы, мільгаюць тэлеграфныя слупы, якія папярэджваюць: „хадзі, Левін". Між дратоў—

бліскучых і вострых, як брытвы, уюцца шматкі дыму і таюць у сонечным паветры. З дратоў адрываюцца птушкі. У воддалі показваецца адна вёска, другая, разгортваецца ўсімі хатамі і знікае, і на яе месца— бярэзнік, хмызнячкі.

Не чуе Левін грукату калёс, не бачыць змены пейзажу. Яму здаецца, што поезд стаіць на месцы.—„Хутчэй, хутчэй!"—падганяе ён поезд у думках.—„Хутчэй, хутчэй". І нібы з далекай адлегласці чуе настаўніцкі голас раненага:

— Вось чаму пакутуе няшчасная Расія! Шпіёны яе губяць. Хрыстапрадаўцы. Усе яўрэі—нямецкія шпіёны. А цар-бацюшка яшчэ цацкаецца з імі. Каб іх раней выразалі, дык вайны цяпер зусім не было-б. І гавораць яны нямецкай мовай, і прадаюць нашага брата. Гэта яны ўвесь час падбухтоўвалі немцаў на вайну...

— Хто яго ведае! Можа, сынку, і праўда кажа,—ківае галоўкай дзядок.—Вам, маладым, лепш знаць. Эгэ-е-е.

— Пры чым тут яўрэі? Гэта ўсё выдумкі на іх,—не сцярпеў чалавек са спакойнымі вачыма ў сівым пінджаку.—Як вам не сорамна!

У яго спакойных вачах блішчаць цяпер іскры, абурэнне ва ўсёй яго постаці.

— Гавары, гавары. Можа сам падкуплены яўрэямі? — злуецца ранены.

— Эх, ты! Маўчаў бы лепш воін!—і чалавек у сівым пінджачку з агідай на яго паглядае.

Сківіцы раненага ходзяць туды і сюды, як жорны. Ён нібы не чуе гэтых слоў і гаворыць далей:

— У тым то і бяда, што хітрыя яўрэі нават і нашых падкупліваюць. Падкупілі суд у Кіеве і вызвалілі Бейліса. Падкупліваюць дэпутатаў у гасударственай думе і няма ад іх паратунку. Мы ў акопах гінем, а яны вунь як адзяваюцца! Тлушчэюць, чысценькія! Сволачы!— і паказвае рукой на чорную палярыну Левіна.

Левіну раптам холадна становіцца. Нешта ў горле ледзяным комам стаіць. І ён кажа хрыплым голасам:

— Як вам не сорамна, салдат, плесці такое глупства,—і крануўся з месца, каб пайсці ў другое купэ.

— Пачакай, пачакай!—крычыць салдат.—Гэта я, ранены рускі воін, гавару глупства?! Гэта я?!—Ён аж дрыжыць ад злосці і стукае сабе кулаком у грудзі...—Гэта я?! За такія словы, маць твая сучка, можам цябе вышвырнуць з вагона...

Ранены спускаецца з верхняй лаўкі і ўпіваецца кручкаватымі пальцамі ў чорную палярыну.

— Землячок! Землячок!—пішчаць некаторыя з жанчын.—Не чапай чалавека!

— Адчапіся ад мяне!—Левін ірвецца з ўсёй сілы, і два крылы яго чорнай палярыны застаюцца ў руках раненага салдата.

— Го-го-го!

— Скардзіцца буду!—крычыць Левін не сваім голасам і скідае з сябе рэштку палярыны. Скардзіцца буду!

— На каго? На мяне? Я табе зараз пакажу, нямецкі шпіён!—і ранены цоп Левіна за каўнер.—Хлопцы!—выкінем яго пад адкос. Ядры яго транты! Адным шпіёнам менш будзе!

— Хуліганы, што вы робіце?—падскаквае чалавек у сівым пінджачку.

У вагоне пачынаецца сумятня. Цяпер толькі Левін прыкмячае, што апрача яго самаго ніводнага яўрэя няма тут. Яшчэ ў Вільне чуў ён аб такіх учынках, а вось не верыў...

Поезд рэжа простор... Тарахцяць калёсы. Пазірае Левін з смяртэльнай тугой навакол. „Можа кандуктар з‘явіцца?“ Сціскае зубы, каб не стукалі адзін аб адзін... „Няўжо зараз канец. Сярод тлуму народаў...“ Пасажыры з вагона бадай усе тут.

— Шпік!

— Нямецкага шпіка цапнулі!

Варожыя позіркі коляць Левіна. Ён да таго разгублены, што нават страх знікае.

— Калі шпік, дык мы яго на чарговай станцыі жандарам перададзім.

І гэтыя словы здаюцца Левіну паратункам.

— У мяне дакуманты, дакуманты!

— Ге-ге-ге! Заўсёды ў шпіёна самыя лепшыя дакуманты!

— Мы кроў праліваем, а шпіёны тут валэндацца будуць. Я вось ранены! За што? За каго? Вось за гэткіх шпіёнаў!

Кожнае слова раненага б‘е мялатком па свядомасці пасажыраў. Шмат нянавісных позіркаў сустракае на сябе Левін. Вочы вострыя, як нажы, упіваюцца ў яго твар. Вочы халодныя, як лёд, марозяць яго сэрца. Вочы са страхам і жаласцю пазіраюць яму ў самыя зрэнкі. Вочы са смаглай асалодай чакаюць яго пагібелі.

І зноў голас паратунку прарэзліва гучыць:

— Жандармам у рукі! Жандармам!

А чалавек у сівым пінджачку з усіх сіл стараецца прабіцца бліжэй.

— Пусці,—хрыпіць Левін і прабуе вызваліцца з цэпкіх рук раненага.

— Я цябе пушчу!— і непрытомнае вока раненага бяздоннем смерці гіпнатызуе яго.—Пад адкос цябе пушчу!

Ён тузае Левіна з усіх сіл.

— Расчыняйце вакно!

Услужлівыя рукі адразу гэта робяць.

Левін на міг зажмурыўся.

— Разбойнікі!—чуе Левін гістэрычны жаночы крык.—Што вы чалавека губіце, разбойнікі!

За спіною свежы ветрык з адчыненага вакна. Левін напружвае ўсе сілы, каб вырвацца з злосных рук. Тым часам набліжаецца маўклівы і бледны чалавек у сівым пінджачку з латкамі на локцях. Ён з імпэтам ірве бінт з твару раненага і кідае на голавы натоўпа.

— Жулік! Абманшчык! Пагромшчык!—крычыць нехта страшным голасам.—Глядзіце, які ён ранены!

Гэта крычыць чалавек у сівым пінджачку.

„Ранены“ лупіць на ўсіх здаровыя вочы і не ведае, што рабіць.

— Вось табе і ранены!—плюецца дзядок.—Эгэ-е-е!

— Падаруначкі! Гасцінчыкі яму давай! Сволач! Жулік!

— Жулік! Жулік! Толькі народ баламуціць! Да невінаватага чалавека прычапіўся!

Левін бачыць цяпер нямала накіраваных на яго спачувальных вачэй. Левін выратаваны. Ён праклінае сваю чорную палярыну, бо яму здаецца, што ва ўсім вінавата яна...

Пад‘язджаюць да станцыі.

Левін не ведае, як дзякаваць чалавеку ў сівым пінджаку. Той якраз на гэтай станцыі выходзіць. Левін даведваецца, хто ён.

Гэта рабочы-гарбар з Смаргоні.

Толькі дома ў Каганцах Левін канчаткова вызваляецца ад агіднага адчування страху ў вагоне.

III

На старых бярозах супроць вакон хаткі Левіных бацькоў скручваюцца і цямнеюць лісты. Гарачае неба і гарачая зямля. Дзеці, загарэлыя, з вылінялымі ад сонца валасамі, бегаюць па вуліцы і пякуць аб каменні свае босыя ногі. Яны пабрыкваюць па шэрым, гарачым як прысак, пяску. Над імі густое воблака пылу. Крычаць дзеці ў дзікай радасці і бягуць на выган. Ведае Левін, на абшырным выгане стаіць новая школа з чорнымі ямінамі вакон без шкла. Школа пустуе з мінулай восені, бо настаўніка забралі па мабілізацыі. Няма цяпер лепшай забаўкі для дзяцей, як запусцелая школа. Бадай што адзічэлыя хлапчукі гуляюць там у вайну, са школьных скамеек ладзяць акопы, страляюць адны ў адных з дзіцячых самаробных стрэльбаў, бяруць адны адных у палон. Шум адтуль, стукат і грукат даносіцца ў мястэчка. А гусі на выгане ў пастаянным страху, схіляюць галавы ў адзін бок, нібы прыслухоўваюцца да крыкаў, выцягваюць па-змяінаму доўгія шыі, трывожна гагочуць, а часам залапочуць крыллямі, узнімуцца на некалькі локцяў над зямлёй і зноў спусцяцца плаўна. Няма дзе дзецца ад заядлых дзяцей—і гутарлівай грамадкай гусі пасунуцца пыльнай дарогай да возера.

Школьныя кнігі сяляне забралі на цыгаркі, геаграфічныя карты і малюнкі звяроў і жывелін парасцягвалі са сцен школы вясковыя дзяўчаты на аздабленне сваіх куткоў па хатах.

Насупроць хаты Левіных бацькоў стаіць былая манаполька. Над яе высокім ганкам яшчэ красуецца вывеска: „Казенная винная лавка“. Побач—куча набітага бутэлечнага шкла. Вядомыя п'яніцы: кульгавы Макар, сусед Антось ды іншыя паняволі піць перасталі. Да вайны бадай кожны дзень яны прыходзілі ў манапольку па „сотачку“.

Стукне чалавек дном шкаліка аб далонь, корак выскачыць у гару, як кулька з дзіцячай стрэльбачкі, задзярэ чалавек галаву, глядзіць ашклянелымі вачыма ў неба, нібы бога госпада там шукае, а гарэлка бульк-бульк у горла. І на худой жылістай і бурай шыі відаць, як вадкасць клубкамі коціцца ў нутро. Потым з вылупленымі слязлівымі і шэрымі вачыма Макар ці Антось бяжыць праз вуліцу да маткі Левіна з суседскай просьбай:

— Шоламіха, злітуйся... Дай на закуску скарыначку...

Старыя п'яніцы з ваколіцы цяпер не могуць супакоіцца. Прыходзяць часта сюды, садзяцца на прасторны ганак манаполькі маўклівыя і злосныя і мала між сабою гавораць. У вачах гэтых старых бацькоў несупынная туга. Бадай у кожнага з іх сын ці брат на вайне.

Глядзіць Левін праз акно на спякотнае сонца і чуе за плячыма надакучлівы голас маткі.

— Ты-ж яшчэ нічога не еў!..

Яна ўсё яшчэ лічыць яго госцем, дае яму есці лепшае, асобнае ад усёй сям'і і, колькі-б ён ні еў,—яна ўсё сваё:

— Ты-ж яшчэ нічога не еў!

Гэта яго нервуе. Ён злуецца і бунтуецца, адмаўляецца есці лепшае ад іншых і асобна ад братоў і сясцёр. Маці не можа супакоіцца:

— Ты-ж у горадзе прывык да лепшага...

Паводле яе ўяўлення ён у Вільні жыў вельмі багата, бо раз у некалькі месяцаў, калі атрымліваў ад бацькі ліст, поўны скаргі аб сваёй беднаце, Левін адмаўляўся ад гарачых абедаў і высылаў бацьку дзесяць рублёў. Вось чаму ў вачах маткі ён быў Крэзам. Маці не ведае, што дзеля чорнай палярыны, якой яна і не бачыла, ён не абедаў аж два месяцы.

У суседнім Антосевым двары сёння ціха. Салдатка Гануля, старшая дачка Антося, маўчыць. Не чуваць яе голаса, яе працяглага плачу. А ўчора і пазаўчора яна сваім галошаннем, несупынным і манатонным, наводзіла на Левіна жуду. Тры дні таму назад яна атрымала з воласці ліст, кароткі і выразны, прынесла Левіну чытаць:

„Ваш муж, Александр Вайда, пал героем на поле брани за царя и отечество".

Спачатку Гануля не зразумела ў чым справа. Словы „героем" і „на поле брани" зацямнілі яе думкі. Яна меркавала, што гэта нейкую радасць ёй напісалі. А калі Левін растлумачыў, яна адразу згорбілася, выскачыла на двор з лістом у руках. Праз колькі хвілін з Антосевай хаты пачулася ні то песня, ні то плач. Салдатка пачала галасіць і прыгаварваць рытмічным і спеўным рэчытатывам. Творыць Гануля жаласлівыя песні пра забітага мужа-саколіка, пра косці і дождж, пра маці-зямельку сырую, пра сонейка і зязюльку над адзінокай магілай. Прыпеўка кожнай песні канчаецца праклёнам, яна праклінае вайну.

Калі-ні-калі суседкі збіраюцца супакойваць яе, ківаюць галовамі, выціраюць свае вочы і выходзяць супакоеныя. А сама Гануля супакоіцца не можа.

Кожны яе стогн, кожная скарга, кожнае слова лезе ў вокны хаты Левіных, як востры дакор. У Левіна часта шчэміць горла. Маці Левіна, стоячы нахіленая ля печы, таропіць вочы ў палаючыя дровы, на чорныя гаршкі, уздыхае і зморшчанымі далонямі мажа сажай свой твар. Гэта яна бароніцца ад слёз. А бацька Саламона Левіна, Шолам, чалавек худы і высокі, з асірыйскай чорнай барадой, заклапочанымі чорнымі вачыма, „радуецца". Ён трэ рукі адну аб адну, нібы мые іх, радасна глядзіць на госця-сына.

— Вось бачыш,—кажа ён,—што значыць вайна. Вайна гэта табе не жарты якія.

— Дык чаго радуешся?—дзівіцца сын.

— Чаго радуюся? Вось дурны! Радуюся, што мы ўсе дома, усе разам. Каб хаця бог даў так надалей. Спадзяюся, што ў нас фронта не будзе.

У бацькавых вачах водцвет ахвярнасці і пакуты. Яго голас ад радасных нотак пераходзіць на строгую, крыху прытоеную ўрачыстасць:

— Твой белы білет аж сто рублёў мне каштаваў... А тваё бяльмо мне каштавала...

— Годзе, замаўчы ўжо, тата...

— І зайцам табе быць не трэба.

Саламон Левін з агідай успамінае, як колькі год таму назад яго ледзь не асляпілі перад прызывам, калі местачковы фельчар рабіў яму штучнае бяльмо на правым воку. Бацькавы выдаткі на вызваленне з царскай салдатчыны ён, Саламон, пасля вярнуў удвойчы, утройчы. Аднак, кожны раз пры любым выпадку бацька напамінае, як на гэту справу прадалі апошнюю карову, і сям'я галадала.

— Я-ж цябе не прасіў!

— Не прасіў? Ты-ж мне сын! Каб не я, дык цяпер можа-б і твае косці дзе-небудзь валяліся, як вось...—І рукой паказвае на суседнюю Антосеву хату...

У хаце духата і рой куслівых мух. Яны заваёўваюць стол, печ і ад іх вечны гуд, надакучлівы і тонкі. Ад іх белыя падушкі і ўсе кнігі Левіна ў чорных кропках. Левін прабуе выганяць іх венікам праз адчыненыя вокны. Ён хоча ісці ў самы прытульны куток

у Каганцах—у вялізны сад Сакалоўскага. Гэты сад арандуе сёлета „старавер“ (так яго тутэйшыя называюць) Ягор. Садавіна яшчэ зялёная, але сад трэба пільнаваць ад дзяцей. Арандатар Ягор пабудаваў у садзе вялізную будку з драніц і ў гэтай будцы жыве яго дачка Маўра—высокая, стройная дзяўчына з бірузовымі вачыма, белымі валасамі. Там халадок, там вельмі прыемна пагуляць. Разамлелы і гультаяваты Левін выходзіць з хаты. У яго унутры нейкі гнёт. Нібы злодзей, гэты гнёт падкрадваецца да яго ціхачом і псуе настрой. У хаце галеча. А вось ён цяпер лішні рот. Трэба шукаць сабе працы. Ехаць у Менск. Непакоіцца. Што там рабіць будзе? Спецыяльнасці ніякай... Гнятуць думкі, міжволі непакояць. Зноў ісці ў лясныя прыказчыкі? Лясныя купцы пераваидравалі далей ад лініі фронта.

Насустрач Левіну салдатка Ганулі з дзіцём на руках. Малое і кволае туліцца да матчыных грудзей і смокча-смокча, аж захліпаецца. Ручкай, худзенькай і ніколі не мытай, трымаецца так моцна за паркалёвую блузку маці, нібы зараз паляціць у процьму, як толькі расслабіць пальчыкі. З-пад кужэльнага кавалка палатна замест хусткі на Ганульчынай галаве вылазяць скалмачаныя русыя валасы. Вакол светласініх вачэй цёмныя кругі. Шчокі жоўтыя і заўпалыя. У вачах туманісты бляск неастылага гора. Ганулі трымае ліст у зашмальцованым канверце, на якім аж некалькі пячатак.

— Вось, сусед Шлёмачка, соцкі мне яшчэ адзін ліст нейкі падаў,— кажа яна пяшчотна-спеўным голасам.—Мо‘ прачытаеш? Цікава ад каго. Мой-жа з магілы пісаць не будзе.

Вочы яе пры гэтым чырванеюць і вільгатнеюць. Яна ні то ікае, ні то ўсхліпвае і злуецца на дзіцё:

— Смокча, смокча... Як тая п‘яўка ..—яна адрывае дзіцё ад грудзей, і яно жаласліва плача.—На! На-а! Ён! Сірацінка, сынку мой... І татку ведаць не будзеш...

Ганулі туліцца тварам да дзіцяці і плечы яе ходырам ходзяць, нібы хтосьці грукае па спіне кулаком.

— Супакойся, Ганулі,—просіць Левін.—Дай сюды ліст.

Ад гарачыні тут нельга стаяць. Ідуць на дрывотню ў цень хлява і садзяцца ля сцяны на струхлелай калодзе. Чорнымі закарэлымі ад гною і гразі нагамі Ганулі нецярпліва шоркае кучу сухіх трэсак і адганяе ад дзіцяці вялізную, нібы пчала, цёмна-сінюю муху. Левін разгладжвае закарузлы пакамечаны аркуш паперы і пачынае чытаць.

„Пісьмо ад мужа твайго Александра Вайды. Во первых строках майго пісьма паведамляю, што я жыву. Добра зрабіла, што перабралася да сваіх бацькоў. Ведаю і сам, што без мяне ў хаце маіх бацькоў табе жыцця не будзе. З маёй сварлівай маткай няма як ладзіць. Яна цябе ў мак стаўчэ, з‘есць жыўцом“.

— Што гэта такое? Шлёмачка, родненькі, што гэта такое?

Ганулі зрывае аднэй рукой з галавы кавалак палатна, як вялікі аркуш паперы, і кідае на зямлю, ускаквае з калоды і таропіць у Левіна аграмадныя і глыбокія, як вазёры, вочы. Дзіцё ледзь не выпадае з яе рук.

— Шлёмачка, родненькі, ён жыве... Ляксандра мой жыве! Яна да болю цісне локаць Левіна.

Левін дзівіцца. Гэта-ж ён сам тры дні таму назад чытаў афіцыяльнае паведамленне: „ Александр Вайда пал героем на поле брани за царя и отечество“. Што яно сапраўды азначае? Зусім магчыма, што Александр быў цяжка ранены, а думалі, што памёр. Таксама магчыма, што памёр зусім іншы і зблыталі яго дакументы з дакументамі Ляксандра Вайды. Ніяк не ўдяміш.

Свае меркаванні Левін выказвае ў голас. Аслупянелая, збітая з толку Ганула ловіць ротам паветра і пранізвае Левіна такімі вачыма, нібы ад яго залежыць лёс яе мужа.

— Чытай, Шлёмачка. Чытай!

Усхваляваны Левін упіваецца позіркам у нязграбныя буйныя літары:

„... У баях каля Горадні быў ранены ў жывот. Ляжу ў шпіталі. Думкі мае птушкамі лятуць да цябе ў Каганцы. Калі толькі можаш, прышлі мне патаграфію і сваю і сына. Я-ж яго не бачыў. Тут усе маюць патаграфіі сваіх, паказваюць мне, а я вось не маю вашых патаграфій. Як там у вас? Як поле?

Левін спыняецца.

— Чытай, Шлёмачка, чытай...

Кожнай часткай свайго цела Ганула слухае гэты ліст.

...„Нізка кланяюся...“

Старонка з паклонамі цягнецца доўгім ланцугом. Ляксандра шле паклоны ўсім крэўным і блізкім знаёмым. Кожны нізкі паклон канчаецца словамі: „Не абіжайце маю салдатку...“

Ганула ў хвіліну расцвітае макавым цветам. Яна тармосіць маленькага хлопчыка.

— Чуеш, Стасік, твой татка жыве...

Цалуе дзіцё ў галоўку, у лобік, у вочкі. Вялікая радасць душыць яе.

— Жыве твой татка, канапелька мая...

Ад такога буйнага наплыву Ганульчынай радасці Левіну становіцца не па сабе.

— Гэта, мабыць, стары, спознены ліст,—думае ён.—Трэба пагля·дзець даты на абодвых лістах...

Левін усхваляваны.

— Прынясі, Ганула, той ранейшы ліст...

Ганула абуджаецца ад нейкага прыемнага сна і пачынае непакоіцца.

— Навошта, Шлёмачка?

Глядзіць на яго недаверліва і ледзь не варожа.

Праз пару хвілін у яго руках абодвы лісты. Вочы Ганулі сочаць за ім пільна. Вось у гэтых двух паперынах роспач і надзея Ганулі—жыццё і смерць Ляксандра...

Левін добра памятае Ляксандру. Яны равеснікі. Яшчэ, як былі хлапчукамі, часам на выгане сустракаліся. Адзін аднаму зайздросцілі: Левін вечна сядзеў у „хэдэры“ з падрапанымі пазурамі настаўніка рэбэ, тварам і мармытаў словы бібліі, ды ўсёй істотай ірваўся ў поле, да млына, да возера. Ляксандра і летам і зімой быў на дварэ. Улетку пасвіў жывёлу, а ўзімку памагаў бацьку ў лесе. Так хацелася яму хоць крыху ў хаце пабыць. Рэдка прыходзілася... Ляксандра быў тады белагаловы, як сівы дзед. Левін—рыжагаловым з агнявымі пераліваміі. Не раз у росныя раніцы яны хадзілі разам рыбу вудзіць. А калі Ляксандра быў у Каганцах пастушком, Левін выганяў раніцой карову і далучаў да стада Ляксандры. У кожную пятніцу ён прыносіў Ляксандру, велічынёю ў курынае яйцо, белую булачку, якую маці Левіна заўсёды пякла для пастушка. Булачка з маленькай круцёлкай наверсе, падобнай на лічбу восем. Ляксандра звычайна еў булачку павольна, са спынкамі і так доўга, што за той самы праця г часу можна было з'есці булку ў тры фунты...

— Чаму так доўга ясі?—спытаўся раз Левін у Ляксандры.

— Каб доўга смачна было...

За такую булачку Ляксандра даваў Левіну бяроставую трубу. Шлёмка надзімаў шчокі, трубіў з усіх сіл і з незвычайнай гордасцю

глядзеў на поле, на жаўранкаў, і на хваёвы рыжаваты касагор. Водгаласкі вярталіся адтуль назад урачыста і стройна. Каровы здзіўлена аглядаліся на трубача. Не раз Ляксандра паказваў Шлёмку, дзе суніцы растуць. Навучыў і лапці плесці і кошыкі. У бытнасць Левіна лясным прыказчыкам Ляксандра быў лесарубам.

Даўно гэта было. Вялікі горад, дзе Левін жыў апошнія тры гады, выветрыў з яго памяці сяброў дзіцячых год, аддаліў іх ад яго не на тры, а на трыццаць год.

Чуласць агарнула Левіна.

Няёмка яму: Ляксандра прападае, ці прапаў на фронце, а ў яго, Левіна, белы білет у кішэні і штучнае бяльмо на правым воку...

Цёмна-сінія хлеўныя мухі наступаюць на яго. Ён паспеў ужо праверыць даты абодвух лістоў. Ясна. Другі ліст спазніўся на некалькі дзён. Заляжаўся ў воласці ці ў соцкага. Памылкі быць не можа. Ляксандры ўжо няма. Спазненне не добры жарт з няшчаснай салдаткі.

— Ну што?

Голас Ганулі ўстрывожаны. Левін адварочваецца ад яе вачэй-вазёр. Два лісты аб жыцці і смерці Ляксандры ў яго руцэ. Ён маўчыць. Лістамі адганяе ад сябе агідных мух. Ён рады, што Гануля на гэты раз пакінула дзіцё ў хаце.

— Ну што?

— Бачыш, Гануля, ліст Ляксандры з больніцы ранейшы за той аб яго смерці...

— Дык па-твойму майго ўжо няма?

— Няма.

— Значыць памёр?

— Памёр.

Гануля кідаецца тварам у трэскі...

Возера чыстае, як неба. Неба—як возера. Маўчыць Левін. Вада кроплямі прасочваецца з заставак—кап-кап. Пахне ілам і аірам. Аж сюды далятаюць крыкі салдаткі:

— Хай прападзе і цар, і ацечаства!

І Левін мяркуе;

— Каб у Вільні на вуліцы якая-небудзь салдатка так крычала— у турме згнаілі-б.

На момант мільгае істужка ўспамінаў. Зараз першая гадавіна вайны. Вільня. Суматошлівыя вуліцы. Уцекачы. Шпіталі ў гімназіях. П'яныя афіцэры ў кавярнях. Шпікі. Гуллівыя сестры міласэрдзя ў белых касынках. Ілюмінацыі з прычыны заняцця ўсходняй Прусіі. Дэманстрацыі чорнасоценцаў. Яўрэйскія пагромы. Прыезд цара і парад на Георгіеўскім праспекце. Раненыя на вакзале. Хвасты за хлебам і газай. Шпаркі рост цэн на харчы. Арышт знаёмага наборшчыка за распаўсюджванне пракламацый супроць вайны, шуканне казакамі і жандарамі па кватэрах зайцаў-дэзертыраў.

А вось тут—неба, возера і цішыня. Праз цішыню да вуха Левіна імчыцца лямант салдаткі:

— Хай прападзе і цар і ацечаства!

## IV

У цэнтры мястэчка ўрэзваецца клінам фальварачак Сакалоўскага. Высокі частакол нагадвае крэпасць. Ліпы і дубы густымі прысадамі вядуць углыб двара. З вуліцы не відаць ні хаты, ні сада. Апрача гаспадаркі, Сакалоўскі скуплівае палатно на мяшкі для акопаў у су-

полцы з Шыманам Кантаровічам і з „ціхім анёлам"—Гарэлікам. Ён „працуе" на фронт і паважае начальства. Сад здаў у арэнду, бо заняты больш паважнымі справамі. Ён яшчэ скупляе жывёлу па ваколіцы і адпраўляе ў павятовы гарадок падрадчыку Фельдману, які вялікімі гуртамі гоніць іх у Вільню для арміі. Да Сакалоўскага прыязджаюць у госці бацюшка,ураднік, прыстаў. Яго круглы голены твар з доўгімі вусамі, ружавее з гордасці і пашаны пры сустрэчы з гэтымі гасцямі. Чорныя штаны—шырокія і круглыя, выпушчаны на боты, і яго ногі падобны да сланёвых.

Праз вялізны дзядзінец сядзібы Сакалоўскага Левін ідзе ў сад на брынканне балалайкі і разам з гэтым чуе злосны крык каля стайні. Зацікаўлены ён накіроўваецца на гэты крык. Ля адчыненых варот стайні крычыць чырвоны і злосны Сакалоўскі. У кутку, прыпёрты адным локцем ля сцяны, стаіць з апушчанай галавой, без шапкі, падлетак гадоў шаснаццаці і моўчкі выцірае рукавом кроў з носа. Сакалоўскі сыпле маланкі з вачэй-шчылін і злосць яго расце.

— Ах, ты, шэльма! Я табе пакажу, як коняй псаваць! Дармаед! Шчасце тваё, што на гэты раз толькі нос крыху расквасіў, другі раз галаву адкручу!

Сакалоўскі сапе цяжка, як паравоз, і не можа супакоіцца. Паднімае з зямлі камень і кідае ў курэй, што капаюцца ў гнаі. Угледзеўшы Левіна, ён стараецца прыдушыць злосць лагоднай і добрай усмешкай.

— А-а-а! Пане Левін! Госць, а як-жа госць!—Сакалоўскі ківае галавой, цмокае губамі і паўтарае—Госць! А як-жа! Жыць нельга, пане добрадзеенку, ад гэтых дармаедаў. Павёў на начлег добрага каня, згубнік гэты, ёлап гэты. А вось кульгавага прывёў! Што значыць чужыя рукі! Гэта-ж, пане добрадзеенку, кармлю, адзяваю, абуваю, куток даю, а каб хоць на волас карысці ад чалавека было, дык, не!, Цьфу ты чорт!—і Сакалоўскі пачынае выціраць травою рукі, запэцканыя ў крыві малалетняга парабка.

Зноў вочы ў яго вузеюць, на ілбе сінеюць жылы і ён грыміць:

— Скажы, лайдак, як гэта ўсё-такі ў цябе конь закульгаў?

— Не ведаю.

Вочы дзяцюка блішчаць з-пад ілба на Сакалоўскага незвычайным бляскам.

— „Не ведаю! Не ведаю". Гы-ыш якія вочы! Звер-зверам глядзіць на мяне. Сказаў, як плюнуў усёроўна,- -„не ведаю"? Д-д-ух твой паганы выб'ю!—і зноў кідаецца на хлопца.

— Пане Сакалоўскі!.. пане Сакалоўскі!..—Левін хватае яго за руку. Можа сапраўды, не ведае.

Сакалоўскі спыняецца і голас яго становіцца жаласлівым:

— Я, пане дабрадзеенку, яму, як бацька родны, а ён вунь як глядзіць за майго дабра! А які ён наравісты гэты дзяцюк! Вясной ён учыніў такую штуку: выбіў у хаце вакно са злосці, што я ў зубы яму тыцнуў (вядома, ён у мяне гэта шчыра зарабіў) і ўцёк. Не стала яго. Нешта валэндаваўся па розных гаспадарах некалькі дзён. Ніхто на працу не браў, бо я ўсім рассказваў, што гэта за цаца. І вось, пане мой, вярнуўся ёлап гэты зноў да мяне. Дзе-ж ён дзенецца, калі адзінокі, як той камень? Бацькі ён ніколі не меў—самасейка, а матка памерла два гады таму назад. Вярнуўся ка мне гэты ёлап. Стаіць і маўчыць. Худы, страшны. Цэлы тыдзень нічога не еў. Узяў я бізун і кажу:—Цалуй бізун, тады зноў прыму. Пацалаваў, гад. Потым адсцябаў яго і сказаў: да восені за выбітае вакно працуеш без капеечкі. Праўда, шапку купіў яму на сёмуху. Тое самае з родным сынам зрабіў-бы, пане мой! Дальбог зрабіў бы!

— Супакойцеся, пане Сакалоўскі,—просціць Левін і з жалем паглядае на парабчука.

Сакалоўскі махае абодвума далонямі, нібы адсоўвае ад сябе ўсё паганае:

— Э эт! Ліха яго бяры з канём! Хай прападае! Усёроўна вайна. Пойдзем, пане Левін, можа гарбаткі вып'ем? Га?

— Дзякую, пане Сакалоўскі. Горача цяпер. У сад хочацца.

З саду далятае вясёлае брынканне на балалайцы.

— Да дзяўчат пацягнула? Да белавалосай?—Сакалоўскі адкідвае назад галаву і рагоча, выстаўляючы на паказ гнілыя зубы. Тут-жа становіцца сур'ёзным:—Ну, як там у горадзе? Што пра вайну кажуць?

— Кажуць, за цара і ацечаства ваюем.

— Нэ, нэ, нэ-э-э, Шлёмка!—Ты ў мяне не гра-ай! Не грай у мяне! І я музыка.—Ён робіць хітрыя, усё разумеючыя вочы-шчылінкі і ківае дабрадушна—строга кароткім пальцам.—Ведаем вас і разумеем. Можа табе здаецца, што я тут жыву? Ты вось бачыш мяне? Так? Але душою я на фронце. Я—салдат ды не абы які. Палатно для акопаў, жывёлу для арміі. Усёй галавой, можна сказаць, я з войскам. Адно вось скажу. Рэненкампф—немец, а гэта ўжо закавычка. Так. Закавычка. Як ён супроць сваіх братоў? Я-б не верыў яму. Ані не верыў бы. Ні на грош!—Сакалоўскі задумваецца.—А можа... яму-ж пэўна добра плацяць... Ён не ёлап...

Сакалоўскі пацягвае сябе за вусы так старанна, нібы хоча іх выцягнуць на поўаршына ў даўжыню.

— А вайна, скажам, вайна, пане дабрадзею, гэта гісторыя.—Ваявалі мы з японцамі, з туркамі, а там даўней з французам, са шведам. Гісторыя. Як, наплодзіцца шмат народу, дык дзе з ім дзенешся? Гэта-ж, каб не вайна—зямлі-б было мала для людзей. Людзі вельмі плодныя. Ад цеснаты, брат, брата ўсёроўна зарэзаў-бы. Вось гісторыя і ратуе! Вайна, пане дабрадзею, добрая шутка, а гісторыя—разумная рэч, разу-умная!

Ад сваёй „разумнай гісторыі“ Сакалоўскі з'яе, як сонца. Вочы шчылінкі ў яго добрадушна масляцца.

Левін вось-вось скажа:

— А родны сын зайцам жыве? У разумную гісторыю не пасылаеш?

Не, Левін не скажа. Ён праз меру далікатны.

Прысадзістая камлюкаватая фігура Сакалоўскага моцна стаіць на зямлі на тоўстых сланёвых нагах. Голас яго свойскі і па-бацькоўску апякунскі:

— Дык ведай, Шлёмка, ці то мір, ці то вайна, а трэба ўмець жыць на свеце, як роднаму сыну кажу. Я то вучуся жыць, вучуся. А бацька твой не вучыцца, не ўмее. І здаецца чалавек такой спрытнай веры! Не раз гаварыў яму: дай, Шолам, заложым гандаль які, дык ён: „пачакаем, падумаем“. А вось Кантаровіч не чакае і не думае—есць хлеб ды несухі.

Сакалоўскі глядзіць у сад меланхалічна і задумна.

— Твой бацька кепскі салдат. А чалавек такой спрытнай веры! Шкада! Ну, ідзі ўжо ў сад. Там і мой сынок на балалайцы балалаіць. Будзь хоць ты добрым салдатам. Фронт у садзе ла-а-адны! Такая бялявенькая кацапачка, гі-і-хі-хі-і-і! Эх, вы ёлапы! Каб я меў часу, дык маладым дарогу паказаў-бы. Ну ідзі ўжо да кумпаніі, не буду затрымліваць, ідзі.

Агідны хіхат Сакалоўскага даганяе Левіна і сцёбае па спіне слізкай анучай.

Гарэлік ляжыць пад яблыняй і старанна выводзіць у запісной кніжцы даўгія слупкі лічбаў. Недалёка ад яго грае на балалайцы сын Сакалоўскага. Пухленькая гімназістка Іра сядзіць тут-жа і чытае кніжку.

Бялявая садоўніца падбірае з-пад дрэў апад. Сур'езная, маўклівая і гордая ходзіць яна ад дрэва да дрэва з кошыкам у руках. Левін не спускае з яе вачэй. Сакалоўскі-сын штурхае яго балалайкай у бок ды папярэджвае:

— Аслепнеш...

У Маўры белыя даўгія і густыя валасы, белыя бровы і бірузовыя вочы. Тонкія губкі нагадваюць чырвоныя ніткі. Стройная, лёгкая ў сінім сарафане, яна як-бы зачароўвае людзей і дрэвы. Малочна-белыя рукі выгінаюцца, як дзве дзівосныя змейкі.

— Эх, садоўніца!—стогне Сакалоўскі, злосна кідае ў траву балалайку і падміргвае Левіну.—Глядзіш на белавалосую? Зараз пакажу, як трэба з ёю.

Ён ціханька падкрадваецца ззаду да Маўры, ахоплівае яе тонкі стан і мерыцца пацалаваць у шчаку.

— Адыйдзі, праціўны!

Яна гнеўна вырываецца з яго рук, штурхае яго ад сябе завостраным, як верацяно, локцем, і ён моцна грукаецца патыліцай аб яблыню.

— Эх ты, сцерва!

— Што-о-о? Я сцерва?

Грозна цямнеюць Маўрыны вочы. Твар наліваецца агнем, ад чаго валасы і бровы здаюцца марознай бліскучай шэранню. Яе правая гнуткая рука ўзмахваецца, як пуга і дзве аплявушыны, раптоўныя і гучныя, звіняць па шчаках Сакалоўскага.

Узнімаецца рогат. Сакалоўскі ўздрыгвае і, насупіўшыся, як бык, памыкаецца са сціснутымі кулакамі да Маўры. Левін і Іра стрымліваюць яго імпэт.

Левін у захапленні ад белавалосай.

Засопшыся, прыбягае сюды стары Сакалоўскі. Вачыма-шчылінкамі аглядае ўсіх і хрыпіць:

— Хадзем, ёлапы!—і давай махаць кароткай рукой з вядром нібы курыца крылом.

— Куды? Чаго?

Гарэлік ускочыў і ўжо гатоў схавацца.

— Бярыце вёдры, глыдышы. Аканом пана Манілоўскага выпусціў спірт у рэчку з бровара. Бягом, ёлапы!

— Дзе? Што?

— Пад барком. Тры вярсты адгэтуль. Вы, ёлапы, нацянькі. Бліжэй будзе.

Зайцы адмаўляюцца ісці.

— Хадзем, Шлёмка!—просіць ён Левіна.

— Пойдзем,—згаджаецца Левін.—Цікава паглядзець.

З халадку сада яны выбіраюцца на поле ў гарачыню летняга дня. Мінаюць млын і спежкай накіроўваюцца да рэчкі. Сакалоўскі сапе, крэхча ды ўсё падганяе Левіна:

— Хутчэй! Хутчэй!

Сонца кідае на іх гарачае вуголле, смаліць неміласэрна патыліцы, спіны. Сакалоўскі і Левін праз чыстае поле дабіраюцца да хвойнічка. Тут ім паратунак ад сонца. Але куслівыя авадні нападаюць на іх злосныя і неадчэпныя, як спушчаныя з ланцугоў сабакі.

— Хутчэй! Хутчэй!—падганяе Сакалоўскі і сам адстае.

— Паспееце, пане Сакалоўскі. Мяне толькі цікавіць паглядзець, а вам, такому багатаму чалавеку, ці варта цягаць з сабою вядро? Ды якая там гарэлка? Гэта-ж не з бочкі, а нейкая гразь!

— Ты думаеш? А мо' пане дабрадзею, праўду кажаш. Але не кідаць жа мне тут вядра.

Па дарозе яны прыкмячаюць яшчэ паломнікаў: старых п'яніц, што часта сядзяць на ганку пустой манапалькі, дзяцей, жанчын. Усе імкнуцца сюды рознымі сцежкамі, потныя, загарэлыя, са смаглымі вачыма.

Мінаюць лясок. Трэба перабрацца праз невялікае балота. Скачуць з купіны на купіну. Вось бярэзнічак і рачулка. Блішчыць яна крывой срэбнай дарожкай. Людзей тут—цэлы кірмаш. Гул. Вэрхал. Крыкі. Усе галасы зліваюцца ў нешта адно, неразборлівае:

— Гу-у-у-у! Гу-у-у у!

Гарачае паветра напоўнена, як звонам, галасамі ўзгарачаных людзей. Бяжыць сюды стары Антось, услед за ім Ганула-салдатка, дачка яго. Кульгае рупны Макар. Часта ад імпэту кій свой заглыбока ўсаджвае ў рыхлую зямлю і з хлюпатам вырывае. Шмат тут знаёмых і незнаёмых. Уводдалі маёнтак пана Манілоўскага, белы палац, бровар з чырвоным комінам. Па латках адтуль спушчан з чанаў спірт. Сінявaты туман-дымок вісіць нізка над вадой. Пахне спіртам. Людскія галасы растуць, як навальніца—дзікія, п'яныя, страшныя галасы. Вочы выпучаныя, непрытомныя. Рукі ў людзей небывалыя і ўся гэта карціна нейкая небывалая. Каб Левін не бачыў, ніколі-б не паверыў, што так можа быць у жыцці.

Левін успамінае Ганг з яго багамоламі, ці шумлівы купальны пляж. Паводле яго ўяўлення (усё гэта ён ведае з кніг) зусім не падобна да таго, што чыніцца цяпер тут.

— А-а-а! Вось што значыць багаты! І сюды з вядром прыпёр пажывіцца! Пі, але з сабою не дазволім браць з нашай райскай рэчкі, як ты з свайго райскага саду яблычкі.

Гэта гаворыць маленькі смешны чалавечак з чырвонымі вочкамі. Чалавечак цярэбіць увесь час чорнымі пазурамі голыя грудзі, потым прыгінаецца нізка да зямлі і просіць Сакалоўскага:

— Калі ласачка, у нашу новую карчму! Просім, просім! Ты, праўда, у мяне кусочак луга забраў, адсудзіў, але просім, просім. Гура-а-а!

— Гур-р-ра-а-а!—падхоплівае грамада.

Людзі нагінаюцца, сядзяць на каленях, ляжаць жыватамі на жвіровым пяску і п'юць з вылупленымі вачыма.

— І трэба было гэткае дабро псаваць, ёлапы.—Сакалоўскі цмокае губамі.—Ці-ж нельга было раней гарэлку вывезці з бровара? Раптам, кажуць, загад прышоў знішчыць гарэлку.

Сакалоўскага ніхто не слухае.

— Татачка, не пі!—просіць Ганула, суседка Левіна, і цягне б за жакетку.

— Адчапіся!

На яго твары некалькі шрамаў ад даўнейшых п'яных боек. А колеру сінявaтага спірту цямнеюць і наліваюцца грознай хмара

— Татачка, дамоў вернемся.

— Адчапіся!

Яго тонкія ноздры круглеюць, надзімаюцца. Босы, у вузе шарачках і ў суконнай жакетцы на плячах, ён здолен цяпер на гарачыя ўчынкі.

— Адчапіся.

— Татачка, дай хоць жакетку, а то здзяруць.

— На! На!

Адным узмахам левага пляча ён скідае з сябе жакетку, застаецца ў расхрыстанай ружовай кашулі і, перахрысціўшыся шырокім крыжам ад неба да зямлі, ад лесу да поля, апускаецца на калені і прыпадае губамі да рэчкі...

— Жлакт... жлакт... жлакт...

Воддаль—гігат, песні, сваркі.

Цалуюцца. Усхліпваюць. Некалькі старых баб танцуюць.

Ляжыць і мацюкаецца п'яны кульгавы Макар, моцнай рукой круціць пажоўклы кій.

— Хто ка мне падсунецца—у зубы! Хто падыйдзе—заб'ю!

Да Антося, бацькі Ганулі, падыходзіць нехта васпаваты і па-сяброўску абнімае за шыю.

— Хадзем, Антоська, на святы Ярдан!

— Хадзем, братку, хадзем!

Яны як-бы спацыруючы ўваходзяць па калені ў ваду.

— Та-та! Та-а-ата!—крычыць Гануля.

— Чэрці лазатыя! Куды палезлі? Вылазьце! Няма чаго паскудзіць дабро.

— Вось вам! Вось вам!

І Антось і васпаваты збіраюцца тут рабіць нешта непрыстойнае.

— Акаянцы, заб'ем!

Некалькі чалавек пускаюцца за імі ўдагонку. Антось з рыжым уцякаюць на другі бераг.

— Рыба п'яная... Рыба п'яная плыве...

— Ісачок, дай рыбку лавіць і плюндры мачыць!—жартуе нейкі чалавек.

Плоткі ўсплываюць на верх дагары жыватамі, блішчаць, як перламутравыя сцызорыкі. Бабы ў падолы кідаюць п'яную рыбу.

— Качкі дзікія!—крычыць нейкі хлопчык без шапкі.

Статак дзікіх качак плыве да людзей, дае нырца і гагоча весела і смела.

П'яныя мужыкі любуюцца імі і добрадушна смяюцца.

Не вытрымлівае Сакалоўскі.

— Ах, вы, ёлапы!—і ў чорных штанах на выпуск лезе ў рэчку, рукамі ловіць пару качак і крэх галоўкамі аб вядро.

— Шэльма! Шэльма!—крычыць Антось з другога берага.—П'яных забіваць не можна! Ты цвярозых лаві. Гэта табе не парабкаў біць, с-с-с-укін сын! Думаеш, я цябе баюся? Мой зяць на вайне, а твой сынок хаваецца. Твой—заяц! Ляксандру майго забілі. Сволачы! Гы ы-х.

Антось плача п'янымі слязамі.

Сакалоўскі пачынае адсоўвацца.

З усіх бакоў плыве не упыннае „гуга", узнімаецца п'яным хорам з п'янай зямлі. Сонца апускаецца ніжэй. Ля дрэў даўжэюць сінія цені.

Левін адыходзіць, збіраецца адзін дамоў іншай дарогай. У нейкай жудасці адсоўваецца далей адгэтуль. Паволі сціхае шум п'яных. Ужо вылучаюцца патрохі песні птушак, якіх у п'яным галасе ля рэчкі не было чутна.

Раптам Левін спыняе свае крокі і пачынае прыслухоўвацца, і позірк яго становіцца трывожным.

— Што гэта?

З блізкага лесу набліжаецца новы шум. Нейкі дзікі гул ніто звяроў, ніто жывёлін. Растуць незнаёмыя гукі ўсё мацней і мацней.

— Што гэта?

Дзівіцца Левін і давай яшчэ пільней аглядацца па баках.

Рыканне не рыканне, тупат не тупат, расце, надыходзіць з блізкага лесу, імчыцца сюды небывалай навалай.

— Які чорт занёс мяне сюды?—злуецца Левін.—Вось згубіць мяне цяга даназірання...

З лесу выбягае стада, з непрытомным рыканнем шугае наперад з такой сілай, нібы за ім уздагон імчыцца ганяя ваўко?. Наперадзе чорны бугай. Рогі поўабручы з завостранымі канцамі свецяць на сонцы мядовым адлівам.

— П'янае стада. Тут нейдзе вадапой. Пэўна напіліся з райскай рэчкі. Трэба ратавацца...

Бяжыць Левін так шпарка, аж вецер гудзе ў яго вушах. А за ім— чорны бугай, усё стада, і дзікае рыканне, нібы лямант вар'ятаў. Левіну не хапае паветра, ён сапе, увесь абліты потам. Вось зараз спыніць свой бег і ўпадзе, а п'яныя жывёліны стопчуць яго ў блін, у крываве цеста... Але вочы яго ловяць прыстанішча—вілаваты стары дуб з сукамі ледзь не да самай зямлі. А за спіною цёплае дыханне раз'юшаных жывёлін... Ён абдзірае сабе рукі да крыві, рве вопратку аб сукі. З грудзей вырываецца хрып, сэрца стукае малатком, перад вачыма ўсё сплываецца ў ружовы туман, аднак ён, зморэны, моцна абнімае дуб абодвума рукамі і глядзіць уніз на зямлю —на адлегласць у чатыры метры. Не помніць, як узлез на дрэва.

Падбягае сюды прыгожы, як зубр, бугай. Чорная поўсць блішчыць, як плюш. На круглых баках бугая ледзь прыкметныя снежныя кропкі. Пена дыміцца з яго пысы. У вачах, здзічэлых і чырвоных, гнеўны агонь. Бугай задзірае галаву ў гару, пачынае нюхаць зямлю, пярэднімі капытамі б'е грунт і сцёбае сябе па баках магутным хвастом. А вось ён пачынае кружыцца на адным месцы. Левін патрохі адчухваецца, супакойваецца і давай з цікавасцю сачыць, што будзе далей. Любуецца прыгожым зверам, успамінае Іспанію, бой быкоў і небяспечны спорт торэадораў. У нейкай гарэзлівай гуллівасці спявае „Торэадор".

Пачуўшы яго голас, бугай пачынае раўсці нема, глуха і пагрозліва, адскоквае ад дрэва на некалькі крокаў, апускае галаву, настаўляе поўаршынавыя рогі і з разбегу грукае ў дрэва так моцна, аж вяршаліна дрыжыць. Зноў адскоквае і зноў, нібы жывы таран, наступае на стары дуб. Левін чуе крэхт, нешта крышыцца, ломіцца. Глядзіць уніз. Галава бугая заліта крывёю. Рогі адламаны. Бугай апускае галаву да самай зямлі і рыкае жаласліва і сумна. У вясёлых і смешных скоках стада рассейваецца ва ўсе бакі.

Здалёк пастушкі выглядаюць кропкамі. Яны мітусяцца туды і сюды і бягуць да шалёнай аравы людзей ля райскай рэчкі. Прадвячорная свежасць дыхае ў твар Левіна прыемным ветрыкам. Сонца да чырвана напаленай скаварадой стаіць зусім нізка, зараз скоціцца ў лес.

V

Бадай штодня маці папракае Левіна:

— Чаму старога дзядзькі не наведаеш?

Левін ніяк не выберацца. З малых год ён памятае дзядзьку Бенцыяна—з сівой шчуплай бародкай і васкова-празрыстым тварам, а цётку Тысю—згорбленай бабуляй. Жылі яны раней у вёсцы Далінцы, за тры вярсты ад Каганцоў. Малым хлапчуком Левін бегаў да іх на паратунак, калі ў чым небудзь-правініцца ў хаце, і бацька хацеў яго

лупцаваць. Пабыўшы ў дзядзькі дзень-два „палітэмігрантам“, Левін варочаўся дамоў і даставаў ад бацькі яшчэ за ўцёкі... Выправіўшы ў Амерыку апошнюю дачку, дзядзькі перабраліся ў Каганцы і паслалі дзецям за акіян свой новы адрас на прысылку лістоў і долараў. Дзядзькі цяпер жывуць у старой карчме, якая пустуе ўжо некалькі год. У вялізнай, як, поле, будыніне яны абралі сабе невялічкую каморку.

Левін праходзіць анфіладу пустых цвілых пакояў. На падлозе накіданы кавалкі тынку, а на сценах вылазяць лапіклы прыбітай у густую клетку лучыны.

— Прышоў! радуецца дзядзька, калі Левін з'яўляецца на парозе.

— Не забыўся на нас, старых,—кажа цётка і давай падслепаватымі патухшымі вачыма ўзірацца ў яго пільна, нібы ў нечытэльна напісаную цыдулку.

— Чым-жа цябе пачастуем?—цётка ў роспачы і засмучона трасе галавою.

— А праўда, праўда...—нібы са сна ўсхопліваецца дзядзька і вымае з зубоў засмактаную люльку.

— Ды нічым! Я толькі што пасля снедання,—супакойвае іх Левін вясёлым голасам.

— Ну, няхай ужо,—згаджаецца дзядзька

— Шлёма крыўдзіцца на нас не будзе,—упэўніваецца цётка.

— Як вы тут?—пытаецца Левін.

— Эт, жывем, дзякаваць богу.

Цётка так забаўна трасе галавою, нібы тая пачала адшрубоўвацца ад тулава. Зморшчыны, як высушаная груша, твар выціскае з нутра нешта падобнае да ўсмешкі.

— З Амерыкі дзеці прысылаюць, дай бог кожнаму з іх па сто дваццаць год. Так-бы добра было, але вось гэта вайна-шмайна. Гэта-ж, не тут кажучы, забіць нас могуць стрэльбы-шмельбы.

Цётка Тыся—старая рыфмачка. Левін памятае яе рыфмы яшчэ з былых год. Усё тое, што цётцы не да спадобы, рыфмуецца тым самым словам з маленькай пераробкай на „шм“.

— Скажы мне, Шлёма, хто-ж гэта прыдумаў вайну-шмайну?

За Левіна адказвае дзядзька, і так паспешна, нібы хоча выратаваць пляменніка ад няправільнага тлумачэння:

— Хто? Вядома хто—цар!

— Цар-шмар.

— Ну, ну... Ты цара не шмаруй! Бог—цар над царамі, а цар—цар над людзьмі. Каб не цар, дык чалавек чалавека глытаў-бы, як рыба рыбу.

— Дык выходзіць, разумнік ты мой, што людзей цяпер глытае цар?—кпіць цётка.

— Э-ээй! Дык выходзіць,—гаворыць ёй дзядзька ў тое, што ты сіцілістка? Без бога цар і пальцам не кране, а за цара мы молімся ў кожную суботу. Ведаеш гэта?

Цётка ўжо раззлавана і пачынае з упартасцю даводзіць сваю небяспечную логіку да канца:

— Калі так, дык значыць, што сам бог, нібы рыбін, людзей глытае?

— Дык значыць, што ты на старасці лет бязбожніцаю стала...

Злосць цёткі даходзіць да найвышэйшага пункта і яна кідае ў вочы дзядзьку, нібы напалены камень, новую рыфму:

— Бог—шмог...

— Вечна шмыкае,—у вялікім страху мармыча дзядзька.—Адкусіла-б лепш язык.

Ад змяшання цётка можа так і, зрабіла-б сапраўды, але ў яе роце ўжо ніводнага цэлага зуба няма.

— Баюся вайны,—апраўдваецца цётка.

— І я баюся, але трэба-ж заўсёды памятаць і ведаць, што гаварыць.

Дзіўна Левіну. Гэтым старым будзе разам сто шэсцьдзесят год, а баяцца вайны. На стале дзядзькі ляжыць разгорнуты фоліянт талмуда і старыя акуляры. На падваконніку—мядзяныя шабасавыя падсвечнікі. Левін глядзіць праз вакно на двор. Вялізны дзядзінец зарос крапівай, лопухам і сабачымі грыбамі. Толькі вузенькая сцежачка вядзе да старой студні. Здалёк свеціцца возера, кінутым на лугі кавалкам неба. За возерам сцелецца дымчатымі палоскамі засмугленая даль лясоў. Блізка за вакном жаласліва ціўкае птушка. Рад-бы Левін уцячы ад дзядзькоў, толькі не выпадае. Трэба з імі гаварыць пра вайну і сказаць ім, ці дакоціцца яна сюды, ці можа не дапусціць яе ў Каганцы нейкі божы цуд, і дзядзькі будуць жыць яшчэ па сто год...

— Ой. ой, ой,—стогне дзядзька,—каб хаця яшчэ год другі. Вельмі-ж хочацца, ведаць чым усё гэта скончыцца. А мы, старыя і слабыя, як дзеці, малога ветрыка баімося...

За вакном стогне птушка. Ярка свеціць сонца пазалотай і глянцуе возера.

Прыехаў поп. У Каганцах няма ні сваёй царквы, ні папа. Колькі год таму назад збіралі грошы на пабудову царквы ў гэтым мястэчку. Першымі красаваліся на вялікім аркушы паперы подпісы тутэйшых крамнікаў яўрэяў. Яны аказаліся такімі гарачымі прыхільнікамі праваслаўя, што далі па дваццаць рублёў і абяцаліся даць яшчэ. Гэта натхніла ў свой час папа (раней у сваіх казаннях ён гаварыў аб патрэбнасці яўрэйскіх пагромаў) пахваліць каганецкіх крамнікаў перад сваімі парахвіянамі, як найлепшых людзей. А крамнікі меркавалі так: калі тут будзе царква, тады Каганцы зробяцца цэнтрам розных фестаў, гадавых кірмашаў, і гандаль узрасце ў некалькі разоў. Каб толькі божая ласка...

Прыехаў поп з дзякам. Сёння аж тры пахаванні ахвяр небывалай выпіўкі ля рэчкі, дзе адбылася страшэнная п'яная бойка.

Праз галоўную мястэчковую вуліцу нясуць тры трупы. Чорнабароды поп у поўным аблачэнні спявае малітву. Дзяк, рыжы і жулікаваты п'янчуга, грыміць басам. За імі вялікая грамада сялян мужчын і жанчын. У многіх гузы і шышкі на тварах, заплыўшыя вочы, абвязаны ілбы. Не гледзячы на гарачыню, мужчыны ў святочных суконных жакетках. Маўклівыя і сур'ёзныя, яны ідуць мерным крокам з апушчанымі галовамі. Жанчыны ў святочных белых і каляровых хустках заводзяць на самых тонкіх струнах шчырае галошанне. Усе таропяць у зямлю збянтэжаныя позіркі. Шэры пыл клубіцца пад нагамі і нагадвае стада дробных парасят. Ад прэлага паху чалавечага поту прыкра і моташна. Людзі час-ад-часу выціраюць рукавамі пот. На могілках і Левін. Вісіць неба над хвойнікам абамлелае і гарачае, як печ. Цёмнымі кропкамі ўюцца птушкі ў залацістым паветры. Сонца расцілае ярка-жоўтыя абрусы па шліфаваных магільных каменнях, выпукляе старыя, напалову сцёртыя, надпісы і заглядае ў самае дно трох свежых ям. Ветрык прыносіць з палёў пах канюшыны. Воддаль у нізіне пасвяцца цялушкі.

Рыжы дзяк, вылупіўшы вочы, раве магутным голасам „Са святымі ўпакой". Пераліваецца яго голас і звініць меднай трубой. Цялушкі выцягваюць шыі, настаўляюць вушы і недаверліва слухаюць.

— Гыш, якое горла!—дзівіцца кульгавы Макар і плюецца.—Рыжы чорт куды дужэйшы за майго Міхалку, а той на пазіцыі прападае.

— Духавенства ў салдаты не бяруць. Яно і тут служыць веры, цару і ацечаству,—тлумачыць тоненькім дзявочым галаском нізенькі Гарасім,—а на пазіцыі папы адпяваюць часам нябожчыкаў у брацкай магіле.

Раве басам рыжы дзяк, плыве ў вышыню строгі папоўскі тэнар.

Апускаюць труны. Візгат удоў, спляцены з трох гукавых нітак у адзін крык, рэжа залацістае паветра, як ножніцамі. Шурхаюць лапаты аб жвіравы пясок, і дробныя каменьчыкі сыплюцца на труны, нібы град на шыбы.

Чорнабароды поп аглядае людзей вачыма-вуглямі і пачынае казанне. У яго голасе гнеўныя ноткі перамешваюцца з пяшчотнымі. Ён гаворыць пра вялікія грахі, пра дэзертыраў-зайцаў, пра цара-бацюшку і хрысталюбівае воінства.

...„І вось вам кара божыя за непаслухмянства. Вось яна!—Ён паказвае на тры свежыя магілы і грозным голасам пытаецца:—Правільна я кажу? Смерць не толькі на пазіцыі, смерць усюды, дзе бог гасподзь сваім усевідушчым вокам бачыць грэшнікаў. Правільна я кажу? Дык вось! Зусім магчыма, што наблізіцца сюды фронт... Трэба будзе акопы капаць, дык не адмаўляйцеся, дарагія парахвіяне, дапамагчы. Памятайце, што вогненны меч божы вісіць над вашымі галовамі. Правільна я кажу?

— С-сукін кот!—бурчыць кульгавы Макар.—Ах ты, куды гнеш!

— Во-во, ясна, што сукін кот!—падхоплівае гэтыя дарагія словы нізенькі Гарасім.—У папа тут пазіцыя. Ён аруду̀е не горш за ўрадніка і прыстава. Даўней свайму сыну не верыў, а цяпер бачу ўсё гэта ліха, як свой уласны палец.

Левін ведае і сына Гарасіма. У 1905 годзе той быў высланы ў Сібір за рэволюцыйныя ўчынкі ў тутэйшай ваколіцы.

Пачуўшы аб набліжэнні фронта і акопах, сяляне пачынаюць трывожыцца і забываюць нябожчыкаў. Чуваць развагі:

— Ах ты, халера! Значыць, віхор гэты да нас набліжаецца.

— Рыне праца наша, жыццё наша к чорту на рогі пойдзе!

— Прападзем!

— Каб тым галовы паадкручвалі, хто выдумаў гэту вайну!

— Што ты тут зробіш?—Нічога тут не зробіш. Чым тут паможаш?—Нічым тут не паможаш,—разважае дзявочым галаском нізенькі Гарасім.—Будзеш праклінаць—і пойдзеш. Будзеш баяцца смерці—і пойдзеш. Бо дзе ты, чалавеча, дзенешся?

— Як дзе дзенешся?—артачыцца кульгавы Макар і стукае кіем аб камень.—Няўжо-ж чалавечы розум паратунку прыдумаць не можа?

— Не мала думалі,—кажа патаемным галаском нізенькі Гарасім, выціраючы вечна слязлівыя вочы.—Усе сіцілісты думалі і мой сынок таксама мазгаваў. Народ вайны не хоча. Бедны не хоча за нівошта галаву сваю аддаць. Вайны хоча багаты. Ён кіруе вайной і багацее. Наш Сакалоўскі і то вайны хоча, бо гандлюе цяпер, скуплівае палатно, скаціну. Цэлым асэсарам стаў. А, нябось, свайго сынка хавае.

Далей Левін не чуе. Людзі пачынаюць разыходзіцца. Вядзе Сакалоўскі папа пад руку—вядзе да сябе на абед і карты. Ад учарашняга палявання на дзікіх качак у Сакалоўскага ацвярдзелі, як бляха, чорныя, навыпуск штаны.

Жытняе поле даўно адцвіло і выспела. Цяжкія каласы нахіляюцца, ў задуме і глядзяць на сваю матку глебу. Зямля нараджае сваіх дзя-

цей, як сто і тысячу год таму назад. Прыспешна выходзяць жанчыны з сярпамі на сваю „вайну“, каб ваяваць з жытнім полем. Румянымі і сакавітымі адвячоркамі расплываюцца, як туман, над палямі песні жніва:

Жыта, маё жыта,
Жыта залатое,
На таку малочана,
На століку пакочана.
Хто-ж яго пераліча,
Той на вайну не пойдзе,
Пашле служку верненькую.
Тая служка ваяваць будзе,
А ён сам панаваць будзе.
Служка будзе на коніку,
А сам будзе ў пакоіку,
Служка будзе паязджаць,
А сам будзе пахаджаць.

Сярод спявачак нямала і салдатак. Прыслухоўваецца Левін да старадаўняй песні і дзівіцца:

— Яна вельмі пасуе і цяпер.

Сакалоўскі плаціць жнеям такія цэны, што малазямельныя ідуць да яго грамадою.

— Чым скарэй кончыце, тым больш заплачу,—заахвочвае ён.— Наладзім, пане дабрадзеенку, такія дажынкі, аж пыл запыліць і дым задыміць! Дабром плаціць буду, ёлапы! Дабром...

Але ў самы разгар жніва прышоў наказ...

Ходзіць па вуліцы раніцою высокі сівавусы соцкі. На яго грудзях, як у жраца, круглая бліскучая бляха. Ён заглядае ў кожную хату. Яго вочы—вадзяністыя, злыя і непадкупныя, а голас—урачысты і строгі.

— З вашай хаты павінен ісці чалавек!

— Навошта? Куды?

— За дваццаць пяць вёрст. Пад Сасноўкі. Акопы капаць.

— У нас няма каму ісці... Жніво...

— Жніво? Мо' і жаць не прыдзецца—пацяшае соцкі.—Рыхтуйце чалавека.

Акамянелым тулавам соцкі робіць ля дзвярэй паўкруг і глядзіць ці „рыхтуюць чалавека“. Потым кідае, як ласку, некалькі слоў больш лагодным тонам:

— Хай возьме харчы. Збор на двары ў Сакалоўскага. Там чакаюць салдаты.

І гэты адзервянелы вестнік набліжэння фронту, грозны і ўрачысты, ідзе ў другую хату. Моладзь хаваецца па пунях і гумнах. Прыгінаючыся да самай зямлі, паўзуць гародамі ў бок лесу „зайцы“. Сад Сакалоўскага сёння ўжо не абарона. Там пападзеш адразу быку на рогі.

Што рабіць? Каго паслаць?

Сёстры і браты Левіна схаваны ў склепе старой карчмы. Бацька Левіна, Шолам, чалавек упарты. Яго чорная асірыйская барада хадыром ходзіць. Вочы блішчаць. Ціхім голасам, каб ніхто а вуліцы не пачуў, ён самому сабе абвяшчае:

— Ніводнага чалавека не дам!

— Як не дасі,—супярэчыць старшы сын Шолама, Саламон Левін, калі сям'я наша вялікая.

Саламон самы старшы. Браты і сёстры замалыя.

— Іду!—кажа Левін.

— Не пойдзеш! Нізашто не пойдзеш! Х'ба ты ашалеў? Пабачым, хто з местачкоўцаў пойдзе. Ты-ж у мяне госць.

— Пайду! Там і гасцей прымаюць.

Маці плача і рыхтуе Саламону торбачку з харчамі.

— Вазьмі хоць боты мае і куртку,—супакойваецца бацька.

На вуліцы гурт хлапцоў і дзяўчат. Усе з торбачкамі. Жартуюць, гагочуць. На двары ў Сакалоўскага чакаюць сялянскія фурманкі і некалькі конных салдат. Парабчук Сакалоўскага таксама выбіраецца ў дарогу. Каля яго клапатліва тупаецца гаспадар.

— Во-во, бачыш? І Левін тут. А ёлап гэты баіцца! Чуеш, Шлёмка, што ён мне сказаў? Хай, кажа, твой сын ідзе акопы капаць! Якое яму дзела да майго сына! Мы-ж увесь час на абарону, пане мой, працуем! Вось глядзі ёлап! Левін—гарадскі чалавек, а як трэба, дык самахвоць ідзе. Калі трэба, дык усёй душой! Карона і з тваёй галавы не спадзе.

Сакалоўскі міргае Левіну хітрым вокам. Парабчук трымае торбачку пахмуры і маўклівы. Ад нецярплівасці перабірае закарэлымі, у струпах, нагамі. На галаве новая шапка з бліскучым брылікам—падарунак гаспадара на Сёмуху, увесь заробак за паўгода працы.

Ля садовай форткі ціха па-кашачаму паказваецца белавалосая садоўніца. Яна ківае Левіну ружовым пальчыкам:

— Сюды...

Левін паслухмяны...

— Вазьмі на дарогу яблыкі...—і кладзе яму ў кішэні мядовыя ранеткі. І рукі белавалосай і яблыкі гарачыя. І Маўра ўся праменістая і сонечная—ад бірузовых вачэй да свежавыкупаных босых ног. Вочы Левіна заплываюць салодкім туманам.

— Эх, Маўрачка...

— Без рук!

Маўра пагражае бледным пальчыкам, і бірузавыя вочы яе цямнеюць.

— Без рук, бо не пагляджу, што ты гарадскі.

— З табою пажартаваць нельга?

— Нельга...

VI

Усе кладуць свае рэчы на падрыхтаваныя фурманкі. Вайскоўцы строяць неспадзяваных акопнікаў па чатыры ў рад, хлапцоў і дзяўчат у перамешку. У Левіна з аднаго боку парабчук Сакалоўскага, з другога — гімназістка Іра. Складаюць спіс усіх сарака чалавек. Потым правяраюць:

— Вайда?

— Я!

— Левін?

— Я!

— Сухадолец?

— ...

— Хто Сухадолец?

— Я... я—бурчыць парабчук Сакалоўскага. — Думаў, што другі Сухадолец.

— А ты глядзі ў мяне, морда!—пагржае вайсковец.—Можа ўцячэш?

— Х-х-халера...—злосна шэпча парабчук.

Вайсковец адным позіркам, бравым і грозным, вывучае свой пярэсты атрад, выпучвае грудзі, і вочы ў яго шклянеюць, вусы тапырацца і рука з нагайкай узнімаецца, як у капельмайстра.

— Левай, ар-рш!

Шэсць коннікаў абкружаюць іх, нібы палонных. Так ідуць яны местачковай вуліцай. За імі бягуць дзеці. На прасторным, як веранда ганку, стаіць стары Лейба Кантаровіч. Доўгая халадайка да самых пят. Ён у старых галёшах на босую нагу. Акуляры на лбе. Сівая барада скамечана, як вераб'інае гняздо. Лейба Кантаровіч робіць Левіну знакі рукою, ціскае плячыма і кажа нараспеў:

— Ну .. ну...

Левін разумее: супроць сілы нічога не зробіш. Так бог захацеў. Ён—наш бацька, а мы—яго дзеці, дык не прападзем.

Адплываюць павольна домікі, канчаецца мястэчка. Новы мост вядзе на шырокі тракт. Паварочваюць направа ў бок лесу. Абапал дарогі—жніво. Вунь у цяньку ля снапоў на свежым іржышчы плача дзіцё жаласлівым галаском. Да дзіцяці бяжыць нізкая грудастая кабеціна з падаткнутым зрэбным падолам. Бягучы расшпільвае кофту, рыхтуючы палудзень для дзіцяці. Ад яе шпаркага бегу ўзнімаюцца з крыкам вароны.

Левін пачынае пацець. Парабчук Сакалоўскага смуглы ад сонца. Войстрымі вачыма ён глядзіць у даль і з его тонкіх губ час—ад часу зрываецца злосна адно толькі слова:

— Халера...

Праклінае гэтым словам неба, лес, ваколіцу, людзей ды ўвесь свет.

— Чаго так халерышся?—дзівіцца Левін.

— А няхай яе халера!

— Каго? Чаго?

— Жызню такую.

Марудна паўзе вярста за вярстой. Вунь адна закарузлая вёсачка, другая. Ніхто на атрад і ўвагі не звяртае. Сяляне глядзяць на іх пустымі вачыма. І ў іх забралі людзей акопы капаць. А дзе не было маладых—пагналі старых.

Яны робяць невялічкі прывал. Іх сустракаюць нерухомыя і ўрачыстыя хвоі. Недзе блізка дзяцел стукае дзюбам-малатком аб пень. Над брусічнай палянай мірна спяваюць птушкі. Няўжо і сюды дакоціцца віхор вайны?

Пакарміліся ў халадку ды зноў у дарогу.

— Эх, каб лес цягнуўся, цягнуўся, і цягнуўся...—выказвае ў голас свае думкі гімназістка Іра.

Яе карыя вочы яскравяць, як вішо. Цёмныя валасы выбіваюцца шаўковымі пасмачкамі з-пад белай хусткі, насунатай на лоб. За некалькі гадзін пад сонцам у яе пасохлі губы. Яна часта аблізвае іх чырвоным язычком. Левін глядзіць на яе так, нібы бачыць упершыню. Ён ніяк уцяміць не можа:

— Як гэта маці дазволіла вам?

— Сама ўцякла. Цікава...

— Эх, вы, дзіцё... Рамантычную паву-купаву за хвост ловіце? Нудная будзе работа: зямлю капаць, мазалі націраць і слухаць брыдкую лаянку. А спіна забаліць, заные. Ці-ж варта было?

— Не палохайце мяне.

— Так яно і будзе, няхай іх халера!—упэўнівае парабчук.

У воблаках пылу едзе насупроць абоз, едзе марудна на тракце. што перасекае прасёлачную дарогу, па якой ідзе каганецкі атрад. Каганецкія спыняюцца і з дзівам узіраюцца на незвычайны абоз, Худыя коні. На фурманках—падушкі, цабэркі, гаршкі, куфры, дзеці,

і старыя. Усё гэта запылена, забруджана, і рэчы і людзі як-бы звалены разам у кучы. На вазах крычаць куры. Моўчкі, апусціўшы галовы, ідуць побач з вазамі сяляне і падлеткі.

— Гэта бежанцы,—тлумачыць Левін гімназістцы.

— Упершыню бачу,—дзівіцца яна.—Глядзіце! Вунь кабета нечага просіць... Рукамі заве.

Некалькі чалавек адразу ідуць да яе.

— Вады,—просіць жанчына.—Дзяўчынка памірае". У яе тыфус.

У жанчыны непрытомныя, застылыя, як шкло, вочы. Заўпалыя шчокі. Побач з ёю на возе, на брудных анучах, ляжыць хворае трохгадовае дзіцё. Левін бяжыць за адной з каганецкіх фурманак, дзе ляжаць яго рэчы, дастае бутэльку малака і падае жанчыне.

— Адкуль едзеце?

— З-пад Смаргоні.

— Як там?

— Пазіцыя. Усё спалілі.

Да каганецкіх падбягаюць хлапчукі, выцягваюць рукі і просяць, як цыганяты:

— Хлеба, дзядзечка...

— Дай, цётачка.

— Дай, дай...

Абоз рухаецца наперад. І каганецкія, і салдаты, што іх вядуць, апускаюць галовы, як вінаватыя.

— Куды едзеце?

— На Менск.

Абоз бежанцаў праязджае павольна. Вось яго апошняя фурманка.

— Чаго задумаліся?—пытаецца Левін у гімназісткі.

— Каб хаця нас не сустрэў такі лёс...

Левін маўчыць. У вачах кожнага чытае тое самае:

— Каб нас не сустрэў такі лёс...

Каганецкі атрад ідзе цяпер трактам у той бок, адкуль толькі што праехалі бежанцы. Атрад часта адварачваецца і глядзіць, як абоз аддаляецца, драбнее і хаваецца ў воблаках гарачага пылу. Праз меру прыцягвае позіркі людзей гэты сумны абоз. Пусцее тракт, пыл за абозам прылягае да зямлі. Пагорак з бярозамі на самым тракце хавае ад вачэй апошнюю фурманку. Сярод каганецкіх чуваць уздыхі.

— Каб нас не сустрэў такі лёс...

— Глядзіце... Глядзіце...

Сярод тракта сірацінаю стаіць воз. На ім пустыя вёдры і лахманы. Воддаль ляжыць, конь, выцягнуўшы ногі. Ён цяжка водзіць худымі карослівымі бакамі і тарапіць у даль мутныя фіялкавыя вочы. Парабчук Сакалоўскага з жаласлівасцю і пяшчотай совае ў абвіслыя губы каня жмутак травы. Адна з дзяўчат пачынае ўсхліпваць:

— Каб не было так і з нашымі конікамі...

Вайсковец выймае з кабуры рэвальвер і страляе каню ў вуха.

— Няхай не мучаецца...

А вось яшчэ адна знаходка: свежая магіла на мяжы. Крыжык з бярозавых кійкоў, перавязаных вяровачкамі. Крыху далей яшчэ адна магіла...

— Гэта ўсё бежанцы, тыфус іх косіць,—тлумачыць адзін з вайскоўцаў.

„Супчыкі—пупчыкі.
Гоп-чыкі-чыкі-чыкі".

Якое харошае прывітанне! Так сустракаюць каганецкіх на месцы акопаў. Дзяцюк без шапкі з русым чубам, задзірастым носам і чуллі-

вымі вочкамі так вітае новых людзей. Ён кідае лапату ў жоўты пясок, пальцы рук і ног у яго растапыраны, як у малпы; ён рухаецца, выгінаецца, рукамі як-бы грае на невідочным гармоніку ды ўсё прыгаворвае:

„Супчыкі-пупчыкі,
Гоп-чыкі-чыкі-чыкі“.

Пры гэтым робіць пальцамі брыдкі знак. Спалоханая гімназістка туліцца да Левіна. З'яўляецца вайсковец з крыкам.

— Дурака не валяй, а работай. Вось табе „супчыкі-пупчыкі“!— і вайсковец раптам хвасянуў нагайкай хлапца па голым карку. Дзяцюк войкае, слёзы заліваюць яму вочы і ён без ніводнага слова бярэцца за лапату.

Ніхто на гэта не зварочвае ўвагі. Навакол мітусня. Сотні людзей працуюць лапатамі. Дзесяткі возяць бярвенне з блізкага лесу. Туды і сюды ходзяць сапёры. Усё гэта на стаптаным жытнім полі. Дзе-ні-дзе яшчэ стаяць кусцікі збожжа. Воддаль дыміцца паходная кухня. Недалёка ад акопаў рэчка, а на другім баку—вёска. Сонца ўжо стаіць нізка над лесам і сыпле ў рэчку жмуты іскраў. Кожны з каганецкіх бярэ з фурманак свае рэчы далучаецца да сваёй грамадкі і глядзіць на незнаёмы людскі тлум разгублена і збянтэжана.

— Свежанькім выдаць лапаты! Да цямна могуць папрацаваць,—чуе Левін.

А „свежанькія“ пасля доўгай хады выціраюць пот і грызуць тое-сёе з сваіх торбачак. „Свежанькія“ скардзяцца:

— Адсапнуцца не дадуць... Мы-ж не палонныя...

— Не р-разговар-рвать!

Ім выдаюць лапаты.

— Хведасенка! Ты будзеш ім паказваць, свежанькім! — камандуе той-жа голас. Гэта вайсковы інжынер з смуглым загарэлым прыгожым тварам.

Хведасенка бярэ пад казырок:

— Слухаю, ваша... роддзе!

Левін прыглядаецца да Хведасенкі—да чалавека, у чыіх руках знаходзіцца цяпер лёс сарака каганецкіх. Вёрткі, у запыленых ботах, Хведасенка знімае шапку і выцірае хустачкай лоб. У яго круглы, загарэлы прыемны твар, вішнёвыя вочы, тонкі нос і чорныя ланцужкі-вусікі. Ён стараецца трымаць важнецкі начальніцкі выгляд, але гэта ніяк яму не ўдаецца.

— Ну, рабята, арш!—крычыць ён строга, а ў строгім голасе вось-вось уварвецца малады дабрадушны смех.—Вось тут капайце. Жыва! Вы ў мяне па дысцыпліне, рабята!

Белыя зубы Хведасенкі блішчаць, як часнок, і вочы, паміма яго волі, ласкава ашчупваюць „свежанькіх“ людей. Яны аглядаюцца па бакох і неахвотна пачынаюць працаваць лапатамі. Хведасенка рагоча.

— Эй, ты! Барышня! Як лапату дзержыш? Го-го-го! Гэта-ж не каклетку на вілку бярэш, каб у роцік класці. Эй, барышня, барышня!

Ён бярэ з рук засаромленай гімназісткі лапату і паказвае як трымаць.

— Ай, ай! І якіх гэта пупсікаў к нам прысылаюць. Такой толькі фігелі-мігелі вышываць на шоўку, а не зямлю капаць.

Твар гімназісткі палыхае агнём.

— Яна-ж дабраахвотна! Сама ісці сюды хацела!—жартуе адна з каганецкіх дзяўчат.

— Дабраахвотна?!—Хведасенка грае вачыма, як актор.—І я дабраахвотнік! І я! Вось і пара будзе! Капай, барышня, і не чырваней. Свае

людзі—дабраахвотнікі! А ты, Магдуська,—зварочваецца ён да другой дзяўчыны,—большымі порцыйкамі капай. А то мне, дальбог, больш кашы даюць на абед, чым ты лапатай зямлі бярэш.

Тая адгіркваецца:

— Я не Магдуся, а Франуся. Капай сам, калі цябе вялікімі порцыямі кормяць!

Настрой у каганецкіх нядрэнны. „Начальства" папалася вясёлае. Хутка рогат і гігат ахоплівае ўсіх. Здалёк чуваць строгі голас:

— Гэй, ты там, Хведасенка! Не балуй!

— Рабяткі, рабяткі! Працуйце, а то і вам і мне ўляціць...

На яго твары шчырае шкадаванне.

— Жыва, жыва! Прашу вас! Мілыя...

Лапаты пачынаюць шурхаць з большым імпэтам. Левін рупна павясковаму плюе на рукі і шчыра стараецца. Зямлю капаць яму, праўда, ніколі раней не прыходзілася, а гной не раз капаў у хляве разам з бацькам. Прыламліваецца, прыстасоўваецца і гімназістка. Левін захопліваецца працай, нібы хоча камусьці выплаціць доўг за тое, што вечна над кнігамі сядзіць.

— Старайся ды ўмеру, а то зараз духу ў цябе не хопіць,—шэпча Хведасенка на вуха Левіну і грае вачыма і зубамі да гімназісткі. „Начальнік" аддаляецца і балагурыць з той, што назвала сябе Франусяй.

— Які слаўны салдат,—кажа гімназістка.

Хведасенка ходзіць ад чалавека да чалавека і паказвае, як працаваць, ці хутчэй, як не працаваць...

— Хведасенка, не балуй!—зноў чуваць знекуль грозны крык.

Хведасенка хмурыцца і пачынае літасці прасіць:

— Не падкачайце, браткі і сястрычкі...

Цені растуць так шпарка, нібы іх хтосьці спешна расцягвае і расцілае навакол. Рэчка наліта малінавым сокам. На тым баку рэчкі на вокнах вясковых хат запальваюцца шыбы. Па гумнах туды і сюды мітусяцца людзі. На пагорачку па скошанай канюшыне пабрыквае жарабё. Яно навязана і робіць правільныя кругі на адным месцы. Вяроўка служыць яму цыркулем. Жарабё задзірае галаву, выгінае тонкую шыю і ўсімі чатырма нагамі высока падскаквае і балуецца, як вясёлае дзіцё.

— Як хораша...—дзівіцца Сухадолец, парабчук Сакалоўскага, і заўсёды злы і цвёрды позірк яго пачынае мякчэць.

— Эге, не адно слова „халера" ведае гэты хлапчук,—кажа Левін гімназістцы.

Хведасенка глядзіць моўчкі ў даль, і на яго маладым твары расплываецца пяшчотная лятуценная ўсмешка. Ён цяпер не бачыць ні коніка, ні акопаў, ні захада сонца. Не чуе людскіх галасоў, бо сэрцам далёка адгэтуль, у родным стэпу са сваёй сям'ёю...

— Сапраўды прыгожа,—шэпча Левін.

— Вам хараство прыроды, — крыўдзіцца гімназістка, — а на маіх руках такія мазалі... не мазалі, а раны...

— А вы-ж самі хацелі сюды, каб рамантычную паву-купаву злавіць.

— Кіньце, Левін! Мне так рукі баляць, аж хочацца плакаць.

— Шчо?—усхопліваецца Хведасенка.—Плакаць? Не трэба плакаць такой харошай дзяўчынцы, бо няма мамы, каб слёзкі выціраць.

Шорхаюць лапаты, блішчаць. Усё ніжэй і ніжэй нагінаюцца людзі.

— Яшчэ трошкі папрацуем, дый годзе,—просіць ласкі Хведасенка.

— Да самага цямна!—чуваць здалёк грозны крык.

Людзі гэхкаюць, стогнуць. Левін адчувае ў паясніцы млявасць. З кожным разам зямля здаецца цвярдзейшай і цяжэйшай. Каб гэта можна было цяпер кінуцца дзе-небудзь у траву і ляжаць, ляжаць...

Марудна, як слімакі, паўзуць хвіліны. Хтосьці іх усё адцягвае назад і назад. Дзень гэты годам здаецца.

Відаць, як на тым баку рэчкі селянін, босы і без шапкі, адвязвае жарабё і вядзе на двор. На шыбах памірае сонечнае нажарышча. На лапатах яшчэ ледзь жыве спацелы водбліск серабра. Да рэчкі цягнецца на вадапой стада.

— Куды, ра-ба-а-я!—чуваць адтуль грудны жаночы голас.

І не хочацца верыць, што тут капаюць акопы.

У паветра хтосьці лле сіняе чарніла. Людзі ператвараюцца ў цені, а лапаты губляюць у пяску сваё спацелае серабро. Свежая зямля хмеліць, дурманіць і наганяе дрыму.

Агонь раскладаць забаронена. З хатак на тым беразе рэчкі таксама не відаць агнёў. Сёння ядуць сваё. Абяцаюць заўтра карміць з салдацкіх катлоў гарачай стравай. Многія ідуць спаць у гатовыя бліндажы. Для жанчын вызначаны спецыяльны бліндаж. Туды ідзе і гімназістка Іра. Як добра Левіну ў бацькавай куртцы-ватоўцы!.. Побач з ім тут-жа парабчук Сакалоўскага і яшчэ некалькі каганецкіх. У сіняй цемнаце тоне ўвесь абшар; топяцца людзі, фурманкі, акопы, навезенае бярвенне, паходныя кухні. Цемнату напаўняюць гукі: спакойная чалавечая гутарка, хрыплыя ўздыхі і апетытнае сапенне спячых, хрумсанне і фырканне коняй. Яны звіняць жалезнымі путамі, нібы катаржнікі кайданамі. Хоць усе косці ломіць, а Левіну не спіцца. Свецяць зоркі, вісяць у бяздоннай вышыні лямпачкамі-начнікамі. Ад іх цягнецца бліскучае павуцінне. Цёмнай сцяною высіцца лес.

Перад сном начальства загадала не сноўдацца з месца на месца. Расстаўлена варта.

На стаптаным полі ў сіняй дрымоце заміраюць галасы, нібы гутарлівая грамада аддаляецца кудысьці і павольна адсоўваецца ад гэтага месца. Ужо чутны не словы, а далёкая барабанная дроб. Смачна спяць суседзі Левіна. Толькі парабчук Сакалоўскага трывожна кідаецца з боку на бок, нешта мармыча і не можа супакоіцца.

Сум адзіноты нападае на Левіна і мучыць да болю. Дзе знайсці паратунак? Левін паволі адсоўваецца ад сваіх суседзяў, паўзе на локцях і каленях. У воддалі мільгае святло ад запалкі і пара рук—на адзін міг. Зноў цёмна. А вось малюсенькая іскрачка папяросы. Свеціцца агеньчык-светлячок і патухае. Ізноў ажывае спаміж ружовасці пальцаў, прытоена і крадучыся. „Бу-бу-бу"—бубніць ледзь чутная гутарка і вабіць Левіна да сябе і цягне, як блізкага. Адзін голас, з частымі пазяханнямі і ўрывістымі спынкамі, паволі свідруе слых спеўнымі словамі. Другі голас, кплівы, смехатлівы, б'е дробненькім драўляным малатком па пустой драўлянай пасудзіне. Левін набліжаецца да голасу па стаптаным жытнім полі так асцярожна, што сам не чуе сваіх рухаў. Галасы паволі вырастаюць у словы і сказы:

— Шмат хто бачыў з нашай роты. У самай гарачцы боя раптам апусцілася воблака, і ў белым паказаўся Хрыстос... Рукі распрасцёр і кажа: „Мір вам! Мір вам!" А ў яго вачах блішчэлі слёзы.

— Кінь ты, дурны! І голас у цябе, як у дзячка. А сам бачыў яго?

— Не. Людзі гаварылі, што бачылі.

— То-то, што людзі гаварылі. Эх, ты! Як малое дзіцё ўсёроўна—паверыў.

— А вось немцы туман пускаюць у нашыя акопы і людзі засынаюць.

— Гэта не туман, а ўдушлівыя газы, а людзі навекі засынаюць.

— Гады немцы гэтыя. Захапілі польскі горад, забыўся як завецца, дык усіх жанчын там згвалцілі.

— Можа і праўда. І наша афіцар'ё тое самае робіць пры выпадку. Ды не толькі на фронце. Што далёка шукаць. Вось я—рабочы з Лодзі. Ад таварыша ліст атрымаў. Упраўляючы фабрыкай згвалціў маю жонку-салдатку. Ну, прыеду, калі жыў астануся, дык распраўлюся з гэтай шэльмай. Потым яшчэ выгнаў яе.

— Выгнаў?

— Выгнаў! Вайна толькі пачнецца ў нашага брата, як вернемся дамоў. А ты—Хрыстос, воблачка. Дурань ты, вось хто!

— Дык выходзіць, што нашы яшчэ горш за немцаў?

— Усюды роўныя, мой ты саколік. Усюды ёсць і багатыя і бедныя. усюды багатыя жывуць з крыві бедных. Тое самае і ў гэтай вайне...

Тут голас пераходзіць у такі шэпт, што Левін не чуе, як ні стараецца. Доўга шапацяць галасы, нібы лес пад ветрам, але ніводнага слова ўлавіць нельга. Левіну становіцца холадна на роснай зямлі. Ён хутаецца ў бацькаву куртку. Ляжыць на спіне і пазірае ўгору. У словах лодзінскага рабочага ёсць нешта агульнае з развагамі нізенькага Гарасіма на каганецкім магільніку, ёсць блізкасць з пракалёнамі салдаткі Ганулі, з адозвай аб вайне, якую распаўсюджваў у Вільні рабочы друкар.

Урывісты шэпт двух незнаёмых ледзь даплывае да яго вушэй. Левін усхваляваны. У яго застоенай душы нешта варушыцца, непакоіць. Ён яшчэ не ведае: радавацца гэтаму ці не. З сіняй вышыні лятуць залатымі матылькамі зоркі. З-за цёмнага паркана лесу зазірае буйны і яркі твар месяца. Яснее абшар, і на ім павольна вырастаюць чорныя контуры людзей, коняй, фурманак і акопаў.

Левін, звязаны па руках і нагах, апускаецца ў нейкую процьму. У процьме—дзедава кузня. Ён, Левін, раздзімае кавальскія мяхі. Яму толькі восем год. Дзед звініць малатком аб кавадла. І зусім ён, Левін, не малы, і зусім не ў дзедавай кузні, а ў адной з рэдакцый віленскіх газет. Ён піша верш—такі прыгожы... Не—ён чытае кнігу. Хоча перагарнуць лісток, а той цяжкі, як магільны помнік. Нарэшце перагарнуў і апынуўся на беразе мора. Хвалі,—зялёныя, як трава, і высокія, як горы,—паімчалі яго ў незнаёмы горад. Не—ён у гэтым горадзе нарадзіўся і жыве ўвесь час. І ён зусім не Левін, а стары філосаф-вандроўца. У яго багатыя ўспаміны доўгіх год жыцця. Так жыве ўжо каля сотні гадоў, ходзіць па вуліцах, як грэцкі мудрэц, і апавядае людзям нейкую ісціну. Партовыя грузчыкі—абшарпаныя людзі, ад якіх пахне рыбай і апельсінамі—даюць яму кавалкі хлеба, як жабраку. У іх жаласлівыя вочы і грубыя простыя словы. Так ён бадзяецца па беразе мора месяцамі і гадамі. І зноў ён, Левін, ранейшы знаёмы Левін, і нейчая лапата абкідвае яго зямлёй. Ён памёр, а над ім нахіляецца Іра, прыгожая, як ніколі дагэтуль, і засыпае яго зямлёй і кажа: „Ты памёр... Ты памёр...“ На яе лапаце грае сонца.

— Уставайце, Левін! Уставайце!

Гімназістка Іра штурхае яго за локаць і глыбока заглядае ў вочы.

Узыходзіць сонца. Зямля халодная і росная. Людскія галасы. Усе збіраюцца на працу. Нізка над галовамі чырлікаюць птушкі.

## VII

На гэты раз начальнікам над каганецкімі не Хведасенка, а Піліпенка—вусаты салдат з нізкім ілбом, з раскосымі чорнымі вачыма, насуплены і пахмурны. Спачатку каганецкіх пацяшае канчатак проз-

вішча „енка", якое зблiжае сягонешняга начальніка з учарашнім слаўным Хведасенка. Але з першых-жа хвілін яны выяўляюць сваю горкую памылку. Піліпенка бесперапынку на іх пакрыквае, успамінае матак, бабак і прабабак, а пры гэтым яшчэ нагайкай пагражае. Пад яго пагрозлівыя крыкі і лаянкі ўсе працуюць маўкліва, да поту, не гледзячы на тое, што яшчэ добра адчуваецца ранічны халадок і сонца яшчэ не злізала росных ценяў з абшару.

У Левіна яшчэ ад учарашняй працы ломіць плечы, і рукі і ногі, як чужыя. Над усімі каганецкімі Піліпенка цяпер поўны гаспадар— ніводнага з сарака чалавек з вока не спукае.

— Кучаравы! Кучаравы!—ён косіць вочы на Левіна.—Не спаць! А то... Можа германа паглядзець хочаш? Дык я табе зараз пакажу германа!

Піліпенка здзекуецца з яго і мае ад гэтага вялікую прыемнасць. У Левіна гарыць твар, ад гневу і крыўды цямнее ў вачах. Ісці скардзіцца? Каму?

Левін цалкам пад уладай злога і дзікага Піліпенкі... У грудзях пуста, жыццё не міла. Ён, Левін, упершыню не гаспадар над самім сабою.

Сонца ўзнімаецца і пачынае прыпякаць. Лапаты сарака чалавек пад несупыннымі пагрозамі Піліпенкі ўсё дружней і дружней завіхаюцца. На руках Левіна балючыя мазалі. Яны празрыстыя і пухкія і ад лапаты гараць агнём. З яго губ зрываецца цяпер адно злоснае слова:

— Халера...

І ён, як парабчук Сакалоўскага, пачынае знаходзіць уцеху ў гэтым слове.

— Не думай, а капай! Капай, такое тваё рыла!

Левін ніяк не можа прывыкнуць да крыкаў прыганятага. Ён пачынае ненавідзець Піліпенку, як ніводнага чалавека да гэтага часу. Той, відаць, гэта адчувае і ўся яго ўвага—Левін. Ён крычыць над схіленай спіной Левіна:

— Не думай! Не думай!

А Левін думае:

„Каб гэта стукнуць лапатай па ненавіснай галаве Піліпенкі?"

Ад адной думкі прыемная слодыч разліваецца па ўсіх яго жылах, прыемны халадок песціць яго лоб.

„Стукнуць лапатай, стукнуць..."

„Пэўна, арыштавалі-б за гэта, збілі-б да страты прытомнасці, кінулі-б у турму..."

— Не думай! Не думай!

„А каб так працаваць месяц, год, дзесяць год. Многія-ж усё жыццё так цяжка працуюць, ды яшчэ пад крыкамі такога прыганятага, ці яшчэ горшага—голада: у шахтах, на заводах, парабкамі ў маёнтках... Як гэта яны прывыкаюць?"

— Працаваць, а не думаць!

„Як гэта тады назіраць за жыццём?—іранізуе Левін і адчувае сімпатыю і блізкасць да гэтых людзей...—А гэта-ж было ў мяне такой асалодай: стаяць збоку і наглядаць, як на жыццёвым шляху сустракаюцца лоб у лоб супярэчлівыя між сабой людскія праўды. Нанізваць гэтыя праўды, як шашлык, на свой філасофскі дроцік і лічыць сябе вышэйшым за ўсё гэта..."

— Не думаць!

Гэтае слова ў Піліпенкі толькі прыпеўка да розных брыдкіх лаянак, што сыплюцца градам на галовы людзей. Ён не змаўкае ні на хвіліну. Некаторых ён ужо агрэў нагайкай.

— Ты надта нагайкай не арудуй!—пагрозліва бурчаць хлопцы,-а то...

— Што-о-о?! Можа бунтавацца захочаце?—Яго нізкі лоб і морда нагадваюць малпу. Вочы ў яго тупыя і злосныя.—Бунтавацца?

„Я не адзін",—радуецца Левін. Ён расцалаваў-бы гэтых хлапцоў, што адгірквающца, аднак сам стараецца так арудаваць лапатай, каб злыя позіркі Піліпенкі не спыняліся на ім... „Эх, каб расступілася зямля ды паглынула гэтага гада, раскрышыла-б яго ў пясок, высмактала-б усю яго кроў..." Небывалыя і страшныя смерці вынаходзіць Левін для Піліпенкі... „Пэўна, дома парабкоў мае, прывык паганяць. А можа нават сам бедны чалавек і хоча паздзеквацца з іншых, як здзекваліся з яго? Чорт яго ведае!"

Сонца смаліць у спіну, як нагайка Піліпенкі. Левін увесь мокры ад поту, але не адважыцца хоць на хвілінку выпрастаць спіну.

— Халера...—шэпча ён.—Горш жывёлы...

Здалёк чуваць жарты і смех. Левін абураецца:

„Няўжо-ж людзі яшчэ здольны тут жартаваць і смяяцца? Халера..."

Усё гэта здаецца яму сном, цяжкім сном. Ён зараз прачнецца і кепскі жарт міне. Адным вокам паглядае на свайго суседа—парабчука Сакалоўскага. Той косіць на Левіна кплівыя вочы з пыліначкамі смеху.

— Чаго вочы на мяне лыпіш?—крыўдзіцца Левін.

— Не разгаварваць, а капаць!—чуе Левін над сабою крык Піліпенкі, а за крыкам—свіст нагайкі—і вогненны змей апальвае яго спіну...

— Біцца!—раве Левін не сваім голасам.—Ды я табе! Ды мы табе!—папраўляецца ён, сустракаючы спагадныя вочы каганецкіх.—Мы табе не жывёла.—Ён кідае лапату і зноў за яе хапаецца.—Мы табе морду расквасім!

Усе кідаюць працу і ўзнімаюць лапаты, намерваючыся на Піліпенку. Ён бляднее. Вочы ў яго празрыстыя і страшныя.

Спачатку ніхто з каганецкіх не бачыць, што на ўсім абшары акопаў адбываецца нейкі незвычайны рух. Нібы ўюны кружацца, бегаюць людзі і глядзяць у неба.

— Ераплан... Ераплан...—енчыць Піліпенка жаласлівым голасам, кідаецца ад каганецкіх да бліндажа і знікае ў адну хвіліну.

— Ага. Вось яму!—радуецца Левін.—Хай яго чорт забярэ з усім гэтым!

Усе ўзнімаюць галовы ўгару. Высока над акопамі ў гарачым блакіце кружыцца аэраплан. Ён прарэзліва і гучна стрыкоча і гудзе, як малатарня. Знізу ён здаецца груганом, і яго крыллі мільгаюць жоўтым бляскам. Ён робіць невялікія кругі, замыславатыя зігзагі і выбірае месца, дзе нешта такое ўчыніць на гэтым стаптаным і раскапаным жытнім полі.

— Вось птушка! Вось прыгожая! — захапляецца парабчук Сакалоўскага.

Каганецкія спалохана аглядаюцца сюды і туды і не ведаюць, што рабіць.

— Наш, ці нямецкі?—разважае Левін.—Ён ведае з газет, чым пагражае гэта „прыгожая птушка".

Здалёк крычыць да іх нейкі вайсковец.

— Лажыцеся! Лажыцеся!! Ла-жы-цеся!!!

У паветры грукоча, свішча, войкае і лопаецца. У глухіх грымотах дрыжыць зямля. У авечым бляянні падаюць людзі, і слупы пылу з зямлёй змешваюць усё ў адну кашу. Яшчэ і яшчэ раз тое самае. Павольна надыходзіць цішыня, і ўжо з цішыні вырываюцца крыкі

і стогны людзей і істэрычны візгат коняй. У некалькіх мясцах акопы разбураны. Коні імчацца ў дзікім страху па полі, выскакваюць з аглабель, кідаюць на бок сялянскія драбінкі.

Левін павольна ўстае і ідзе да грамады сваіх.

— Дзе Іра?—пытаецца ён.

Падыходзіць да гімназісткі Іры, глядзіць на яе непрытомнымі вачыма і зноў:—Дзе Іра? Дзе Іра?

— Гэта-ж я. Супакойцеся...

У лужы крыві ляжыць парабчук Сакалоўскага з разарваным жыватом і раненай галавой. Валасы склеены крывёй, рукі распрасцёрты па баках. З яго пасінелага мёртвага твару гімназістка зганяе мух і плача наўзрыд, размазваючы слёзы далонню. Тая дзяўчына, вясёлая і жартаўлівая, што называла сябе Франусяй, як-бы заснула. Яна жоўтая, пальцы скручаныя і на яе правай скроні невялічкая, нібы гузік, ранка з запёкшайся крывёй. Над ёю плачуць усе каганецкія дзяўчаты.

Вайсковы фельчар, чалавек высокі і худы, гадоў пад пяцьдзесят, робіць перавязкі лёгка параненым. І Левін, яшчэ не зусім прытомны ад гэтай падзеі, чуе строгі голас сівавусага фельчара:

— Хто-б мог падумаць, што аж сюды прыляціць нямецкі самалёт. Гэта-ж далёка ад фронта.

— Нават чым адстрэльвацца няма,—кажа нейкі бледны салдат з ліхаманкавымі вачыма,—сволачы!—і брыдкая і дзікая лаянка сыплецца навакол.

На тым баку рэчкі палае вёска. Страшэнныя крыкі і галошанні далятаюць сюды:

— Ратуйце! Ратуйце!

Лісцяныя дрэвы плятуць паветку над каганецкімі. У сінім паўзмроку лесу халадок і прытул. Здаецца, што акопы на сотні вёрст адгэтуль. Прыветна спяваюць птушкі.

За каганецкімі спачатку пагналіся, крычалі, пагражалі:

— Вярніцеся, а то будзем па вас страляць!

Некалькі разоў стрэльнулі ў неба, каганецкія былі ўжо ў лесе. Ідуць яны цяпер бяз сцежкі ў незнаёмай пушчы, але пакуль што ніхто аб гэтым не дбае. Левін аглядаецца па баках:

— Што-ж бы я рабіў, каб быў адзін!..

З любасцю глядзіць на грамаду суседзяў. З сарака прапалі двое. Што цяпер сказаць Сакалоўскаму? Сакалоўскаму? Смешна і думаць. Ён і слязы не пусціць па сваім парабку. На яго месца знойдзецца дзесяць іншых. А парабчук—круглы сіраціна, ні бацькоў, ні сваякоў. Можа нават і добра, што яго смерць нічыёй старасці не абяздоліць. А вось горш з той дзяўчынай, што называла сябе Франусяй. У яе, здаецца, засталася маці, адзінокая, старая... Яна будзе спаганяць у нас сваю дачку. Вось гора!

Гімназістка Іра ідзе побач з Левіным і трымаецца за яго руку, як маленькая. Яна часта паўтарае:

— Добра, што ў нас такая грамада. Не боязна. А як было страшна там, дзе застаўся наш бедны Сухадолец... парабчук... і тая Франуся...

— Думаю, што на сапраўдным фронце яшчэ страшней. Там страх смерці дзень-у-дзень, ноч-у-ноч,—кажа адзін з грамады.

— Прывыкаюць,—тлумачыць другі.

— Прывыкаюць? О-го-го! Прывыкнеш там! Гэта лёгка сказаць! Прывыкнуць можна да белых абаранкаў, да благой цёшчы, да кульгавага каня, а не да страху смерці.

— Але куды-ж мы ідзем?—цікавіцца Левін.

— Ліха яго ведае.

Пакуль што ніхто гэтым не цікавіўся. Толькі цяпер агледзеліся.

— Праўда, куды мы ідзем?

— Нічога! Не прападзем!

— А я галодная,—сумным голасам абвяшчае гімназістка.

— І я галодны.

— І я...

Усе раптам адчуваюць голад.

— Дык чаго маўчыце?—дзівіцца гімназістка.

— Крычаць няма чаго. Дрэвы ці лісце грызці не будзем. А торбачкі там засталіся.

Мяркуюць, што рабіць. Самае галоўнае цяпер—знайсці дарогу, а тады дастаць ежу дзе-небудзь у вёсцы не цяжка.

Пачынае радзець лес, сонечныя прамені пранізваюць яго ўкоснымі залатымі пасамі. Куды ні зірнеш—хвойныя пні цягнуцца ледзь не правільнымі радамі, як прысады. Мох пад нагамі падатлівы, пухкі і бліскучы, як плюш. Усе ідуць моўчкі і павольна, аглядаючыся ва ўсе бакі і шукаюць сцежкі ці следа якой-небудзь дарогі. Раптам спыняецца гімназістка, кладзе на рот адзін палец, і так сур'ёзна кажа: „ціха“, што ўсе спыняюцца.

— Здаецца, чую свісцёлку...

— Гэта птушка,—супярэчыць Левін.

— Свісцёлка...

— Птушка...

Уся грамада падзяляецца на дзве часткі. Адна—за птушку. Другая—за свісцёлку, і ціха ідуць на гэтыя гукі.

Свісцёлка.

Цяпер добра чуваць некалькі гукаў простай мелодыі... А вось і поле. Пастушок пасе маленькі статак: дзве каровы, цялушку і з пяток авечак, ён грае на жалейцы. Здалёку відаць хутар.

— Ай, людзі...—крычыць хлапчук такім спалоханым голасам, нібы ўгледзіў драпежных звяроў. Крыху адбегшыся, спыняецца і давай азірацца на свой статак. Відаць, баіцца, каб незнаёмыя людзі не забралі жывёлы, баіцца і за сваё ўласнае жыццё—палохаецца такой грамады і не ведае, як з бяды выкруціцца...

— Пастой, хлопчык, не бойся...

— Чапаць не будзеце?

— Не будзем...

Каравай ручкай хлапчук затуляе свае вочы, шморгае носам, нібы нешта непрывычна нюхае, дрыжыць вострымі і бруднымі каленкамі, што тырчаць з падраных штонікаў, і просіць—моліць;

— Не чапайце... Не чапайце...

Хлапчука ледзь супакойваюць. Недаверліва, як злоўлены звярок, ён пазірае на грамаду дзяцюкоў і дзяўчат.

— Ты ніколі людзей не бачыў, хлопчык?—пытаецца гімназістка.

— Ніколі...

— А як да вас на хутар хто прыдзе?

— Я тады хаваюся...

Усёй грамадою накіроўваюцца на хутар.

Іх сустракае трывожны брэх сабак і страх гаспадара—дробнага, нізкага, з прыжмуранымі недаверлівымі вачыма. Ён таксама людзей баіцца. Такімі грамадамі ніколі сюды не прыходзілі. Хутар акружаны лясамі на дзесяць вёрст навакол... Мала хто ведае аб яго існаванні!.. Гаспадар, маўклівы і паўдзікі чалавек, адмаўляецца накарміць іх.

— Шмат людзей... Не магу...

Тады, не пытаючыся ў яго, усёй грамадою ідуць на гарод па бульбу. Тут-жа раскладаюць агонь і пякуць... Гімназістка кажа, што ніколі ў жыцці нічога смачнейшага не ела. Баючыся, каб людзі ў яго не засталіся начаваць, сам гаспадар вядзе іх некалькі вёрст рознымі сцежкамі аж на тракт.

Прыходзіць да Левіна старая сялянка. Яна ў вялізным кяліме замест хусткі. Кялім ахутвае старую ледзь не да самых пят. З кяліма выпукляецца жоўтым кружком яе зморшчаны твар. Вочы заплаканыя, набухлыя і чырвоныя: не вочы, а раны. Яна часта шморгае рыхлым носам, як прастужаная.

Гэта маці Францусі.

Яна нікому ў хаце не кажа „дзень добры" і адразу наступае на Левіна дакорлівым голасам:

— Ты-ж чалавек пісьменны. Чаму не глядзеў за маёй дачкой? Яна, Франуся мая, вядома, якая—простая. Што яна магла знаць? Яна-ж вядома... Але ты чалавек не абы які, мог-бы паглядзець... абараніць...

Левін расказвае старой падрабязна ўсё, як было, і тлумачыць, што нічога зрабіць не мог, і з самім магло здарыцца так, як з яе дачкой.

Старая сялянка ловіць кожнае яго слова, падазрона і недаверліва таропіць у яго вочы, ці часам не маніць, ці не падвох гэта, ды ўсё ківае галавой, нібы кожнае слова Левіна б'е па ёй малатком. Яна пачынае выць тоненька і працягла, бярэцца рукамі за шчокі, нібы ёй зубы баляць.

— Што я цепер рабіць буду адна. І куды яе маладыя гады падзеліся? Дзе яны, гады яе маладыя? Пабягу туды сама. Сама туды пабягу... Каля самай рэчкі кажаш? У дваіх разам з гэтым Сухадольцам, без трун закапаны як... як... Ой, божа ты мой!..

...Яна маўчыць некалькі хвілін, трымаецца рукамі за шчокі і ківаецца, як маятнік, потым зноў да Левіна:

— Што мне з імі гаварыць, з каганецкімі тымі, але ты ўсё ведаеш— кніжкі чытаеш... І ты нічога мне не прынёс ад яе? Хоць-бы хустку, хоць-бы валасок, адзін тоненькі валасок... А то нічога... Нічагуткі... Ой, божачка ты мой!.. Усё там засталося, у чужым пяску...

Старая зноў робіць перапынак. Кялім, які надае яе постаці строгую ўрачыстасць, паволі спускаецца з плеч на падлогу. Маці Францусі ў старой паркалёвай вопратцы. На галаве ніто каптур, ніто сіняя хустка, завязаная, як каптур. Цяпер ужо гаворыць сама з сабою:

— Не судзіў бог сыноў мець, дык апошнюю дачку вайна забрала. Хай-бы і яе не было, дачкі гэтай. Цяпер сэрца не балела-б, не ныла. Навошта мне бог дачку даў? Пабягу... Пабягу туды, раскапаю рукамі магілу пальцамі вось гэтымі... Яна, бедная, без труны. Выкапаю з зямлі.

## VIII

Пасля здарэння пры капанні акопаў трывога ў Каганцах расце. Кожны новы дзень прыносіць новыя чуткі аб набліжэнні фронта. У адзін з такіх трывожных дзён на тракце ў воблаках пылу паказваюцца коннікі. На каганецкіх нападае спалох:

— Казакі... Казакі...

Некаторыя бягуць у лес, бягуць агародамі, гумнамі, не ведаюць, дзе схавацца.

— Гэта-ж не казакі, а стада...

Вайскоўцы гоняць гурт кароў і быкоў. Невялічкі абоз. Атрад конніцы. Салдаты-пастухі з доўгімі пугамі. Пыл асядае на шыбах тонкім

слоем, лезе ў горла, трашчыць на зубах. Нібы ад нюхацельнага тытуна чхаюць запыленыя і загарэлыя салдаты. Спачатку гоняць стада на вадапой да возера.

Даўно старая карчма не была так асветлена, даўно не гучэла галасамі людзей і жывёлы. Каровы ў вялізнай стадоле, у пустых хлявах і пунях, на двары.

Белавусы салдат у расхрыстанай гімнасцёрцы пілікае на гармоніку, адбівае такт правай нагой і ўсё ніжэй і ніжэй нахіляе стрыжаную галаву да расцягнутых мяхоў. Не спыняючы музыкі, ён выбірае сабе прытульны куток на вялікім струхлелым ганку карчмы і разухабістым голасам пяе:

Тры дзярэўні, два сяла,
Восем дзевак—адзін я...
Куды дзеўкі—туды я.

Нячутнымі крокамі надыходзіць вечар. На саламяных стрэхах і азяродах яшчэ румяняцца крывавыя сляды заходзячага сонца. Вуліца сінее, поўная гукаў і руху. Гармонік і песня прыцягваюць да ганка нямала дзяцей.

— Салдаты... Салдаты...

Дарослыя набліжаюцца павольным асцярожным крокам з сваім вечным запытаннем:

— Што чуваць?

Гарманіст абабяшчае навіну:

Дзеўкі ў лес—я за імі...
Дзеўкі ў поле—я за імі...
Раз-га-ва-ры-рыва-а-ем...

На двары ля студні мыюцца салдаты-пастухі. Жартуюць з дзецьмі, шпурляюцца словамі з дарослымі местачкоўцамі, што аглядаюць кароў і мацаюць іх, як на кірмашы. Тыся, старая цётка Левіна, трасе галавою, уздыхае і разважае сама з сабою;

— Колькі людскіх слёз! Бедныя гаспадыні плакалі-галасілі па сваіх кароўках. Усё для арміі-шмарміі!

Калі-ні-калі жаласліва і працягла зарыкае, замукае карова. Нібы разумее цётчыны словы. У некаторых поўнае вымя. І старая Тыся кажа строгім голасам:

— Даіць трэба!

Рабая крутарогая карова адклікаецца меланхалічна:

— М-м-гу-у-у...

Да густых вербаў, да платоў, да стада і людзей туліцца вечар у сінім балахоне, гасіць апошнія падаючыя лучыны сонца на вышках хат, азяродаў і дрэў.

Салдаты чысцяць у карчме пакой для начальства—для „старшых пастухоў". Чорнамазы і лянівы дзяншчык кіпяціць ваду ў адзінай у карчме ўцалеўшай печцы—у каморцы Левіных дзядзькоў. Стары Бенціян таропіць вочы ў агонь, бярэ вугольчык, кідае ў люльку і нецярпліва цмокае засмалены цыбук. Ён становіцца ў позу вартаўніка, пільнуе ад дзяншчыка свае бэбахі.

У вачах дзяцей і дарослых на двары і вуліцы адзін выраз:

— Зусім не страшна...

Паасобна ў кутку ля сцяны стаіць Левін з гімназісткай Ірай. Апошняе здарэнне пры капанні акопаў іх вельмі зблізіла. Адзін аднаго завуць пяшчотнымі імёнамі. „Ты" і „вы" ў Левіна ўжо не існуе як нейкая нявырашаная праблема. Яны цяпер стараюцца толькі аб адным: знаходзіць для сябе такі прытульны куток, каб не трэба было баяцца сведак...

Больш за ўсіх сягоння непакоіцца садоўніца Маўра, баіцца, каб салдаты не палезлі ў сад. Яна падыходзіць да Левіна і гімназісткі ды шэпча ціханька, ціханька. І не могуць яны схаваць сваёй радасці: усю ноч будуць сад вартаваць. Ноч непрытомнага шчасця...

Мыюцца салдаты-пастухі, труць да чырвана твары і выціраюцца белымі ручнікамі. Дзівяцца каганецкія:

— Якія адкормленыя і гладкія салдаты! Дай бог кожнаму такая вайна! Малака і мяса ў іх па горла...

Салдатам падабаецца гэтае мястэчка.

— Як слаўна, тут, як хораша! А дзе-ж тутэйшыя дзяўчаты? Дзе тутэйшыя красавіцы?

Хтосьці паказвае на старую Тысю:

— Дзяўчаты? Вось адна...

— Го-го-го-о-о-о...

Салдатка Ганупя нясе ў карчму вялікі ахапак мурагу. Начальства— старшыя пастухі—любіць спаць на сене. Два начальнікі стада з афіцэрскімі пагонамі ласым вокам пtriглядаюць на акругленыя грудзі салдаткі.

— Ад яе мурагом пахне,—кажа адзін з іх з вострым носам і тонкімі рысамі загарэлага твару.—Мурагом і сырадоем.

— А якія вочы...—дадае другі, лысы, з русай стрыжанай бародкай. Эх, малодка...

Чырванее Ганупя і цяжка ўздыхае.

— Чаго так уздыхаеш?

— Мужа на вайне забілі...

— Многіх мужоў на вайне забіваюць. Твой не першы і не апошні. Эх, ма...

На старым століку гарыць стэарынавая свечка. Увесь пакой у ценях. Твары начальства ў паўзмроку здаюцца Ганулі такімі добрымі, іхнія меладыйныя галасы такімі спачувальнымі... І Ганулю раптам агортвае такі жаль. Яна хвіліну маўчыць, а пасля адважваецца і кажа:

— Каб гэта мой Ляксандра папаўся раней да вас пастухом, дык жывым-бы застаўся...

Зусім неспачувальныя ноткі чуе Ганупя ў словах аднаго з афіцэраў:

— Спазніўся твой Ляксандра. Хіба на тым свеце стада пасвіць будзе ў святой Цыцылі...

З двара чутно рыканне кароў. Рупная гаспадарчая думка з'яўляецца ў Ганулі: яе кароўка-ялаўка, сёлета не ацялілася. Добрая каза больш малака дае. А хлопчык смокча пустыя грудзі, цягне, як п'явачка... Ёй аж млосна робіцца, а дзіцё ўсёроўна вечна галоднае, плача так, што жыцця ад яго няма. Яна часта заходзіць да Левіна па кавалачак цукру, пажуе мяккі хлеб з цукрам, паложыць у анучку і совае хлопчыку ў рот сусалачку...

— Прынясі яшчэ сена, малодка. Заўтра назад забярэш, а за фатыгу-на!—і афіцэр з дробнымі вусікамі дае ёй рублік.

Яшчэ ахапак мурагу прыносіць Ганупя, сцеліць на падмеценай падлозе ў старой карчме і нясмелая просьба да афіцэраў просіцца на язык.

— Паночкі...

— А?—адварочваецца да яе маладзейшы. Ён дастае са скрынкі кансервы, шклянкі, звініць лыжачкамі і мерае Ганулю з босых ног да грудзей.—Што скажаш, мілая?

— У вас гэтулькі кароў... Ці не можна падаіць адну?

— Можна... можна...—Ён зазірае ёй у вочы-вазёры і гладзіць гарачай рукой па плячах. Ганупя ўзрыгвае, чырванее.—Не бойся, малодка...

Прынясі вядро і даі колькі хочаш. Толькі... Ён міргае свайму таварышу. Той адразу выскаквае з пакоя.—Толькі ведаеш, ты без мужа, а я без жонкі... І мы якраз пара... жаніх і нявеста...

Афіцэр цягне яе на сена. Ганупя вырываецца і бяжыць, абедзьвюма рукамі штурх у дзверы. Яна ўцякае.

— Вайна не заўсёды кепская рэч,—жартуюць каганецкія з „землячкамі".

З каганецкіх шмат хто доіць кароў вайсковага стада. Дояць такія, што ніколі ў жыцці не даілі—Грыпіна бескароўніца, кульгавы Макар з дайніцай сюды дыбае.

— Эх, малачко...

І дзесяткі рук—цырк, цырк. Малочны дождж ык ллецца ў вядзёрцы, у дайніцы. Зыкі вясёлага дождж ыка сыплюцца цукровым гарохам у цішыню і заглушаюць сапенне жывёлін у вялікай, як поле, стадоле, на дзядзінцы, па хлявах. Каганецкія жанчыны гладзяць шыі кароў, песцяць вымя і сардэчныя ласкавыя галасы мядовымі струменьчыкамі плывуць па поцемках:

— Цёлачка... цёлачка...

— Матухна родная...

— Лю-у-бачка...

— Ра-бенькая...

Якія прыемныя галасы. Якія чулыя і шчырыя слаўцы. Якія добрыя людзі ў Каганцах.

— Э-э-эй... Не брыкайся!

І нават на такую неласкавасць з боку вайсковых кароў адклікаюцца з ласкавасцю ў голасе.

А вось і радасць зусім новая ды неспадзяваная.

— Кантаровічыха быка даіць хоча.

Сямейны, свойскі гігат і хіхат каганецкіх жанчын сыплецца па ўсіх цёмных кутках. Старая Тыся, Левіна цётка, знаходзіць у цёмнай стадоле бліскучую рыфму:

„Малако—шмалако..."

Уводдалі шэпчуцца салдаты. Гавораць аб нейкіх цэбрах, смяюцца. І яны вясёлыя, і яны радасныя.

Адзін светлы каганецкі філосаф разважае ў поцемках:

— Заўсёды радуецца і той, хто ўчыняе радасць свайму бліжняму.

І светлы каганецкі філосаф разгортвае перад сваімі бліжнімі оптымістычную перспектыву:

— Каб такая лагода, як сёння ў нас, у Каганцах, заўсёды панавала, тады хай сабе ўвесь свет ваюе, а мы будзем даіць...

І якія добрыя каганецкія жанчыны. Адна з іх узнімае голас:

— Ганупя! Ганупя! Дзе-ж гэта салдатка Ганупя? Чаму-ж яе няма? У яе-ж малое дзіцё, а карова, здаецца, зусім запускаецца.

Маўра расстаўляе па садзе варту—Левіна і гімназістку. Сёння Маўра як ніколі пакорная. Левін гладзіць яе па валасах, а яна маўчыць ды прыслухоўваецца (мо' прыслухоўваецца ці салдаты не ідуць яблыкі красці?). Але што Левіну Маўра. Яе характар не ў яго гусце, яна нейкая наравістая. Іра—вось хто запаўняе цяпер увесь яго свет.

І Маўчыць сад. Толькі калі-ні-калі нешта шарахнецца паміж галін стукнецца глуха вобземлю. Гэта дрэва спрасонку губляе яблык. А месяц расце над садам вялізным залатым яблыкам. Левін і Іра ніяк ад яго схавацца не могуць. Яго срэбныя валокны пранізваюць

усе вузялкі і пляцёнкі густых галін. Пахнуць яблыкі і блішчаць пад месяцам дзіцячымі галоўкамі.

Белавалосая садоўніца соўваецца між яблынь і груш па роснай траве і гукае:

— Дзе вы? Дзе вы?

І выходзяць словы „дзевы". Нібы патаемныя дзевы туляюцца між яблынь і яна іх заве.

— Вартуем! Пільнуем!—адказвае Левін за сябе і гімназістку.

— Вартуйце і пільнуйце!—падбадзёрвае іх Маўра неспакойным голасам. Яе цяпер непакоіць адно:

— Што яна ці яе „вартаўнікі" зробяць, калі салдаты нападуць цяпер, нахлынуць сюды натоўпам ды будуць яблыні трэсці?.. Нічога не зробяць...

Яна трывожыцца.

І нібы не валасы ў яе, а месячнае павуцінне.

Яна салдатам вочы выдзярэ. Начальству паскардзіцца. Яна не з баязлівых.

— Дзе вы? Дзе вы?

— Вартуем! Пільнуем!

У гэту ноч апускаецца з яснага неба на Каганцы млечны шлях. Усё мястэчка доіць нечаканых кароў. Зайцы, што хаваліся ў пуні Кантаровіча, вярнуліся ў пакой і па звычайнаму заселі за карты.

У хаце цішыня, як ніколі, бо ўсе каля старой карчмы. Толькі за дашчанай сцяной стары Лейба Кантаровіч гудзе над кнігай голасам жабрацкай ліры.

— Якая месячная ноч!..—любуецца адзін з зайцаў-барадачоў, Гарэлік.—Каб не страх вайны, было-б зусім добра.

Па сценах тры цені з картамі ў руках. Цені нязграбныя і вялікія, галовамі ў столь упіраюцца. Карты—як цагліны. Жангліруюць цені цаглінамі. Тасуюцца, перасыпаюцца карты-цагліны і ледзь не ў паветры лётаюць. З аграмадных рук па сцяне раскідаюцца цагліны дзівоснымі веерамі, рассыпаюцца і зноў зростваюцца ў адно.

— Ага! Ага! Папаўся!

— Туз, каб яго качкі! Туз падвёў!

— Хто цяпер тасуе?

— Я! Я!

Звон срэбных манет.

Ляжыць Шыман Кантаровіч на канапе, глядзіць на ігру ценяў на сценах і быццам да іх гаворыць.

— Яшчэ пры маёй памяці, раней за царскую манапольку, у гэтай карчме мужыкоў паілі з бочак. А цяпер там каровы, малачко.

Ніхто яго не чуе.

— Кароль падвёў, кароль! Каб ён здырдзіўся!

— Бунтар, не чапай караля.

Шыман Кантаровіч зноў сам з сабою:

— Ну яе з гэтым малаком! Ці мала свайго! Але вось квапунак! Дзеці таксама пайшлі...

Вострыць вушы гаспадар. Прыслухоўваецца. За сцяною ля адчыненых вакон чуе крокі. „Га!"—кажа ён настарожана і як спрунжына ўсхопліваецца з канапы. Дзве салдацкія фізіяноміі глядзяць праз акно на карцёжнікаў ніто з зайздрасцю, нітo з цікавасцю. Твары ў іх бронзавыя. Вочы цёмныя і таямнічыя. Голас Шымана Кантаровіча дрыготны і праз меру ветлы:

— Чаго за вакном стаяць? Заходзьце, землячкі, у хату...

У адказ смяшок.
Уздрыгваюць цені на сценах і застываюць з картамі ў руках.
— Заходзьце ў хату...
— Грайце. Мы так сабе...

Пры гэткім стадзе старшыя пастухі ў залатых афіцэрскіх пагонах. І Сакалоўскі ім нясе пачастунак: яйкі, масла і гарэлку. У яго гатова цэлая прамова аб вайне і яе героях. Ён усім шчырым сэрцам гатоў падзяліцца з героямі сваім дабром... А тут вялізнае стада. Ён-жа сам скуплівае гаўяду для арміі... Можа што якое... Ён-жа не ёлап... Ён-жа не... ды мала што...
Ён далікатна пытаецца:
— Можна?
— Па-жалста...
Сакалоўскі працірае вочы-шчылінкі, аглядаецца і вочам-шчылінкам не верыць. З губ зрываецца надзвычайна радаснае „здрасце“.
— Сакалоўскі?
— Пан Ждановіч?
Узаемнае здзіўленне. Вітаюцца. Вось зараз зазвініць пацалунак. Сакалоўскі ўжо губы ў трубку выцягнуў, але афіцэр з русай эспаньолкай грэбліва адсоўваецца на некалькі сантыметраў..
— Пастухом? Разумею... Р-разумею... Эх, часы насталі: пан Ждановіч пастухом! Ха-ха-ха!
— Гэта яшчэ па пратэкцыі. Нямала каштавала мне. Гэта маё шчасце.
— Разумею... Р-разумею... Дык можа пойдзеце ка мне на вячэру з гэтым панам? На чым-жа тут спаць? У мяне пераначуеце.
— І гэта шчасце, што хоць на падлозе спім, мы-ж не ў акопах. Дзякую. Не пойдзем. Трэба глядзець за дабром.
— Так... так...—згаджаецца Сакалоўскі.—А колькі, пане Ждановіч, праплыло вады, як я ў вас арандаваў маёнтак. А-я-яй!—Сакалоўскі ківае галавой і вочы-шчылінкі заплываюць меланхалічным алеем.— А ў вас-жа тут цэлы кірмаш, пане дабрадзею.
— Усюды так, дзе толькі спынімся на начлег. Трэба-ж, каб хтонебудзь даіў нашых кароў. Бачыў, якія морды ў маіх „землячкоў“? Гэта ад малачка і мяса. А вось зараз сыграем камедыю.
— Разумею... Р-разумею, пане Ждановіч. Пан не з ёлапаў.
Апошняга кампліментa пан Ждановіч не чуе, бо раптам з яго зграбнага, тонкага рота вырываецца грубы начальніцкі выгук:
— Смір-рноў!
З'яўляецца дзяншчык—чарнявы, хітры і гультаяваты.
— Пакончыць з малаком!
— Слухаю, вашаскароддзе.
На двары ўзнімаецца шум. Візгат і праклёны баб змешваюцца з салдацкімі галасамі.
— Нам-жа дазволілі!
— Нас-жа прасілі!
— Начальства загадала. Нічога не ведаем. Лейце ў цэбры!
— Гэй ты! Мурзатая!
— Сам мурзаты! дарма даілі для вас. Лепш на зямлю выллю.
— Заарыштую! Такая ты да сякая!
Візгат і крыкі зліваюцца ў вураган, у немагчымы голас.
— Бабскі бунт,—жартуе Сакалоўскі.
— Зараз іх супакою. Буду страляць у паветра.
Пан Ждановіч выходзіць на двор.

— Казакаў няма на вас, чэрці!—чуе Сакалоўскі голас пана Ждановіча.—Па дамам! А то...

Некалькі гучных стрэлаў адзін за адным наводзяць супакой. Пасля гэтага ў адказ чувать плач дзяцей і тупат ног.

— Супакоіў,—кажа пан Ждановіч на парозе пакоя. Ён падыходзіць да стала і запальвае яшчэ адну стэарынавую свечку.

Доўга шэпчуцца Сакалоўскі з панам Ждановічам. У гэтых пашаптушках прымае ўдзел і другі афіцэр. Потым горача б'юць па руках. Сакалоўскі выймае з кішэні тоўсты бумажнік і пачынае лічыць грошы набожным шэптам.

— Лёгкая ў мяне рука, пане Ждановіч. Вы складзеце акт, што ў вас па дарозе пала пяць штук, а я іх заражу і адпраўлю мяса ў Менск. Дык прабуйце маю гарэлачку, пане дабрадзею.

Салдаты п'юць сырадой і збіраюцца спаць. Навакол карчмы ходзіць варта.

Шастае Маўра між дрэў па роснай траве і па яе пукатых плячах, як два струменні малака, плывуць дзве касы. Ходзіць яна па садзе ціха-ціха і прыслухоўваецца да шолахаў. Туліцца шчакой да паркана. Пад месячным з'яннем відаць возера, а над возерам белы, як малако, туман.

Левін і гімназістка сядзяць на камені ля самага краю сада, скуль гародамі можна дабрацца да карчмы. Увесь час яны адзін аднаму выкрываюць таямніцы сваіх сэрцаў. Чорныя сілуэты карчмы ды іншых насупленых будынкаў нікому не скажуць аб гэтых таямніцах. Нікому...

Левін і гімназістка далёкі ад ўсяго і ўсіх. Няхай шуміць каля карчмы, няхай сабе там страляюць. Яны ўжо стрэленыя. Акопы капалі... Над іх галовамі бомбы ірваліся з нямецкіх самалётаў... Людзі гінулі, вёска гарэла. Яны ўжо нюхалі порах...

Ад страляніны ля карчмы ў Маўры цямнеюць бірузовыя вочы. Плечы ўздрыгваюць, нібы ад холаду. Яна крычыць:

— Левін! Войская! Дзе вы? Страляюць...

— Хай страляюць...

Ад раптоўных стрэлаў на сценах хаты Кантаровіча вялізныя і нязграбныя цені карцёжнікаў выпускаюць з рук карты. На сценах добра відаць, як цені картаў сыплюцца ўніз цаглінамі са збуранай будыніны. А вось і цені людзей шуснулі са сцен. Іх ужо няма.

Зайцы паказваюць Шыману Кантаровічу падэшвы сваіх ботаў і выскакваюць праз вакно на двор.

Шыман Кантаровыч працірае вочы.

„Га? Што?"

Ён так моцна спаў на канапе. Як падстрэлены імчыцца на ганак:

— Што гэта такое? Страляюць... А жонка... а дзеці... Малака запатрэбілася... Нібы свайго мала... Са свету згубяць і мяне і сябе...

Ён ідзе па галоўнай вуліцы мястэчка—па млечным шляху—насустрач сваім.

Яго бацька, стары Лейба, пачуўшы страляніну, спыняе свае лірныя гукі, ківае галавой і кажа многазначна:

— Н-ну-н... н-ну-у...

Чытае якраз тое месца ў біблii, дзе маляўніча апісваецца, як вакол Саламонава ложка са сланoвай косці за пышным балдахінам з золататканай парчы стаяць на варце асілкі—веліканы. Шэсцьдзесят з правага боку і шэсцьдзесят з левага. Яны ў панцырах, у жалезных

шаломах. Пры іх мячы, лукі і калчаны з вострымі стрэламі. Яны вартуюць салодкі сон цара з яго тысячапершай жонкай, пастушкай Суламітай. У гэтай красуні-пастушкі зубы, як стада белых авец, а грудзі—два ўзгоркі.

Ведае стары Лейба, што Суламіта не дзяўчына, а сімбал,—сімбал Ерусаліма. Так напісана ў каментарыях раввi Шлойма Іцхокі. „Зубкі Суламіты—вынаградары Палесціны, а яе грудкі—Майсей і Аарон...“ Аднак стары дзівіцца: ён, Лейба, не мог-бы спаць пры варце ў стодваццаць лейб-гвардзейцаў... Гэта, мабыць, таксама сімбал. А вось страляніна ў Каганцах не сімбал. У чорнай ярмолцы на сівых валасах выходзіць Лейба на вуліцу. Сустракае спалоханых каганецкіх жанчын без малака, з пустымі пасудзінамі...

— Аднак, што там дома з бацькамі, братамі і сёстрамі,—думае Левін.—Пэўна, напалоханы страляпінай... Непакояцца аба мне...

— Трэба ісці дамоў. Пойдзем, Ірачка, начаваць да нас. А можа дамоў хочаш?

— З Маўрай застануся.

Левін ідзе дамоў гародамі.

„На ўсялякі выпадак спакайней...“

Чуе тлусценькі смяшок Сакалоўскага і падтакванне двух новых яго парабкоў замест ранейшага забітага. Яны гоняць перад сабою пяць кароў.

— Гэй вы, ёлапы!

Сакалоўскі падганяе кароў доўгім дубцом.

Спяваюць пеўні. Спачатку зацягвае адзін. За ім чуваць галасы пеўняў з усёй ваколіцы.

Старая карчма жыве сёння па-новаму. На двары вогнішча, гутаркі, папяросныя аганькі.

Калі-ні-калі чуваць сіратлівае рыканне каровы.

— Набліжаецца... Набліжаецца фронт...

Не сам Левін гэта думае, а нехта ўтыкае ў яго мозаг, у рамантычнае сэрца вострую шпільку...

— Фронт набліжаецца сюды павольнымі зладзейскімі крокамі. Левін стараецца разважаць аб вайне абстрактна і расплыўчата, як малочны туман над возерам, але ўспамінае нямецкі самалёт, трупы парабчука і Францусі.

На парозе хаты яго сустракае з нарыхтаваным плачам маці.

— Дзе ты шляешся поначы? Мы так напуджаны. Гэта табе другія акопы?

І яна выказвае свой страх больш канкрэтна:

— Цябе-ж маглі-б забіць.

Спольнікі Сакалоўскага, Шыман Кантаровіч і „ціхі анёл“ Гарэлік, даведваюцца назаўтра аб каровах з вайсковага стада. Пачынаецца гандлёвая спрэчка:

Шыман Кантаровіч.—Гэтыя пяць кароў трэба дзяліць на тры часткі.

Сакалоўскі.—Ні ў якім разе, мае дабрадзеенкі. Гэтыя каровы ніякага дачынення не маюць да нашага хаўруснага гандлю. Яны-ж... Ну, разумееце, якія яны... І я не ёлап, каб красці для вас усіх.

Шыман Кантаровіч.—Але мы аб гэтым ведаем, а раз ведаем, дык усёроўна, як-бы кралі разам з табою.

Сакалоўскі.—Я-ж таксама ведаю, дзе асталіся пакрадзеныя тавары з крамы Войскай. Ці-ж я ў цябе прасіў, каб мяне ў хаўрус прыняў? Здаецца, не прасіў, ёлап ты.

Шыман Кантаровіч.—Там крама, а тут каровы. Зусім іншая справа.

Сакалоўскі.—Іншая справа? Не, брат. Я не ёлап і досыць аб гэтым гаварыць. Сваё левае вуха бачыш? Так будзеш бачыць зарабак ад гэтых кароў. А ты, Гарэлік, што аб гэтым скажаш? Дай паслухаем ціхага анёла—Гарэліка!

Ціхі анёл.—Я? Мне ёсць шмат аб чым гаварыць і з вамі і з Кантаровічам, але ў вала доўгі язык, а ён не можа гаварыць. Я ведаю адно—давай і давай грошы на гандаль! А рахункаў ніяк праверыць не магу. Ці-ж буду скандалы рабіць, калі я звязаны па руках і нагах. Кожную хвіліну дрыжу, каб не злавілі, як зайца.

Сакалоўскі і Шыман Кантаровіч.—А ак наконт кароў?

Ціхі анёл.—Калі гаварыць паводле сумлення, дык павінна быць гандлёвае сумленне. Каровы трэба дзяліць пораўну на тры часткі.

Сакалоўскі, смяючыся.—Вы, ёлапы міленькія, не крадзеце для мяне, і я не думаю красці для вас. І хваста ад каровы не дастанеце!

Шыман Кантаровіч.—Тады фірмы нашай не дадзім. Сам важдайся!

Сакалоўскі.—Мая фірма лепшая за вашу!

(З свайго пакоіка высоўваецца ў чорнай ярмолцы стары кніжнік Лейба Кантаровіч).

Лейба Кантаровіч.—Ша, дзеткі! Не рабіце шуму. Kіньце сварыцца (*нюхае тытун і чхае*). Аб такіх справах трэба ціханька-ціханька гаварыць. А то бог раззлуецца і можа здарыцца, як з каровамі ў фараонавым сне: пяць кароў глынуць увесь ваш гурт. Трэба вырашыць справу ціха, пачэсна і па-купецку. Калі Сакалоўскі ад сябе прадасць—будзе крадзёж, а калі ўсе разам у суполцы—тады гэта гандаль. Скажам так: калі на вайне хто каго заб'е, дык гэта бравы салдат, а калі чалавек заб'е чалавека дома, дык гэта ўжо разбойніцкая справа. Вось я і кажу (*зноў нюхае тытун*): каровы трэба дзяліць на тры часткі.

Сакалоўскі (*раззлаваны*). А крама Войскай? Ты, стары талмудыст, даў мне частку з гэтай крамы?

Лейба Кантаровіч. — Талмуд — талмудам, а гандаль—гандлем. Крама? Там не мы адны былі, а цэлая кампанія...

Сакалоўскі.—І ў мяне, ёлап стары, была цэлая кампанія: два начальнікі, салдаты, а парабкам трэба таксама горла заткнуць.

(Ланцуг спрэчак цягнецца доўга. Кожны застаецца пры сваім. Стары кніжнік вяртаецца ў свой пакой).

Ціхі анёл.—Вярніце мне мае капіталы і я паеду дамоў.

Шыман Кантаровіч (*падміргвае адным хітрым вокам Сокалоўскаму*).—Вашы капіталы ляжаць у таварах разам з нашымі капіталамі. Трэба пачакаць, пане Гарэлік. А мы для вас дастанем дакумант, дастанем адсрочку ад воінскай павіннасці і ўсё будзе добра. Толькі-ша!

Ціхі анёл.—Дык старайцеся, а то ў мяне рукі звязаны.

(Сакалоўскі і Шыман Кантаровіч пераміргваюцца. Яны адзін аднаго разумеюць: каровы падзеляць на дзве роўныя часткі, а „ціхаму анёлу"—кукіш, толькі „ша...").

## IX

Яны стаяць на вуліцы недалёка ад былой манапалькі. Адзін з іх—кульгавы Макар. Другі—камлісты шырокаплечы чалавек у салдацкай вопратцы. У яго шырокі твар, абрамлены густой шчоткай валасоў колеру іржавага жалеза. Пад густымі такога-ж колеру брывамі спакойныя, чыстыя, шэрыя вочы. У нейкім здзіўленні яны ўтароплены ў кульгавага Макара. Па выгляду яму ад сарака да пяцідзесяці год.

Бярозавым кіем ён нібы нешта піша па зямлі. Рыжавалосая дзяўчынка гадоў васьмі водзіць тоненькім пальчыкам па двухгаловым арле на бліскучай бляшцы яго раменнага пояса. Ён дае свой бярозавы кій дзяўчынцы і лезе да сябе ў кішэнь штаноў правай рукой.

Назіраючы за яго рухамі, павольнымі і асцярожнымі, кульгавы Макар гаворыць да яго спачувальным, мяккім голасам, як да хворага:

— Па-мойму, табе лепш люльку курыць, менш важданіны. Я сам паважаю толькі люльку.

— Не прывык, браце ты мой. Ах, ты!—і, дастаўшы з кішэні штаноў акуратна зложаную газеціну, абмацвае паперу, як-бы прабуючы яе таўшчыню, і адрывае кавалак на папяросіну. З тымі-ж рухамі ён дастае капшук з махоркай і так асцярожна сыпле ў паперку, нібы мае справу з залатым пяском. Вочы па-ранейшаму ўтароплены ў кульгавага Макара.

І Макар яго папярэджвае:

— Досыць!

Чалавек у салдацкай вопратцы кажа сваё прывычнае „Ах, ты!" і скручвае папяросу.

Кульгавы Макар праз меру ўслужна і далікатна запальвае запалку, дае прыкурыць і гаворыць пацяшальным голасам:

— Ведаеш, Антось? Мой Міхалка піша, што хутка прыедзе. Ён ранены ў правую руку. У больніцы аднялі яе вышэй локця.

— Ах, ты!

— Дык слухай-жа. Наста, жонка яго, ведаеш яе, у той-жа дзень як прышоў ліст, уцякла да сваіх. „Куксы баюся"—кажа. І хлопчыка, унука майго, забрала, шэльма.

— Ах ты! Яго бяда ўсё-ж не такая, як мая.

— Як гэта яно ў цябе здарылася?

І з апавядання, кароткага і спешнага, відаць, што мо' ў соты раз адно і тое самае суседзям расказвае і з кожным разам стараецца гаварыць больш коротка:

— Кантузілі. Прачнуўся пасля гэтага аж у шпіталі. Ляжу сабе. Чую—ходзяць, гавораць. А ноч доўгая, цёмная—сваіх пальцаў не бачу. Мацаю вакол сябе падушку, коўдру, сваю галаву. Уцяміць не магу, чаму ляктрыцтва не свеціць? Ах ты! А навокал шаптушачкі міласэрдных сясцёр. Вастру вуха: „Аслеп, кажуць, дзядзька гэты". Хтосьці падыходзіць. „Хто?"—пытаюся.—„Доктар". І я да яго: „Што гэта са мною, чаму нічога не бачу? Ён бярэ мяне за руку, і чую яго нейкі саромлівы голас: „Дома, на свежым паветры бачыць пачнеш". Тут мяне нешта такое схапіла з самага нутра... Б'юся галавою аб ложак і выю... Ах ты! Выю, як воўк. Жаночы голас міласэрднай сястры просіць-моліць мяне: „Супакойцеся, дзядзя, дома паправіцеся". А я—у гвалт: „Труціце мяна, рэжце—сляпым дамоў не паеду!" „Супакойцеся",—чую жаночы голас, такі добры, і яна гладзіць маю руку, як малога хлопчыка, а я плачу. Ах, ты! А вакол мяне туп-туп людзі. „Зусім не пазнаць, што сляпы"—дзівяцца ўсе.

Кульгавы Макар згаджаецца з усімі:

— Каб не ведаў, дык, даліпан, па вачах не пазнаў-бы.

Паволі сляпы салдат уваходзіць у газарт апавядальніка:

— А каб ты ведаў, якое здарэнне было са мною, як выпісалі з больніцы. Вядзе мяне адзін землячок на вакзал, вядзе так асцярожненька—і раптам шусь мне ў самае вуха: „Гіх ты, чорт! Генерал ідзе!"—і туп-туп ад мяне на некалькі крокаў, каб чэсць аддаць, як палагаецца. Ах ты! Я астаюся адзін. „А гэты хто?"—грыміць генерал генеральскім голасам.—„Чаму стаіць, як той асталоп?" А землячок

бравым голасам адказвае свой рапарт: „Дазвольце, кажа, далажыць вашаму высокапрэвасхадзіцельству—так точна! Гэта сляпы!“ „Сляпы“?!—дзівіцца генерал—„прытвараецца мерзавец!“—і шпорамі дзынк-дзынк да мяне. „Так точна, кажу, ваша высокапрэвасхадзіцельства, сляпы!“ А вакол шушукаюцца, тупаюцца, шурхаюцца і чартыхаюцца не на мяне, а на генерала. Ах, ты! Прышлося гэтай мордзе генеральскай паказаць дакумант „Па вачах тваіх, кажа, гэта не відаць“. А я і сляпымі вачыма стараўся, як палагаецца, есці начальства.

Кульгавы Макар шчыра плюецца ад абурэння:

— С-сукін кот! У морду плюнуць трэба было генеральскую!

— Эге-е-е! Плюнуў-бы, а потым як кінулі-б цябе, сляпога, як мяшок той, у турму, дык і пляваўся-б там.

З ганка бацькавай хаты Левін слухае гісторыі сляпога з цікавасцю, хоць чуў іх ужо за апошнія дні ў розных варыянтах. У бытнасці Левіна лясным прыказчыкам, рыжы Антось быў у яго адным з лепшых лесарубаў. А які вокамер у яго быў. Зірне, бывала, на хвою і ўжо ведае, што з яе рабіць. Яго работу бракаўшчык немец ніколі не бракаваў. Левін памятае, як гэтыя шэрыя вочы праменіліся, калі яго сын-хлапчук заўважыць зайца ў лесе.

І вось тры дні таму назад:

Едзе рыжы Антось праз мястэчка. Дзеці каганецкія за фурманкай бягом:

— З вайны! З вайны!

— Здароў, Антось!—вітаюць яго каганецкія.

Ён сядзіць на возе і фанабэрыцца: нікога не пазнае. Глядзіць на ўсіх, барадаты (а раней галіўся) і хоць-бы што. Толькі пальцы яго нейк ловяць паветра па асабліваму. І вось фурманцы насустрач бяжыць Ляксей, старшы сын Антося. І на роднага сына глядзіць чужымі вачыма.

— Татка... Татка...

— Ляксейка... Сынку...—і выцягвае сыну насустрач абедзьве рукі з дрыгатлівымі пальцамі.

Ляксейка—шусь да яго на воз. Бацька дзіўна абмацвае яго пальцамі па твары, па валасах, па руках ды ўсё просіць:

— Гавары, Ляксейка, гавары... Ах ты!..

Голас яго такі дрыжучы, мяккі, кволы. Зусім не Антосеў голас.

— Што з табою, татка? Ты нешта...

І шэпча рыжы Антось Ляксейку на вуха:

— Аслёп я, сынку ты мой, аслёп...

І бацькаў сакрэт Ляксейка выкрыквае на ўсю вуліцу:

— Ас-лё-ё-ёп?!

І яснымі шэрымі вачыма сын глядзіць у ясныя шэрыя вочы бацькі:

— Не можа быць... Па вачах не відаць...

І плачуць яны разам на возе. На каганецкай вуліцы за бацькам і сынам плача зусім чужая ім — салдатка Ганутя. За ёю не могуць стрымлівацца і каганецкія...

Салдатка Ганутя ходзіць за возам, ломіць рукі і мяркуе сама з сабою:

— Як лепей: вярнуцца дамоў сляпым, ці памерці ад ран у больніцы?

Яна не ведае, як лепей...

Рыжы Антось знаёміцца з сваёй гаспадаркай. Вобмацкам, блытаючыся, як п'яны, мацае пальцамі кароўку, каня, і мармыча:

— Вось тут на лбе ў яго лысінка... Вышэй калена правай пярэдняй нагі белая палоска...

На гумне ён ціскае двума пальцамі жытні колас, лічыць зёрны.
— Ах ты! Ледзь у яму не ўваліўся. Тут ямы не было раней.
І хто-б мог падумаць, што зрабіць „агляд" маленькай гаспадаркі так цяжка...
Ах ты! Вечная ноч. Магіла...
Нутраны, памятны ад нараджэння, зрок дражніць яго, як нягодны раздураны хлапчук, спакушае сінім небам, сонечным возерам, водарнымі ляснымі палянамі з мігатлівымі вушастымі зайцамі, мядзянай карой сасны і вадзяністым водсветам пілы...
І доктар і міласердныя сёстры абяцалі:
— Дома, на свежым паветры, на расе...
Мые вочы ранічнай расой, жмурыць іх, доўга стаіць з апушчанымі павекамі, ружовымі ад сонца. Вось зараз... Павольна расплюшчвае вочы. Вось зараз. Водзіць асцярожна галавою і ловіць пальцамі паветра, нібы павуціннe раздзірае.
— Ну хоць шчылінку святла, таўшчынёю ў волас дзіцяці. Ах ты!.
Бабы зёлкі прыносяць:
— Заварыць, як гарбату, і вочы мыць тры разы на дзень.
З кожным днём пачынае абвастрацца, як, брытва, яго слых. Ловіць шолахі і гукі з той смагласцю, нібы павук муху. Як скупы песціць золата, песціць рыжы Антось людскія галасы.
І ўсё прывыкнуць не можа да сваёй егіпецкай ночы. Лягчэй і хутчэй да яго слепаты прывыкаюць хатнія, родныя. Ляксейка вечна заняты гаспадаркай, жонка каля печы і на двары, у хлявах. Адтуль далятае да яго яе заклапочаны голас. У яго, Антося, нічога не пытаюцца. Непатрэбны ён... Чужы...
Чужы?... Васьмігадовая рыжагаловая Агатка туліцца да яго, лашчыцца як кацянё, ды ўсё гладзіць яго руку-сіраціну—без мазалёў.
— Татка... бедны мой...
Шчэміць сэрца. Не. Больш выць ні за што не будзе. І працэджвае скупа праз сціснутыя зубы:
— Кінь, Агатка...
У дзень—людскія гоманы засланяюць усё іншае. У ночы—гукі жывёлін і прыроды. Рабіна—шасць у шыбу, гаварыць з ім хоча адзін-на-адзін. Але ён не ведае, дзе дзецца. Хатнія спяць, пасля працы, храпуць соладка. Ён не спіць. І лезуць у галаву Антося думкі калючыя, як ражны. Абмацвае свае кароткія пальцы: даўно сышлі мазалі... Кідаецца з боку на бок. Курыць бесперастанку, аж рот сохне; кашляе. А жонка:
— Колькі-ж гэта грошай на махорку ідзе? Ёселіха больш не дае на павер.
А то:
— За ноч пачак сярнічак зглуміць. Згарым усе. Наробіш пажару. Вось пабачыш...
Ён плюе ў далонь, запалку туды і прыслухоўваецца:
— Ж-ж-ж-ж...
І іранічна думае: гатоў хоць пажару нарабіць, каб толькі пабачыць, што робіцца навакол.

— Ах ты! Якое шчасце! Аказваецца, што доктар не байку баяў... А можа памаглі зёлкі і раса?
Сонца... Неба...
Антось жмурыцца, аглядаецца туды і сюды, як злодзей. Ён хоча ўкрасці для сябе ўсё сонца, усё неба.

Вось цяпер бачыць сваімі ўласнымі вачыма: Ляксейка выцягнуўся, як сцябло. Ці-ж у яго гады араць і касіць? У Агаткі галоўка—чырвоны мак. Усе радуюцца, што тата зноў бачыць пачаў.

Хатнія радуюцца, а ён, як разведнік, паглядае на іх і сумуе: Ляксейка худы, жончын твар у маршчынах, Агатка бледная. Ён, на што тапцца, і раней уяўляў іх выгляд, бо часта кончыкамі пальцаў мацаў іх, але мацаць і ўяўляць зусім не тое, што бачыць...

— Ну ўжо цяпер сам вазьмуся за гаспадарку. Палягчэе вам, бедным.

Ходзіць рыжы Антось па двары, пасвіствае ды азірае нанова здабыты ім свет ліній і колераў. Не ведае, куды раней пайсці—усюды цікава. Выпраўляецца на гумно, у поле, у лес. Шалушацца на хваінах тонкія лушпайкі кары, дрыжаць яны, круглыя, празрыстыя і ружовыя на сонцы, як дзіцячыя вушкі. У нябеснай бірузе купаюцца птушкі. А вось пад снежнай бярозай мухамор—кроў з белым гарошкам. На шурпатым карчы паўзе бурая мурашка. Па зялёным лістку ледзь рухаецца драбнюткая, як пылінка, чорная мушачка. Яна вандруе па лістку, як чалавек па вялікай паляне. Раптам—ляціць. Бачыць Антось яе празрыстыя крыльцы. Кропка, кропачка, крапінка і... няма. Палящела ў даль. А даль—сіняя, сівая ружовая, з белазорымі хмурынкамі, з цямравым грэбенем лясоў.

Рыжы Антось так захоплен усім гэтым, што не зварочвае ўвагі на гукі. Разгубіў гукі, нібы рассыпаў старыя манеты, выкапаныя на мяжы. Уся ўвага—колеры. Вось чаму здаецца яму, што аглух і нічога не чуе.

— Ах ты!..

Зусім з памяці выслізнулася, што могуць зноў забраць на пазіцыю, як даведаюцца, што вочы паправіліся...

Гэта толькі дробная хмурынка на яго ясным небе. Няма чаго баяцца. Больш не пойдзе схавацца, зайцам жыць будзе... Шмат хто хаваецца ад вайны. Антось п'е радасць святла, як мёд. Рагоча. Утапіцца мож а ў радасці, як малое дзіцё, у бочцы з вадой.

н

Усе ў хаце прачынаюцца, спалоханыя, устрывожаныя.

— Антось!

— Тата...

— Татачка...

І зноў у тры галасы—жонкі, Ляксейкі і Агаткі:

— Супакойся.

— Не трэба так плакаць.

— Дам вады напіцца.

Праз нечалавечы плач ледзь выціскае з вуснаў скамечанае, як пажованая папяроса, слова:

— Сні-і-і-ла-ся-а-а...

Рыжы Антось сціхае на хвіліну і кажа звычайным гаспадарчым сваім голасам.

— Хадзем, Агатка, дровы пілаваць.

— Гэта-ж ноч...

— Н-о-оч?!

Пасля ранічнай гарачай бульбы Агатка вядзе яго на дрывотнік. Як гэта ён раней не дадумаўся? Старыя козлы абмацвае, як дзяцей. Вясёлы візгат пілы. Халодная гладкая сталь старой карміліцы грэе яго пальцы шматгадовай ранейшай пяшчотай. Вось хто не здрадніца—і ў купецкіх лясах карміла і як быў пільшчыкам у Сакалоўскага.

Сапе малая Агатка, задыхаецца. Ці-ж з яе сілаю цягаць да козлаў такія плашкі?

— Ах ты... Памог бы ды не бачу...

— Здужаю! Сама...

Звініць піла па-даўнейшаму. Рыжы Антось жмурыць вочы, як відушчы, і час, парваны вайною на дзве часткі, ён злучае ў адно сваёй памяццю. Працуе з Ляксейкам у лесе, а той раптам:

— Тата! Глядзі!

— Бачу... Зайчык...

Лезе піла глыбей у дрэва, грызе вострымі зубамі. На ногі сыплецца дробны дожджык пілавінняў.

— Малайчына, Агатка! Хто цябе навучыў так пілаваць?

— Ды Ляксейка.

Яшчэ лепш стараецца Агатка, але яна не вінавата, што яе рука закароткая для вялікай пілы старога пільшчыка. Рыжы Антось прыстасоўваецца да яе росту і сілы. Такое адчуванне—нібы на яго напала вялікая смага, мог бы выпіць вядро вады, а п'е маленькімі глыткамі. Праз паўгадзіны піла пачынае даваць перабоі, пачынае падскокваць.

— Змарылася?

— Ды не...

Агатка ўся мокрая ад поту.

У пальцах рыжага Антося роспач і смутак. Яны, пальцы, такія нейкія асаблівыя, па іх можна пазнаць яго настроі.

Гр-р-рл-л-л... Гр-рл-л-л...

З сянец хаты Рыжага Антося чуваць гуд. Дзверы адчынены. З высечанага акенца велічынёю ў далонь прабіваецца вогненнай бэлечкай сонечная паласа з мільярдамі драбнюткіх пылінак. Ля сцяны пад рэшатам кешкаецца на сене і кудахча курыца. У самым цёмным кутку сенцаў рыжы Антось круціць жорны. Часам бярэ шчапотку мукі двума пальцамі, трэ, прабуе на язык і зноў за працу. Галава ледзь схілена на бок, як у некаторых гарманістаў; сам ён стаіць з растапыранымі нагамі, крыху прыгнуўшыся, нібы працуе пілой.

Гр-р-рл-л-л... Гр-р-рл-л-л...

Глухі гуд выплывае з цёмных сянец на сонечны двор дробнымі крошкамі, працэджваецца ў воддалі аднастайным галаском, падобным да румзання старога кніжніка Лейбы Кантаровіча пры чытанні біблії.

Спыніць рыжы Антось працу на хвіліну, скруціць папяросу, блісне ўспыхам запалкі ды зноў за жорны. Смокча папяросу да таго, пакуль не асмаліць вусы. Попел сыплецца на яго густую і кароткую бараду, абтрушаную мучным пылам:

— Ах ты! Як добра так...

А каб было яшчэ лепш, скідае шапку і сцягвае салдацкую рубашку з такімі рухамі, быццам зараз возьмецца з праціўнікам на кулакі. Ад яго валасатых грудзей ідзе пара.

— Ямчэй было-б пілой... Каб Агатка была дужэйшая, ды каб шмат дроў.

У галаве рой праектаў: будзе хадзіць да местачковых дровы пілаваць. Вось каб толькі са спраўным кампаньёнам. Той-бы і сякерай. Бо дзе сляпому сякерай размахвацца, яшчэ самому сабе па назе... Ён ужо з адным-другім гаварыў аб гэтым. Аднекваюцца: мо' пазіцыя будзе тут? Ці ж цяпер аб дровах думаюць людзі?

Гудуць жорны тысячагадовым гудам. Напружвае рыжы Антось усе свае сілы. Твар чырвоны ад натугі і рой пчол запаўняе вушы несупынным глухім гулам. На парозе стаіць Агатка.

— Татка, есці ідзі...

Падбягае бліжэй і глядзіць зачараваная на аднастайныя рухі яго ўспацелага тулава.

— Маці есці кліча.

Дзяўчынка глядзіць на жорны строгімі вачыма.

— Татка, жорны пустыя...

— Ах ты! Задумаўся і не паглядзеў... Тоісь не паслухаў і не памацаў...

Ад крыўды і злосці пальцы яго згінаюцца ў кручкі.

Пасля полудня спіць пару гадзін. Не так дзеля адпачынку, як дзеля цікавых сноў. Вельмі хоча прысніць возера. Прыблізна так: ён стаіць на грэблі і глядзіць уніз на возера. У вадзе глыбіня. У далёкай, як ад неба да зямлі, глыбіні ходзяць і перасоўваюцца хмаркі: белыя, ружовыя, бірузовыя ды іншых розных колераў. Ля берага вольхі. Гэтыя самыя вольхі ў вадзе, уніз галавою... Ён ідзе да чоўна, штурх яго з пяску, садзіцца і плыве-плыве і глядзіць-глядзіць... Нахіляе галаву і бачыць у вадзе свой уласны твар. Даўно ўласнага твару не бачыў... Каб хаця толькі прысніць... Чамусьці апошні сон цёмны, як яго ява.

Больш пустых жорнаў не круціць. Слух навастрыў, у коўш часта рукою „заглядае". Ногі ўжо не расстаўлены як да працы пілою. Бяссонных начэй яму цяпер таксама не страшна—гудуць жорны, як тысячы год таму назад:

Гр-р-рл-л-л... Гр-р-рл-л-л...

Ноч.

Ці не ўсё роўна? Не—не ўсё роўна. Рыжы Антось прыслухоўваецца больш, чым заўсёды. Во зараз вушамі застрыжэ, як жывёліна. У хаце спіць запрацаваная сям'я, дыхаюць спакойна і цёпла, як жывёла пасля працы. Нешта мармыча праз сон Ляксейка:

— Не тое...

У хляве карова трэцца аб сцяну.

— Не тое...

Ён забывае жорны і доўга слухае, ціскае плячыма і дзівіцца. У густой цемры сянец аганёк папяроскі блішчыць рубінам. Засвеціцца на міг кружок каля губ і зноў патухае. Не паспее ўспыхнуць пучок іржавых валасоў, як зноў пацямнее.

Рыжы Антось стаіць і прыслухоўваецца нямаведама да чаго. Ён нечым праз меру зацікаўлены, круціць галавой з нейкім пашкадаваннем, бярэ з умоўнага кутка ля жорнаў свой кій і павольна прабіраецца на двор.

Над будынкамі, над непрытульнымі восеньскімі палямі вісіць акрыўлены серп. Вось-вось уткнецца ў дымчастае воблачка. Ад рыжага Антося цягнецца доўгі цень. Ён стаіць пасярод двара, слухае ды ківае галавой так павольна і задумна, нібы загадку разгадвае.

— Ах ты-ы-ы... Вось яно што-о-о... Значыць і нашае поле дачакалася... Значыць і да нас яна набліжаецца...

Рыжы Антось прыслухоўваецца вельмі пільна, нібы доктар да пульса хворага чалавека...

## X

Ужо не адзін рыжы Антось чуе—і местачкоўцы не глухія. Але местачкоўцы не ведаюць, што гэта за яно. Тарганецца нейдзе за лесам з боку балотных лугоў за млынам, тарганецца зямля, нібы хтосьці балюча ўшчыкне яе, тарганецца і сціхне. Акурат падземныя гукі

— Я ведаю, — тлумачыць рыжы Антось,—гарматная страляніна. Дзякаваць богу, наслухаўся... Ведаю.

Садоўніца Маўра, Левін і гімназістка Іра, якія дабраахвотна вартуюць сад, чуюць па начах тое самае. Часта і начлежнікі пры конях дзівяцца: „зямля дрыжыць“. Нарэшце, рыжы Антось растлумачыў... І каганецкія выходзяць на ганкі паслухаць „пульс вайны“, як кажа брат Кантаровічыхі—настаўнік з Смаргоні. Яшчэ пара дзён і на двор выходзіць не трэба, і не прыходзіцца чакаць ночы—і ў дзень чуваць. Шыбы ў вокнах дрыжаць. Сціхнуць на некаторы час ды зноў „дзынк... дзынк... дзынк“... Акурат—нехта будзіць ваколіцу: „Уставайце! Уставайце!“ А ўначы зноў цікавей і страшней, чым у дзень—бо з таго боку, адкуль плывуць, гукі палыхае зарава... Вось акурат нібы хтосьці чырвоную хустку палошча ў нябеснай сажалцы. Стагі гараць? Вёска? Хтосьці лясы падпаліў?—Хто яго ведае, розныя чуткі. Калі-ні-калі ў каганецкае неба наведваецца самалёт. Свой ці нямецкі? Усе задзіраюць галовы ў гару і старыя людзі хаваюцца ў скляпах. Дзяцей ніяк туды не зацягнеш. Яны вар'яцеюць ад самалётаў і радасці.

— Рамантычная пава-купава плыве да цябе, Ірачка,—кажа Левін.

— Не добра жартуеш.

Цяпер часта праходзяць праз мястэчка групкі салдат у пяць, у дзесяць чалавек.

— Што чуваць?

— Хутка сюды прыдуць казакі.

Зайцы больш не хаваюцца, бо ні стражнікі, ні ўраднік сюды не з'яўляюцца. Забылі зайцаў, забылі хабары. Тых, мабыць, таксама палохаюць гарматныя грукаты і зарава, што не сыходзіць з краю неба, як агромністы сцяг.

Некаторыя з каганецкіх, самыя заможныя, якія баяцца за сваё дабро больш за іншых, пачынаюць рыхтавацца: Сакалоўскі і Шыман Кантаровіч павезлі ў Менск вазы з дабром, нанялі там кватэры і стараюцца ўсё лепшае вывезці адгэтуль.

— Я не ёлап які,—хваліцца Сакалоўскі.

— Гэта-ж не зашкодзіць,—апраўдваецца Шыман Кантаровіч.

— Ім то лёгка,—зайздросцяць каганецкія.—Яны могуць і ў Менску жыць. Сакалоўскі з Кантаровічам могуць і там займацца скупліваннем жывёлы для арміі. Але як нашаму брату пакідаць наседжаныя гнёзды? У Менску з голаду памром. Тут мы гаспадары, а як толькі кранемся з месца, то назаўтра мы жабракі. Мы-ж да Каганцоў пупамі прыраслі.

На гэта стары кніжнік Лейба Кантаровіч кажа так:

— Кожнае чалавечае становішча мае сваё святло і свой цень. Багаты радуецца свайму багаццю, але колькі ў яго клопат, каб гэтае багацце захоўваць. Затое беднаму чалавеку добра ў тым сэнсе, што ён нічым не рызыкуе. Ён нічога не баіцца і не мае чаго шкадаваць.

Каганецкія праклінаюць мястэчка самымі страшнымі праклёнамі. Праклінаюць і непакояцца:

— Каб хаця мястэчка цэлым засталося. Каб хаця не дайшла да нас гэта навала. Каб хаця...

Бацькі Маўры з небывалай паспешнасцю вывозяць яблыкі з сада. Пакуюць антонаўку—і дамоў да сябе. Левін з Ірай гуляюць у спустошаным садзе. Па начах адгэтуль так добра чуваць грукат гармат, а на неба ў вогненным зарыве яны чытаюць строгае папярэджанне сваім забаўкам:

„Мене, тэкель, уфарсім“—злічана, узважана і заплачана...

Сад страціў свой ранейшы прытул. Вялізная будка пад старымі яблынямі цяпер пустая. А раней была такой прытульнай і вабнай. Тут ляжалі агромністыя піраміды сакавітай садавіны. На саломе ў адным з лепшых куткоў быў маленькі алькерык белавалосай Маўры:

падушка, коўдра, вопратка, пасудзіны. Часта тут у карты забаўляліся, кніжкі чыталі, або на балалайцы брынкалі песню пра гімназістку, якой апрыкрыла арыфметыка і граматыка. Усе навакол гралі на балалайцы гэту песню. Цяпер сумна ў парадзелым і абрабаваным садзе.

Левін і Іра часта бачаць у гэтым садзе з кніжкай у руках аднаго з зайцаў—Шагала—швагра Кантаровіча. Ён чамусьці хавае ад іх заўсёды свае кніжкі. І нейк да зайца непадобны.

— Плачце, плакальніцы! Рвіце вопраткі і абсыпайце попелам свае галовы,—кажа стары Лейба Кантаровіч.

Ён задаволены. Кончыліся карцёжныя забаўкі і старому кніжніку за паркалёвай заслонай ніхто не перашкаджае ўглыбляцца ў сваю кабалістыку, каб выкрываць таямніцу быцця і зразумець канец усіх канцоў (пачатак усіх пачаткаў ён добра ведае).

Клуб зайцаў сапраўды распаўся. Малады Сакалоўскі і Гарэлік стра-цілі годнасць зайцаў. Бацька Сакалоўскага і Шыман Кантаровіч да-сталі для іх у Менску дакументы-адсрочкі ад ваеннай службы, як пастаўшчыкам жывёлы для арміі. Малады Сакалоўскі возіць у Менск разам з парабкамі бацькава дабро. А „ціхі анёл“—Гарэлік зголіў бараду і марыць аб тым, каб надзець вайсковую форму з пагончыкамі на плячах і з корцікам з боку, як тыя „земгусары“, якіх нямала бачыў у Менску.

Астаўся зайцам адзін толькі Шагал, швагер Шымана Кантаровіча. Але ён таксама зголіў бараду і памаладзеў на дзесяць год.

— Для чужога Гарэліка дастаў дакумант,—скардзіцца жонка Кантаровіча,—а для майго роднага брата не можаш дастаць.

— З Гарэлікам гандлюем, ён мне больш чым свой, а што мне твой брат?—Чужы! Нават горш чым—чужы! бо толькі клопаты маю ад яго. Ён не вучыў дзяцей, а псаваў іх, чорт ведае што ім у мазгі ўбіваў—вось мой бацька і забраў іх ад яго. Каб ён не быў маім шваграм, даўно-б сказаў аб ім каму трэба. Няхай падзякуе, што маўчу. Ён-жа мне вораг, брат твой. Здаецца, і ты чула не раз, як ён бэсціць мяне, якімі словамі называе. Нават чужым чорт ведае што пра мяне гаворыць. А колькі бяды пасыплецца на маю галаву, калі даведаюцца, хто ён і што ён. Гэта-ж ён зусім неасцярожны з мужыкамі. Гаворыць з імі, як роўны з роўным і цэлую музыку аб вайне разводзіць. Няхай падзякуе, што я маўчу. Ведаеш, што я не шкадую есці твайму брату, але не трэба пляваць у калодзеж, з якога п'еш.

Кантаровічыха слухае і плача. Яна між двух агнеў.

Аднак Шыман Кантаровіч і маўчыць і не маўчыць... „Па сакрэту“ расказвае аб швагры ўсё, што толькі ведае. Расказвае з той мэтай, каб хто-небудзь сказаў каму трэба—хоць-бы бліжэйшаму начальніку—ураднiку Зайцу...

Шыман Кантаровіч не даносчык, але няхай аб гэткіх справах ведаюць нізенькі Герасім, кульгавы Макар Гарэлік. Можа хто з іх...

І Шыман Кантаровіч чакае падзеі. А падзеі няма. Дзівіцца ён, што людзі ведаюць і маўчаць...

— Ша, ша... Зацікавіліся...

Нізенькі Герасім і кульгавы Макар пачалі прыходзіць да Шагала. Прыходзяць на гумно, дзе ён сядзіць і чытае кніжкі. Там гутараць сабе ды гутараць. Шыману часу няма пайсці ды паслухаць, але ён і так добра ведае, аб чым ідзе гутарка.

Адзін толькі Гарэлік не разводзіць гутаркі з Шагалам. Ён Гарэлік, хітранька ўсміхаецца. Шыман Кантаровіч шмат чаго чакае ад гэтай усмешкі. Ён праз меру часта ўспамінае Гарэліку пра сакрэт і про-

сіць-моліць яго, каб той нікому не прагаварыўся. Уся надзея на Гарэліка. Толькі трэба пры выпадку добра раззлаваць яго ў гандлі... тады...

Левін даўно заўважае, што адносіны паміж Кантаровічам і Шагалам нацягнутыя.

Аднаго разу Шыман Кантаровіч у гутарцы з Левіным праз меру шчыра выказаўся:

— Эт! Гэты чалавек прапашчы. У яго такое ў думках, што лепш не гаварыць. Скажу толькі адно і больш ні слова: каб не жонка мая—яго родная сястра,—дык на парог не пусціў-бы такога. А, здаецца, сын парадачных бацькоў. Га? Бываюць-жа выродкі. І бацька мой яго ненавідзіць за тое, што ў бога не верыць. Цяжка гаварыць, але павінен вам, пане Левін, сказаць, што мой швагрук скруціць некалі сваю галаву, а можа нават і зусім скора. Гэта-ж мая бяда, маё ўласнае гора, і, бронь божа, вы нікому аб гэтым ні слова. Цяпер у часе вайны, пане мой, ён лезе на ражон. Я думаў, што ён пасталеў і забыў сваё ранейшае глупства, дык не. Лысым нарадзіўся—лысым і здохне, пане Левін. Калі мае дзеці, такія далікатныя хлопчыкі, знімуць шапкі перад якім-небудзь панам і скажуць „дзень добры“ (я іх навучыў), дык ён крычыць на іх ды кажа, што гэтага не трэба, што гэта рабства. Псуе гэты вырадак дзяцей маіх, пане Левін. Мяне самога крывапіўцам заве. Па ягонаму мне хоць у возера тапіся, бо я—гандляр, буржуй, эксплаатаатар, злодзей, і што ён на мяне не выдумае... Гэта ён ды яму падобныя цара скінуць?—Кораткі пяты! Багатыя, па-ягонаму, самыя сволачы ды паганцы. І вайну багатыя прыдумалі. Ха-ха-ха! Да чаго можа чалавек дайсці па сваёй дурнаце. Га? І вось, кажа ён, рабочыя вайну супроць вайны наладзяць (Шыман Кантаровіч лічыць па пальцах): рускія рабочыя супроць сваіх багачоў, немцы—супроць свавіх, французы—супроць сваіх і так усюды. Ха-ха! Як вам гэта падабаецца? І вас, пане Левін, дробнабуржуазным пустазвонам называе.

Левін успамінае, што ўвесь час Шагал трымаўся асобна ад іншых зайцаў, розніўся ад іх нечым такім ледзь прыкметным, а калі рэзаўся з імі ў карты, дык толькі ад няма чаго рабіць, ці проста каб маскавацца.

— Мяне дробнабуржуазным пустазвонам заве...—крыўдзіцца Левін. Чаго ён баіцца мяне? Можа-б і я з ім разам працаваў. Ён мяне не знае...

За тры месяцы, што Шагал жыве зайцам у каганцах, ён адчувае ўвесь час нейкую прыкрасць. Швагра, Шымана Кантаровіча і старога кніжніка Лейбу ён ненавідзіць ад усяго сэрца, да роднай сястры адносіцца са злосцю, змешанай з пашкадаваннем. Ім усім ён тут чужы, а вось павінен сядзець на іх утрыманні і бываць у кампаніі з рознымі пустымі людзьмі, гуляць у карты і хавацца куды больш старанна за іншых зайцаў, бо ён і дэзертыр вайны і наогул чалавек з тых, якімі паліцыя вельмі цікавіцца. Дзе дзецца і што рабіць? І яшчэ горшым зайцам Шагал адчувае сябе перад сваімі старымі таварышамі па партыі Тыя вядуць далей сваю справу, а ён, Шагал, адпачывае на блінцах і яечнях... Ён успамінае твары і галасы сваіх таварышоў і рабіць дакоры самаму сабе:

— Зараз зраблюся падобным да Левіна, буду „назіраць“ за ўсім, што робіцца вакол, пазіраваць і пустазвоніць. Разгубіў усіх сваіх таварышоў і страціў грунт пад нагамі...

Спалох нападае на Шагала—што рабіць? Праўда, крыху пазнаў вёску, але не будзеш цяпер, ды яшчэ ў такім становішчы, мітынгаваць перад грамадой. Гутарка з паасобнымі сялянамі перад носам

фронта справа не кепская, але тырчу я тут, як ражон. Шмат каму вочы намазоліў. Можна нарвацца на непрыемнасць і ніякай карысці ўсёроўна не будзе з гэтай агульнай справы.

У апошні час Шагал пачынае хадзіць у грыбы. Ходзіць бадай штодня за пяць вёрст ад мястэчка. І вось зусім неспадзявана сустракае там старога таварыша Ваньку Купцэвіча—пад партыйнай мянушкай Тарас. Даўней у Смаргоні Тарас апекаваўся над ім—слабейшым таварышом,—быў яго настаўнікам, выцягнуў з бундаўскага балота.

Цяпер ад вялікай уцехі ў Шагала на вачах блішчаць слёзы. Тарас толькі адзін міг быў радасна ўсхваляны, і вочы яго зараз-жа паспакайнелі, і ён сказаў Шагалу такім тонам, нібы разлучыліся яны толькі ўчора:

— Грыбы збіраем. Дзе ты жывеш?

— У Каганцах у роднай сястры. Чаму ты ў мястэчка не прыходзіш, Тарас?

— Не маю там чаго рабіць, і не мог-жа я ведаць, што ты там Каганецкую рэспубліку будуеш. А я жыву на хутарах ужо трэці тыдзень. Смаргоні, знаеш, ужо няма. Я родам тутэйшы, вось і жыву ў брата.

— Буду да цябе прыходзіць. У Каганцы не прашу, бо вельмі асцерагаюся свайго швагрука Шымана Кантаровіча. Гэта такі тып, што лепш з ім не сустракацца. Гандляр і сволач.

— Я да такога не паехаў-бы, каб нават быў маім родным бацькам. Не буду перахвальваць майго брата, але ён бядняк і з ім можна талкаваць. Спачатку ён не згаджаўся са мною толькі ў адным пункце: апраўдваў цара. Ён гаварыў, што каб цар-бацюшка ведаў, як пакутуе народ, дык памог-бы і зямлёй і грашмі і ўсім. Ледзь растлумачыў яму, што такое цар.

— А мой Шыман Кантаровіч зусім не такая наіўная птушка. Ён добра разумее цара. Сам-бы, кажа, бунтароў расстрэльваў, каб быў царом.

— Што-ж ты думаеш? З такога Шымана вышаў-бы царок Саламон можа не горшы за Мікалая, а напэўна разумнейшы.

Абодва ўяўляюць сабе Шымана царом і смяюцца.

— Дык ідзем, Шагал, ка мне. Будзем спаць на сене. Там аб усім пагаворым.

Тарас у шэрым пінжачку з чорнымі латкамі на локцях, у старых ботах. Яго светлыя вусы блішчаць на сонцы. Настрой у яго добры. Шагал пазнае, не па вачах, а па голасе. Ніколі раней, як памятае Шагал, Тарас так шчыра па-дзіцячаму не смяяўся, як вось цяпер у лесе з кошыкам у руках.

— Калі так,—кажа Шагал,—дык навошта мне грыбы?—і ён перавярнуў кошык на мох.

— Збяры назад, дурны! Гэта будзе нашай вячэрай, бо мой брат не такі, як твой Шыман; асаблівай раскошы ў яго няма, апрача хлеба і бульбы.

Вялікая сям'я Тарасавага брата радасна сустракае гасцей з грыбамі. Сонца ўжо на захадзе. Грыбы з бульбай яны—з усёй сям'ёй—ядуць на двары, бо ў хаце цесна. Брат Тараса, старэйшы за яго на гадоў дзесяць, вельмі падобны да яго светлымі вусамі, спакойнымі вачыма і голасам.

— Вось такім,—кажа Шагал да Тараса,—ты будзеш праз дзесяць год.

— Затое брат мой будзе выглядаць куды лепш, чым цяпер. Ён яшчэ моцны чалавек. Можа будзе кіраваць дзе-небудзь гаспадаркай

у адным з цяперашніх панскіх маёнткаў. А старшы сын, пэўна, будзе дзе-небудзь замест ранейшага губернатара, а малодшыя дзеці будуць вучыцца на інжынераў, дактароў, аграномаў...

— Да гэтага яшчэ далёка,—кажа Шагал.

— А што ты думаеш? Нешта такое можа адбыцца так неспадзявана, што не агледзішся нават. Гэтая вайна абавязкова скончыцца рэволюцыяй. Яна выбухне так, аж зямля задрыжыць, куды мацней, чым ад вайны. Эх... Шкада, што няма піва. На радасцях нашай сустрэчы выпілі-б.

— Зараз прынясу яблычнага квасу,—кажа гаспадар.—Мая жонка на гэта, о-го-го якая спрытная.

Пасля вячэры яны ідуць на сена. Гутараць ледзь не ўсю ноч. Вось гэтымі днямі яны паедуць у Пецярбург. Няма чаго доўга тут заседжвацца. Якраз у Тараса ёсць адрасы некаторых смаргонскіх рабочых, што жывуць цяпер там. Умаўляюцца, што прыдзе ў Каганцы Тарас і яны забяруць рэчы Шагала да Тарасавага брата і тут на хутарах наймуць фурманку і дабяруцца да Менска. З Каганцоў было-б бліжэй і зручней ехаць, але не варта рабіць лішняга шуму.

Возера—як неба, неба—як возера: мутны колер волава. На непрытульных палях спушчаны з ланцугоў ветры. Часам сцёбаюць пачарнелае іржышча косыя дажджы, часам праясняецца неба і на дзень-на два сонца зноў палетняму свеціць. Не гледзячы ні на якія трывогі аб набліжэнні фронта, ідзе сяўба жыта.

Сёння Левін спраўляе ўрачыстую жальбу адзіноцтва. Спацыруе далёка на тым баку возера і не ведае, дзе дзецца ад нуды.

Справа была так.

Маці гімназісткі Іры—дробная крамнічыха—запрашае яго раніцой на гутарку. Якраз у крамцы нікога няма. Высокая, худая, як таран, кабеціна, з жаласлівымі карымі вачыма, падае Левіну табурэтку, пры гэтым выцірае яе свім замасленым фартухом, хрыплым голасам просіць сесці ды адразу пачынае хвалявацца:

— Левін, я ад вас не спадзявалася...

— Чаго не спадзяваліся?

Ён робіць невінаваты выгляд і міжволі ўцягвае носам пах газы з селядцамі. Крамнічыха ківае галавою, як маятнікам.

— Ай-ай, так і не знаеце! Усё мястэчка гаварыць, што вы маю Ірачку зводзіце.

— Як гэта зводжу?

— Не прыкідвайцеся і не чапайце яе, яна-ж яшчэ дзіцё. Усяго шаснаццаць год. Думаеце, на мае сродкі вучылася? Яшчэ да таго, як пакралі тавары з маёй крамы, я не мела на гэта сродкаў. Сястра памагала. Хацелася мне, каб хоць дачка была чалавекам, каб хоць яна не прапахла наскрозь газай і селядцамі.

Крамнічыха гучна смаркаецца, выцірае нос хустачкай, пасля чаго трэ гэтай хустачкай пачырванелыя вочы і глядзіць на Левіна, як на такога, што спрабаваў усе грахі зямлі.

— Я не разумею, чаго ад мяне хочаце?

— Не прыкідвайцеся Левін. Вы ўжо сталы чалавек. Усё мястэчка ведае, што вы зводзіце Іру. Вы падгаварылі яе ісці акопы капаць.

— Няпраўда.

— Вы яе баламуціце. Цэлымі начамі няма яе ў хаце. Я не дазволю. Не дазволю! Тут вайна, невядома што з намі ўсімі будзе, а вам чорт ведае што ў галаву лезе.

— Не ваша справа, што мне ў галаву лезе,—злуецца Левін.

— Прыехаў з горада і чорт ведае чым займаецца!
— Чым?
— Усё мястэчка гаворыць. Заўсёды з Ірачкай. Ніколі яе ў хаце няма. У каго ні папытайся—з Левіным цягаецца. Ці-ж на гэта ёй гімназія патрэбна была? Скажыце, Левін. Усё мястэчка гаворыць, што на гэта ёй гімназія непатрэбна.

Левін не ведае, дзе дзецца. Ідзе прасёлачнай дарогай па тым баку возера на новыя хутары, што пабудаваліся за апошні час. Гады чатыры таму назад пан Manілоўскі прадаў сялянам участкі зямлі на старых пасеках, дзе віленскія купцы высякалі лес. Тут ён, Левін, быў раней прыказчыкам, а яго бацька вазіў калоды на рум.

Ідзе Левін у той бок і раптам спыняецца і здзіўлены тарапіць вочы.

Недалёка ад дарогі, у нізіне, дзівосная групка людзей. Нешта цягнуць, валакуць, клапатліва, як мурашкі. Левін накіроўваецца туды.
— Што вы робіце?
— Бачыш... Арэм...
— Бабы замест каня?
— А дзе дзенешся, калі конь здох. Жыта сеяць трэба?—Трэба! Курыць маеш?

Левін дастае тытун і аглядае групу. Незнаёмы селянін падобны да Хрыста, падобны бародкай, вачыма і ўсёй пакорлівай постаццю. Ён босы, у шарачках, у цвёрдай, як бляха, зрэбнай кашулі.
— Дык ужо будзь ласкаў, пане мой, і скруці мне папяроску, бо мае пальцы бачыш якія? У паперу пападзе больш пяску чым тытуну.

Левін скручвае папяросу і дае селяніну. Той закурвае і са смакам зацягваецца. Левін пытаецца:
— А цётак гэтых, што саху валакуць, дзе набраў?
— Гэтага дабра ў нас хапае. Пасля сяўбы магу іх табе падарыць.

Голас яго злы і непрыемны. У вачах вострыя голачкі. Закурыў, зацягнуўся дымком і зноў зрабіўся дабрадушным і лагодным.
— Вось гэта старая—мая жонка, другая—яе сястра, а маладая—дачка. Троечка ніштаватая! Усё ім кепска! А здаецца, гэткія папружкі ў іх! У стаеннікаў пана Manілоўскага куды горшыя.
— Кінь плявузгаць, дурны,—злуецца адна з жанчын.
— Ціха, ты! Наравістая... Пугі на цябе няма,—жартуе араты.— Тузгаюцца, пане мой, круцяцца—верцяцца. Ніяк танцаваць не хочуць пад маю каманду. А далікатныя—бачкі, кажуць, намулялі, грудзі. Ніяк на ўгодзіш, каб яе ваўкі зарэзалі, гэткую тройку! Папружачкі, кажуць, не падабаюцца. Дай ім такія, як у пана Manілоўскага—са срэбнымі бамбэлачкамі, каб блішчэла ды звінела. Я вам заблішчу і зазвіню!
— Годзе языком малаціць!—зноў крычыць адна з „тройкі“.
— „Тройка“ садзіцца ля сахі, скінуўшы „папружкі“—старыя мяшкі прымацаваныя да лейцаў. Усе яны ў аднолькавай паркалёвай вопратцы. Старыя жанчыны з хусткамі на галовах, а маладая—дачка гаспадара—без хусткі. Твару яе Левін не бачыць, яна саромеецца яго і адварочваецца. Ён бачыць толькі яе зграбную русую галоўку з чырвоным грабенчыкам у валасах.
— Змарыліся?—пытаецца Левін.

Жанчыны маўчаць. За іх адказвае гаспадар:
— Дзе, пане мой, бачыў, каб коні гаварылі? А работа ў іх не лёгкая. Мой буланы стары быў, худы і караслівы, а цягаў саху любадарага. Лепш за гэту тройку.
— Трэба як-небудзь каня набыць,—радзіць Левін.

— Трэба!—пачынае злавацца гаспадар і вочы яго мігацяць двума вугольчыкамі. Ён рухае рукамі так, нібы за лейцы цягне.—Трэба!— і пагрозна глядзіць на Левіна.—Дзе ты купіш каня, калі апошнія торбы прыходзіцца прадаваць, каб пану за зямлю выплачваць. Абодвы мае сыны—самая сіла—на вайне.

— У часе вайны можна не плаціць даўгоў. Закон такі ёсць.

— Пан мае свой закон—плаці хоць душа з цябе вон! Паляруш яго ведае, чаму гэта ўся зямля пану належыць? Ці ён сам стварыў яе, ці якое тут ліха? Ён толькі гнаіў яе нашымі трупамі. Плаці яму цяпер. Каб яму вантробы павырывалі, як мы вось кішкі тут рвем! Каб ім гэткае жыццё, як нашае. Эх ты ўпрог бы так у саху трох панскіх дачок ды пугай смаліў бы па іх! Павазіце вы і нас хоць разок за тое, што мы, бацькі і дзяды нашы ўвесь час воз вазілі і возім.

— Кінь ты, Язэп,—зноў не стрымліваецца адна з „тройкі",—усё гэта ад бога.

— Ад бога! Ад бога! Гыш ты яе, божую кабылку! Як пападдзя ўсё роўна! Ад бога!— перадражнівае сваю жонку хрыстпадобны Язэп з вачыма злоснымі цяпер, як у разбойніка.—Гэта ад нашай мужыцкай дурнаты. Няхай яна прападзе разам з гэтым богам!

— Звар'яцеў ты! — усхопліваецца з крыкам жонка Язэпа. — Не шануеш бога, вось і жыццё такое маеш.

— Не шаную?

Ад злосці Язэп аж падскаквае ды крычыць з усіх сіл:

— Заткніцеся з вашым богам, калі думаеце, што ён вас запрог у саху! Вось яму! Вось яму! Што ён мне зробіць?—і выведзены з цярплівасці Язэп паказвае небу дзве касцістыя фігі, з якіх сыплецца пясок, быццам з толькі што выкапаных бульбін.

Усе тры кабеты бледныя, спалоханыя ўскакваюць з зямлі, аглядаюцца навакол такія збянтэжаныя, нібы зараз іх усіх тут глыне зямля. У іхніх вачах блішчаць слёзы. Іх вельмі ўстрывожыў „вялікі грэх" Язэпа. Ён пазірае на іх, расчулены раптам іхнім шчырым страхам, і зноў становіцца пакорлівым, лагодным і вельмі падобным да Хрыста...

— Годзе, міленькія, давайце будзем араць, а то яшчэ горшы грэх учыню...—І Язэп бярэцца за саху.

Тры жанчыны моўчкі ўстаюць, насоўваюць на сябе папружкі, нацягваюць пастронкі, напружна нахіляюць верхнія часткі тулава, і вочы іхнія—ці мо' Левіну так здаецца—адразу трацяць чалавечы выгляд.

— Ну, міленькія,—кажа дабрадушна Язэп,—пачынаем новую баразёначку для пана Манілоўскага.

Уцякае Левін ад свежа ўзаранай глебы, як ад страшнай, балючай раны—і не гледзячы больш на аратая і „тройку", дамалёўвае сам:

Паволі рухаецца наперад Язэп. У яго такое меркаванне, каб самому і кіраваць сахою і глыбока ўрэзвацца нарогамі ў зямлю і падпіхваць наперад, каб „тройцы" было лягчэй. Пры гэтым ён падобны да пакорлівага Хрыста. Але вось розныя думкі пачынаюць яго хваляваць— і гнеў і страхотная сіла зноў мяняюць выраз яго твару. Праходзіць цяжкая, як глеба, хвіліна, яшчэ адна і яшчэ. Марудна, да прыкрасці марудна, расце баразна за баразной. Цяжка сапе ратай. Ніжэй да зямлі прыгінаецца „тройка"—рукамі бадай зямлю дастае. Зараз на ўсіх чатырох пойдзе—на руках і нагах. У жанчын раззяўленыя раты, чырвоныя ад натугі твары, і вецер падносіць Левіну пад самыя ноздры пах поту чатырох чалавек, змораных непасільнай працай.

А вось другая тройка—на дабрачынным вечары ў Вільні на карысць раненым салдатам. Аддаў тады Левін за білет адну з сваіх нямногіх трохрублёвак і пайшоў на гэты вечар.

Там прыгожыя дамы прадавалі пацалункі: у палец—тры рублі у далонь—пяць рублёў, да лакця—дзесяць рублёў, далей—па спецыяльнай цане. У афішах быў надрукаваны падрабязны прэйс-курант.

Сярод балетных нумароў тры прыгожыя дамы—балярыны—аматаркі пад псеўдонімамі Афродыта, Дыяна і Венера—танцуюць „тройку", рамантычную, пышную, апяваную ў вершах і прозе панскую тройку. У трыко ружовага колеру цела і ў кароценькай, зусім кароценькай вопратцы блакітнага колеру неба, у шаўковай збруі, аздобленай блёсткамі—„тройка" кружыцца на сцэне са званкамі ў руках. „Тройкай" кіруе фурман. У адной руцэ ён трымае бутафорскія лейцы таксама ў блёстках, у другой—такі-ж бізун. Балярыны звоняць званкамі пабрыкваюць, як выпешчаныя стаеннікі і чаруюць публіку багінепадобнымі і конепадобнымі гнуткімі станамі. Фурман нацягвае лейцы, цмокае губамі і страляе бізуном у паветры. Арфа, скрыпка і піяніна сцелюць перад „тройкай" музычную снежную дарогу—са скрыпам палазоў, з трэскатам мароза, з лясными шолахамі, з гучнымі дымчастымі далямі.

З пярэдніх крэслаў, напоўненых чорнымі фракамі, ружовымі дамскімі плячамі і генеральскімі пагонамі, часта чуваць:

— Чароўна!..

Плаўны танец „тройкі", выбражаемы тупат капыт, конскія рухі грудзьмі і сцёгнамі, кволыя срэбраныя званкі даводзяць пакупцоў пацалункаў да экстаза:

— Эстэтычна...

— Усё шпарчэй і шпарчэй імчыцца „тройка", выгінае шыі паконску, махае галовамі, бліскае падведзенымі лёгкай фарбай вачыма, закусае выабржаемыя цуглі ды імчыць наперад пад рытмічны лёскат бутафорскага бізуна.

— Бажэсцьвена!..

У захапленні маклеры, купчыкі, ваенныя падрадчыкі, афіцэрства. На сцэну сыплецца дождж жывых кветак і сотні паветраных пацалункаў-авансаў. А пасля пачнецца продаж пацалункаў па прэйс-куранту. Усё гэта для раненых воінаў.

Каб хоць на пару дзён Язэпу на сяўбу жыта Афродыту, Дыяну Венеру—на пару дзён...

*Працяг будзе.*

Я. СКРЫГАН

# СУСТРЭЧЫ

### З КНІГІ „СМАГА“

## 1

Я ўз'ехаў на двор і саскочыў з сядла. З паліта майго лілася ручаямі вада. Анямеўшыя ногі падгіналіся і няўмеючы станавіліся на зямлю. Ішоў косы сцюдзёны дождж, на ветры ён разбіваўся і плыў нясканчоным туманам. Двор быў пусты і азызлы з халодным глянцам размешанае гразі. Ніхто не вышаў, у сенцы былі адчынены дзверы, і я крыкнуў у іх глухую немату:

— Эй, ці ёсць хто дома?

З сянец выскачыла сястра. Яна пазнала мой голас, і на бягу абівала хвартух і паправіла хустку. Рукавом яна выцерла губы, і яны задрыжалі і ўспыхнулі ў мяне на губах. Дождж змыў пацалунак халоднымі каплямі. Над плотам падымалася згорбленая ветрам канёва спіна.

Сястра дастала мне сухое швагрусёва адзенне. Яна прынесла дзве пары крамных шкарпэтак. Яна была ўзбуджаная і таропкая, не знаходзячы, што гаварыць. Так бывае пры дарагіх і нечаканых сустрэчах, калі мова без сілы выказаць усхвалёваную радасць. Яна не магла даўмецца, адкуль я ўзяўся ў такую непагадзь і бездарожжа.

Я кажу, што я падарожнічаю ў гэтых краях і не захацеў яе абмінуць. Такавы законы мае неспакойнае прафесіі—усюды ўсё ведаць і, як Фама Няверны, абмацваць сваімі пальцамі.

Пасля ўзрушанасць праходзіць, і мы ўжо спакойна гаворым. Мне цёпла ў чужых калашматых штанах і ў прасторнай сухой світцы. Холад шавеліцца яшчэ толькі недзе ў маіх касцях. Паліто вісіць ля парога, і з яго капае ў цэбрык вада. Сястра ідзе ў кухню. Яна бразгае дрэўкамі і грыміць трыножнікам, раскладаючы пад ім аганёк. Загадзя я чую спакуслівы пах падсмажаных скварак. Я хаджу, разміналючы ногі, і мне здаецца, што падлога перада мною ўспучваецца і ўпарта не дае цвёрда паставіць шаг. На сцяне я чытаю плакаты і разглядаю палінялыя карткі. Гэта гісторыя станаўлення і росту сям'і ў яе сувязях і дачыненнях. Вот сама сястра з швагрусём сярод свайго маладога патомства. У яе высокі завіты чуб і поўнакроўнае, яшчэ прагавітае мацярынства. Даніла ў форме салдата імперыялістычнае вайны. У двух жаночых галоўках наводдаль я пазнаю Веру і Кацю. Яны ўжо дарослыя, цвітучыя дзяўчаты. А гэта—Кацін жаніх... Чорт на яго,—калі гэта ўсё прайшло! Здаецца зусім нядаўна я іх ведаў дзецьмі...

Вечар лёг за вокнамі раптоўна і густа. Мне няма калі ўспамінаць свайго пакінутага ў сястры дзяцінства. Аднекуль, як па сігналу, пачы-

нае збірацца сям'я. Адно за адным: і Вера, і Раіса, і Коля, і Алёша, і Алесь—я іх ледзь пазнаю. І зусім ужо позна прыходзіць Даніла. Ён нібы замыкае сабою круг рабочага сумятлівага дня і прыносіць права на адпачынак.

— Уга, во які госць у нас,—гаворыць ён сваім вечна спакойным і роўным голасам, і сунімаецца ў парозе, каб напіцца вады.

2

...Ноч звініць за вакном аднатоннымі каплямі. На сцяне ходзікі няўтомна клююць цішыню, і паўзуць, адна ў адну, абганяючы стрэлкі. Мы яшчэ доўга сядзімо ўтраіх. Мне прыемна пазнаць пра навіны і змены ў калгасе і ў іхным жыцці. А селавыя гаворкі доўгія нескан·чоныя, як зімовыя вечары. Яны поўны і трывог, і радасцей, і надзей, і балючых хваляванняў. Сястрын голас звонкі, высокі і поўны ліецца непарыўчата і сакавіта і неяк непадкупна праўдзіва і цёпла.

— Няма чаго і талкаваць,—гаворыць яна, як-бы ў заключэнне сваіх думак,—што цяпер ужо ў нас не гора. От і дзеці-ж усе бадай вучацца, пакуль што гэта-ж нахлебнікі, а тым-часам, што трэба то і маем, і не бядуем. Каця-ж дык онь нават ужо настаўнічае каля Урэчча. А што сёлета, дык некаторыя, у каго работнікаў было многа, аднае бульбы колькі напалучалі.

Даніла сядзіць, як заўсёды, маўклівы і строгі. У гаворку ён урываецца рэдка і раптам, і, засаб выказаўшы ўсе свае думкі, гэтак-жа раптам сціхае. Яго вельмі хвалюе, калі ёсць непарадкі. Ён будзе тады мучыцца і кіпець, і ўвесь свет будзе ўспрыймаць толькі праз іх.

— Бузы бо ў нас пападаецца яшчэ многа, от што. Лезе іншы ў правіцелі, а самому хоць пальцам паказвай. Або мала напакасціў гэты чорт сляпы, што быў у нас за старшыню? Сабраў ля сябе любімчыкаў—то кумоў, то сватоў,—дый панаваў, тайком сыры ды масла паядаючы. Коні былі пазаганялі да таго, што на іх страшна было паглядзець...

Апошняе ён сказаў загарэўшыся, і адразу-ж патух. Ён сказаў сваё самае балючае. І ўсё ранейшае, фактычна, ён гаварыў для таго, каб толькі ўпамянуць пра коні. Ён—канюх. Гэта яго няшчасце і радасць. Конь для яго ўсёадно, што свая кроў ці сваё дзіця. Няхай толькі ён захварэе, дык з ім захварэе і сам Даніла. Ён не будзе тады ні есці, ні спаць, ён хадзіцьме з ліхтаром раз-по раз у хлеў, як лунацік, і тады ўжо ніякая работа не пойдзе яму ў рукі. Я памятаю, як у яго некалі была захварэла свая сіўка. Тры дні ён тады нічога не браў у рот, а хадзіў, як разбіты,—пануры і ачужэлы. Сястра тады баялася ўжо не за кабылу, а за самога Данілу. Яна не адступалася ад яго, упрошваючы як дзіця.

— Ну, Данілка, ну, кінь. Ну, няхай сабе яна здохне, то ты перш за ўсё сябе пашануй, а кабыла, калі жыць мецца, то набудзецца.

І боль у яго не за тое, што можа быць страта. Ён проста не можа трываць, як пакутуе немая і бездапаможная жывёла. Яна-ж не можа ні сказаць, ні паскардзіцца. Яму тады здаецца, што ў гэтым вінаваты ён сам. Я часта дзіўлюся, як можа мясціцца ў гэтым пануры і адзічэлым чалавеку такая невычэрпная чуласць і нежнасць, мяжуючая з мацярынствам.

— Ну, але цяпер ужо годзе,—астыўшы, гаворыць Даніла.—Цяпер у нас Грышка, і чалавек ён здаецца талкавіты.

— Які Грышка?

— А ты-ж яго мабыць ведаеш,—падказвае сястра,—Грыбаль Грышка.

Я прыгадваю. З дзяцінства майго выплывае вобраз задзёрыстага хлапчука, майго аднакласніка па школе. Мы яго тады звалі проста Грыб, і ў яго такі, праўда былі рыжыя непакорныя валасы, стрыжаныя наўкругам, як застрэшак. Ён жыў на канцы сяла і насіў у зрэбнай торбачцы кнігі. Узімку, выходзячы з школы, мы заядла рэзаліся ў снежкі, а ўлетку гулялі ў таланта ці качалі па вуліцы кацёлку. Здаецца ў настаўніцы мы выбілі аднойчы вакно, і тады пахаваліся хто куды, адцураўшыся нават кацёлкі. Пасля я яго неяк сустракаў, калі ён ужо быў чырвонаармейцам; я бачыў тады яго мелькам, і ў памяці астаўся толькі цмяны вобраз высокага і энергічнага чалавека.

— Дык ён у вас цяпер за старшыню?—пытаюся я, ніто радасна, ніто здзіўлена.—Ну, як-жа ён?

— А, нічога, бярэцца добра,—устае Даніла, папраўляючы свой калючы белабрысы вус, і ідзе спаць, трымаючыся за паясніцу штаноў.

— Ну-у, ён-жа комуніст,—дадае сястра, з нейкай асабліваю павагаю гаворачы гэта слова. Я чую, як унутры маім падымаецца і падступае да горла нявыказная хваля пяшчоты і радасці. Мне хочацца падыйсці і пацалаваць Ульяну. У гэты час я ганаруся ёю, як самаю лепшаю часткаю чалавека ў самім сабе; яна, чартоўка, і не ведае, дачаго я яе люблю.

3

Назаўтра я шукаю, каб убачыцца дзе з Грыбалём. Але яго не так-та лёгка і знайсці. У праўленні я застаю аднаго толькі Лапеку Ігната—даўгалыгага рахункавода. Ён заняты з працаднямі, і на стале ў яго ляжаць недабітыя лічыльнікі і груды працоўных кніжак. Гэта таксама мой даўні знаёмы. Ён быў на два класы старэй за мяне і меў рэпутацыю безнадзейнага гультая і абібока. Цяпер гэта рослы мужчына з чорнымі слядамі пабрытых вусоў і з мяккім, нейкім лірычным басам. Ён усміхаецца сваім знакамітым шчарбатым зубам. Ён расказвае мне пра калгас, у той час і запісваючы свае таямнічыя лічбы, і гаворачы з прышоўшым калгаснікам—як Юлі Цэзар... Я іду, думаючы сустрэць Грыбаля дзе на сяле—на таку, ці на ферме. Але яго нідзе няма, і я пачынаю аглядаць ваколіцы.

Любата! Дождж перастаў яшчэ ўночы, ад яго асталася толькі земляная пахучая вільгаць і густы, цяжкаваты сінец гарызонту. Палеткі то велічна падымаюцца ўзгоркамі, засланяючы адзін аднаго, то ападаюць пакатамі, па якіх, пенячыся і размываючы гліну, сцякае ўчарайшая вада. Дзе-ні-дзе высяцца і мшэюць у спрадвечным сне валаты-камяні—сляды дагістарычных фінляндскіх ледавікоў. Іхныя, некалі расцёртыя неймавернаю сілаю аскепкі, валяюцца па дарозе, і на загонах паскіданы ў пірамідальныя камяніцы. Вада булькае і шуміць, прабіваючы ручайкі, і збягае ў звілісты, вякамі прарыты ў нізіне роў. Ён глыбокі і абрывісты, гэты роў, і абвеены таямічнымі легендамі. Яго берагі падымаюцца голымі выступамі, а вада стогне і бурліць далёка ўнізе, як у цясніне, прабіваючы камяні і абвалы. Аднойчы пасля навальніцы, калі вада змыла з сабою зямлю, на дне яго былі знодены два калодзезі. Дуб быў чорны, як вугаль, і цвёрды, як косць. Калодзезі паразбіралі і парабілі пасудак. Пасудак быў моцны і незнашоны. І нават самыя старыя дзяды не памятаюць там ніякага паселішча. Яны ўспамінаюць, што там быў драмучы лес, шумелі векавечныя дубы і між іх вілася невялічкая сцежка. Я гляджу цяпер на гэты роў і ў шуме вады чую далёкую дрэўнасць. Роў вывіваецца, неўмалёна ўядаючыся ў аграмаднае цела зямлі. За ім пачынаецца зялёны аксаміт жытоў. І, расцілаючыся недзе ў бясконцасць

па гэтых выгіністых узгорках, зліваецца на гарызонце з хмарамі. Я іду лёгкі, акрылены, нават не чуючы паналіпаўшае да ног зямлі. Я не магу наглядзецца на гэтую шыр. Па мне разліваецца нейкая невыпеўная радасць зямлі, як радасць табою апладнёнага нараджэння...

За Равамі я паварочваю да хаты і іду агародамі. Унізе цягнецца балотца з радкамі скошанае атавы. Тут некалі былі непраходныя нетры і ў іх гразлі штогод каровы. Але я гляджу ў далячынь, я шукаю вострава—гэтае легендарнае краіны майго дзяцінства. Гэта быў куток вечна шумлівага, цёмнага лесу, абкружанага гэтым чартоўскім балотам. Там вяліся і начамі ўзімку завывалі ваўкі, а ўлетку пасвіліся каровы. Недаступны і далёкі ад нас, дзетвары, ён быў авеены ў нашым ваабражэнні ружовымі казкамі, лёгкімі і дзівотлівымі, як міраж. Мы ўцякалі туды ад мацярок на цэлыя дні. Мы лазілі па дуплях дубоў, раскладалі пад развесістымі кронамі агні, і гулялі ў таланта. Як жалобна крычалі паспорваныя вараняты ў нашых руках! Я памятаю, як мне захацелася вымяняць ў кагосьці нейкае чароўнае шкелка, гледзячы ў якое відаць было безліч чалавечых твараў. Я цяпер ужо ведаю, што гэта было: гэта было гранёнае шкелка ад кішанёвага электрычнага ліхтарыка. Тады я даваў за яго маленькае маталічнае калёсіка, знойдзенае мною ў паповым сметніку. Гэта было калёсіка з-пад нікелёвага ложка, але тады гэтага я таксама не ведаў... На востраве мы адчувалі сябе веліканамі, кожны з нас рабіўся дарослым і самастойным. За гэта мне часта пападала ад сястры, але, ўлучыўшы хвілінку, я забываўся пра кару і зноў уцякаў.

Замест вострава я бачу роўнае пакацістае поле. Вакол яго прапала балота, і вока нідзе не зачэпіцца нават за які-небудзь лядашчы куст лазняку ці за чахлую, разгатую алешыну. Няма майго легендарнага лесу, які, фактычна, і быў жменькаю недалужнага прыбалотнага рагач'я, пературоранага ў казачную краіну нашаю неспакойнаю дзіцячаю фантазіяй. Вышэй, падымаючыся да старых палеткаў, стаіць сяло. Яно яшчэ невялікае, але дзіўна прыгожае, нейкае святочнае і радаснае, нібы выйшла туды спраўляць маёўку. Гэта аддзяленне калгаса. Вунь-жа прыжмурваецца сваімі незлічонымі вокнамі новы свінарнік. За гумнамі на чорных нібы градах, загонах тырчаць аголеныя сцяблы сонешніку ды кукурузы. На геаграфічнай карце мае памяці ні гэтага сяла, ні гэтых культур няма—тут павінна быць невялікая палянка ды фальбарак недалужнага паўпанка Броські.

Я гляджу і дзіўлюся. Быдта прайшлі не гады, а цэлая вечнасць. Якая неймаверная сіла ў гэтага аднаўленага чалавека. Слухай, як-жа пазнаць цябе, мая бацькаўшчына?

4

Дома я застаю карчакаватага, с сівымі пасмалі ў барадзе, чалавека. Ён вітаецца, я бяру ягоную руку і гляджу ў твар. Вочы нішто баязліва вывучаюць мяне, ніто іранічна ўсміхаюцца. Урэшце я пазнаю пастарэўшага Цымбала.

— А, здароў, дзядзька,—кажу я,—я ледзь пазнаў вас.

— Дык вы-ж усе так цяпер, не пазнаеце нас, бацькоў.

— Як гэта не пазнаем?

— От мой-жа адцураўся, не піша. Бацькі цяпер не патрэбны, калі ўжо вас павыгадоўвалі.

— Калі нягодныя бацькі, дык, канешне, не патрэбны.

Мне здалося, што Цымбал чамусьці неяк нядобра паглядзеў на мяне. Быдта я сказаў пра яго. Ён уздыхнуў, павярнуўся да мяне бокам

і замоўк. Пасля толькі я даведаўся, што ён „кругом пакрыўджаны". Яго не прынялі ў калгас за кулацкую агітацыю. За гэта з ім пасварыўся сын і адцураліся суседзі. Цяпер ён ходзіць і раскайваецца, і крыўдзіцца, што яму ніхто не верыць.

Ён уздыхае, скрабе ў барадзе, і відаць, што пра нешта хоча загаварыць. Ён можа знарок прыйшоў пра што запытацца і не адважваецца.

— Скажы ты мне,—урэшце садзіцца ён паволі на лаве, і глядзіць мне проста ў вочы,—ці гэта ў нас ужо бяскласавае грамадства гэтае ёсць ці не?

Я хачу зразумець хаду ягонага запытання і настарожваюся.

— Мы яго будуем,—кажу я.

— Дык, значыцца, і барацьба гэтая класавая таксама яшчэ не скончылася.

— Не, не скончана.

— Та-а-ак,—уздыхае ён, памаўчаўшы,—а я думаў, што мы ўжо ў соцыялізме... Нядобра,—каротка заключае ён, паскубваючы бараду.

— А чаму гэта ты, дзядзька Цымбал, пытаешся?—цікаўлюся я.

Ён адказвае не адразу, а перш глядзіць на ўсіх, прабуючы ўсміхнуцца.

— Дык я-ж і кажу. Я думаў, што ў нас ужо бяскласавае грамадства гэтае, як пісалі, што ў другой пяцігодцы будзе, то я ўжо хацеў ісці дый патрабаваць, каб мяне ў калгас прынялі, бо тады-ж я быў-бы ўжо роўны з усімі.

Цымбал рагоча кароткім дробненькім смехам і відаць, што рагоча ён нехаця, а так—для людзей.

За вакном густа і нізка перакочваюцца воблакі. На акне ляжаць ненадзетыя мною зялёныя шкарпэткі. Я чую, як пасля хады пачынаюць ныць мае ногі. Сястра ў кухні крычыць на сабаку. Яна нешта бесперастанку робіць. Яна вечна чым-небудзь занятая, гэтая Ульяна. Яе дзень сумятлівы і неспакойны, як перад жнівом. Я бачу, як яна то паказваецца ў хаце, то нейдзе знікае, то зноў варочаецца, стукаючы па падлозе голымі пяткамі.

Цымбал доўга сядзіць, уставіўшыся недзе ў куток, на гэты час расшыранымі, шклянымі ўвачыма.

— Няма справядлівасці,—гаворыць ён урэшце.—Што я кулак які ці што, каб мяне нават у калгас не прыняць? Што я забіў каго, ці зарэзаў?

— Ат, не крывіце душою, дзядзька Цымбал,—высокім нецярплівым голасам урэзваецца Ульяна.—Не такі ўжо вы маленькі, каб нічога не ведаць. Нябось папабэсцілі нас не мала, дый цяпер, богу дзякаваць, язык не на прывязі, але ўсё гэта быдта скардзіцеся, што вас крыўдзяць.

Я чую, як цяжка Ульяне стрымацца, каб не перайсці ў злосць. Яе рукі нервова папраўляюць расслаблены вузел хусткі. Цымбал устае і грузна ідзе ў дзверы, але дзверы адчыняюцца і на парозе паяўляецца Богуш. Яшчэ з парога ён смяецца сваімі маленькімі прытушанымі вугалькамі і ўжо гаворыць пісклявым, заржаўленым голасам.

— Ну, што прыехаў, коцік, а? Сястру захацеў праведаць? А як-жа, трэба, малайчына. Ну, як-жа пажываеш, коцік, скажы? Эч, ты, і барада вырасла, хе-хе-хе.

Ён гаворыць, не перастаючы, то пакашліваючы, то ўсміхаючыся, і ўвесь час ходзіць, паціраючы рукі. Ён сухі, танклявы, з вузкімі плячыма і з гостраю бародкаю—увесь варушкі і неспакойны, як на

спружынах. Такое ўражанне, што ён некуды вечна бяжыць і спяшаецца, каб не спазніцца. І смех яго дробны, кароценькі, таксама таропкі і неспакойны.

— Як-жа калгас табе наш падабаецца, а? Усё пішаш? Я-ж таксама ў калгасе, коцік, і нічога, ведаеш, добра... Ты-ж гарэлкі ці маеш, Ульяна? Яна цябе можа і не ўчаставала?.. Ну, як-жа скажы, коцік, ці ў нас ужо бяскласавае грамадства ёсць? Цяпер без класаў ужо?

„Хто гэта іх панавучваў?“—думаю я, згадваючы Цымбала, і бачачы тут невыпадковасць. Але паволі здагадваюся. Я пачынаю прыгадваць усяго Богуша, і ён паўстае перада мною, як на далоні.

З японскае вайны ён варочаецца не простым салдатам, а з нашыўкаю—фельчарам. З братам ён дзеліць гаспадарку. Яму ўжо не да твару калупацца ў зямлі, ён прадае сваю часць і едзе ў свет. Ён жыве ў Сіняўцы, у Нясвіжы,—у яго там нейкія важныя, па службе ў салдатах, знаёмыя і панна Паліна. Пратраціўшы „маёмасць“, ён варочаецца назад. Але ён ужо не просты селавік, ён водзіць знаёмства з валаснымі паненкамі ды з пісарамі. Урэшце ён жэніцца на нейкім паповым неданоску. Яна—старая, звяглівая і напалову вар'ятка. Яны пачынаюць лячыць. Яна—шэптамі і зёлкамі, ён—каплямі. У хаце паяўляюцца яйкі, сыры, масла, усялякае дабро. Хворыя павінны плаціць добра, бо другі раз пан Богуш не будзе лячыць. Яна—бегае па хатах і нюхае, чым у каго пахне з печы, хваліць страву і просіць прынесці дробак гэтага мяса і ёй.

Рэволюцыя застала Богуша ў новенькім, гонтамі крытым доміку, з шкляным, памалёваным ганкам, з кветкамі вакол яго і з садзікам. У рэволюцыю кветкі пасохлі і пабітыя шыбы ў ганку пазабіваліся дошкамі. Ён бачыў, што нічога з гэтым не зробіш—на перабой ён усім хваліў рэволюцыю, але на дно куфра беражліва схаваў партрэт Нікалая. Часы ішлі і Нікалая давялося дастаць і спаліць. Жонка памерла, гаспадарка асунулася, і ён падаўся ў калгас адразу-ж, як яго толькі арганізавалі—нават быдта лёгка і радасна. Ён-жа не лячыў цяпер ні зёлкамі, ні шэптамі, і быў сапраўдным совецкім фельчарам. Але, калі заходзіў палячыцца „надзейны“ чалавек, Богуш рад быў успамянуць добрае старое. У Польшчы ў яго жыла дачка. Яму прыемна было з кім-небудзь паскучаць па ёй і адкрыта ўздыхнуць. Ён нават мог сказаць цішком якую „свежую“ навіну ці паталкаваць пра палітыку. Ён мог параіць чалавеку, як трымацца, каб было спакайней. Наогул быў чалавекам „прадбачлівым“. І ясна, што гэта ён навучаў Цымбала здавацца несправядліва пакрыўджаным і „чакаць“ бяскласавага грамадства.

— Дык ты і на Каўказе быў?—беспярэстанку парашчыць ён.

— Ну як-жа там, добра? Усяго хапае, не галадуюць? Хаця-б не галадавалі, коцік. І чыгункі па горах ходзяць? Ог, бач, Ульяна, гэта ніто што мы з табою сядзімо тут у гэтым пекле, а ён дык онь колькі свету пабачыў... А скажы ты, коцік, ці гэтыя чыгункі там старыя яшчэ, ці ўжо цяпер пабудованы?

Я зноў бачу наскрозь гэтага „палітыка“ і злосна, гледзячы ў вочы, гавару:

— А нягодны ты, дзядзька Богуш. Я-ж ведаю, чаму ты пытаешся старыя яны ці цяперашнія. Ты хочаш, каб я сказаў, што старыя, тады ты пабяжыш абрадаваны шушукаць: „ага, от бач, і дарогі яшчэ нікалаеўскія, яшчэ ўсё царскае, аднак, спажываем“. Свежы хлеб табе быў-бы.

Богуш неяк горбіцца, збіваецца з панталыку і спуджана маргае вачыма. Ён пробуе жартаваць, але кашляе, заікаецца, і хударлявая постаць яго яшчэ больш корчыцца і неспакойна шавеліцца.

У дзвярах чуецца свежы тупат і галасы. Даніла нясе перад сабою папраўлены хамут. За ім я бачу нечыя шырокія плечы і цвёрды шаг. Праз хвіліну я пазнаю калгаснага здаравілу, каваля Антона, а за ім Грыбаля. Яны цiснуць мае рукі сваімі жалезнымі рукамі, і трасуць іх. Іх двое, але здаецца, што тут прыйшоў цэлы натоўп. Богуш з Цымбалам непрыкметна, але таропка знікаюць. У хаце становіцца шумна і ўзбуджана радасна. У Антона наперадзе шырокі залаты зуб, і ён блішчыць і смяецца разам з Антонам. Якія яны здаровыя і свежыя, быдта прынеслі з сабою іншы свет. Я гляджу на Грыбалеў твар, ён яшчэ малады, але суровы і каменны, з глыбокаю папярочнаю складкаю на ілбе, і з шурпатымі слядамі вятроў. Раптам я ўспамінаю гранёнае шкелка рыжага, з непакорнымі валасамі картуза, і рагачу.

— Чаго ты?

— Шкелка,—гавару я.—У цябе было такое харошае шкелка і ты не хацеў са мною мяняцца. Мы тады бегалі ў палатняных, з паадтоптванымі калошамі, штанах.

— Во ўспомніў,—гаворыць ён, канфузліва ўсміхаючыся і расшпільваючы свой прасторны, без пояса, шынель.—Ну і дадумаўся,—давай лепш пра цяперашняе.

— Давай, старшыня...

5

Цёплая раніца чакала мяне ля парога з асядланым канём. Сястра праводзіла мяне за вароты і доўга стаяла, пакуль я не схаваўся за аселіцаю. Падыхаў лёгкі восеньскі вецер, і сонца нехаця варочалася ў густых, цяжкаватых воблаках. Дорога вілася і звінела наперадзе, як бясконцая песня. За мною замыкаўся і патухаў свет спадманлівага майго дзяцінства. Я варочаўся ў свет няўтомнага, прагнага, найпрыгажэйшага нашага жыцця.

Менск
1933—1934

---

АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ

# ГАРБУН

*ПАЭМА*

## ПРАЛОГ

У высокіх, стагодніх прысадах
Павятовы стаіць гарадок,
У ноч на восьмага лістапада
Там гудзе фабрычны гудок.
Рэволюцыя! І страляніна
Плошчу, парк асвяціла агнём...
Дыктатура ідзе! І дзяўчына
Бомбу кінула ў белы дом.
Вокны ў сад адчыняючы, дзверы,
Стрэльбы кідаючы, кулямёт,
Ваяўнічыя афіцэры
І эсэры лезуць праз плот.
Яны спрытна зрываюць пагоны,
Уцякаючы ў глыб начы;
І рабочыя сцяг чырвоны
Падымаюць на каланчы!

*РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ*

## ЭСЭРЫ

I

У Анісіма Шкроба
гонтам крытыя
хаты,
кузня, млын
і на тры дзесяціны сад,
і стаеннікі коні,
і статак рагаты
і шырокі кулацкі
зад.
Кіраваў ён у воласці пеклам
і раем—
войт дзяржаўнай казны
і царкоўнай
казны,
і медалі насіў за царом

Нікалаем—
старшыня валасны.
Кожны дзень млынары яго,
круцячы жорны,
парабкі, прыгінаючыся
да зямлі,
Кавалі, запаліўшы
печы і горны,
пекла працы
клялі...
І за гробам ішла
старшынёва
апека.
І пад крыжам
крычалі яму:
не карай!
Перад ім на каленях, укленчыўшы,
пекла
галасіла, кляло
яго дом,
яго рай!
Рай,—дзе ходзяць сабакі
і грэшныя душы,
рай, дзе бронзавыя
на куце
абразы,
дываны на падлозе
аксамітныя,
плюшы,
залатыя, сярэбраныя
тазы...
Дом, дзе светлыя вокны
і сонца багата,
пад страхою высокай—
узор з дзеразы;
дом, куды заязджаюць
у кірмаш і на свята
павятовыя, валасныя тузы.

2

Медуніцы. Антонаўкі.
Слуцкія бэры.
Пяцісценная лазня. Дубовы
памост...
Кожны год да яго
прыязджалі эсэры
на патайныя сходы
за семдзесят
вёрст.
Разам з сынам
ішлі яны ў лазню,
і доўга
там сядзелі (высокая ў садзе
трава)...

Зоры падалі ў дрэвы,
маўчала дарога...
І ён слухаў, Анісім, як крычыць
сава,
як калоціцца вечарам
ліст на асіне,
і чакаў, сам не ведаючы
каго...
Пасля сходаў эсэры
спалі
на канюшыні
з парабчанкамі
і дачкамі яго.

3

Летам парабак панскі
Цімох Загула
Узняў бунт у маёнтку,
як прыйшоў
з вайны...
І ўся воласць вялікая
бачыла,
чула:
змоўклі Шкробавы, панскія
кузні, млыны.
Шкроб на шыбкім кані сваім
вечарам хмарным
прыскакаў у павет,
лесам ехаў адзін...
На другі дзень у воласць
атрад прывёў карны
яго сын—
Нікадзім.
Прывязалі вяроўкай пяньковай
да шулы,
хлудам парабка білі,
прымушалі:
— Нясі!
Была страшною смерць
у Цімоха Загулы;
з гадавальнікаў панскіх
глядзелі ласі,
калыхаліся, падалі дрэвы
крывыя,
адвячоркам над пушчамі
плыў маладзік,
беглі следам за ім
панічы маладыя;
біў яго Нікадзім
і крычаў:
— Большэвік!
Вяла ўперад нянавісць
Цімоха
Загулу.

Ён пранёс сваю ношу
праз увесь
панскі двор,
потым лёг на зямлю
пад дубовую шулу:
— Смерць Анісіму Шкробу!—
сказаў
і памёр.
Парабчанка сястра галасіла
над братам,
калі ў полі труну
засыпалі пяскі...
у асінніку ціхім, пад дубам
гарбатым
пахавалі яго
парабкі.

. . . . . . . . . . . . .

4

З гарадка павятовага ў досвітак
шэры,
пераехаўшы на Сожы
паром,
праз дажджы і грымоты ўцякаюць
эсэры:
афіцэры Нікадзім
і Ром.
Разам хаты мінаюць,
платы
і гароды,
і царкоўныя коўраты праязджаюць
яны,
афіцэр Нікадзім
адчыняе вароты
у той двор, дзе жыве
старшыня валасны.

5

Пачынаецца ранак, і госці,
як дома,
у Анісіма
адпачываюць цяпер...
Мы-ж прыгадваем
біяграфію
Рома:
бацька—панскі аконам,
сын—эсэр.
Два гады ён вучыўся
на землямера;
у жніво і трубіла, і выла
вайна,
і гула пры дарозе
жабрацкая лера
пра германскія мечы з відна...

І акопы капаючы, і паходныя
ранцы
на салдацкія прымасціўшы гарбы,
памiралі і рускія,
і германцы
у Галіцы,
каля вярбы.
Ром-жа хабара даў
генеральскаму
чыну.
І пад восеньскім небам,
і дрэвам
глухім
генерал яму поспехаў зычыў,
як сыну,
і паехаў герой ваяваць
на чужыну,
у абоз—капценармусам палкавым.
А праз тыдзень бацьку яго—
аконама
забіў панскі стаеннік у полі,
І так,
залатым крыжам і царкоўным
іконам,
адпяваў яго поп
і дзяк:
„Не вкусивших грешного
плода и злака,
в рай прими и врата
открой"
(так, як вылечы пранцы
ў рыжага дзяка,
у папа—
гемарой!)

На стале самавар вые, свішча
ад злосці,
і сядзяць за шырокім дубовым
сталом
у Анісіма Шкроба
шаноўныя госці:
Нікадзім—яго сын
і Ром.

Ром:

Совецкімі воласці будуць,
паветы,
у сталіцах і вёсках
большэвікі.

Нікадзім:

Парабкі прыбяруцца ў саеты,
мы-ж, эсэры...

Шкроб:

Дзівакі!..
У сяле, што за семдзесят вёрст
ад чыгункі,
дзе пісьменнага чалавека няма,
Нікадзім,
вызначаць сваё права шляхі
і кірункі
трэба мне, трэба нам
самім.
— Мужыкі!—крыкну я,—
пастухі і аратыя,
мне—советы належаць,
а вам—
зямля,
хай-жа нівы растуць залатыя,
багатыя
на раллі вашай!..

Ром:

А я?

Нікадзім:

Рызыкоўныя, марныя планы!

Шкроб:

Чаму?

Нікадзім:

Перажыў ты багата
трывог...

Ром:

Табою-ж, Анісім,
закатаваны,
большэвік
Загула Цімох...
Шкроб Анісім, ты слухайся,
свайго сына!

Нікадзім:

Будзе Ром кіраваць сялом...

Ром:

Калі-ж зацвіце, зашуміць
канюшына,
ты ў цішы даглядацьмеш
і сад, і дом...

Нікадзім:

Сваіх коняй, свой статак
рагаты!..

Ром:

А ў крыўду не дам—
я-ж твой друг

і госць!
Будзеш жыць ты, як дуб:
належны, багаты...

Сын:

Магутны, шчаслівы!..

## КАРА

### 1

Шандабыла Антон
дзевятнаццатага лістапада
на чыгунцы
з таварнага поезда
злез.
На радзіму прыехаў
ён з Петраграда
і дарога цяпер
павяла яго
ў лес.

Чулі рэкі і вазёры,
чайкі сумныя крычалі,
гулі дрэвы і пячоры,
як Загулу катавалі.

І акопы прайшоў ён,
і лазарэты,
і франты,
і ў яго адрасла
барада...
У паходным ранцы
ляжаць газеты,
тры брашуры Леніна,
хлеб,
вада.

Кара—вырасла травою
і наскрозь праходзяць глыбы,
пад глыбокаю вадою
захавалі яе рыбы.

Дрэвы, голыя, цвёрдыя.
У лісты ляж,
паклікай:
будзе рэха дрымотных, суровых
зім...
Ціхім ранкам у лесе,
на дарозе вялікай
стрэў яго афіцэр
Нікадзім...

Яна—цёмнае карэнне
і падземны гул крыніцы.

І—як яснае гарэнне
пяруна і бліскавіцы.

Дзяцел дзюбаю
ў сук біў сасновы
са звонам,
Нікадзім з каня злазіў,
у дрэвах старых;
пры дарозе пад восеньскім
небам і клёнам
адбылася сустрэча і ростань
у іх.

Так, як дождж, як град над гаем
не праходзіць кара міма,
і ў дарозе насцігае
афіцэра Нікадзіма.

## КОМУНАРЫ

1

Галыншчынай завецца бор,
Там панскі сад і двор,
Палац над кручаю ўгары
І вокнаў трыццаць тры.
Жыве ў ім Ластаўка Макар—
Сын берастовых труб,
Агей Жаўна і Вольдамар,
І сірата Якуб.
У пана адбываў палон
Салдат нямецкі Курт,
Пасля вайны і згоды ён
Прышоў ў іхны гурт.
Нарэшце, з хутарскіх сядзіб
Прыбег Даніла Дыб,
Ён кляў свой парабкоўскі лёс
І звон кулацкіх кос.
І ў сем'ях слухалі людскіх,
І ў пушчах чулі, як
У панскія харомы іх
Склікаў гарбун-рыбак.
Шабля секла, куля біла—
Не загінуў ён.
Клікаць яго—Шандабыла,
А імя—Антон.

2

Плылі яны пад вярбою,
Па вірах плылі,
Ішлі яны даліною,
Гарою ішлі.
А ўслед вецер апантаны
Вые на шляхох.
Пад якімі пахаваны

не думаў, што ён такі, такі вось ў пытаннях адносін да сялян. У гэтых справах у яго нават няма малейшага праяўлення таго, што прынята называць чалавечнасцю.

— Добра, я не буду спрачацца з вамі пра якасці Пілацеява. Але мне хочацца, каб вы ўзялі гэтую справу ў свае рукі.

— Я вас не зусім разумею.

— Бачыце, я пераконаны ў тым, што Пілацеяў робіць несправедліва, і калі-б сяляне паскардзіліся, мне здаецца...

— З гэтага нічога не выйдзе. Скаргі сялянскія ні да чаго не прывядуць.

— Калі-б за справу ўзяліся вы...

— Шукаць справядлівасці ў казённых канцылярыях, дзе сядзяць такія-ж дваране, як і Пілацеяў,—гэта крыху смешна.

— Усё-ж такі лепш гэта, чым канфлікт.

— Наадварот, прафесар.

— Як-жа наадварот? Ну, я разумею, калі стаяць на вашым пункце гледжання, гэта было-б лепш, калі-б такі канфлікт, хаця я ні ў якім разе яго не адабраю, калі-б, скажам, такі канфлікт паспеў у маштабе усёй Расіі, калі-б гэта насіла характар сялянскай аграрнай рэвалюцыі, але-ж тут вы маеце справу з адным, зусім нязначным фактам, з канфліктам, у якім абавязкова праіграюць сяляне.

— Чаму вы так думаеце, прафесар?

— Ну, што-ж, хіба вы не разумееце? Зямлі не аддаць яны-ж не змогуць?

— Чаму-ж не змогуць?

— Таму хаця-б, што фармальна ўсё зроблена па закону.

— У законах не такая вялікая моц, як вы думаеце, прафесар. Уся справа ў тым, каб не сяляне хадайнічалі, а каб пачаў хадайнічаць Пілацеяў. Калі сяляне будуць трымацца да канца, гэта акажа даўленне і на канцылярыю там, уверсе. У такім выпадку сяляне могуць выйграць значна хутчэй.

— Але вы не хочаце зразумець другога?

— Чаго, прафесар?

— Таго, што ў часе канфлікта могуць пастрадаць сяляне. Уявіце, што парабкі Пілацеява прыедуць заворваць поле. Сяляне захочуць не даць ім рабіць гэтага. Зачыншчыкаў арыштуюць, будуць судзіць.

— Але што-ж з гэтага? Значыць дазволіць араць?

— Я думаю, што можна дамагчыся зусім справядлівага развязання гэтага канфлікта.

— А я ў гэтую справедлівасць не веру. Не вераць у яе і сяляне. У нас, прафесар, ёсць адзін селянін, Шкробат Тарэнта. Ён самы шчыры прыхільнік справядлівасці. Ён, здаецца, быў сярод дэлегацыі, але, як відаць, ён таксама не вельмі моцна верыць у існаванне такой катэгорыі, як справядлівасць. Дазвольце мне сказаць тое, што я думаю. Ні ў якую справядлівасць у дадзеных расійскіх умовах, якая бараніла-б інтарэсы селяніна перад дваранствам, ці рабочага перад заводчыкам, я не веру. Яе няма і не можа быць. Інакш дваранства павінна быць несправедлівым у адносінах да самога сябе. Так... і я зраблю ўсё магчымае, каб сяляне ў такую справядлівасць не верылі. Інакшага я рабіць не буду. Прабачце, але ўзяць на сябе ініцыятыву ў шуканні такой справядлівасці я не магу і зраблю ўсё, што змагу, каб сяляне яе не спрабавалі шукаць. Рабіць адваротнае, значыць сеяць дарэмныя і шкодныя ілюзіі, што такая справядлівасць існуе, а яе няма, прафесар.

— Але ўсё-ж-такі? Вы забываеце, што акрамя фармальнай законнай справядлівасці, ёсць яшчэ справядлівасць, як выяўленне пачуцця гуман-

насці, чалавечнасці, тое, што вышэй усякіх фармальных законаў. Яно адыгрывае вялікую ролю ў справе ўплыва на фармальныя дзяржаўныя законы.

— Часцей бывае наадварот. Шукаць такой справядлівасці ў дадзеным выпадку—справа яшчэ менш пасняховая, чым калі шукаць справядлівасці фармальна-законнай.

— Можа, быць, можа быць. Я бачу, што вас пераканаць у чымнебудзь дужа цяжка. Я вельмі шкадую, што вы адмаўляецеся накіраваць гэтую справу ў напрамку, які я прапанаваў. Я пераконаны, што калі б вы ўзяліся за гэта, справа скончылася-б у карысць сялян.

— Усё можа быць, але я за такую справу брацца не магу, прафесар. Гэта справа адвакатаў...

— А не рэволюцыянераў?

— Можа і так. Вы ўгадалі, прафесар.

— Прабачце, што я прышоў да вас з такой прапановай.

Галынскі пацiснуў руку настаўніку.—Дазвольце шчыра падзякаваць вас. Гутарка з вамі для мяне вялікая прыемнасць.

— Бывайце, прафесар. Я спадзяюся, што мы яшчэ не раз спаткаемся.

— Заўжды буду рад такому спатканню.

Галынскі пайшоў, а настаўнік яшчэ доўгі час стаяў на сцежцы, пазіраючы ў далячынь за раку. Там пад самым небакраем плылі цёмныя, густыя хмары. Час-ад-часу там успыхвалі бліскавіцы, і тады за хмарамі прыглушана вурчэў гром. Туды, у напрамку да рэчкі, ішоў Галінскі, і настаўнік яшчэ доўга назіраў, як чарнела прафесарава постаць, вырысоўваючыся на небасхіле. Калі Галынскі знік у прыдарожных кустах, настаўнік, спяшаючыся, пайшоў у вёску. Каля самай школы ён напаткаў сялянку, якая хадзіла прыбіраць ягоны пакой.

— Вам ліст прывезлі з воласці,—паведаміла яна, спыняючыся ў варотах, каб прапусціць раней настаўніка.—Я на стале яго паклала. Мусіць, нявеста вестку здалёк прыслала. Дзіва што прышле, такі харошы жаніх...

— Хіба-ж я харошы?—настаўнік усміхнуўся.

— А нё-ж не: малады, і прыгожы, і адукаваны. Дай бог кожнай нашай дзеўцы такога... Ну, бывайце, хай-жа вас ліст хоць парадуе, каб нічога там дрэннага не было.

— Дзякую, цётачка! Дрэннага не будзе.

А ў пакоі адразу кінуўся да стала, схапіў са стала канверт і прачытаў адрас. Чытаў, каб зірнуць на почарк. Як пазнаў почарк, абарваў канверт і застыў каля вакна над густа спісанымі ліскамі паперы.

„...Любы мой, дарагі, харошы! З найвялікшай радасцю я чакаю нашага спаткання. Я лічу дні. Іх засталося не так багата. А за імі столькі радасці. Цэлых дзесяць дзён мы будзем разам. Праўда, гэта зусім не багата, але-ж я мірыся з гэтым тэрмінам, калі думаю, што на лета ўжо зусім прыеду да цябе, прыеду, каб быць нам заўжды разам. Нам будзе хораша, праўда? Я-ж моцна так горача люблю цябе. Ці чакаеш ты мяне? Ці хочаш, каб я прыехала? Напісала гэта і сама сябе лаю, бо дурань я за такія словы, бо хіба-ж ты можаш не чакаць мяне?..“

— Якая дзівачка ты!—Буднік павярнуўся тварам да стала, на якім у белай папяровай рамцы, зробленай самім, змяшчалася картка Лілы Земянковай. Радасная, яна, як жывая, пазірала з карткі проста ў твар яму і ўсмешкай дражніла.—Яшчэ як рад буду, яшчэ як чакаю, а ты не верыш, белабрысая. Вось прыедзь толькі хутчэй, тады ўжо я табе пакажу, як я цябе чакаю: зацалую да смерці...

А тады зноў чытаў ліст.

„Твой апошні ліст я чытала дзядзьку Васілю Андрэевічу. Ён жывы і здаровы, хаця ў нашай радні ў доме шмат хто захварэў. Хвароба пачалася на тым тыдні. Хворых адвезлі ў больніцу. Дыягназ пакуль невядомы і як доўга яны прабудуць там, хто ачуняе, цяжка пакуль што сказаць...“

— Малайчына ты, Ліда,—ён зноў павярнуўся тварам да карткі.— Разумная ты мая, харошая...

„...Васіль Андрэевіч вельмі рад, што ў цябе ўсё добра са здароўем. Ты малады яшчэ і павінен сваё здароўе берагчы, адносіцца да яго асабліва ўважліва. Гэта ягоныя словы. Вельмі дзякуе ён табе за навіны. Як прыеду, прывязу ад яго табе падарунак. Вось і ўсё. Ад знаёмых і ад Васіля Андрэевіча табе прывітанне. Як атрымаеш мой ліст, адразу-ж напішы. Я буду чакаць твайго ліста і часу, калі спаткаю цябе, роднага свайго, любага...“

Неба яшчэ не змянілася колерам, а знізу ад зямлі, дзе рэчка, падняліся змрокі. Яны гусцелі, перамяшаўшыся з туманамі, і плылі па зямлі ад рэчкі, запаўняючы сабою навакolле. Непрыкметна пракрадаліся ў пакой і з кутоў, з усіх бакоў, насоўваліся на стол, які стаяў непадалёк ад вакна. А з двара яны гэтак-жа насоўваюцца на будынак школы. Хутка ўсталюецца вечар. Тады Буднік запаліць лямпу і на маленькіх, вузенькіх лістках паперы будзе пісаць адказ на атрыманы ліст. А пакуль ён стаіць каля вакна, абапёршыся на лушняк плячом і перачытвае яго, аддаючыся ўспамінам. Час-ад-часу на твары яго нараджаецца радасная ледзь прыкметная ўсмешка. Тады ён па вяртае галаў у бок стала, адкуль, абкружаная змрокамі, насустрач яму пазірае Ліда, і паціху ласкава называе яе імя.

## ПАДЗЕЯ ВОСЬМАЯ

Павал Шкробат дайшоў да гумна і, каб адпачыць, сеў на старой рашэціне з азяроду. Цэлыя дні ён блукаў па гумне і па двары, рады хоць што зрабіць, але апаноўвала хворасць і тады з незвычайнай сілай падымалася з нутра крыўда. Крыўда была і на ўсіх, што яны вось здаровыя, і ні на каго, бо не было каго вінаваціць у сваім калецтве.

Хутка тры гады, як ён калека. У Сібіры брат лячыў яго, возячы за дзесяткі вёрст і да фельчароў і да знахароў. Брат спадзяваўся, што Павал вылячыцца і будзе ў гаспадарцы работнікам. Лячэнне цягнулася доўга. На лячэнне было аддадзена багата дабра,—усё амаль, што прыпадала на Паўлаву долю пасля бацькавай смерці.

Пакуль лячылі яго, у Паўла ў самога жыла надзея на тое, што яшчэ давядзецца і пажыць і парабіць. А пасля нейкі доктар сказаў, што лячэнне дарэмнае, што давядзецца яму застацца такім на век. Гэта было прыгаворам. Лячэнне было скончана. Трэба было жыць такім, якім застаўся пасля калецтва, і Павал жыў, носячы ў сабе і зайздрасць да здаровых і схаваную ў сабе вялікую крыўду на іх-жа.

Месяц падаўся далёка ўправа, за шапятоўскія гумны, і павіс над самымі кроквамі новай старастывай пуні, сеючы на зямлю мутнаватае святло. На вёсцы спявалі дзяўчаты песню.

„Ой насі злота, не хіні к грудзям
Ой гаруй гора, не кажы людзям...“

Пелі дзяўчаты далёка ў вуліцы, і адтуль песню прыносіў на гумно вецер. Часам словы з песні губіліся, не даходзілі, і тады Павал у паўголаса сам дапяваў іх.

Месяц зніжаўся. Цень азяродны выростаў і засланяў сабою гумно, падпаўзаў па мураве да самых ног. Было позна, а Павал усё не кранаўся ісці: ў хату, хацеў, каб павячэралі там і ляглі спаць.

Як ішоў Павал да дому, у вуліцы напаткаў дзяўчат, што спявалі. Ён спыніўся, саступіў з дарогі ў бок, перачакаў, пакуль прайшлі дзяўчаты. Яны ішлі гаворкія, голасна рагаталі і перакідваліся словамі, не заўважаючы яго. З гоманам яны разышліся па дварах.

Рыпнулі дзверы ў сенцах. Паціху адчыніліся і зачыніліся хатнія. Хата сустрэла цеплынёй і прымешаным да яе пахам пракіслага свінога цеста. Насустрач узняўся з-пад стала сабака і, пазяхаючы, выцягнуўся на ўсю сваю даўжыню на падлозе. Пазяхаючы, запішчаў.

— Глядзі ты! Гэта-ж ён у хаце сядзіць, каб яго ваўкі зарэзалі! Вон пашоў!..

Гаспадыня злезла з палка і затупала на сабаку нагамі. Тупала босымі нагамі па глінянай падлозе і сабака не баяўся. Ён пастаяў хвіліну на сярэдзіне хаты, мяркуючы, куды-б схавацца, калі гаспадыня ўзлуецца, а калі яна адчыніла дзверы, не спяшаючыся пашоў з хаты. На двару ці то ад злосці, што выгналі з хаты, ці то з другой прычыны, забрахаў, і, брэшучы, пашоў у бок да хлява.

Гаспадыня пазяхнула, зачыніўшы дзверы, перахрысцілася і зноў палезла на палок да дзяцей. А Павал зняў з біла над палком стары кажух, ускінуў яго на сябе і моўчкі пашоў з хаты. Яго ніхто не спыніў, не запрапанаваў павячэраць і да гэтага стала крыўдна, хоць сам-жа гэтага і жадаў, хоць сумысля для гэтага і не пашоў у хату раней, калі там вячэралі.

Каля хлява Павал прыпыніўся і лёгенька свіснуў. Гэта ён клікаў за сабою сабаку. Сабака моўчкі вылез з падваротні і, віляючы хвастом, пачаў лашчыцца. Калі Павал пашоў, ён гэтак-жа спакойна пацёгся следам за ім.

У пуні, у самым далёкім куце, ляжала леташняя жытняя салома. Туды першым ускочыў сабака і пачаў масціцца спаць, а за ім, разварушыўшы трохі салому, каб была мякчэйшай, лёг і Павал.

— Ну, спі, Мурза,—сказаў, звяртаючыся да сабакі.— Спі, брацеі— і далонню ў цемры наўгад намацаў сабачую спіну і пагладзіў па мяккай шэрсці. Сабака пакорліва выгнуў спіну, пацёгся галавой бліжэй да Паўла і задаволена застукаў па саломе хвастом.

У гэты момант прышоў у пуню Тарэнта. Ён пастаяў нерухома ў адчыненых варотах, прыслухаўся, крануўся быў пайсці назад, але затрымаўся і праз хвіліну зайшоў у сярэдзіну пуні.

— Ты спіш?

Тарэнта шыбнуў пытаннем у цёмны кут і насцярожна прыслухаўся. У куце зашамацела салома. Гэта Павал падняўся і сеў на саломе, а замест адказу закашляў:

— Трэба нам з табою да нечага дайсці,—сказаў Тарэнта, стоячы на сярэдзіне пуні.—Жыў ты ў мяне тры гады,—голас Тарэнтаў знерваваны дрыжэў і паступова выроўніваўся.—Я цябе з хаты не гнаў,— гаварыў ён,—і цяпер не ганю. Жыві сабе, але-ж ты сам ведаеш, як мне даводзіцца...

Пуня адказвала на Тарэнтавы словы глыбокім маўчаннем, і словы ў цемры глухлі і губіліся, было падобна, што чалавек гутарыць з самім сабою. Ад гэтага голас яго то мацнеў, то зноў рабіўся кволым, нясмелым.

— Я кажу, што трымаць цябе болей мне няма як,—раптам вырвалася ў брата пасля кароткае паўзы.—Мае харчы, ты сам ведаеш, якія. Адным словам, няма пра што тут доўга гутарыць, бо, каб было

на чым, дык тады-б жыві сабе і ўсё, а так я-ж адзін на ўсіх вас не нараблю: і на цябе, і на дзяцей сваіх...

Ён змоўк і стаяў, не кранаючыся з месца. Праз шчыліну паміж дошчак у шчыце свяціў у пуню месяц. Святло вузенькай палоскай ляжала на Тарэнтавай шапцы, на шчацэ каля вуха і на свіце. Было ад гэтата ніякавата; думаў ён, што з цёмнага кута пазірае на яго Павал і бачыць ягоны твар, але не мог скрануцца з месца, так і стаяў пасярод пуні, чакаючы Паўлавага адказа на свае словы. А Павал бачыў, як знервавава шавеліцца братаў твар і, наглядаючы за ім, маўчаў, бо не зусім добра зразумеў ён, чаго хоча той.

— Дык куды-ж гэта мне цяпер дзецца?

Павал запытаў і амоўк, а пасля, ніто крыўдуючы, ніто пытаючы ў брата парады, дадаў:

— Хіба ў старцы мне пайсці, ці што?..

І больш не сказаў ні слова.

— Дык што ты мяне дакараеш?—пакрыўджана азваўся Тарэнта.— Хіба-ж я вінаваты ў тым, што ты такі?.. Ці гэта ўсё гора мне аднаму трэба? Мо'ж і Мікіта не хворы спагадаць брату, у аднаго-ж бацькі радзіліся.—І, каб апраўдаць сябе, дадаў:—Каб было на чым табе сядзець у мяне, дык тады сядзі'б сабе, я тады нічога не сказаў-бы табе...

— Я цябе не дакараю, чаго-ж мне цябе дакараць. А да Мікіты я не пайду, не згадзіўся-ж ён мяне тады ўзяць...

— Рабі, як сабе хочаш, але трымаць цябе болей у мяне няма сілы... Мікіта гэткі-ж брат табе, як і я, і аднаго бацькі дзеці.

Тарэнта пастаяў колькі хвілін яшчэ, чакаў, можа яшчэ што скажа Павал, але нічога не дачакаўся і пашоў, прычыніўшы за сабою вароты.

Калі братавы крокі сціхлі, Павал лёг і нацягнуў на галаву кажух. Нейкі час ён ляжаў нерухома і спакойна. Ляжаў побач з ім і Мурза. А пасля гаспадар доўга варочаўся моўчкі і, выпростваючыся на ўвесь рост, рыўся галавой глыбей у салому і паціху стагнаў. Сабака падняў галаву, прыслухаўся і пачаў пысай шукаць гаспадаровага твару. Але твару ён не знайшоў, не мог падабрацца галовой пад кажух. Гаспадар маўчаў, а сабака адчуў, як заварушыліся нібы ў ліхаманцы, каляныя лапекі на старым кажусе. Нешта адгадаўшы, падаўся сабака яшчэ бліжэй да гаспадара, і, аблізваючы языком гаспадарову шапку, паціху працягла пішчаў і раз-по раз кратаў лапай кажух у тым месцы, дзе па-ягонаму сабачаму ўяўленню было гаспадарова плячо.

А тым часам Тарэнта проста з гумна прышоў на Мікітаў двор і адразу паляпаў яму ў акно. Мікіта толькі што пакла́ўся спаць і задрамаў. Разбуджаны стукам, ён падхапіўся з ложка і падаўся да акна, прыглядаючыся, каб пазнаць, хто там стукае ў такі позні час, а, пазнаўшы брата, у аднэй бялізне вышаў на двор.

— Чаго гэта ты ў такі час ходзіш? Мо' што?...—ён не дагаварыў, устрывожаны нечым недагаданым.

— З Паўлам я от гутарыў...—Тарэнта гаварыў, пазіраючы сабе пад ногі, і дзівіўся мімаходзь на левае крысо сваёй парыжэлай світы.

— А-а!—працягнуў, здагадаўшыся Мікіта і, заспакоены адгадкай, шырока на ўвесь рот пазяхнуў.—Дык што?

— Дык што? Дык што?—узлавана перадражніў яго Тарэнта.

— Табе ўсё нічога, а што гэта я каму падраджаўся хіба да смерці карміць яго, рабіць на яго, ці што? Мне ёсць на каго рабіць. Поўная хата вунь: раблю ды ніяк нарабіць на іх не магу, а ты-ж здэцца, гэткі-ж брат яму, як і я. Заўтра ён да цябе прыдзе, я адправіў.

— Я яго да сябе не прасіў, — спакойна сказаў Мікіта. — Патрэбы я ў ім аніякай не маю.

— А я маю патрэбу, што кармлю яго цэлыя тры гады?
— Ты пасля бацькі дабро за яго ўзяў?
— Я табе тое дабро аддам, з'еш ты яго. Дабро ўзяў! А лячыў я яго за якія грошы? І сваё вунь дабро аддаў на гэта!
— Вельмі ты ўжо багата перадаў там.
— А можа ты свайго перадаў, га? Яшчэ ўпікае...
— Я не передаваў, бо я-ж і ягонага не браў.
— А зямлю арэш?
— Зямлю я купіў, і ты зямлёй мяне не ўпікай.
— Багаты, а сэрца не маеш, як воўк.
Мікіта наступіў нагою на камень, што патрапіў пад ногі і доўга ўпарта ў злосці ўціскаў камень у зямлю і злаваў, што нельга разабраць, ці то нага падаецца мякаццю, ці то зямля.
— Дык ён заўтра да цябе пярэйдзе. Я сказаў яму, што больш трымаць яго не буду, няма на чым.
— Хм...— Мікіта варухнуў плячыма і злосна адштурхнуў нагою камень.—А чаго-ж гэта ён да мяне прыдзе? Я-ж яго не прасіў ісці.
— А куды-ж ён пойдзе?
— А куды хоча, няхай ідзе. Мая справа якая?
— У старцы гоніш?
— Няхай сабе і ў старцы ідзе. Ці ў яго аднаго такая доля? Па старцах людзей багата ходзіць...
— Тфу!—Тарэнта злосна з сілай плюнуў сабе пад ногі і, завярнуўшыся пашоў з двара. Каля варот яшчэ спыніўся і кінуў у бок да Мікіты:
— Нібы гэта мне аднаму трэба... Ды няхай яно ўсё пропадам прападзе! Няхай згарыць! Што мне! Я гэта не абзадачваўся карміць яго да самай смерці...
Мікіта, не даслухаўшы да канца братавых слоў, пашоў у хату.
А назаўтра абодвух братоў здзівіла, калі ў працягу цэлага ранку Павал не прышоў дадому. Зразу-ж пасля снедання Тарэнта пашоў у гумно. На саломе ляжаў пакінуты Паўлам кажух, а самога яго не было. Тарэнту рупіла дазнацца, куды пашоў Павал. Рупіла і таму, што баяўся, каб не нарабіў брат з сабою чаго нядобрага і таму яшчэ, што была надзея, што ўрэшце Павал пашоў кудысь у людзі, далей ад дому. Вось чаму, калі не прышоў Павал дадому і ў працягу цэлага дня, не прышоў і на нач, Тарэнта паспакаіцеў, парашыўшы, што Павал пашоў жабрачыць. Каб зусім упэўніцца ў гэтым, схадзіў на другі дзень пад вечар Тарэнта ў Кірпатаўку да радні, хацеў дазнацца, ці не ў іх часам Павал. У радні Паўла не было, і заспакоены ён павольна ішоў дадому палявымі сцежкамі. Сцежка вілася то сярод няжатай яшчэ ярыны то пожнямі, на якіх стаялі ў бабках снапы жыта і ярыны. Стаялі бабкі даўгім радам, адна за аднэй, па ўсёй вузкай паласе. Час ад часу трапляла паласа шырэйшая, і снапоў на ёй было больш, бабкі стаялі на такіх у два рады. Паміж палос даўгія чубатыя межы. На межах трава дзікая, і лазняк, і маладыя хвойкі. Межы канцамі сваімі ўпіраюцца ў бальшак, за якім сцелецца шырокі абшар панскай зямлі. Той абшар для Тарэнты стаў больш знаёмым за гэнае лета. Дзень-у-дзень ідзе ён туды ў заработкі: то жаць, то касіць, то прыбіраць снапы. Ходзячы, марыць аб сваёй зямлі яшчэ не знойдзенай ні тут, сярод вузкіх шнуроў, ні там, на тым вялікім абшары.
Па-над полем плывуць лёгкія мягкія вятры. Ад вятроў шамаціць спелае калоссе ў снапах, састаўленых бабкамі. Далёка, куды сплываюць вятры, над балотам чарнее ў поцемках малады яшчэ лес. Густая цемрадзь вісіць над тым лесам, а Тарэнта спыніўся ў полі і

блукае ў той далячыні вачыма, шукаючы ў яе нямотнасці адказу на свае мары. Нерухома, як укопаны, стаіць ён. Нешта неабдымна вялікае, урачыстае і трывожнае прышло ў чалавека ад шырокага палявога прастора, ад прахлады і цішыні, узяло чалавека ўчэпістымі рукамі сваімі за самае балючае, спыніла яго, і тады чалавек, як ніколі яшчэ блізка, убачыў самога сябе, зразумеў сваю прыкаванасць да зямлі, сваю вечную ад яе залежнасць і сваё бяссілле. Дзяцінства, юнацтва, маладосць, сілы—усё, усё будзе аддадзена ёй. Рахманым зверам ляжыць зямля спрадвеку вакол гэтага чалавека і бярэ ад яго ўсё, бярэ на заўжды, не вяртаючы ўзятага, даючы яму ад сваіх вялікіх скарбаў толькі жабрацкую долю.

Усё жыццё чалавек гэны прагне большае блізкасці да зямлі, спадзяючыся ў гэнай блізкасці знайсці самога сябе—гаспадара. А зямля ляжыць вакол яго, поўная загадкавасці, вабіць сваёй блізкасцю, дражніць сваімі багаццямі і не пераступае іх.

Каб хоць колькі, каб хоць кавалачак нейкі мне сваёй зямлі, хіба-ж я тады жыў бы так?.. Хіба-ж бы шляўся па чужым, губячы там свае сілы? Эх-ха!..

Тарэнта азірнуўся наўкола па полю і пайшоў. Не спыняючыся, ішоў да самага свайго двара, а ў варотцах спыніўся, упёршыся поглядам у чорную пляміну свайго акна.

З-за хмар ледзь-ледзь прасвечваў месяц і на двары паўзлі мутныя ледзь прыкметныя цені іх. Над ценямі нізкая, натапырыўшыся страхой і няроўнымі вугламі, стаяла былая стопка,—цяперашняя ягоная хата,—цёмная і маўклівая.

— „От, здохнеш у гэтай хаце і ніхто табе не дапаможа, ніхто па табе не паспагадае".

Да хаты ўсяго некалькі крокаў. Перад вачыма ляжыць з адбітым краем камень з жорнаў. Ён замест ганка. За ім невысокі парог і вузкія дзверы. Дзверы як адчыніш, трымай за клямку, а то адкінуцца аж да сцяны, а перад тым, як стукнуцца аб сцяну, заскрыгочуць, каўзануўшыся па глінянай падлозе. Варта б хутчэй пайсці ў хату. Там, напэўна, стаіць, прыхінуўшыся плячыма да печы, высокая і маўклівая ягоная жонка, чакае яго, каб разам вячэраць. У жонкі на шчацэ пад вокам барадаўка. Падобна барадаўка на слязу, і Тарэнту здаецца часта, што жонка нечага плача. Гэта ад таго, што вобраз жонкі вечна стаіць перад вачыма ў яго цяжкім дакорам за жыццё, якога не здолеў наладзіць ён і для яе і для сваіх дзяцей. Цераз гэта і не хочацца ісці ў хату і Тарэнта пазірае ўправа на суседскі гарод. За плотам сярод канапель стаіць пудзіла, стаіць, здзіўлена растапырыўшы ў бакі рукі, і цікуе за ўсімі з-пад нізка насунутай на колік шапкі. Раздражняе Тарэнту і пудзіла, бо заўжды здаецца яму, што нехта жывы стаіць там, сярод канапель і цікуе за яго дваром.

— Чаго-ж гэта ты, як аслупянелы, стаіш?

Тарэнта не чуў, як вышаў з яго хаты Мікіта і падышоў да яго. Ад нечаканасці перапалохаўся і пачаў адплёўвацца.

— Я знарок зайшоў да цябе. Ты з ім, з гэтым часта гаворыш тое-сёе, дык глядзі, во што. Чалавек ён палітычны, пад наглядам жыве. Ён тут водзіць хеўру, пакуль свайго даходзіцца, во што...

У Мікіты на круглым прыплюснутым твары скулянкай тырчыць маленькі кірпаты нос, тырчыць над самай губай, так што аж няма дзе вусам расці і яны падаліся ў бакі і ўгару.

— І ў каго ты толькі ўдаўся такі? На чорта табе такім займацца, а? Думаеш разбагацееш, калі чалавека ўтопіш? Глядзі, Мікіта, некалі і ты даходзішся.

— Мне няма чаго даходжвацца. Я ото цябе, як брата, папярэджваю, і ўсё. Не паслухаеш, дык некалі памянеш маё слова, во што.

Мікіта пашоў да сябе, а Тарэнта зайшоў у хату, павячэраў і, сказаўшы жонцы, што сходзіць зірне на выгаче каня, зноў пашоў.

Конь зафыркаў, саўгануўшы пысай па роснай мураве, і паскакаў у бок ад канавы. Праскакаўшы некалькі крокаў, ён спыніўся, прыслухаўся да наваколля і, апусціўшы голаў долу, зашамацеў губамі ў мураве. Тарэнта пастаяў яшчэ колькі хвілін на дарозе, пазіраючы, як грызе конь і пашоў назад у вёску, пашоў на Сузонаў двор.

Хата Сузона Каляды паміж суседнімі зусім губіцца. Увечары гэта яшчэ больш ў вочы кідаецца. Увечары Давыдзюковы бярэзіны, і так высокія, яшчэ больш угару лезуць і засцяць густым галлём, засланяюць неба над вуліцай і над Сузонавым дваром. А ўслед за бярэзінамі лезе ўгару гострым гонтавым дахам і Давыдзюкова хата. А з другога боку, адвярнуўшыся глухой сцяной да Калядовай сядзібы, стаіць хата Піскуна Арцёма, і Калядова хата, не ведаючы, куды ёй кінуцца, збянтэжана стаіць пасярод неабгароджанага двара, натапырыўшыся саламянай стрэхай і няроўна абрэзанымі вугламі, ды ад збянтэжанасці яшчэ ніжэй прысядае да зямлі. Па вышыні яна акурат у рост парабку Анупрэю. Ён, Анупрэй Гуз, стаіць каля хатняй сцяны, абапёршыся на яе плячыма, а шапка ледзь не кранаецца яе страхі. Высокі, дужы ў плячах, ён як-бы знарок падпёр плячыма Сузонаву хату, каб яна не абурылася.

— Ну і хата-ж у цябе, Сузон,—кажа ён, варухнуўшы плячыма,— каб пхнуў плячыма, дык і абярнулася-б.

— Княжацкі палац, а не хата.

— А ў цябе, Тарэнта, лепшая?

— Я-ж табе не раўня, ты-ж гаспадар, а я цяпер бабыль, на чужым сяджу.

— Гаспадар, толькі што...—гэта гаворыць Хвойчык Міхалка. Ён сядзіць на прызбе, каля Анупрэевых ног, пазірае пад ногі сабе і ўпарта калупае вялікім пальцам левай нагі вытаптаную цвёрдую зямлю. Палец згінаецца, напружваецца, уядаецца ў зямлю пазногцем і выкоўзваецца, зрабіўшы ў зямлі невялічкую ямінў.—Гаспадар... а ў клеці мышы з голаду дохнуць...

— Гэта яны пераеўшыся дохнуць, а не з голаду.—Сузон стаіць насупроць Анупрэя, трымаючы руку далонню на загарэлай кашлатай грудзіне. У яго такая прывычка здавён. Як толькі гаворыць з людзьмі, ці так стаіць сярод людзей, заўжды трымае руку пад кашуляй на грудзіне і паволі трэ грудзіну шырокай далонню.

— Гэта-ж кажуць,—Тарэнта ківае галавой у бок да Сузона,—што ў каго грудзіна кашлатая, у таго і хата багатая, аж на Сузоне гэта нешта не праўдзіцца.

— Пачакай, можа яшчэ і спраўдзіцца.—І Сузон шырока дабратліва ўсміхаецца, паказваючы два рады парыжэлых, папсаваных цынгой зубоў.

— Пакуль спраўдзіцца, дык з цябе парахня пасыплецца.

Анупрэй сеў на прызбу і выцяг перад сабой ногі.

— Увесь мой двор заняў нагамі,—пажартаваў Сузон Гэта-ж як ажэнішся, бяда будзе, на цэлы сажань ушыркі ложак ставіць давядзецца.

— А я жонку кароткую вазьму, дык яна перашкаджаць маім нагам не будзе.

— І напраўду-ж вырас, на лес гледзячы. Кажуць, што ўдаўся ён у салдата аднаго, што заходзіў некалі ў хату да іх вады папіць...

— Ну, гэта ты, Тарэнта, схлусіў, я-ж—усе рыхцікі бацька...

У гэты час прышоў на Сузонаў двор і настаўнік. Ён павітаўся, падаўшы ўсім руку, і спыніўся побач з Тарэнтам. З ім першым і загаварыў.

— Як-жа будзе, дзядзька Тарэнта? На днях-жа пан пачне поле заворваць,—не слухае вашае справядлівасці ён, а?

— У паноў, відаць, справядлівасці няма. А вышэй каб пашоў, дык можа-б яе і знайшоў.

— Няма яе і там, дый часу-ж няма шукаць. Справа не ў гэтым. Справа ў тым, каб зрабіць усё як мага дружней і лепш, так, каб не было ім за што ўчапіцца. Як, мужчыны? Гаварылі з імі?

— Гаварылі. Араць ні за што не дадуць.

— А калі стражнікі прыедуць?

— Усёроўна не дадуць.

— Галоўнае, каб тады не спалохаліся, ды не разбегліся. А яшчэ думка ў мяне ёсць, што можа-б варта зараз-жа, звозячы снапы, пачынаць самім поле араць, не чакаючы яго. Як зааруць, яшчэ мацней будуць трымацца. Як па-вашаму?

— Так і па-нашаму. Я бо думаю, што так лепш будзе. Пакладзе чалавек сілу на ворыва, тады крыўда тут яшчэ большая будзе.

— Значыць трэба з усімі пагаварыць заўтра-ж, каб так і рабілі: няхай звозяць снапы і зараз-жа, следам, аруць. Трэба ўсё рабіць, каб не вам бегаць ды шукаць на яго ўправы, а каб ён бегаў. А яму хутка і ў Пецярбург ехаць... Адным словам, трэба ўсё рабіць неадкладна і рабіць усім разам. Пакуль ён сюды-туды кінецца, дык поле будзе заворана, а тады няхай сабе і стражнікаў вядзе, тады яны нічога не зробяць... І глядзіце, хлопцы, каб хто з іх на вас не паказаў.

— Нашыя людзі не такія...

— А каго дык і вельмі трэба сцерагчыся,—сказаў Тарэнта, прыпомніўшы сваю гутарку з Мікітам.—Так і не ўгледзіш, як выкажуць, хто пачаў усё гэта. Ёсць такія, вунь хоць бы і брат мой, Мікіта...

— Мікіту прыстрашыць можна.

— Дужа ты яго прыстрашыш. Гэта-ж не чалавек, а я сам не ведаю што. Ён гэта мне сёння нешта намякаў ужо, каб я не вельмі важдаўся з вамі.

— Яго прыстрашыць трэба,—паўтарыў Міхалка,—з ім няма чаго цацкацца.

— Гэта няхай тады хто-небудзь адзін зробіць,—заўважыў Буднік.

— Я і зраблю. Вось зараз-жа пайду і пагавару з ім. Тошна яму зробіцца.

Цямнела. Месяц знізіўся і згубіўся ў хмарах. Усё больш і больш назолліва лезлі да людзей камары. Яны ліплі да твару, да рук, да ног, усмоктваліся ў чалавечае цела. Людзі бараніліся ад камароў і злавалі. Найбольш злаваў Сузон. Ён даўно ўжо заплікнуў каўнер кашулі, выняў руку з-за пазухі і цяпер пахвілінна трэ рукой, то патыліцу, то шчаку, або згінаецца і драпае пальцамі пакусаныя ногі. Сагнуўшыся, разважае:

— Напладзілася нечысці гэнай, каб яе на раду не было, як паноў тых. Хоць ты і з хаты не вылазь.

— Паны куслівейшыя,—кажа Ануфрэй.—Тыя ўжо, як уп'юцца ў цела, дык уп'юцца. Пакуль сок увесь высмакчуць, не пусцяць.

— Хадзем,—запрапанаваў настаўнік.—Заўтра-ж толькі пагутарыце з мужчынамі, па аднаму, ды з усімі, ды трэба дзейнічаць, не трэба ўпускаць часу. А ты, Міхалка, з Мікітам будзь асцярожным: прыстраш сабе, але яму асабліва не прагаварыся.

— З ім я пра што-ж гаварыць буду? Яму я скажу толькі кампліментаў пару і ўсё.

Мужчыны зарагаталі і пашлі ў вуліцу, а Сузон застаўся стаяць на месцы. Калі адышліся мужчыны хаты на тры, ён намерыўся пайсці ў хату і тады-ж заўважыў, як нехта пералазіў цераз плот з ягонага агароду на старастаў. Подбежкам ён кінуўся ў агарод, але пакуль дабег туды, больш нікога не ўбачыў і пашоў у хату, парашыўшы заўтра раніцою сказаць пра гэта настаўніку.

Тым часам Міхалка прышоў у Мікітаву хату. Жонка Мікітава сядзела пры лучыне і лапіла дзецям вопратку, а Мікіты дома не было.

— Не ведаю, куды гэта ён сцёгся, — сказала яна на Міхалкава запытанне.—Ды пасядзі ўжо, нікуды-ж не дзенецца, прыдзе.

І сапраўды цераз колькі хвілін ён прышоў. Прышоў задыхаўшыся, нечым устрывожаны. Змеціўшы ў хаце Міхалку, збянтэжыўся і доўга стаяў ля парогу, абтрасаючы ад нечага світу.

— Дзе гэта ты хадзіў, так поначы?

— У гумно хадзіў.

— У гумно?—жонка хацела яшчэ нешта сказаць, але Мікіта перабіў яе.

— Ты вось сядзі, калі сядзіш. Трэба было, дык хадзіў, мо'ж парадку ніхто не навядзе.—А знайшоўшы сабе апраўданне, ён паспакайнеў і загаварыў да Міхалкі.

— Чаго-ж ты гэтак позна, гэта-ж ніколі не было такога?

— А як патрэба з'явілася, дык і прышоў. Дай выйдзем на якую хвіліну на двор.

— Сакрэт які ў цябе, ці што? Ну хадзем.

Міхалка падняўся з лаўкі і пашоў следам за ім. А ў сенцах, як адчыняў Мікіта дзверы, сказаў:

— Ты нашто апастыраешся з людзьмі, Мікіта, а? Чаго ты ходзіш там, дзе табе не трэба?

— Як гэта я хаджу, дзе не трэба? Што ты, чалавеча, чаўпеш?

— Я не чаўпу. Адно скажу, што ногі людзі перабіць могуць, калі будзеш лезці не ў сваё проса. Не ў свае аглоблі не ўпрагайся, Мікіта. Дабра з гэтага не будзе.

Мікіта спалохаўся, парашыў, што яго пазналі.

— Далібог-жа я ото ад рэчкі ішоў, цераз Сузонаў двор, ад бачу вы там, дык я па агародах пашоў...

Міхалку такое Мікітава прызнанне аж падмыла.

— Дык ты і сёння бегаў за намі? Ну і падслухаў, а?

— Далібог-жа нічога я не чуў, ад рэчкі ішоў я, во што.

— Ты мне не спавядайся, я не поп. А толькі калі ты хоць каму пра ўсё гэта скажаш, тады памятай, так гэта табе не абыдзецца. Я ваўмысля пашоў, каб гэта сказаць табе.

— Гм! Вось табе і на, што гэта ты, чалавеча! Ці мне ўжо нельга і па зямлі хадзіць? Што-ж гэта вы надумаліся? За каго-ж гэта вы мяне лічыце? Ці я вораг сабе, ці што? А не дай бог што цяпер здарыцца, дык я страдаць павінен? Што-ж гэта вы, хлопцы, бога не маеце, ці што?

— Я табе сказаў, што трэба было, і ўсё. А ты памятай...

Міхалка пашоў, а Мікіта разгублены, спуджаны ягонымі словамі, яшчэ доўга стаяў на двары, пакуль крыху супакоіўся, і толькі тады ён пайшоў у хату. У хаце, зацікаўленая тым, што прыходзіў Міхалка, чакала жонка і сустрэла яшчэ на парозе пытаннем.

— Чаго, чаго? Усё табе ведаць хочацца,—злосна буркнуў на яе Мікіта і са злосцю шпурнуў на палок з сябе світу.

— То чаго гэта цябе ўскруціла? Якое ліха яшчэ, чаго ты?

— Таго, што жыць вунь мне няма як, па зямлі ўжо хадзіць нельга мне. З'ядуць можа хутка, тады от парадуешся...

Жонка больш нічога не пытала, каб не ўводзіць яго ў злосць, баялася, што пачуюць сварку каморнікі. Мікіта-ж моўчкі павячэраў і лёг спаць, а ўжо ў ложку расказаў жонцы пра сваю гутарку з Міхалкам.

*Працяг будзе.*

Е. МАР'ЕНКОЎ

# РАЗВОД

## I

Да сядзібы ён падышоў не завулкам, як хадзіў заўсёды, а пералез цераз плот і пайшоў на прасцяк агародам, праз бульбянішча. Яму хацелася як найхутчэй угледзець Наталю і кінуць ёй у вочы ўсе тыя насмешкі, якія ён цяпер толькі што чуў у кузні.

— У людзей бабы, як бабы. А тут дажылі, што ўсякая галытва пасміхацца стала,—услых разважаў сам сабе Філіп.

Сцежка яшчэ была сыраватая ад ранняй расы, і на ёй заставаліся буйныя, рэдкія сляды. Бульбянік блытаўся ў нагах і раздражняў. Ад гэтага ярчэй і выразней у галаве ўставала тое, што адбылося ў кузні: і размова, якая абарвалася пры яго ўваходзе,—вядома, яны гаварылі аб ім. Гэта было відаць і па вачах, яшчэ не астыўшых ад смеху. А Фядоцька, пагладжваючы сваю шчуплую бародку, сказаў, як быццам не заўважаючы Філіпа:

— Цяпер трэба яго за шчэляпы, як акуня. І спаць да сябе не пушчае, дальбог...—ён аглянуўся і быццам бы толькі цяпер заўважыў Філіпа, нават рукі растапырыў:

— Глянь!... Філіпка!.. Здаровенька!—Ён хацеў дабрадушна паляпаць Філіпа па плячы, але Філіп адштурхнуў яго, проста адшвырнуў, нібы сабачку, які назолаю кідаўся пад ногі, і сам выйшаў з кузні. Услед яму хтосьці прысвіснуў здзіўлена: „Фі-цю-цю!“

Ён ішоў і думаў. Гонар гаспадарлівага мужыка падсказваў яму, што на ўсе гэтыя перасуды і кпіны трэба плюнуць, і ўсё і ў той-жа час, гэты плявок штосьці стрымлівала, і гэтае „штосьці“ была Наталя, яго жонка.

— За кудлы яе!..

Каля лазні, у бульбяніку ён заўважыў курэй. Певень, высока падняўшы галаву, здавалася, аглядваў Філіпа з насмешлівай пагардлівасцю, нібы не прызнаваў у ім гаспадара, і Філіп адчуў, што раздражэнне, якое ён нёс ад кузні, цяпер успыхнула вострай злосцю, нібы віною ва ўсім быў гэты певень.

Ён спыніўся. Густыя рыжаватыя бровы яго нахмурыліся, ствараючы складку. У невялікіх шэрых вачах на момант мільганула ранняе сонца, робячы іх яшчэ меншымі і злейшымі, а шырокія рукі яго набухалі жыламі. Ён таропка схапіў камень і з мацернай лаянкай запусціў ім у пеўня. Куры трывожна залопалі крыламі, ныраючы ў бульбянік, а певень ачумеўшы закружыўся на месцы. Філіп падбег да яго і прыдушыў нагою, а потым схапіў яго за галаву і падняў угору... Певень затрапятаўся, сударгава чапляючыся крыламі за бульбянік. Філіп міжвольна аглянуўся, нібы певень быў чужы, і толькі цяпер убачыў,

што ў руцэ ў яго засталася пеўнева галава. Грэбень яе пабляднеў і абвіс, а з-пад пальцаў вылупіліся вочы, ліпкія, як раздушаная брусніца.

— У, гад!—гадліва працадзіў Філіп, і кінуў галаву ў пеўня, які яшчэ трапятаўся, і шырока закрочыў да садовай каліткі.

Усход быў ранні, прахладны. Проста з-за страхі яго хаты падымалася сонца. Яно было яшчэ чырванаватае.

Прахладнае, сонечнае ранне і выгляд акуратна прычэсанай страхі хаты змякчылі раздражэнне Філіпа, і ў сенцах ён ўжо адчуваў неўпэўненасць у сілу і хлёсткасць тых слоў, якімі хацеў ашаламаніць Наталю. Тое раздражэнне, у парыве якога ён падняў пеўня, здавалася натыкалася на чыюсьці чужую, варожую сілу. Уласна, гэта была яго баязлівасць перад пагрозай Наталі развесціся і пакінуць хату.

Разводу Філіп не хацеў. Ён нават не ўяўляў сабе жыцця без Наталі. „Хіба нельга пагаварыць па-сяброўску, па шчырасці?"—прымірліва думаў ён, ледзь пастукваючы далонямі па варштаку, які стаяў тут-жа, у сенцах. „Хіба нельга?"—ужо ўслых пытаў ён, і вочы яго рабіліся мякчэйшымі і ветлівейшымі. У той-жа час ён пабойваўся, што гэтыя сяброўскія адносіны Наталя ўспрыме, як сваю перамогу над ім.

— А што-ж выйдзе, калі будзем жыць кожны па-свойму?—раздумліва запытаў Філіп самога сябе. І так-жа сама раздумліва адказаў:

— Выйдзе чорт ведама што...

Ён моцна стукнуў вёдрамі, думаючы, што Наталя пачуе гэты стук і выйдзе. Ён і раскажа ёй, што з іх ужо смяюцца. Па добраму раскажа...

Але Наталя не выйшла.

Ён ляснуў яшчэ мацней і прыслухаўся,—Наталя і гэты раз не выйшла. А залоўка Дуня, прыадчыніўшы дзверы братавае хаты, сказала весела:

— Во, лесавік! А я думала—парася.

Філіп не адказаў. Ён нават не агледзеўся (з братам ён быў у сварцы, а таму не гаварыў і з залоўкай). Паставіўшы вядро на лаўку і злёгку прыгінаючыся, ён пайшоў у сваю хату.

У хаце было ціха, і ад гэтага здавалася, што прыпахвае ўчарашнім днём. Сонечная пляма ляжала каля прыпечка, і на ёй пахістваўся цень арабіны, якая стаяла пад акном.

Ён прайшоў за перагародку, але і за перагародкай Наталі не было. Самавар яшчэ з учарашняга дня стаяў на шафе. Як і ўчора, рэшата вісела не ва тым цвіку, на якім яму здавён палажана вісець. Нават партрэты з свайго кутка падглядвалі строга і няветліва.

Ад гэтага парушэння звычайнага парадку пацягнула халадком; не хацелася брацца за работу. А работы ў Філіпа многа: трэба пафарбаваць табурэты для кааператыва, рабіць рамы, падправіць воз. А то ячмень не будзе на чым прывезці з поля, а тут і жывёла яшчэ не поена. „Зранку ўцякла, хоць бы жывёлу напаіла",—стомлена падумаў ён аб Наталі.

Філіп любіў сваю жонку. Наталя руплівая і акуратная гаспадыня, была добрая дапаможніца ў рабоце і неяк непрыметна стварала ўтульнасць. Ён ні ў якога з суседзяў не бачыў такой чыстаты і парадку, як у яго ў хаце: усё вымыта, падмецена, светла; на сценах карткі і партрэты, павешаныя замест абразоў. Нават сонечны прамень недалучна гасцюе ў ягонай хаце, расплываючыся шырокаю плямаю.

— Толькі жыць,—праказаў Філіп.—А жыць не хоча. Зусім адбілася баба. І што ёй трэба? Якога яшчэ ражна?

Яго ахапіў сум непрыхільнасці. Хата страціла сваю ўтульнасць; непатрэбнай і абрыдлай стала сонечная пляма, а партрэты здаваліся

няпрошанымі госцямі, якія занялі святы кут. „Панавешвала, нібы багоў",—з сумотай думаў ён.

Філіп зняў з сцяны рэшата і, стаўшы супроць акна, пачаў глядзець праз яго на вуліцу, як быццам праз гэтае рэшата хацеў убачыць і зразумець тое чужое і варожае, што ўмешвалася ў яго жыццё. Але нічога не ўбачыў ён, апрача квадрацікаў дарогі ды такіх-жа квадрацікаў на вокнах кааператыва.

Павярнуўшыся да партрэтаў, ён прагаварыў з глухім дакорам: Адбілі..

Спачатку—гады два таму назад—да адлучак жонкі Філіп адносіўся спакойна. Яму нават падабалася, што яна верхаводзіць бабамі. Гэтая перавага яе перад другімі, выклікала ў ім гонар, хоць ён і рабіў выгляд, што для яго гэта зусім абыякава. А што яму? У гаспадарцы ў яго—дзякуй богу, усё ў парадку. Няма ў яго ні вялікай патрэбы, ні гора. Ён клапатлівы, старэнны і нічые дапамогі не патрабуе.

Святочнымі вечарамі ён ахвотна сядзіць на бярвеннях, каля свае хаты, спрачаецца з калгаснікамі аб палітыцы, аб іншых дзяржавах і аб бягучым моманце. Ён добра ведае, што старшыня ВЦВК т. Калінін—селянін-цверак, а галоўны комуніст Сталін—сын шаўца, і шкадуе, што ён не сын сталяра. Любіць палаяць калгаснікаў за безгаспадарчасць, за тое, што гэтым годам згнаілі гектараў дваццаць добрага заліўнога сена. Лае і кааператыў, у якім выкрыт недалік.

Некаторыя з сялян недалюбліваюць яго за скупасць, іншыя зайздросцяць яму, большасць-жа лічыць яго прыкладным гаспадаром.

А калі не бывае сялян, Філіп бярэ сваю дудку, якой яшчэ захапіўся з дзіцячых пастухоўскіх гадоў і, лёгка гойдаючыся, наігрывае адзін і той-жа матыў, сумны і доўгі, як асенняя непагода.

Рэволюцыя як быццам-бы не кранула яго: ні зямлі, ні жывёлы ў яго не прыбавілася, але і не ўбавілася. Падатак, які налічваецца на яго гаспадарку, ён здае поўнасцю і датэрмінова. Багачом яго не лічаць, а ў бедпякі ён не напрошваецца. Калі ў пазалеташнім годзе частка сялян арганізавала калгас на былой панскай зямлі, а другая частка—больш заможная пачала шушукаць аб распрадажы жывёлы, Філіп застаўся пры сваёй асабістай думцы. Ён сказаў на сходзе: „У калгас я не пайду, я і сам умею гаспадарыць, і жывёлу нішчыць не буду"...

Яму хацелася жыць ціха, спакойна; працаваць, узмацняць сваю гаспадарку і гадаваць сына. Але хутка ён убачыў, што Наталя стала забывацца пра свой кут: то абед не ў час, то чаю няма. Увесь дзень шлындаецца з бабамі, нават у чужыя вёскі бегае. А тут яшчэ райкомаўцы ў партыю яе пацягнулі, цяпер і вечарам няма часу для сваёй гаспадаркі. А хіба яму аднаму справіцца? Філіп пачаў ісці насупроць гэтага, дакараць стаў яе. Спрабаваў хаваць ад яе адзежу і чаравікі, каб яна не ішла з дому. Аднойчы і за валасы пастрашыў пацягаць. У той-жа вечар Наталя прапанавала яму рашуча: „Давай развядземся!".

Філіп тады прамаўчаў, але з таго часу размаўляць яны сталі радзей. Шаласці сына, якія раней выклікалі ўхмылку і заахвочванне, сталі раздражаць. Філіп стаў маўклівейшы,—засумаваў, а ў лазні ўсё часцей і часцей стаў дыміцца яго невялічкі апарацік, зроблены сваімі-ж рукамі.

— І як гэта здарылася—сталася?—запытаў Філіп, паглядзеўшы на партрэты. Не атрымаўшы адказу, ён павесіў рэшата на цвік і пайшоў да полага глянуць на сына, які яшчэ не спаў. Раней Філіп часта заглядваў, гэта ўжо ўвайшло ў яго ў прывычку, але цяпер чамусьці раздумаў і, не прыпадымаючы полага, памалу вышаў з хаты.

II

Увайшоўшы ў хату, Наталя ўбачыла нешта незвычайнае: каля перагародкі, дзе звычайна расцягваецца прыблудны кот, стаяў Філіп. У руках ён трымаў чвэрць самагону.

Пахістваючыся на шырока расстаўленых нагах, ён гаварыў аднаму з партрэтаў:

— Не люба?.. А можа мне не люба, а я жыву! Жыву я?.. А наконт адзінага—спаўна, з нашым задавальненнем!

Ён пастукаў сабе ў грудзі:

— Я гаспадар ёсць, вось што! Ванька, Кузьма, Сігней жыць не ўмеюць. Ім самім есці нечага. У іх платы хістаюцца, як п'яныя, дальбог! А я ні-ні! Хіба я дазволю? Ах, ты, божа мой, хіба-ж я... У іх сена згніло, вясною коняй на скуру, а ў нас за маё-маё, калі ласка! Ты не жмурся, а скажы: „Філіп Карпыч, хоць ты не калгаснік, але ты ёсць сталяр і свядомы аднаасобнік, і больш нічога!..“

— На што гэта падобна, свядомы?—запытала Наталя звычайным ласкавым голасам і паправіла плечыкі на сарафане.

Філіп не спяшаючыся абярнуўся і ўтаропіўся на Наталю цяжкім не міргаючым поглядам. Ён падрыхтаваўся сустрэць яе лаянкай, але ласкавасць у яе голасе раззброіла яго і ён шырока растапырыў рукі:

— Гаспадынька! Наталя Андрэеўна! Наша шанаванейка!

— І не сорамна... Вось цяпер абавязкова заяўлю міліцыі пра апарат.

— Міліцыі?—дабрадушна перапытаў Філіп.—Заяўляй, заяўляй, Наталя Андрэеўна! Дышаль ёй у горла, міліцыі!

Ён шырока правёў рукою і ўзбаўтануў бутэльку:

— А калі я не хачу мець кампанію з цэнтраспіртам? А калі я свае хачу? Маю я права, ці не маю?

— Праспішся—скажу.

— Я п'яны?—здзіўлена запытаў Філіп, неўстойліва гойдаючыся на нагах.—А ні-ні... Я не дазволю.

Гаварыць цяпер з Філіпам было бескарысна. Наталя гэта добра разумела і маўкліва пачала прыбіраць хату.

Філіп асцярожна паставіў чвэрць на стол, сеў на лаўку і, палажыўшы галаву на рукі, пачаў прыхропваць на стале. Але калі Наталя ўзялася за клямку, ён раптам рвануўся з месца.

— Стой!.. Стой, гаспадынька! У міліцыю?

— Адчапіся ты.

— Муж павінен ведаць, куды ты ідзеш?

— Му-уж... які ты муж, калі ты п'яніца, самагоншчык?

— А а, п'яніца, самагоншчык, муж самагоншчык, а жонка—цягацца?—Ён схапіў Наталю за руку.—Па райкомах?..

— Ачумеў!... Пусці руку, баліць!

— У райком?..

— Карову даіць, п'яная твая галава!

— Не, не пойдзеш. Здымай куртку!

Наталя вырвала руку і паправіла плечыкі на сарафане.

— Зноў?—строга запытала яна і шчокі яе заружавелі. Зноў людзей смяшыць. Не, давай вось мы разойдземся па-ціху, па добраму, усё адно нам разам не жыць!

— Хочаш за шчэляпы мяне?.. Як акуня?.. Здымай, кажу!

Упартасць Наталі выклікала ў Філіпа прыліў ярасці. Ён схапіў яе за валасы і некалькі разоў правёў навокал сябе. А потым рэзка адштурхнуў. Наталя ўпала, моцна стукнуўшыся каленам аб перагародку. Перапужаны кот кінуўся на печ і адтуль аглядваўся са страхам і цікавасцю.

— Усё гэта адбылося так нечакана, што Наталя не паспела ні крыкнуць, ні супярэчыць, і цяпер глядзела на Філіпа са здзіўленнем.

— Мала?—раз'юшваўся Філіп.—Я табе галаву адкручу, як пеўню!

— А, вось як ты? Вось як?—некалькі разоў перапытала Наталя, не знаходзячы патрэбных, ашаламляючых слоў. Ёй хацелася крычаць, плакаць, пагражаць судом і разводам, але яны толькі пераказвала: „Вось які ты? Вось як?..“ Потым хутка паднялася і, трохі прыкульгваючы, выбегла з хаты.

Філіп некаторы час стаяў каля перагародкі ледзь пахістваючыся. Праз хмель ён зразумеў, што зрабіў нешта непапраўнае, і гэта непапраўнае спужала яго. Яму захацелася дагнаць Наталю, вярнуць яе, стаць перад ёю на калені і прасіць прабачэння.

Ён кінуўся да дзвярэй і з сілай рвануў іх, але дзверы былі зашчэплены знадворку, і Філіп адразу прыціх. Потым вельмі асцярожна падышоў да дзіцячага полага. Сын спаў, звычайна палажыўшы пальцы левай рукі на вочы. Філіп глянуў на яго і ўсміхнуўся, вінавата і разгублена прыпадняў свае густыя, рыжаватыя бровы.

III

Думаць аб тым, што Наталя не вернецца, Філіп не мог і не хацеў, і развод, які нядаўна адбыўся, лічыў чымсьці не сур'ёзным і не сапраўдным. Атрыманае з загса паведамленне, ён парваў на дробныя кавалачкі, а павестку, якою суд выклікаў яго на раздзел маёмасці, ён зусім адмовіўся прыняць. Не пайшоў і на суд,—усё гэта непатрэбна і бессэнсоўна. „Ну што-ж, калі яны трошкі і пасварыліся,—яны-ж свае і ён ёй дабра жадае!“—думаў Філіп і кожны дзень чакаў звароту Наталі. „Пацягаецца, і вернецца“, запэўніваў ён сябе.

Але Наталя не вярталася.

Тады ён пайшоў у РВК. У калідоры яго сустрэў сакратар РВК, Сяргей Іванавіч, і запытаў:

— Наталю шукаеш? Дарэмна.

— Як гэта дарэмна?

— Ды так: не твая яна, Наталя.

— Глянь, ты, можа твая, скажаш?

— І не мая.

— А ты не совай свайго рыла, аблакат!—Філіп па мацеры вылаяўся, плюнуў і, абыходзячы ўхмылку Сяргея Іванавіча, пайшоў у габінет да старшыні РВК.

Той пасадзіў яго на крэсла.

— Кажаш, Наталя? Райком яе камандыраваў на курсы жэнарганізатараў. Хочам зрабіць яе платным работнікам.

— У горад, значыць?

— У горад.

— Так, так... На доўга-ж яна?

— Тыдняў на пяць... Але, пяць тыдняў.

— Час знайшла,—усміхнуўся Філіп.—Тут ячмень скора жаць трэба, а яна—горад.

— А яна ў горад,—перабіў яго старшыня РВК.

Філіп здзьмухнуў пыл з шапкі і зноў усміхнуўся:

— Чуў, развод уздумала?

— Чуў.

Філіп падсунуўся бліжэй, і пад ім скрыпнула крэсла.

— Гаўрылыч, скажам, ты комуніст, гэта правільна. Але ўсё-ж ты свой, да цябе я давер'е маю...—Ён папераджальна агледзеўся, нібы за яго плячыма стаяў нехта, і зноў здзьмухнуў пыл з шапкі.

— Скажы па праўдзе, ад душы скажы: хто яе падвучвае? Памойму...—ён не дагаварыў і, адвярнуўшы вялікі палец у невыказаны пытальнік, кіўнуў на сцяну, за якою быў чуцен голас сакратара РВК.

Старшыня РВК усміхнуўся, расправіў плечы і сказаў голасна, ломячы трывогу недавер'я:

— А чудак ты, Філіп. Дальбог, чудак. Ніхто яе не падвучвае. І не такая яна, Наташка... Трэба зразумець, Філіп Карпавіч, што жанчына ўжо нетая, што была раней. Не кожны штуршок яна хоча пераносіць пакорна. Зразумеў?.. У яе свая галава і свая воля, і не горшая, ніж у нас—мужчын,—вось гэта і зразумей. А наконт...—ён таксама, як і Філіп, не дагаварыў і кіўнуў на сцяну,—наконт яго ты і не думай: у яго свая баба—хоць на кірмаш. Наталю паслала ўся ячэйка, як добрага работніка, і толькі.

— Уся ячэйка?—перапытаў Філіп і ўстаў. І зноў пад ім жаласна рыпнула крэсла. Расправіўшы шапку, ён сказаў упэўнена:

— Хаця-ж і ўся ячэйка, а калі не падвучваюць, дык вернецца: сын—не лялька...

IV

Седзячы на калодзе, Філіп прывычна ўзмахваў веялкай. Зерне рассыпалася па таку, нібы пырскі ў дождж з усцярушанага дрэва. Зрэдку ён браў ячмень у жменю, і ўсмешка задавальнення ўздрыгвала на яго запыленых вуснах: чаму-ж бы і не, такое буйное зерне.

Тут-жа ў снапах, шукаючы мышыных гнёздаў, корпаўся яго сын—Валодзька.

Радуючыся паўнаце зерня, Філіп думаў аб Наталі: „Дурная баба, ад гаспадаркі ўцякае, а тут радавацца трэба!“ Вядома, ён даруе ёй усё: і тое, што яму аднаму даводзіцца абмалочваць ячмень, і тое, што самому трэба даіць карову, паліць у печы і даглядаць сына.

Паглядзеўшы на яго і ўсё яшчэ думаючы аб Наталі, Філіп прагаварыў:

— Дурная баба!..

— Глянь, сабачка новенькі,—весела крыкнуў хлопчык, паглядаючы на вуліцу праз шчыліну гумна.

— Сабачкі новенькія не бываюць,—рэзонна растлумачыў Філіп.

— А чаму не бываюць,—з сур'ёзнасцю пяцігадовага перапытаў хлопчык.

— Мусібыць, трэба так,—адказаў Філіп, заграбаючы веялкаю зерняты. Але не паспеў ён ускінуць іх, як каля варот гумна паказалася Анюта, братава дзяўчынка.

Стоячы каля варот, Анюта крыўдна праказала:

— Дзядзька Піліп! Ідзі скарэй у хату—цётка Наташка прыйшла!..

Філіп вельмі лёгка падняўся з калоды, але адразу-ж стрымаў сваю радасць:

— Даўней-бы... Давею—прыду. Валодзьку вазьмі, чуеш?

Ён не спяшаючыся давеяў ячмень і пайшоў да варот. Ад варот вярнуўся і захапіў у прыгаршчы ячменю: яму хацелася парадаваць Наталю,—такое буйное зерне!..

Каля лазні Філіп заўважыў пер'е і падумаў шкадуючы: „Дарэмна пеўня сапсавалі!“ А ўвайшоўшы ў завулак, ён убачыў, што каля яго хаты натоўпам стаяць бабы, і ўсміхнуўся: „нібы вароны на падлу“.

Падышоўшы бліжэй, ён заўважыў у натоўпе міліцыянера, Ягора—старшыню сельсовета, некалькі калгаснікаў, суседзяў і Фядотку, вартаўніка кааператыва, якога штурханўў у кузні. „Што-б гэта значыла?“—

падумаў Філіп і адчуў, што ў яго радасць хтосьці прыгаршчамі кідае смутную трывогу. На міг мільганула думка: „Ці не апарата шукаюць?“—І заспакоіўся: пасля сваркі з Наталяю апарат ён закінуў ў лужыну, каля лазні, і самагону больш не гнаў.

Наталя каля рукамыйніка мыла сына. На Філіпа яна нават не глянула, нават не адказала, калі той сказаў: „А без цябе тут зусім абшарпаўся хлопчык“!

Прайшоўшы за перагародку, Філіп усміхнуўся Ягору-старшыні.

— З вобыскам. Можа каапературыў абакраў?

— Здаецца, у такіх справах ніхто не дакараў цябе.

Тады Філіп хітравата прыпадняў бровы і развёў рукамі:

— Няўжо-ж у прапараце западозрываеце?

— І не ў прапараце справа, Філіп Карпавіч... Прышлі наконт твае гаспадыні.

— Вось што!—Філіп нават прысвіснуў: гэтага ён ніколі не чакаў. Але зараз-жа твар яго стаў сумны.

— Дарэмна патрывожыліся: мы пасварыліся, мы і памірымся:— у нас і печ адна і дзеці адны.

— Даўней-бы так,—сказаў Ягор-старшыня і паклікаў Наталю:

— Ідзі-тка да нас, гаспадыня!

З-за перагародкі выйшла Наталя, у адной руцэ яна трымала ўціральнік, а ў другой усхліпваючага сына. Філіпу кінулася ў вочы нешта новае ў яе твары. Калі-ж Наталя паправіла плечыкі на сарафане і пры гэтым страпянула галавою, ён падумаў: „На сваіх харчах галавою не круціла“—і толькі цяпер заўважыў, што яна падстрыжаная.

Ён шырока ўсміхнуўся ёй і хацеў падысці паказаць ячмень, але Наталя папярэдзіла:

— Не, Філіпка, не мірыцца я прыйшла, а ўзяць, што належыць— пайду я.

— Куды-ж ты пойдзеш?—перапытаў Філіп.

— Куды небудзь—у калгас думаю.

— Ад свае хаты? Ад свае гаспадаркі? Ачумела!

— І на чорта вам разыходзіцца, жылі-б разам, а калі ў калгас, дык і ў калгас разам,—сказаў Ягор-старшыня.

— Ён не хоча жыць па-моему. А я не хачу жыць па-ягонаму,— нібы апраўдваючыся, сказала Наталя і падумала, гледзячы на кашулю Філіпа: „Бач, локці прадраліся і барадою аброс“...

— Добра, зжывемся,—рашуча сказаў Філіп, памахваючы рукою, у якой быў ячмень.—Будзем гаспадарку ўзмацняць ды сына гадаваць.

— Зноў ты пра гаспадарку... Не справімся мы, Філіпка, з гаспадаркаю. Не хачу я ўсё сваё здароўе класці на гаспадарку: ні жыцця, ні прасветлай гадзіны не бачыш. Цяпер па-новаму трэба гаспадарыць, Філіпка, разам, агулам. Да таго-ж, работу з бабамі я кідаць не буду.

— Гэта райком цябе падвучвае?

— Ніхто не падвучвае, я сама разумею і кажу табе: класці на гэту гаспадарку ўсю сілу, здароўе ды яшчэ з табою, сварыцца праз гэта я не хачу. Досыць! Калі хочаш, пойдзем у калгас разам, не разбураючы гаспадаркі, тады можа і зжывемся з табою. Кузьма з Арынкаю таксама запісаліся, і брат Грышка запісаўся, і дзядзька Еўсцігней. Вось і Фядоцька таксама вясною ўступіць.

— Абавязкова, толькі на каня разжывуся, каб не як-небудзь, а з сваім канём!—адгукнуўся Фядоцька, кранаючы сваю небагатую бародку.

— Што-ж табе брат ці Фядоцька прыклад? Адзін усё жыццё па шахтах, а другі—у вартаўніках, а там—у калгасе вашым—і пільнаваць няма чаго: там на 16 двароў чатыры кані і тры каровы. А ў нас—гаспадарка!

— Разам жыць лягчэй. Іхнія тры каровы ды нашых дзве—ужо і пяць. А там і другія запішуцца.

— Чулі, людзі добрыя, працавалі-працавалі, нажываў-нажываў, а цяпер Фядоцьку аддай.

— На які мне чорт тваё!—адгукнуўся Фядот і плюнуў за перагародку.

— А, не трэба?—злосна перапытаў Філіп.

— Там усе раўнапраўныя будзем: і ты, і я, і Фядоцька. А жыць лягчэй будзе: арцеллю будзем працаваць. Няўжо-ж ты не разумееш гэтага?—з крыўдаю перапытала Наталя?

— А чаму Ягор-старшыня не ў калгасе?

— Баба ў мяне хворая, можа памрэ на весну, тады і я.

— Не, не кажыце, гаспадарку я разбураць не стану.

Ён адвярнуўся да акна і ўважліва пачаў разглядаць сцены каапэратыва, як раней трымаючы ў руцэ ячмень.

У хаце стала ціха і было чутно, як за дзвярамі, просячыся, мяўкаў кот. Міліцыянер стаў уважліва разглядаць картачкі на сцяне. Фядот спакойна закурыў, расціраючы попел на пальцах; яму ўсё адно дзе сядзець: ці тут, ці ў каапэратыве,—тут нават больш прыемна! А Ягор-старшыня, абапёршыся на стол, пачаў падлічваць клетачкі на цыраце, нібы ў гэтым яго просты старшынёўскі абавязак. Уласна кажучы, яму шкода разбураць гаспадарку Філіпа, і ён не ведае, як пачаць гэту непрыемную справу.

— А справа твая дрэнь, Філіп Карпавіч!—сказаў ён зблытаўшыся ў падліку клетачак на цыраце. Прыдзецца аддаць гаспадыні што належыць.

— А я трымаю?—усміхнуўся Філіп, пазіраючы ў акно. А за акном усё той-жа вугал каапэратыва ды зломаная дарога ў поле аж да могілак, на якіх хаваюць п'яніц, вешальнікаў і ўсіх абарваўшых жыццё сабачаю смерцю. „І дзякуй богу, калі абарвалася!"—падумаў ён.

На вуліцы злёгку кружыцца пыл. Ветрык расчэсвае хвасты курам. Тоўпяцца бабы. Падышлі вяскоўцы. Ванька-шахцёр, член праўлення калгаса, аб чымсьці расказвае. Яго слухаюць і смяюцца, асабліва рагоча Арынка, жонка Кузьмы Крывога. „Нядаўна аборт рабіла, а ўжо зноў бегае,—лейцамі-б цябе! Даў табе Кузьма волю, за тое сам у дурнях застаўся. Так і Наталя... Не, Наталю пасылала ячэйка „уся",—успомніў Філіп запэўненні старшыні РВК і задумаўся: чаму іменна „уся"...

Ягор-старшыня не спяшаючыся адзеў акуляры і цяпер стаў падобны на партрэт, каля якога заблыталася муха. Потым з той-жа таропкасцю разгарнуў ліст паперы і сказаў непрывычна строга:

— Выканаўчы ліст. Тут усё агаворана: новы зруб хаты... карова... тры цэнтнеры жыта... ячменю... швэйная машына...

Філіп, здавалася, не слухаў і глядзеў у акно, заклапочана перасыпаючы ячмень з рукі на руку. Ён зразумеў адно: пачынаецца ломка, ломіцца ўсё—і двор, і гаспадарка, і жыццё. У яго вачах ужо мільгацелі крывыя падпоркі і, гледзячы ў акно на сцяну каапэратыва, ён думаў. „І ад чаго-ж гэта яна? Што трэба ёй: пад'еўшы, абутая, адзетая... Хто падвучвае яе?"

Але, не знайшоўшы адказу, не аглядваючыся, запытаў:

— А якую карову, рыжую, ці рабую?

— Гэтага не сказана.

— Хай бяруць рыжую. Рабая—ялаўка.—Філіп сказаў гэта ціха і таксама ціха выкінуў за акно ячмень—жменю буйнога адвеенага ячменю. З крыкам на яго накінуліся вараб'і, не заўважваючы, што да іх крадзецца кот, рыжы, прыблудны кот.

— Хапай іх, хапай!..

Наталі здалося, што і сцены пакрыўдзіліся, калі яна зняла сваё пасведчанне і пахвальны ліст, калісці выдадзены ёй за пасляховае сканчэнне пачатковай школы. Дзесяць год яны правіселі на гэтай сцяне, а цяпер засталіся толькі пажоўклыя плямы. Яна глянула на іх сарамліва, а калі пачала здымаць картку, дык рукі яе задрыжалі. Адна з картак—група дэлегатак—выпала з рук і, падаючы, зачапіла Філіпа. Але ён не аглянуўся, нібы картка і не падала, ніба яна і не зачапіла яго.

Філіп адчуваў, што яго як быццам-бы раздзяюць, каб паказаць перад людзьмі, перад усім светам, голага на сорам. Ад гэтага яму хацелася крычаць і супраціўляцца, але ён не крычаў, не супраціўляўся, а толькі злёгку паціскаў плячыма, нібыта яму стала халаднавата, нібы перасталі яго грэць вуглы свае хаты. І, як і раней, глядзеў у акно, на вугал каапратыва.

Калі-ж ён аглянуўся, дык на сценах засталіся толькі партрэты. Той, што ў акулярах выглядваў спакойна і строга, нібы чытаў выканаўчы ліст, а твар другога растварыўся ў сонечнай пляме і толькі на самым вывіху бёрвяна, здавалася, хітравата падміргваюць яго шчурыя вочы.

— Багоў... багоў сваіх бяры!..

— Гэта мы зараз,—паслужліва абазваўся Фядот, запрошаны ў якасці панятога. Здавалася, ён радуецца Філіпаваму разбурэнню і, пагладжваючы сваю небагатую бародку, не хаваючы ўсмешкі, пачаў здымаць партрэты.

Філіп убачыў як каля таго, што ў акулярах, партрэта спужана закапашыўся павук, устрапянулася паўжывая муха. І яшчэ ўбачыў ён, як Фядот, нібы гаспадар хаты, правёў рукою па павуцінню, скінуў яго на падлогу, а потым наступіў нагою і на муху, і на павука.

А каля ганку ўсё больш і больш збіралася суседзяў. Падкідаючы ўсхліпваючых дзяцей, маладзіцы балбаталі адна перад другою, не слухаючы адна другую. Дзеці дурэлі каля дзевак і рагаталі. Каля ганку каапратыва стаяла некалькі калгаснікаў і спрачаліся з Ількам-хутаранінам аб калгасным „клінку“, які атрыманы Ількам яшчэ ў 1918 годзе з запаснога фонду. Нават бабка Еўланіха, якая раз у год—на вялікдзень вылазіць за парог, і тая прыйшла.

Яна села на бярвенні і, гледзячы каламутнымі вадзяністымі вачыма кудысьці паверх галоў, бязгучна шавяліла губамі.

Самая старая ў вёсцы, яна памятае тое, што другія толькі чулі ад сваіх дзядоў. А памятае Еўланіха многа: на яе вачах вырасла сяло. Калісьці гэта была маленькая вёска, вакол лясы шумелі, у хлеў мядзведзі лазілі. А перасыхаючая рачулка калісьці была вялікаю рэчкаю, і тады па ёй сплаўлялі лес у гарады дальнія.

Але ішлі гады. Многа гадоў прайшло, і высекліся лясы, перавялося звяр'ё, перасохла і рэчка. А сяло расце: з кожным годам усё далей і далей у поле адносяцца вароты. Змяніліся звычаі, норавы, абрады.

Шмат чаго памятае старая Еўланіха, але вось не памятае яна выпадку дзяльбы між мужыком і бабаю. Гуляла дзеўка, адгульвала

сваё дзявоцтва, а выходзіла замуж—і на ўвесь век пакорна запрагалася ў сваё бабскае ярмо.

— Відаць, і бабе воля дадзена,—сказала яна ўслых, як і раней, гледзячы кудысьці паверх галоў.

Пад'ехаў Грышка, стрэчны брат Наталі. „За дабром"—падумаў Філіп і, зняўшы з сцяны дудку, пачаў ёю лёгенька барабаніць па падаконніку.

Калі Грышка ўвайшоў у хату, Наталя звярнулася да Філіпа:

— Дай ключы!

Філіп вельмі таропка аддаў ключы і, адвярнуўшыся да акна, трохі мацней пачаў стукаць кончыкам дудкі па падаконніку. Яна расчапілася. Філіп недаўменна паглядзеў на расшчэп і паспрабаваў прадзьмуць пыл. У хаце пачуўся хрыплы, надтрэснуты свіст, Філіп нават здрыгнуўся.

Агаліліся сцены, агалілася душа Філіпава, разам з ячменем ён выкінуў і радасць сваю.

Рассыпалася яна ў пыле дарожным на паклёў вараб'іны. А калі ён убачыў, што Наталя адкладвае сынавы кашулькі, дык запытаў хрыпла, нібы ад перапою:

— А гэта навошта?

— Сына з сабой вазьму.

— Не, сына не возьмеш!

Наталя разгублена паглядзела спачатку на Філіпа, а потым на Егора-старшыню, і той унёс даведку:

— Паводле закону...

— Пляваць мне! Няхай замест сына ялаўку бярэ!..—Ён зняў з сцяны цяжкі рубанак, паспрабаваў на палец яго адточанасць і зноў павесіў. Міліцыянер усміхнуўся, нібы хацеў сказаць: „Хіба я не казаў, што справа не такая ўжо простая".

— А ты спужалася,—бойка запытаў Грышка і ўсміхнуўся.—Бяры сына, а мы з Фядотам куфар вынесем.

Падбадзёраная яго тэнаркам, Наталя падняла сына на рукі.

Філіп уздрыгнуў і ступіў да яе:

— Пакінь сына!

— Сын мой.

— Пакінь, кажу!—ціха сказаў ён, але твар яго пабялеў, а вочы ўваліліся ў глыбіню.

Цяпер ужо загаварылі ўсе. Загаварылі трывожна, адрывіста, аднымі кароткімі выкрыкамі:

— Філіп!..

— Філіп Карпыч!..

— Не можна!..

— Паводле закона!..

Мацней за ўсіх крычаў Грышкаў тэнарок...

— Лягчэй, сваток! Дальбог, лягчэй! Не вельмі, сваток!

— Ну?—працадзіў Філіп і памкнуўся па рубанак.

Раптам усіх пранізала халадком. Наталля ўскрыкнула і адскочыла да полага. Закрычала і перапужанае дзіця. Грышка адступіў і некалькі разоў аглянуўся, нібы шукаў чагосьці. Міліцыянер правёў пальцамі па кабуры, а Фядот бокам прасунуўся да дзвярэй і пачаў выбіваць пыл з шапкі.

— Я вам пакажу, як мучыць!—цяжка праказаў Філіп.

— А страціш ты сына Філіп Карпавіч!—дакорліва сказаў Ягор-старшыня і зняў акуляры.—Буянствам справы не паправіш.

Філіп адкінуў рубанак і, працягнуўшы рукі, загаварыў дрыготнымі ад суму губамі:

— Сынок... Ідзі да мяне, сынок!

Было цяжка і непрыемна. Наталі яшчэ і самой не верылася, што яна можа пакінуць Філіпа і пайсці зусім. Ёй шкода было гэтае хаты з пафарбованымі вокнамі, шкода рабіны пад акном, якая вырасла на яе вачах. А глянуўшы на Філіпа, на яго падраныя локці, яна зразумела, што больш за ўсё ёй шкода Філіпа.

Здавалася, што вось-вось здарыцца нешта вялікае і возьме перамогу прымірлівае пачуццё шкадлівасці. У той-жа час Наталя добра ведала, што жыць з Філіпам не зможа, што яна не аддасць яму сваёй волі, і што інакш Філіп жыць не ўмее і не хоча, а зрабіць яго другім яна цяпер бяссільная.

Стрымліваючы і заглушаючы сваё пачуццё, яна сказала ціха:

— Добра... бяры сына...—І злёгку адштурхнула ад сябе дзіця. Але калі Філіп захацеў узяць яго на рукі, ён спужана запішчаў і моцна ўчапіўся за шыю маткі.

Філіп апусціў рукі, нібы чужыя, нібы мёртвыя рукі:

— Адбілі... і сына адбілі.

Ён таропка схапіў з падаконніка дудку і, прыгінаючыся ў дзвярах, цяжка выйшаў з хаты.

Пахістваючыся, нібы ад хмелю, ён сышоў з ганку, але тут-жа адчуў, што пайсці ад свайго парога ён не можа, у яго не хапае сілы, і што ногі ў яго пацяжэлі, вельмі цяжкімі сталі яго ногі. Ён цяжка апусціўся на бервяно каля Еўланіхі. Дудка выслізнула з яго рук і ўпала пад ногі, але Філіп не заўважыў гэтага.

Абхапіўшы галаву рукамі, ён прашаптаў: „І што ёй трэба, што?"

Глянуўшы на Еўланіху, Філіп прамовіў, нібы скардзячыся:

— Жыццё зламалі, бабка...

— А ты прыгледзься, Філіпка! Прыглядзься да Наташкі!—Старая глядзела кудысьці ў далячынь, паверх галавы Філіпа, і казала задумліва не то Філіпу, не то самой сабе:

— Волю пачула баба. Ні замком, ні страхам не ўтрымаеш яе. І не чужая мука салодкая ёй, а жыць па-свойму хоча... А ты прыглядзься— не на дрэннае ідзе Наташка. А прыгледзішся, ды зразумееш, мо' і да сэрца дарогу знойдзеш: бабскае сэрца ласкавае. А Наташка разумная, з душою...

Яна клапатліва пачала разгладжваць зблытаныя валасы Філіпа, нібы малому разгладжваць.

— І маё словы запамятай: пойдзеш за Наташкаю — знойдзеш Наташку... Філіп маўкліва і з палёгкаю ўсміхнуўся ёй і падняў з зямлі дудку.

Пераклаў з рускай мовы
М. ХВЕДАРОВІЧ.

М. ІСАКОЎСКІ

## БАБСКІЯ РАЗМОВЫ

Ў нас на вёсцы, з шумным інтарэсам,
Бабы шмат вось гутарыць такога...
Нібы Таню
Бачылі за лесам
З комсамольцам Мішам Казаковым.

Нібы ў поўнач месяц на адкосе
Разгубляў сярэбраныя кольцы,
І ў засос
На скошаным пакосе
Цалавала Таня комсамольца.

Толькі хлусяць, вось што Тані крыўдна,
Проста ходзяць ўсякія „казалы".
Пэўна бабам горка і завідна,
Што яны сваё
Адцалавалі.

Што цяпер адзіная адплата—
Ад мужоў цярпець ім кпіны, здзекі.
Вось яны
Цягаюцца па хатах
І ўсё ганьбяць
Маладую дзеўку...

Плёткі бабаў надаелі Тані
Не гуляла Таня
На пакосах.
Цалавала Таня
На кургане
Ды і то
Без ўсякага засосу.

А яшчэ такое прагудзела,
Слых праплыў і ў мораку загінуў.
Быццам Таня
З гора пахудзела,
Быццам Таню
Комсамолец кінуў.

Вечарам пад сонным небасхілам
Таня зноў гуляе па пакосе...

Але-ж гэта
Бабы нахлусілі,
Але-ж бабам
Гэта ўсё здалося.

Языком матняюць бабы лоўка,
А астатняе—
Ім проста невядома.
А ў яго-ж
Цяпер камандыроўка,
Па загаду меснага губкома.

На ад'ездзе, на пахучым сене
Таня развіталася да свету.
Абяцаў пісаць ёй па нядзелях,
І жаніцца абяцаў на лета.

Толькі як-жа,
Як-жа гэта выйшла,—
Бабы ля калодзежа
Балбочуць.
Нібы Міша
Нічога не піша
І вярнуцца к Тані
Больш не хоча.

Быццам вочы
Таніны патухлі,
Ад кахання Таня
Марна гіне...
Ах вы бабы-старыя квахтухі,
Да чаго-ж цярпіць ад вас дзяўчына.

Пераклаў з рускай мовы
М. ХВЕДАРОВІЧ.

СЯРГЕЙ ЗНАЁМЫ

# БІЯГРАФІЯ МАЙГО ГЕРОЯ*

*АПОВЕСЦЬ*

## XV

Старая, згорбленая маці, як і звычайна, ласкава прывіталася і дала есці. Ёй не было калі даглядаць за Казімам у дзяцінстве. Слабая і хворая яна добрую палову свайго жыцця праляжала ў рыззі бруднага ложка. Не раз рочылі ёй смерць, не раз прасіла яна смерці. Хворая, галодная, у сырасці і халадэчы яна часта тады маліла бога, каб ён укараціў ёй жыццё, але яна таксама прасіла, каб паміраць не адной, а разам з гэтымі галышамі, малымі і хілымі сваімі хлопцамі. Калі-ж Казім адлучыўся з хаты, яна доўга плакала і часта ўспамінала яго, богу нават малілася, бо думала, што загінуў недзе.

Цяпер ён разам з ёю. Меншы недзе ў армію пайшоў; захацелася да часу паслужыць, што-ж, няхай ідзе, навучыцца чаму-небудзь, чалавекам стане. Піша, што жывецца добра. Ну і жыві на здароўе, думае часам старая. Жыві, бо змалку-ж хапіў гора...

Казім глядзіць на маці, а яна не спускае з яго воч. Бачыць сына рэдка даводзіцца, заняты вельмі; прыбяжыць да дому, перакусіць чаго-небудзь ды ізноў пабег. А хочацца, хочацца старой прыгалубіць сына, сказаць добрае мацярынскае слова. І разам з тым і сорамна і боязна неяк, бо ўсёткі-ж вялікі ён ужо. І здаецца маці, што стаіць ён ад яе неяк воддаль. Адтаго і ніякавата, хоць і добры ён, слова паганага не сказаў яшчэ ніколі, не пакрыўдзіў старой. Адтаго мо‘ яшчэ і большы жаль абдымае грудзі. Усёткі сваё дзіцё. А са сваім рознае бывае. Сваё не змоўчыць часам, усердзіцца, вылаецца, але-ж гэта сваё, таму і гэта крыўдная, часам балючая лаянка за ласкавае сходзіць. Як не кажы, роднае-ж дзіцянё, а з родным, чаго не здараецца. А тут неяк, як па масле, як па шкле ходзіць адзін каля аднаго. Старая ўздыхае і, махнуўшы рукой, бярэцца за хатнюю работу.

— Марфушка сягоння прыходзіла,—кажа яна да сына.

— Марфушка?—здзіўлена пераказаў Казім.—А чаго-б ёй прыходзіць да нас?

— Цябе бачыць хацела.

— Што гэта ёй нешта прыспічыла. Адкуль яна з‘явілася, не казала?

— Чаму-ж, выхвалялася, што жыве добра. Знайшла сабе некага хахаля.

Казім з палёгкаю ўздыхнуў.

— Хлапац, кажа, ніштаваты, пераязджаюць некуды ў цэнтр.

---

* Канец, гл. „Полымя рэволюцыі“ № 5.

— Ну і няхай едзе. Няхай жыве; дзяўчына яна таксама не дрэнная.

— Ат, маўчы ты ўжо, якая там дзяўчына.

Чуваць было, як за вакном пачынаецца дождж. Упачатку толькі некалькі кропель пала на шыбу, а потым яны ўсё гусцей і часцей брызгалі, аж покуль не пайшоў буйны і густы дождж. Казім дастаў нейкі падручнік. Маці ўсё корпалася на кухні, прыбіраючы пасудак. У пакоях было цёпла і ўтульна...

На другі дзень Казім прыйшоў на работу, як і звычайна, да першага гудка. Ён прыбраў варштат, прымайстраваўся і чакаў новага задання. Антон Адамавіч папрасіў Казіма да сябе ў канторку. Калі Казім прыйшоў, майстар сядзеў над нейкімі чарцяжамі.

— Ты чалавек, відаць, недурны, работу ведаеш. Вось я і думаю табе першаму даць зборку абутковай машыны. Справа для нас усіх новая, але, сам ведаеш, патрэбная і сур'ёзная.

— А ці спраўлюся я з ёю, Антон Адамавіч?

— Думаю. Ва ўсякім разе, паглядзім, як яно атрымаецца. Адно, мне здаецца, трэба мець на ўвазе: будзеш мець ахвоту, так і зробіш. А якая там недарэчнасць будзе, ці ведаць чаго не будзеш, дык мы-ж тут, пад бокам, мяне і інжынера можна паклікаць.

— Добра, паспрабую. Вы толькі дайце загад, каб мне часткі ўсе ў час падалі і каб там каля варштата крыху абмялі, бо вельмі-ж бруду багата сабралася.

— Добра, добра, гэта можна... А ты вось хлапец, Драгуна не абмінай, ён чалавек вопытны, справу ведае і параду можа даць. Дармо, што крыху такі вуркаваты.

Казім падумаў: „не вуркаваты, а звераваты", потым ён узяў чарцёж і пайшоў рыхтавацца да новай работы. У той самы дзень усе патрэбныя часткі былі на месцы. Казім упарадкаваў іх і пачаў вывучаць чарцёж. Другі дзень таксама прайшоў над чарцяжом. Толькі перад самым гудком комсорг Кучмель сказаў Казіму пра сход комсамольскай ячэйкі...

...Сабраліся ў невялічкім пакоіку. Комсамольцаў было мала, і што асабліва абзадачыла Казіма, дык гэта адсутнасць дзяўчат. Яны сабе былі, толькі вельмі мала: тры, і толькі ў такарнай. У зборачным зусім не было дзяўчат. Казім да некага звярнуўся з пытаннем, чаму ўласна не прымаць у бронь і жаночага полу?..

Кучмель, абраны старшынёй сходу, пачынаў работу.

Гаварылі пра дысцыпліну і палітвучобу. Было шумна і весела. Адчувалася неяк хораша і радасна. Калі часам пачынаў хто-небудзь рагатаць, дык яго падтрымлівалі і, дазнаўшыся пра нейкую смешную прыгоду Кучмяля, рагаталі ўсе. Ці часам хто-небудзь пачне песню і пачне адзін, але следам за ім зацягнуць і іншыя, і тады песня гучыць моцна і доўга... Казім адчуваў сябе як-бы на старым месцы. Яму здалося, што нават нічога і не змянілася. Той самы завод і тыя самыя людзі. Ён нават запямятаў, седзячы на сходзе, што за-пазухай ляжыць чарцёж, што заўтра трэба прыступаць да зборкі новай машыны. Ён выйшаў са сходу з хлапцамі свайго цэха. Іх было сем. Ішлі шумна і гаварылі гучна. Казім быў рад, што ўрэшце трапіў у агульнае рэчышча. На дварэ была цёплая пагода. Зоркая і чыстая высь проста і ясна глядзела ў павольную Свіслач.

— Добрая заўтра будзе пагода, хлопцы,—сказаў Казім.

— Снег-бы выпаў. Эх, і хочацца на лыжы.

— Мароз-бы даў,—сказаў другі, на каток-бы тады.

Казім успомніў раптам нешта і прыціх. Эх, вы лыжы, лыжы і сыпучы снег, марознае надвор'е, цёплы подых і радасны смех. „Рэнька",

хацелася гойкнуць Казіму на ўсю вуліцу і бегчы. Толькі куды? Ён развітаўся з хлапцамі і павярнуў на сваю вуліцу. Ён думаў цяпер аб сваім старым заводзе. Успомніў Каўшэвіча, Лагвінка, высланага на Салаўкі Кашкеля і зволенага з завода Храпенку. Паўстала ўсё, што на нейкі час адышло. Але праз усё, што паўстала, усё больш і больш акрэслена выступалі абрысы Рэнькі, харошай і чулай Рэнькі Карамец. Што яна цяпер робіць? Можа дзяжурыць на заводзе ці працуе? Можа сядзіць дома ды тое-сёе хатняе робіць? А можа... можа дзе-небудзь па Совецкай ці Ленінскай гуляе, можа ў кіно ці тэатры— сядзіць, вяселіцца і радуецца, запамятаўшы ўсё? Казім сумеўся і неяк паціху разважна пайшоў. Ён думаў, а аб чым ён думаў? Усе мы думалі і часам думаем пра тое-ж самае, але кожны па-свойму, кожны аб сваім. На тое і маладосць.

XVI

Цёпла і снежна на дварэ. Шумна і говарка ў зборачным. Антон Адамавіч вельмі непакоіцца і нешта даводзіць Драгуну. Той павольна ачышчае іржу з шасцярні і гаворыць:

— Дык чаго-ж непакоіцца, што вы думаеце мы не зможам? Людзей у нас хопіць.

— Але-ж падумайце, гэта новая справа і складаная справа, павінен вам сказаць.

— Складаная, то складаная, ды вось усёткі Казім яе здужыў, работу хлапец канчае і атрымліваецца ў яго не дрэнна.

— Зборка ідзе добра, слоў няма, але-ж ён адзін; астатнія не ведаюць, як узяцца за справу.

— Трэба, каб ведалі.

— Трэба. Лёгка сказаць, цяжэй зрабіць гэта, вучыць трэба людзей, а гэта-ж справа не аднаго дня.

— І навучым, і зробім, вы толькі гарачкі не парыце. Мы вось адбяром наш комсамол, скажам ім. Хлопцы бойкія, дапаможам, няхай яны возьмуцца за гэтую справу.

— Ну, ну, збірай, паспрабуем, я-ж на ўсё гатоў.

Недзе ў канцы корпуса пачаў сакатаць матор. Упачатку ён выбіваў такт глуха, потым усё мацней і часцей, і хутка за работай матора не чуваць было нічога. Сіні дымок рэдкімі хмарамі гойдаўся па корпусе. Гэта рамантавалі трактар. Антон Адамавіч падышоў да Казіма.

— Канчаеш?—запытаўся ён.

— Думаю скончыць,—адказаў той і прышвабраваў бакавую гайку.

— А як ты мяркуеш, зможам мы сабраць усю партыю гэтых машын?

— Ды я, ведаеце, думаю, калі сабралі адну, дык і астатнія зможам сабраць.

— Ай, вы моладзь, вам усё здаецца лёгкім.

— Маючы такога майстру, як вы, Антон Адамавіч, мы найскладанейшыя машыны пачнем хутка выпускаць.

— Жартаўнік вы,—памякчэўшы заспакоена казаў майстар.—Пабачам, што вы будзеце казаць, калі я вас усіх пасаджу на якіх кварталы тры на зборку гэтых абутковых машын. Паскачаце вы ў мяне.

— Нас работай не напалохаеш,—сказаў Кучмель, які падышоў нешта сказаць Казіму.—Пасадзіце на абутковыя, так будзем рабіць.

— А ўжо-ж, пасаджу, і памятайце, хлапцы, спуску не дам, пакуль не зробіце.

Кучмель звярнуўся да Казіма.

— Чуеш, сход сёння, прыходзь абавязкова,—і вёрткі комсорг пайшоў далей...

...Сабраліся, як і звычайна, у канторцы. Невялічкая і нізкая, яна выдавала хутчэй за катушок, ніж за цэхавую кантору. Але, не маючы лепшага месца, і гэта было добра. Казім прысеў каля Доўнера. Маўклівы і працавіты ён быў не дрэнным таварышам і комсамольцам.

— Слухай, ты не ведаеш, якое стаіць пытанне?

— Па-мойму пра абутковыя машыны.

— Няўжо згадзіліся прыняць заказ?

— А чаму-б і не згадзіцца?

— А мне здаецца, што дарэмна ўсё гэта. Складаная, брат, рэч.

— Але-ж я сабраў.

Але ты не падумаў над заробкам. Табе плацілі па сярэдняму, а вось як возьмуць усю партыю, то адразу трэба будзе на выраб пераходзіць.

— Гэта і правільна. Павер, меней не заробіш.

— Пакінь, ну каму ты кажаш, быццам я не разумею.

— Тым горш для цябе, ты разумееш, а пляцеш нейкую драбядзень. Ну як па-твойму, завод павінен быў адмовіцца ад заказа?

— А хоць-бы і так. Якія тут у нас машыны, на чым тут іх вырабляць, абутковыя машынкі? Усёткі-ж для такой работы абсталяванне патрэбна, а ў нас, сам бачыш, акрамя збітых малаткоў ды сцёртых падпілкаў, нічога няма.

Драгун папрасіў цішэй. Антон Адамавіч сядзеў каля стала. Поплеч прымайстраваўся намеснік дырэктара. Гэта быў усім вядомы Юркавец, былы слесар зборачнага. Драгун даў яму першае слова.

— Дык я, таварышы, проста, прыйшоў сказаць вам, што дырэкцыя, не чакаючы вынікаў пробнай зборкі, прыняла заказ на выпуск партыі абутковых машынак. Новая справа для завода, але надзея на вас. Цэх мы ўмацавалі новымі слесарамі, людзі не дрэнныя з усіх бакоў. Так што, на маю думку, з гэтай работай вы справіцеся.

Каля акна праходзілі кацельшчыкі, яны аб нечым спрачаліся між сабой. Казім запытаўся.

— А дэталі ўсе прывазныя, ці некаторыя будзем на заводзе адліваць?

— У асноўным прывазныя, але частку будзем рабіць і самі.

— Гэта складаней,—сказаў Драгун.

— Можа... Ліцейная яшчэ не прымайстравалася да выпуску гэтых дэталей. Але мадэлі робяцца, самі-ж ведаеце—трэба; будзем ціснуць на ліцейную...

Драгун удумліва і разважна падагуліваў. Антон Адамавіч глядзеў на яго і ўзгоднена ківаў галавой. Юркавец нешта шаптаў на вуха Кучмялю. Доўнер прасіў у некага тытуню на папяросу.

— Я так думаю,—казаў Драгун,—уся краіна да пяцігодкі брыгадамі працаваць рыхтуецца. А мы што, горшыя? Брыгада—гэта справа новая і не такая ўжо лёгкая, але-ж карысная справа. Дык чаму-б і нам брыгадай не ўзяцца за гэту работу...—Антон Адамавіч узгоднена ківаў галавой. Казім слухаў, а Доўнер уважліва глядзеў на Драгуна і круціў папяросу. Я кажу, што мы гэта можам. Няхай комсамольцы пачнуць, з'яднаюцца ў адну брыгаду і пачнуць рабіць. Мы з свайго боку дапаможам. Я, скажам, ахвотна буду працаваць у брыгадзе.

— Ты думаеш,—казаў Казіму Доўнер,—з гэтага будзе толк? Худая, брат, справа... Таварыш Драгун, а як у брыгадзе з заробкам будзе?

— Я мяркую так, як хто будзе рабіць, той так і атрымае. Ва ўсякім разе ў брыгадзе наш заробак не зніжыцца.

Юркавец кіўнуў галавой і, усміхнуўшыся, нешта сказаў Антону Адамавічу. За акном пачыналася мяцеліца. Драгун казаў:

— У мяне такая думка, не ведаю, як нашы комсамольцы паглядзяць на гэта. Я-б менавіта меркаваў, што брыгада павінна быць комсамольскай. Мы, комуністы, ахвотна будзем у ёй працаваць, думаю, што трэба прыцягнуць і беспартыйных. Але справу арганізацыі павінны ўзяць на сябе нашы комсамольцы.

У канторцы было ціха, так ціха, што чуваць былі паравозныя гудкі і скогат свідравальнага варштата. Нехта ў другой змене заганяў для заўтрашняга дня запас. Гаварыў Кучмель:

— Мы вось з Казімам гаварылі ўжо між сабой, што справа гэта сур'ёзная. Арганізаваць яно не штука, але-ж трэба працаваць, трэба, каб хто-небудзь, хоць-бы брыгадзір, справу добра ведаў. Я думаю, што Казім павінен-бы быў быць адказным.

— Я не магу,—казаў Казім,—не магу, справа-ж не толькі ў тым, каб ведаць крыху, як сабраць машынку. Брыгадзір—ён павінен быць усёй галавой.

— Чаму ты не можаш, упёрся, як той бык, і рады яму ніякай. Ну мы на бюро перабралі ўсіх людзей, і, акрамя цябе, нікога няма.

— Я ад брыгады не адмаўляюся,—адстойваў Казім,—я ў брыгадзе буду, але толькі не брыгадзірам, які з мяне брыгадзір?

— Вось ужо гэта вы дарэмна,—умяшаўся Антон Адамавіч.—Брыгадзір з вас будзе не дрэнны, справу вы ведаеце, а гэта вельмі важны бок. У астатнім вам дапамогуць.

— Ты, хлапец, не станавіся на дыбы, справа партыйная, раз патрэбна, дык нечага і адмаўляцца. Дысцыпліна-ж павінна быць нейкая ў нас. Што гэта, па-твойму, жарты мы тут думаем разводзіць?—Драгун падумаў:—Не, тут, брат, табе сур'ёзную працу даем, а ты аднекавацца пачынаеш. Не гожа гэта...

Галасавалі. За акном ішоў снег. Кучмель і Казім выйшлі на двор. Паперадзе ішлі старэйшыя. Юркавец нешта смешнае расказваў. Ён здаўна лічыўся жартаўнікам. Ён быў вясёлы чалавек і разам з тым не дрэнны намеснік дырэктара. Ён шмат смяяўся, жартаваў, і, разам з тым, час-ад-часу можна было заўважыць, як даюць сябе адчуваць яго пражытыя пяцьдзесят год і цяжкая заводская праца, вайна і рэволюцыя і славутая партызаншчына на Гродзеншчыне.

Казім слухаў смехатворы Юркаўца і моцна рагатаў. Уласна, ён рагатаў таму, што на сэрцы было радасна. І чаму-б, скажам, не парадавацца маладому хлапцу, які добра сабраў складаны варштат і цяпер павінен быў стаць на чале першай комсамольскай брыгады. К таму было такое добрае надвор'е. Снег перастаў ісці, і месяц ветліва пазіраў з высі. Белы пухкі снег лёгкаю коўдраю ёмка прыкрыў зямлю. Жартаўліва перакідваліся між сабою словамі людзі, што павольна некуды ішлі. Ласкава гойкалі на коні рамізнікі. Нават спакойна ішоў пасярод вуліцы нейкі крыху падпіўшы чалавек. Яму мусіць сорамна было гэтага светлага, чыстата зазімкавага вечара. Добрая была на дварэ пагода.

— Кучмель, ты куды думаеш сёння падацца?

— Не ведаю, мажа пазней па вуліцы пагуляю.

— А то давай сёння да мяне пойдзем?

— Гэта можна, толькі я забягу дамоў, пераапрануся.

— А потым прыдзеш?

— Абавязкова,—адбегшыся кінуў той.

Зноў пачынаў вялікімі камкамі валіцца з высі белы і мяккі пругожы снег. Ядраная была на дварэ пагода.

## XVII

„Вось і дурная я. Пазнала хлапца, дык цяпер без яго і супакою няма. І каб ужо асабліва што выдатнае. Ат, так сабе, нішто малец. Цікава, што ён цяпер робіць? Можа на заводзе, можа дома, а можа... Такой бяды, няхай... Падумаеш?! І ўсёткі цікава, што зараз робіць Казім?.. Проста, харошы ён малец!“

Золак займаўся на дварэ. Карамец адбывала дзяжурства. Яна рабіла апошні абход. Усё было на сваім месцы. Днела. Карамец перабіла дрымоту качагара. Ён усхапіўся і запрапанаваў тытуню.

На дварэ было відно, і Казім спяшаўся на работу. Сёння брыгада прыступала к зборцы машынак. Пад пахай хлапец нёс старыя чарцяжы. Вецер шалясцеў між падраных замусоленых папер. Снег скрыпеў пад нагамі. Адзін за адным прабеглі два грузавікі, і праехаў ламавік. Казім ішоў шпарка. Ён прывітаўся з вартаўнікам і пайшоў у цэх. Маўклівай ветлівасцю напаткалі яго старыя таварышы—у рад выстраеныя варштаты. Казім агледзеўся навокал і пачаў рыхтавацца да работы. Сабраная ім абутковая машынка стаяла воддаль на трох падкладках. Яе пакінулі ў цэху, як першы вопыт, каб у патрэбную хвіліну той, каму будзе што незразумелым, мог паглядзець, праверыць сябе і сваю работу, павучыцца. Казіму было хораша, бо, як ні кажы, усёткі яго праца стаяла на віду, і праца такая, што гледзячы не ўсміхнешся, пальцам не тыркнеш, іранічна крывячы рот.

Казім яшчэ раз прайшоўся каля варштатаў брыгады і праверыў, ці на месцы патрэбныя дэталі. Прагудзеў гудок, а за ім у цэх пачалі збірацца людзі. Казім глядзеў на іх і не разумеў, яму хацелася ў гэтых звычайных людзях бачыць нешта асаблівае, яму здавалася, што нешта здарылася на заводзе, бо ўсёткі, што ні кажы, а брыгадай пачынаюць працаваць упершыню. Але рабочыя ішлі, як і звычайна, не спяшаючы, упэўнена. Нават яму, першаму брыгадзіру, ніхто іголкі не падпусціў, не пакпіў, не пасмяяўся. І гэта было крыху крыўдна. Як гэта, такая справа і ніякага шуму, нават ніхто не павіншаваў. Пачыналася работа і таксама звычайна, як учора, заўчора, ці нават раней. Кожны браўся за сваю справу, кожны тупаў каля свайго варштата, кожны нёс патрэбную сабе дэталь. І ўсё так звычайна. Толькі Доўнер, якога перакінулі з канца корпуса бліжэй да брыгады, нерваваўся, наровячы лепш прымайстравацца да новага месца.

— Свінства,—казаў ён Кучмялю,—як быццам я на сваім месцы збіраць тую самую машынку не змог-бы.

— Не ў тым справа, сабраць то ты і там змог-бы, але зразумей, што разам з брыгадай у адным месцы значна лепей працаваць. Тут табе і дапамога і парада. Ды мала што.

З старой кацельнай даносіўся моцны гул. „Мусіць некуды трубы кляпаюць“,—падумаў Кізіла. Абапёршыся на варштат, ён задумаўся. Проста кажучы, ён і не думаў, а так нікім не прыкмечаны стаяў і слухаў, як моцна грукаюць малаты, як звініць жалеза і як скрыгоча нейчы свідравальны варштат. І пад гэты гул ён успамінаў, як хораша цяпер там дома, у Забалоцці. Што робяць там хатнія? Маці недзе, не давыпаліўшы ў печы, рыхтуе свінням замеш, а бацька ў лес паехаў ці дома сядзіць і лучыны дзярэ. Ён надзярэ лучыны багата і, навязаўшы ў кулькі, складзе на палацях у прыпуні. Лучына будзе ляжаць там мо, тры ці больш гадоў, а маці, дапальваючы агаркі да самага светача, не возьме ніводнай лучынкі, пакуль сам бацька не злітуецца і перад якім, небудзь святам не здыме кулька лучыны.

— Ты-ж ахайней, старая, каб надалей хапіла,—скажа ён.

Калі бацьку пападзе добры сасновы кругляк, ён дзярэ лучыну асцярожна, каб не сышла, каб тонкая і гнуткая была. Бацька майстра плесці добрыя кашалі. Бацькавымі кашалямі нават сваякі выхваляюцца. За яго кашалямі стары дзядзька за 40 вёрст кожную зіму прыязджае. Калі часам трэба новы кашэль у работу пусціць, тады бацька сам ідзе скаціне даваць. Ён доўга трасе трасянку каровам і па невялічкай жменьцы скубе кручком коням сена. А зойдзе ў хлеў, жывёлы труцца каля яго рук мордамі, і ён горда і ветліва глядзіць на іх, задаволены сабою і імі. Калматыя і сытыя авечкі кідаюцца да яго і, у адзнаку ветлівасці, скубуць сена і круцяць сваімі хвастамі-кручёлкамі. Парабак ходзіць следам за гаспадаром і ўважліва наглядае. Ён вучыцца, каб рабіць усё так, як робіць сам гаспадар, каб не ўгнявіць чым-небудзь дзядзькі і не застацца сіраціне без кавалка хлеба. Гаспадар падкідае сена коням, мацае ў скрыні, ці не засталося што, але нічога не знайшоўшы, лопае па шыі каня і гаворыць:

— Ну, палавенькі, адпачый крыху, мацуйся, мацуйся, сукін кот, у панядзелак зноў на рум пойдзеш.—Ад палавенькага ён перайшоў і пагладзіў па крыжавіне гнядога, потым жаробку паляпаў па храбціне і, не зважаючы на парабка, выйшаў з хлева.

Маці ў трысцені корміць парасят. Парабак бярэ мешанку і нясе ў хлеў свінням. Сёстры ў хаце прадуць, ім памагаюць суседскія дзяўчаты. Старэйшая сястра, напэўне, сёлета замуж пойдзе. Гарой ляжаць на яе ложку падушкі і красуецца дванаццацінітовая коўдра, прыгожа вышытыя навалкі, і пазвісалі з абразоў доўгія канцы васмірновага ручніка, на якім воркуюць вышытыя галубкі. Сястра, выхваляючыся перад суседкамі, каб не пабачыла маці, вымае са скрыні колькі губак кужэльнага палатна, паказвае, радуецца ды зноў хавае.

Вечарамі бацька да пеўня сядзіць за якой-небудзь работай. Ці то часам суседзі сыдуцца. Сядзяць, гутараць, успамінаюць. Ці то пра выганку, ці пра тое, як у Рыгу на цагляныя заводы рабіць хадзілі. Ці проста хто-небудзь байку або казку раскажа. Так і сядзяць, слухаюць.

Кізіла ўздыхае. Пераступае з нагі на нагу, павольна шмаруе падпілкам. За акном не сціхае гул кацельнай, поплеч цвыркочуць свідравальныя варштаты і звіняць, звіняць тонкія жалезныя лісты пад зубіламі. А Кізіла ўспамінае святочныя свае дні, пагулюшкі, наначкі і ліхія ігрышчы. Тугія і выглянцаваныя боты блішчаць на нагах, і шырокія суконныя галіфэ звісаюць над халявамі. Ён павольна шмаруе падпілкам і выцірае з ілба халодны пот. Задуменны твар яго выдае нейкую нутраную боль.

— Што з вамі здарылася?—пытаецца Казім.

— Так, нешта нездаровіцца,—адказвае Кізіла.

— Вы-б да доктара.

— А, налечыць ён, дактары цяперашнія, сам ведаеш...

„Працавіты чалавек", думае Казім і ідзе ў канторку. Кізіла глядзіць яму ўслед, затоена ўсміхаецца і памаленьку ўсё шмаруе падпілкам. Хутка абед, і ў цэху пачынае ажываць бегатня. Некалькі чалавек кінулі работу і хутчэй пабеглі ў сталоўку, каб да гудка заняць месца. Некаторыя, прымайстраваўшыся на варштатах, парасклалі хатнія абеды. Багата каму з дому прыносілі яду. Дзе той яшчэ гудок, а амаль усе спынілі работу. Нават Доўнер, дастаўшы свой круцялочак з шафкі, памкнуўся прысесці ды перакусіць. Але пабачыўшы, што ніхто з брыгады не абедае, паклаў перакуску назад у шафку і, нічога нікому не сказаўшы, працаваў далей. Некаторыя, праходзячы каля брыгады, кідалі хлапцам колкія жарты: „З-дз-ель-

шчыкі*, але тыя не адказывалі. Па ўсім прыціхшым корпусе яшчэ галасней і мацней разносіліся рэдкія выгукі свідравальных варштатаў і бомы жалеза. Брыгада працавала да самага гудка. Разам з гудком Драгун выціраў аб „канцы“ рукі і нешта смешнае расказваў хлапцам.

XVIII

Прайшоў месяц, брыгада здала дзве першых сабраных машынкі. Гэта было добра. Але нічога асаблівага, нічога выдатнага. А навокал чакалі іменна гэтага. Палучка была ва ўсіх аднолькавая, і небрыгаднікі пасмейваліся з Казіма. Смяяцца з Драгуна было ім нязручна. Усёткі ён чалавек старэйшы, к таму-ж і партыйны, і галоўнае—яго паважалі. А цяжка з таго пасмяяцца, каго паважаеш. Іншая рэч Казім, над ім можна, ён хлапец малады, хоць з галавой і з рукамі.

Праз колькі дзён Казім сабраў брыгаду. Антон Адамавіч таксама прыйшоў. Ён як-бы супакоіўся, але ўпэўненасці, што ў час будзе выканан заказ, у яго не было. Ён нейк скептычна глядзеў на брыгаду і вельмі паважна адносіўся да Казіма.

— Спрытныя рукі мае чалавек і галаву не дурную,—казаў ён часам Драгуну.

— У нас адно пытанне,—адчыняючы сход, абвясціў Казім.—Нам трэба пагутарыць наконт работы брыгады і здзельшчыны. Работа ў нас вельмі марудна ідзе.

— Не куецца, а плашчацца,—кінуў Акісенка.

— Вось іменна, што куецца. Ды толькі няма патрэбнага імпату. Павольнасці, залішняй асцярогі ў нас багата. Вы думаеце, мы выкананне гэтага заказу не можам прыспешыць? Можам, толькі самім больш мацней за справу ўзяцца. А то, уласна, ніякай розніцы між намі і небрыгаднікамі, ніякага прыкладу.

Следам за Казімам гаварылі амаль усе. А тым часам Казім радзіўся з Драгуном. Дзіўная рэч, наколькі ў першыя дні Драгун здаўся Казіму далёкім, натолькі ён быў цяпер блізкім. Што-б толькі ні здарылася, Казім ляцеў да яго. і ён, такі здавалася не прыхільны, ветліва сустракаў маладога брыгадзіра, парадкам тлумачыў яму і дапамагаў. Не стары, але ведаючы справу і людзей, Драгун глядзеў прыхільна на моладзь і раіў ім, як лепш рабіць і, захапіўшыся іх уздымам, не заўважаючы, сам бег разам з імі насустрач новаму і лепшаму.

Гэтымі днямі Кізіла, падышоўшы да Казіма, сказаў, што хоча ў брыгаду. Казім абрадаваўся і перадаў жаданне таварыша Драгуну.

— Чорт яго ведае, слёсар ён не дрэнны, але нешта вельмі ўжо лісьлівы чалавек... Ва ўсякім разе, у брыгаду трэба будзе прыняць.

Казім у абед сабраў брыгаду. Кізіла перад усімі выказаў сваё жаданне. Яго прынялі, і к вечару, як і на іншых варштатах брыгаднікаў над месцам Кізілы вісела дошчачка з надпісам:

ПЕРШАЯ ЗБОРАЧНАЯ БРЫГАДА

№ II

Драгун павярнуўся да Казіма і ціханька сказаў, што сход трэба канчаць. Брыгадзір спыніў спрэчкі і зачытаў прапановы. Яны былі кароткія і простыя. Пераабсталяванне, гаварылася ў прапановах, абутковай фабрыкі ідзе к канцу. Трэба паскорыць зборку машын. Зборка цяпер брыгадай асвоена, значыць, трэба цяпер лепей і шпарчэй працаваць. І яшчэ, брыгада прасіла дырэкцыю і заўком, каб людзям брыгады не бегаць у сталоўку да гудка і не стаяць там у чарзе, а

вызначылі каб для брыгады стол, ці дазволілі ў парадку самаабслугоўвання прыносіць абеды ў цэх.

Разыходзіліся. Доўнер і Кізіла ішлі з Казімам. Яны ўсё дапытваліся ў Казіма, як уласна быць з газетай. Ці выпускаць брыгадную, ці паранейшаму агульна цэхавую.

— Па-мойму, і тую і тую патрэбна.

— Дык мы-ж не справімся.

— Тады выпускайце цэхавую, толькі брыгадзе патрэбен самастойны куток там.

— Ты-б, Казім, напісаў пра брыгаду,—звярнуўся Кізіла.

— Лепш было-б, каб хто іншы напісаў.

— Не, іншы гэта само сабой, а ты таксама.

— Добра, я напішу, толькі.., ай я-я дзе-ж гэта Драгун? Заўтра выхадны, а мне трэба было з ім сур'ёзна пагутарыць.

Ён адлучыўся ад хлапцоў і пабег на ўздагон Драгуна. На дварэ яшчэ было відна. Але ў ліцейнай гарэлі агні. З кузні даносіўся звон малатоў. „Дэталі падганяюць", падумаў Казім. У заводскай канторы нікога не было. Казім пусціўся ў заўком. Там засядала РКК. Драгун збоку аб нечым гаварыў з культкомам заўкома.

— Як хочаш, братка, а нам патрэбен кіраўнік,—казаў ён. Казім стаў поплеч.

— Я разумею, што трэба але-ж ЦП грошай не дае.

— Мяне гэта не тычыцца. Мы хочам брыгадай займацца і, будзь ласкава, дай нам кіраўніка.

Зазваніў тэлефон. Сакратар нехаця ўзяў трубку. Ва ўсіх яго рухах і голасе адчувалася стома і надакучлівасць гэтага шоламу.

— Каго-ж вам?—збыякава запытаўся ён.—Каго? Каго? Не ведаю такога... Няма ў нас такога.. Ну што вы мне плеціцё, я кажу, што няма.—І, не аднімаючы трубкі ад вуха, ён звярнуўся да культкома.— Слухай, таварыш Старонкіна, не ведаеш, хто такі Ланеўскі?

— Ды гэта-ж я,—смяючыся сказаў Казім.

— А чорт вас тут ведае, то ён Казім, то ён Ланеўскі.

— Ды я, брат, ад роду і той і другі.

— Ну, ідзі, просіць вось нехта.

Казім узяў трубку.

— Ну? Слухаю, слухаю... Ну, канешне я, Казім... Ай, добра, вось малайчына!—Ён смяяўся і чырванеў.—Але, так, так... ды не, не... дома... абавязкова... проста, адсюль... адсюль дамоў... Ну, глядзі-ж!

— Цішэй ты,—флегматычна кінуў сакратар.

Казім павесіў трубку і без адбою выскачыў з заўкома. Ён запамятаў, што шукаў Драгуна і неяк з прыскокамі і свістам падаўся дамоў.

Маці сустрэла яго ветліва і ласкава. Убачыўшы, што ён вясёлы, яна таксама цёпла ўхмыльнулася і запытала, што даць есці.

— Што-небудзь, што ёсць. Казім хуценька пераапранаецца. Ён імкнецца захаваць перад маці сваю спехату, але тая старым набітым вокам бачыць сынаву радасць і сама весялее. Без загаду яна імкнецца прыспешыць усё, у час падаць, у час прыняць і затоена, неяк цёпла, ухмыляецца, ды так, каб сын не ўбачыў, каб не дазнаўся, што маці адчувае яго радасць.

Вось Казім ізноў на вуліцы. Чыста і добра апрануты, крыху прыўзняты, ён спакойна ідзе, стрымліваючы нутраное хваляванне. Думае, а што калі Рэнька будзе лаяць за няўвагу, за нячуласць. Гэта-ж сапраўды не добра. Другі тыдзень, як не сустракаліся. Казім ідзе і шукае ў думках патрэбных для абароны слоў. І сам, не заўважаючы таго, усё шпарчэй і шпарчэй пераастаўляе ногі, усё шпарчэй і шпар-

чэй крочыць уздоўж вуліцы, і здаецца яму, што так лепей ісці і так лепей думаць. Ніхто не перашкаджае роўнаму ходу яго думак. Ён ідзе доўга, не аглядаючыся, і раптам моцна некага шыбае плячом.

— Прабачце, прабачце!—Ён адбегся на колькі крокаў і зірнуў:— Рэнька,—сказаў ён раптам, здзіўлены ад нечаканасці, і кінуўся да яе. Тая стаяла і ад шчырага сэрца рагатала на ўсю прыціхшую вуліцу.

— Ну што, добра плячо пабіў?—І зноў рагатала. Казіму таксама стала смешна, і ён вінавата і асцярожна пачаў ухмыляцца.

XIX

Кожны дзень у зборачны прыходзілі людзі з усіх цэхаў. Ім хацелася падзяліцца, паглядзець на работу брыгаднікаў. Гэтая цікавасць узрасла, калі аднаго разу на старонках газет з'явіўся артыкул з падрабязным апісаннем жыцця і працы брыгады. Як ні кажы, а кожнаму было цікава ведаць, як гэта людзі змаглі не толькі асвойвацца з новымі машынамі, але працаваць так, што на другім месяцы заробак ўзрос ледзь не ў два разы. З ростам цікавасці расла і колькасць заявак у брыгаду. Задаволены добрымі вынікамі работы, Антон Адамавіч хадзіў па корпусе і сам падбухторваў людзей.

— Бачыш,—казаў ён,—зірні на хлапцоў, куды яны сiганулі. Дзіва адно!

Драгун падняў ячэйку і заўком на ногі. Сам дырэктар быў на сходзе, прысвячоным працы брыгады. У брыгаду сыпаліся заявы. Казім не знаходзіў ужо парады ў Драгуна, яны ўдвох кожны раз пасля работы ішлі ці то ў ячэйку, ці то ў заўком і там радзіліся. Урэшце было вырашана арганізаваць новую брыгаду. Гэтая была цеснаватая, і тым не менш у яе ахвотна ішлі. А вось калі сказалі пра новую, тады ў людзей як-бы ахвота адпала. Але гэта быў толькі адзін момант. Новая брыгада была згуртавана. Брыгадзірам абралі Кучмяля.

Раз пасля абеда абодва брыгадзіры не знайшлі ў сваіх століках выдадзенай для пайкі медзі. У Кучмяля нават выцягнулі бабіт і кавалак бронзы. У корпусе загаварылі. Кожны незразумела ціскаў плячыма і здзіўлена глядзеў. Пасля работы Драгун разам з брыгадзірамі пайшоў у ячэйку. Яны былі там доўга і выйшлі незадаволеныя.

— Сакратар праў,—казаў Казім, ён быў хмуры і злосны.—Што гэта мы ідзём у ячэйку, не даведаўшыся, хто ў гэтым вінават. Нам-жа лягчэй злавіць злодзея.

— Гэта так, але паспрабуй, злаві. Калі тут нехта хітра акапаўся.

— Гэта якраз не факт, злодзей якраз не хіцер. Разумны злодзей такой дробязі не цягнуў-бы.

— А па-твойму, што ён свідравальны варштат украў-бы, ці мовал на плечы ўзваліў-бы ды вынес? Не, брат, тут нейчая хітрая работа. Ён, брат, памаленьку цягне і цягне. Гэта-ж не ўпершыню.

Кучмель у знак згодыківаў галавой. Драгун маўчаў. Насустрач ішоў Кізіла.

— Я хацеў вас, Казім, прасіць, каб вы дапамаглі мне атрымаць у заўкоме даведку.

— А навошта яна табе, ці дома што здарылася?

— Не, нічога асаблівага не здарылася, але бацька вельмі стары, на зямлі працаваць ужо не можа. Вось цяпер і думае па старасці пенсіі дабіцца. Ён у мяне партызанскія заслугі мае.

— Варты ён у цябе чалавек. Такім людзям не адну, а дзве пенсіі трэба выдаваць... Хадзем, брат, мы такую даведку накоцім, што ўсім бюракратам зайздросна будзе.

З заўкома Казім выйшаў задаволены. Ён адчуваў, што свой абавязак перад таварышам выканаў. Кізіла рагатаў на ўвесь рот і ўсё

запрашаў Казіма ў госці. Той у пачатку муляўся, але потым згадзіўся. „Чаму, уласна, думаў ён і не зайсці, свой хлапец, прыхільны і добры". Калі ён праз некалькі дзён апынуўся ў Кізілы, яго страшэнна здзівіла і абурыла тое, у якіх умовах жыў гэты чалавек. Брудны і цёмны пакоік Наберагавой быў да таго невялікі, што дваім і павярнуцца не было дзе. Гаспадар паклаў на стол кавалак ёлкага сала і поўбулкі хлеба. „Э, падумаў Казім, ты, брат, яшчэ на бацькавых харчах трымаешся". Газоўка цмяна хліпала ў накураным пакоіку. Пачалася нудная і доўгая гутарка... Казім выйшаў ад таварыша позна. Ён быў вясёлы і ішоў роўна і спакойна. Так ходзяць людзі, якія добра ведаюць, што іх здалёк па паходцы пазнаюць.

Маці сустрэла сына ветліва і была вельмі рада бесклапотнаму яго настрою.

— Ты ведаеш, маці, хто твой сын? Ведаеш?

— Дзе там мне ведаць.

— Твой сын, маці, кваліфікаваны чалавек. Яго не то што па цэху, па ўсім заводзе хваляць.

— І добра, сынок, ласкавае слоўца людзей і маці цешыць.

— Цешыць... Чакай, яшчэ не так скажуць, скажуць, маці.

На дварэ быў вялікі мароз. У хаце цяплынь абдавала ўсяго. На дварэ было ціха і відна, у хаце цёмна і шопатна. Старая маці, прыгнуўшыся над засынаўшым сынам, нештя шаптала...

Казім устаў пазнавата, але ўсёткі пашоў на завод. Звычайна ў выходны на завод не пускалі. Але ён як брыгадзір прайшоў без ніякай затрымкі. У цэху было ціха і пуста. Ён агледзеў варштаты брыгаднікаў і прысеў каля сваіх ціскоў. Ён доўга сядзеў і думаў. Ён заўважыў, што чамусьці неўпрыкмет для іншых Драгун вельмі доўга і пранікла пазірае на яго. Нібыта ён якую-небудзь падазронасць мае. А чаму-б не мець гэтай падазронасці? Усёткі я чалавек... Ён устаў і, заўважыўшы, што са століка Кізілы тырчыць кончык меднай стружкі, падыйшоў і выцягнуў гэтую стружку. „Сумленны чалавек, гаварыў Казім сам сабе, не хапае медзі, дык ён абрэзкі збірае, каб імі паяць. Добры і дасціпны. Сам добра працуе, бацьку добрага мае, а тут што, жывеш, абы жыць. Не, нешта не тое я. Адкуль бы гэта ўсё з'явілася. Ну што ж Драгун скоса пазірае на мяне, можа думае, што я па старой звычцы медзь цягаю. Дык чаму-б ён проста не запытаўся ў мяне, не сказаў у вочы?" Казім скруціў тую стружку ў камок і кінуў у куток. Мядзьшка забрынчэла і, спудзіўшы вялікага пацука, паляцела за станіну. Казім доўга хадзіў па корпусе: то ён думаў нешта, то проста глядзеў на маўклівыя машыны. Яму хацелася супакоіцца, прыйсці ў звычайны стан, але чым больш ён хадзіў, тым нервовей рабіўся, тым вышэй узнімалася яго хваляванне.

— Я найду, хто гэта крадзе. Я пакажу, што мне цяпер няма патрэбы, ды і няма ў каго красці. Ён прайшоўся яшчэ ўздоўж корпуса, пакруціў пас на халастым шківе і, адарваўшыся ад месца, накіраваўся проста да сваіх ціскоў. Ён дастаў струмант, расклаў ключы, выняў падпілкі і пачаў, як звычайна, працаваць. Чым болей ён працаваў, тым лепей і спакайней рабілася на сэрцы.

## XX

Прабягаюць за днямі дні. Аснежаную ліхую зіму прыспяшае ў дарогу прадвесне. Растаў на шыбах лёд, і цяпер добра відаць, як старанна капаюцца ў смецці вераб'і. Часам сонца вынырне з-за хмары і ласкава зірне ў акно. Драгун з Доўнерам дапамагаюць чарнарабочым ставіць на ваганетку новую сабраную машыну. Яна гатова,

і цяпер засталося толькі праверыць яе на хаду. Уздоўж вялікага корпуса павольна коціцца ваганетка. Задаволены Драгун ідзе ззаду. За ім следам, памаладзеўшы на некалькі год ад паспяховай работы брыгады, ступае Антон Адамавіч. Ён вельмі рад, што брыгада да тэрміну выконвае заказ. Засталося яшчэ некалькі машынак сабраць, і тады можна будзе рапартаваць аб перамозе брыгады. Кучмель зайздросным вокам праводзіць ваганетку і пытаецца ў Драгуна:

— Канчаеце?

— Думаем да мая скончыць. А ў вас як?

— Памаленку, пакуль што не дрэнна. — Брыгада Кучмяля была занята на зборцы свідравальных варштатаў. Для завода гэта таксама новая справа. Раней гэтыя варштаты з-за мяжы прывозілі, а цяпер трэба было самім рабіць. Складаная і цяжкая рэч. Паўмесяца інжынер без выходнага сядзеў у брыгадзе. Пробная зборка першага варштата была вельмі няўдалая. Гэта шмат каго абзадачыла і нагнала перапалоху. Але прабягалі за днямі дні, і снежаную ліхую зіму прыспяшала ў дарогу прадвесне.

Контралёр паказаў, дзе паставіць машыну. Антон Адамавіч памог прымацаваць. І вось яна гатова, стаіць як-бы на сваім месцы, уключай матор і працуй. Далі ток. Кантроль уключыў матор. Умомант машына здрыганулася і загула. Драгун стаіць непадалёк, глядзіць на яе і ўсміхаецца. Антон Адамавіч, ведаючы вартасць гэтага чалавека, задаволена шлёпае яго па плячы сваёй старой і высахшай далонню. Інжынер, схіліўшыся, глядзіць на мерныя перакаты шасцяронак.

Матор гудзе, ляскоча машынка, і раптам нешта дзынкнула. Інжынер, хапіўшыся рукой за лоб, кінуўся да выключальніка. Але кантралёр ужо выключаў матор. Машынка павольна спынялася, шасцерні скігіталі, падшыпнік падняўся. Белы, нібы аснежаны, Драгун спакойна глядзеў на машынку. Перапалоханы Антон Адамавіч нервова выціраў халодны пот з твару. Здзіўлены і акрываўлены інжынер збянтэжаным вокам вадзіў навакол. Са зборачнага беглі людзі. Кізіла падскочыў да Драгуна, але ўбачыўшы, што ён не паранены, кінуўся да інжынера. Той, не адрываючы рукі ад ілба, прытуліўся да сцяны і цяжка стагнаў.

Казім зірнуў на машынку. Палова зубоў у шасцернях высыпалася. Падшыпнік быў развернуты і валік падняты. Казім перавёў погляд на Драгуна. Той стаяў спакойна, убіўшы вочы ў зямлю. Ніхто нічога не сказаў, не запытаўся. Павольна адзін за адным пачыналі разыходзіцца. У кантрольную з'явіўся дырэктар, за ім прыйшоў механік і галоўны інжынер. Абзадачаны Антон Адамавіч, панурыўшы галаву, прынёс з канторкі чарцяжы. Здзіўлены і задуменны стаяў Драгун. Ён не хацеў верыць у тое, што здарылася, але факт быў перад вачыма, папсуты варштат стаяў на сваім месцы. Інжынер і механік аглядалі машынку.

— Вы бачыце,—казаў галоўны інжынер—шасцерні не на сваім месцы.—Потым ён выняў з кішэні метр і пачаў вымяраць.—І памер большы, чым на чарцяжы, значна большы... А ніжняя—меншая памерам. Так, ды яно і падшыпнік не вельмі што каб прышвабраваны. Як-жа гэта вы, таварыш Драгун, каб такія промахі ды ў вас?

— Я і сам не ведаю, як усё здарылася. Гэта-ж не першая машынка. Папярэднія-ж добрую пробу вытрымалі. А гэта... Я сам дзіўлюся.

Казіма і Драгуна выклікалі на бюро. Антон Адамавіч напісаў тлумачэнне. У цэху было насцярожанае чаканне. Кізіла, які ўпачатку вельмі ўзрушыўся, цяпер, крыху апаўшы, спакойна працаваў. А па заводзе хадзілі розныя чуткі. Хадзілі дзень, другі, трэці, моʻ тыдзень, нават. Але потым пачало супакойвацца і праз нейкі час зусім улеглося.

Драгун адрамантаваў папсутую машыну. Яе зноў адвезлі ў кантрольную, і яна з поспехам вытрымала пробу. Ідучы з кантрольнай, Кізіла казаў Казіму:

— Пустое, некага вінаваціць. Сам тут Драгун вінават. Ну як гэта дапусціцца, каб пераблытаць шасцерні, ці не прыгнаць як след падшыпнік.

— Думаеш, Драгун такі хлёпала, што не дагледзеў?

— Не, спяшаючыся, ён проста пераблытаў. Я казаў яму колькі раз, нечага гнацца. Некуды спяшацца. Лепш павольней, ды добра рабіць. Ну вось хоць бы ты, і робіш добра і навыперадкі не ідзеш.—Сказаўшы так, Кізіла павярнуўся і пайшоў на двор падбіраць патрэбныя для сваёй машынкі шасцерні. Казім узяўся за работу. Ён таксама рыхтаваўся ставіць шасцёркі. Праз некалькі хвілін, ідучы з двара, каля яго спыніўся Кізіла. Ён паклаў свае шасцерні на Казімавы і, тыркаючы ў іх пальцам, казаў:

— Прымусілі-б людзей, каб хоць гэтыя шасцерні чысцілі ды змазалі. А то звалілі іх у кучу на двары, вось і есць іх ржа.

Казім падумаў, што сапраўды трэба паставіць пытанне, каб лепш наглядалі за дэталямі. Кізіла папрасіў у Казіма французскага ключа.

— Нейкая збітая гайка трапіла. Ні адзін ключ не бярэ.

Казім падаў яму ключ. Кізіла паклаў яго ў бакавую кішэнь спецоўкі і, згробшы шасцерні, пайшоў да свайго месца.

Прыйшоў Драгун і прынёс з сабой абвестку.

— Чуў? Сёння першая адліўка з новай вагранкі.

— Значыць трэба будзе паглядзець. Казім дзьмухнуў на валік і надзеў шасцярню. Калі ён браў шасцярню ў рукі, яму здалося, што гэта не тая. Але, паглядзеўшы, як яна сядзіць на валіку, упэўніўся, што іменна гэта шасцярня патрэбна. Прагуў гудок. Брыгада прыбірала інструмент. Кізіла падаў ключ. Выцíралі „канцамі" рукі і адзін за адным разыходзіліся. Казім узяў другую шасцярню і, не стаўляючы яе на патрэбнае месца, проста прывесіў каля варштата. Ён упарадкаваў свой інструмант як-раз у той самы момант, калі зрабіў гэта і Кізіла. Яны разам, аб нечым вядучы гутарку, накіраваліся ў ліцейную.

За гудком надыходзіў вечар. У ліцейнай было людна. Каля новай вялікай вагранкі метусіліся людзі. Казім таксама ўзлез зірнуць у „вочка". Ён убачыў, як тугі чыгун, нібы той лёд пад вясновым сонцам, растае і растае ад пякельнай гарачыні. Цягучыя кроплі доўга коцяцца—плывуць і потым, выцягнуўшыся, звісшы, падаюць уніз. І так, пакуль густымі цуркамі не паплыла маса.

Майстар сам збег уніз і, насунуўшы на вочы цёмныя акуляры, узяў у рукі доўгі жалезны прэнт. Людзі, што стаялі паблізку жолаба, расхінуліся. Непадалёку ад майстра стаяў дырэктар, лагодна любаваліся заўкомцы і сакратар ячэйкі Лісавенка. Ён ніколі ціха не пастаіць, а мае такую прывычку: ці сам будзе што-небудзь гаварыць, а то пачне распытываць, як у цябе тое-сёе, як ты жывеш ды працуеш як. Вось і цяпер ён адарваўся ад кацельшчыкаў і падышоў да ліцейшчыкаў і пачаў нешта распытваць у іх. Майстар асцярожна дзеўбануў жалезным прутом у лейку. Потым ён дзеўбануў яшчэ раз. Праз невялікую шчыліну стала відаць агністая маса. Калі ён цюкнуў яшчэ раз, гэтая чырвонабелая агністая маса рынулася па жолабе. У цэху зрабілася раптам ціха і відно. Кожны з цікавасцю і захапленнем глядзеў на гэту агністую масу і затоена слухаў, як павольна і густа коціцца яна ўніз па жолабе і там ліецца ў каўшы. Выкладзены формамі цэх хутка стаў падобны да высі, якая ўсеяна далёкімі і бліщчастымі зорамі.

## XXI

Такая светлая і чыстая была ранішняя высь. Далёкая яна купалася ў празрыстай вадзе, узбуяўшай ад вясенняга прыліву Свіслачы. Рэдка, рэдка дзе, чапляючыся за бераг, праплыве па вадзе невялічкі кавалак лёду, ці прапаўзе па небе шматок далёкай хмары. Воддаль чуваць, як ажывае горад, ціха ўзнімаецца вулічны грукат і што раз, то ўсё мацней расце, расце і хутка, падхоплены першымі заводскімі гудкамі, ён робіцца трапяткім і бурным. Казім прыслухоўваецца. Ён ловіць водценні сваёй заводскай сірэны і павольна пакідае мост. Але нейкая лятуценнасць не пакідае яго. Нечага хочацца такога харошага, цёплага і па-вясноваму радаснага. Людзі ідуць адзін за адным, размінаюцца ці абганяюць. І то там, то там гудуць, не сціхаючы, гудкі. Яны клічуць, яны вабяць гучным і раздольным сваім поклічам. Іх гучнае рэха несуцішна расплываецца і плыве, плыве далёка-далёка над горадам.

Казім прычыніў дзверы ў цэх і адчуў, як абдало яго працавітай знаёмай цеплынёй. Ён прывітаўся з хлапцамі брыгады Кучмяля і ўпэўнена і цвёрда прайшоў да свайго варштата. Цэх ажываў, адзін за адным збіраліся рабочыя. Не спяшаючы, рыхтаваліся яны да пачатку работы, жартавалі, смяяліся. Абапёршыся на такарны варштат, Кізіла нечым смяшыў Драгуна. Драгун рагатаў і клікаў Казіма.

— Хадзі, брат, сюды, паслухай.—Але ў той час, калі Казім намерыўся падыйсці да іх, загуў гудок. Варштаты пачыналі працу. Гуд трансмісій і лёскат пасоў стварылі суцэльную манатонную, машынную песню.

Казім зняў шасцярню і, яшчэ раз праверыўшы тую, што была пастаўлена на месцы, пачаў прымайстроўваць яе. Калі ён надзеў шасцярню на валік, то ўпачатку нават сам не паверыў сваім вачам. Шасцярня села на месца, але была значна меншая ад патрэбнага памеру. Зубы ледзь-ледзь краналіся адзін аднаго. Казім здзівіўся. Ён добра памятае, як падбіраў патрэбныя шасцерні, яны былі якраз па памерцы. А цяпер... Ён падняў галаву і зірнуў наўкола. Але ніхто не заўважыў яго промаху. Тады ён зняў шасцярню і, пакруціўшы яе ў руках, пайшоў да Кізілы.

— Слухай, ты часам учора не падмяніў мне шасцёркі?

— Ці чорт?.. А можа?.. Паглядзі, усе шасцерні вунь ляжаць.

Казім прыгнуўся і доўга перабіраў адну за аднэй усе шасцерні. Урэшце яму здалося, што адна з іх яго. Ён узяў гэту шасцярню і зірнуў на Кізілу.

— Я-ж кажу, што ты ўчора разам са сваімі згроб і маю.

— Можа і ўзяў. Іх-жа не адрозніш адна ад аднэй,—абыякава сказаў Кізіла і, не падымаючы галавы, працягваў ставіць валік. Казім паглядзеў на шасцярню, выцер спецоўкай лагава і, прыйшоўшы да станка, паставіў яе на месца. Тая, як уліпла. Ён усміхнуўся і пазавінчываў вінты. Пасля абеда машына пайшла на пробу. Пробу яна вытрымала добра. З гэтай прычыны Казім з радасцю згадзіўся пасля работы зайсці да Кізілы. Ідучы ён пытаўся.

— Як-жа твой партызан пажывае?

— Так сабе, перабіваецца.

— Ты яму дапамагаеш трохі?

— Ну, а як ты думаеш, бацька-ж усёткі ён мне.

Невялічкі пакоік Кізілы быў прыбраны. Ад гэтага ён выдаваў значна большым і раскашнейшым.

— Ну вось, цяпер да цябе і зайсці не сорамна,—казаў Казім,— чыста і ўтульна.

— Гэта я пасля тваёй лаянкі папрасіў гаспадыню, каб прыбрала.

— Даўно-б гэта патрэбна было зрабіць.—Казім узяў у рукі зажыгалку, што ляжала на стале і, пакруціўшы, запытаў:—Хто гэта табе ўдружыў?

— Слаўная работа... Гэта падарунак аднаго таварыша.—Кізіла пачаў ставіць на стол пачастунак. Пацягнулася доўгая і блізкая гутарка між такімі далёкімі людзьмі. Завод са сваімі справамі і штодзённымі падзеямі выступаў перад імі ва ўсёй сваёй велічы. Кожны факт, кожная заводская з'ява, здавалася Казіму, аднолькава хвалюе іх абодвух. Дармо, што Кізіла беспартыйны, ён,—думаў Казім,—глыбока свой і адданы чалавек.—Ён слухаў таварыша і з задавальненнем адчуваў, як расце і мацнее іх дружба.

У той самы вечар Рэнька доўга блукала па вуліцах, прыглядаючыся да людзей. Ёй было журботна і крыху крыўдна. Яна колькі раз імкнулася пайсці дамоў да Казіма, але потым раздумвала і павольна блукала па недалёкіх і добра знаёмых вуліцах.

Ураўнаважанаму Драгуну таксама не сядзелася дома ў гэты харошы і цёплы вечар. А Кучмель і Доўнар за гэты-ж самы вечар абышлі ледзь не ўсе гарадскія кіно. На двары было цёпла і крыху туманна. Дыхала і набліжалася самая звычайная маладая, кіпучая вясна.

Казім выйшаў на двор. Прыжмурыўшы вока, ён паглядзеў на месяц, што выплыў з-за хмар, затоена ўхмыльнуўся і з шчырасцю паціснуў сяброўскую руку Кізілы. Ён ішоў дамоў і думаў, як добра быць маладым, горача кахаць і верыць ды мець шчырае сяброўства.

## XXII

Была ноч, калі красавік, сабраўшыся са двара, намерыўся ў дарогу, але яшчэ не пайшоў, стаіць і азіраецца, як-бы шукаючы нешта забытае. У начной цішыні пад ценькім ледзяністым лістом журчэла вада, а над зямлёй плылі і рассейваліся прыемныя і лёгкія пахі. У такую ноч зборачны заліты агнём безуцішна слухаў звоны брыгадных малатоў і шорганне падпілкаў. Першая брыгада спяшалася скончыць заказ. Трэба-ж было выканаць свой абавязак. Засталося сабраць толькі дзве машынкі, і, каб зрабіць гэтую зборку ў тэрмін, Казім разбіў брыгаду на дзве групы, і кожная, разгортваючы між сабой спаборніцтва, збірала адну машынку. У пачатку работы нехта думаў зацягнуць песню, але, прамармытаўшы сабе пад нос, сцішыўся і, тады зусім выразна было чуваць, як праз адчыненае акно даносіцца мерны сокат матора і сіпенне пары ў качагарцы.

Анісенка стаяў да вакна спіной і старанна закручваў гайкі. Кізіла прытрымліваў станіну абодвума рукамі. Калі хлапцы прыступілі да накладак, падышоў нешта прымерыць Драгун.

— Цісні, Анісенка, цісні, каб мацней было,—жартаўліва кінуў ён.

— Ціснем, ажно пот выступіў,—адказваў Кізіла.

— Наўрад ці выціснеш з цябе пот і ў лазні,—перабіў Драгун.

— А ўжо-ж, праўда твая, зборачны ўсё павыціскаў. Так што цяпер сапраўды і ў лазні нічога не выціснеш.

Драгун змоўчаў, зірнуў на яго, і ўсмешка знікла з вуснаў. Ён прымерыў патрэбную дэталь і адышоў.

— Чаму гэта,—казаў Анісенка да Кізілы,—ты з ім не ладзіш?

— Дык калі я не люблю такіх людзей, што-б ты яму ні сказаў, дык ён зараз падкладку шукае. У кожным слове контру бачыць.

— І няпраўда, ён проста сур'ёзны чалавек.

— Па-твойму сур'ёзны, а па-мойму ён проста пусты.

Пачуўшы гутарку, Казім падышоў да хлапцоў. Ён быў страшэнна абураны і ўсхваляваны.

— Ну што, няма?—запытаў Кізіла.

— Канешне няма... Але куды-б ён мог знікнуць?

— А дзе ты паклаў?

— Ды, разумееш, прынёс і паклаў у столік і нікога-ж паблізку не было.

— Як нікого, лёгка сказаць, уся змена перабыла ў корпусе, а ён кажа нікога. Я сам бачыў як кацельшчыкі нечага шныкалі. Можа і ўкралі. Гэта-ж такія хлапцы, што нічому спуску не дадуць.

— Хто-б ні ўзяў, а бабіту няма і наліўку сёння рабіць не давядзецца.

— Гэта горш,—з жалем у голасе сказаў Кізіла.—Ты-б пайшоў, пашукаў, можа дзе ў канторцы Антона Адамавіча які кавалак знайшоў-бы.

— Ай, гаворыш ты, як малы. Ён бабіт знойдзе? Як быццам не ведаеш, што гэта не звычайнай бляхі кавалак, а патрэбны метал.

— Ну, гэта я ведаю.

— А ведаеш, так навошта глупства мелеш. Заўтра хіба са склада прыдзецца выпісаць... Антон Адамавіч, як дазнаецца, заклюе.

— Так, гэта рэч непрыемная...

— Але чорт яго ведае, хто-б гэта цягнуў? І паверыш, цяжка і падумаць на каго? Ну, узяць хоць-бы цябе ці мяне? Навошта гэта нам? Падшыпнікаў-жа мы дома не вырабляем, наліваць іх нам не трэба.

— Кінь глупства малоць. Тут нехта з другога цэха ўзяў. Можа з ліцейнай?

Збіраліся дамоў. На дварэ была чыстая ціхая і цёплая ноч. Такім самым выдалася і ранне. Па-вясноваму ядранае, яно было свежае і звонкае. Па дарозе ў завод Казім дагнаў Кучмяля. Ён расказаў таварышу пра ўчарашнюю прапажу бабіта.

— І паверыш, гэта не ўпершыню. Нехта планава займаецца гэтым. Сам ведаеш, пры табе-ж было... Прыглядзься, можа хто з тваей брыгады?

— Ты што жартуеш, ці людзей не ведаеш?

— Я ведаю, але... Як-жа вытлумачыць гэтую прапажу. Не можа-ж быць, каб хто-небудзь чужы цягнуў?

— Больш за ўсё шансаў за тое, што хто-небудзь з боку прыладзіўся... А, можа, хто і з вашых хлапцоў? Ты да Анісенкі прыглядаўся?

— Ды кінь ты, Кучмель, ён-жа свой хлапец і... комсамолец.

— Гэта нічога не значыць, сам ведаеш, розныя бываюць і комсамольцы.

Хлапцы выйшлі з будкі вартаўніка. Нейкі час яны маўчалі, як-бы кожны быў заняты нейкімі сваімі асобнымі думкамі. Праз момант Кучмель сказаў Казіму:

— Во, я ледзь не запамятаў, учора на бюро за нашы душы браліся.

— А што здарылася?

— Нічога асаблівага, але мы з табой адну рэч праваранілі.

— Якую гэта рэч?

— А такую, у ліцейнай брыгады заключалі між сабой умовы на спаборніцтва, а мы не.

— Гэта праўда.

— У тым-та і рэч .. Нам трэба таксама. Ты-б можа падрыхтаваў тэкст.

— Не, я не змагу, мы цяпер вельмі занятыя сканчэннем заказу. Ты ўжо вазьмі на сябе гэтую справу.

— Добра. Вы што, да мая скончыце работу?
— Абавязкова!
— А потым за што брацца будзеце, не казаў яшчэ Антон Адамавіч?
— Чаму, казаў. Сушкі Ангеля нам даюць.
— Сур'ёзная работа. Ты знаёміўся з чарцяжамі.
— Глядзеў, але пакуль не прабавалі рабіць, цяжка сказаць, як атрымаецца.
— Атрымаецца, канешне, добра, толькі давядзецца і інжынерам папрацаваць, ты-б пагаварыў з Юркаўцом. Няхай-бы інжынер цяпер з брыгадай распачынаў знаёмства.
— Гэта ты праўду кажаш. Але-ж гэтага Юркаўца злавіць, дык трэба малое-малое поўдня страціць.
Хлапцы ўвайшлі ў цэх. Каля сабранай машынкі Казім заўважыў Драгуна. Той стаяў і, утупіўшы вочы, глядзеў на новую, учора скончаную зборкай абутковую машынку.
— Хадзі сюды, паклікаў ён Казіма.
Казім падышоў і пытлівым поглядам зірнуў на парторга.
— Глядзі,—сказаў ён.
Казім звесіўся над машынкай і раптам здзівіўся. Машынка была сабрана няправільна. Станіна была перакошана і валікі не прыгнаны.
— Дзіўна,—сказаў ён.
— Мне таксама дзіўна.
— Хто збіраў?
— Не ведаеш хіба? Твой-жа таварыш—Кізіла.
— Кізіла? Што ён вар'ят, як-жа гэта не заўважыць?
— Не думаю, што ён вар'ят.
— А па-твойму што, знарок?
— Цяжка сказаць?.. Проста, я не ведаю, але зразумей, што не заўважыць такога промаху...
— Але-ж у свой час і ты не заўважыў.
— Я? Так, не заўважыў.
— Я думаю, што за гэта варта ім абодвум усыпаць. Гэта-ж ганьба для ўсяе брыгады.
— Слухай, Казім, а што калі яны знарок гэта зрабілі?
Казім падняў на яго незразумелыя, здзіўленыя вочы.
— Знарок, кажаш?
— А ты што так здзівіўся?
— Я? Нічога, так сабе.
— А калі так, то бяры ключ, і мы яшчэ да гудка паспеем паставіць усё на месца. Разумееш?
— Разумею.
— Тады даставай інструманты. Ну, раз, два...
Яны шчыра і шпарка ўзяліся за работу. І калі, паставіўшы на месца станіну, Казім прыганяў апошні валік, Драгун сказаў:
— Вось так, і каб аб гэтым ні слова... А вока вастрэй трымай. Дармо, што хлапцы свае, усяк бывае, і за сваім часам чужога ўбачыш.
Неўзабаве, пасля першага гудка сабралася ўся брыгада. Антон Адамавіч, дазнаўшыся аб прапажы бабіта, з капытамі ўссеў на Казіма.
— Што гэта за чортава брыгада, калі ў яе ўсё прападзе, то варштат узарве, то бабіту не стане. Дзе я на вас набяруся бабіту, калі ён на фунт золата... Калі так будзеце глядзець, дык у вас хутка і спецоўку з плеч здымуць.
— Не варажы благога, Антон Адамавіч,—азваўся Драгун.

— Не знарок мы гэта робім. Мне, можа, як брыгадзіру, гэта больш непрыемна, як вам.

— Ды тут не справа ў непрыемнасці.

— А чорт вас ведае, у чым тут справа, мне адно толькі ясна, што з брыгады нехта цягне.

Кізіла паклікаў Казіма.

— Як ты мяркуеш, Казім,—сказаў ён,—варта ставіць гэтую шасцярню, ці не? Нешта яна як-бы шчылінку мае вось каля гэтага зуба. на вось, паглядзі.

Казім узяў у рукі шасцярню. Ён доўга круціў яе ў руках перад акном, мацаў, глядзеў і ўрэшце сказаў:

— Так, лепш другую паставіць, а то гэта сапраўды ніякаватая.

XXIII

Пасля таго, як брыгада скончыла і здала абутковыя машынкі, быў дзень падрыхтоўкі да новай работы. Раніцой, сабраўшыся ўсе разам з інжынерам, знаёміліся з чарцяжамі Пасля абеда запасаліся патрэбнымі струмантамі, вастрылі свярдзёлкі, хадзілі на склад па падпілкі і рашпілі. Пасля гудка, калі брыгада Кучмяля скончыла работу, адбыўся невялічкі сход. Абгаварвалі ўмовы па соцспаборніцтву. Гаварылі не доўга. Бо, уласна, не было на чым асабліва спыняцца. Кожнаму было вядома, што ўмову заключыць неабходна, а паколькі тэксты былі падрыхтаваны, іх зачыталі, абгаварылі, унеслі колькі дадаткаў і на гэтым разышліся. На вуліцы Кізіла ўзяў Казіма пад локаць.

— Да мяне ці што?—запытаўся ён

— Не, братка, сёння трэба дамоў, абяцаў чалавек зайсці.

— Шкода, а то зойдзем.

— Ахвотна, але...

— Які там чалавек, што ты гэтак прагнеш? Ці не Рэнька?

Казім крыху апешыў. Уласна, ніхто да яго не абяцаў прыходзіць. Яму проста не хацелася ісці да Кізілы. Але Хвёдар сам намякнуў яму на выйсце.

— Табе ўсё ведаць хочацца... Ну, скажам, яна... Цяпер ты разумееш, што да цябе пайсці не магу.

— Даводзіцца згадзіцца.—І, памаўчаўшы, Казіла запытаў:—Ты што, у сур'ёз з ёю?

— А хоць-бы і так.

— Дарэмна. Я пры маіх гадах і то не спяшаюся, а чаго табе перціся на ражон?

— Чорт яго ведае, хто тут на ражон прэцца, ці той, хто гуляе, ці той, хто проста парогі абівае.

— Ну, ты пачынаеш выкручвацца. Ідзі ўжо, а то яна можа чакае? Кізіла падаў дружбаку руку сяброўства. Яна была цёплая і, здавалася, сардэчная. Калі-ж Казім знік і ён застаўся адзін, то заўважыў, як павольна і ціха апускаюцца на зямлю вячэрнія цені. Яму зрабілася крыху журботна, і нейкія далёкія ўспаміны самі наплылі і паўсталі перад ім.

Быў вось такі самы вечар і таксама пахла вясной. Ён апошні раз пацісн уў руку сваім сябрам і пакланіўся ў ногі начальніку. Потым сеў у цягнік і накіраваўся на далёкія крэсы. Ён прыехаў на вагзал у ночы, абшарпаны, у лапцях, разам з усімі выйшаў з цягніка і накіраваўся ў патрэбным напрамку. Ён прыйшоў у вёску пасярод начы і заначаваў у канцы. Потым пацягнуліся дні і такая напружаная работа. Ён не выходзіў з хаты. Да яго прыходзілі сяляне, і ён ціха з імі радзіўся.

А праз тыдзень у цёмную, цёмную ноч сабралася колькі маладых хлапцоў і разам з ім накіраваліся да мяжы. І вось, калі пераходзілі, пачуліся стрэлы. Ён крутануўся ў бок і схаваўся ў густых, густых кустах. А потым праз усю ноч па разводдзю, па імшарах ішоў. Яму здавалася, што ён збіўся з дарогі, што ён заблудзіў, але, калі пачало віднець, ён выбраўся на бараўіну, агледзеўся, прыслухаўся і пайшоў спакойнай, ціхай хадою. Ён доўга ішоў, прыпамінаючы даўно знаёмыя мясціны, і раптам недзе не вельмі далёка праз лясны ціхі шум да яго данеслася рэха паравозных гудкоў. „Мусіць Зяпкі“, падумаў ён. Азірнуўшыся навокал, ён звярнуў на няўбітую сцежку. Ён добра памятаў прыкметы дарогі, выхаджанай сваімі людзьмі. Малады, але спрактыкаваны ў сваёй справе, ён упэўнена ішоў да вызначанай мэты.

Падпалудзень ужо, не даходзячы Кубліч, ён пачуў, як стукае нехта ў лесе сякерай. Агледзеўшыся навокал, ён убачыў селяніна, які старанна церабіў сухастоіну. Гэта быў пажылы чалавек, у выцертым армячку і яшчэ аўстрыяцкіх „клумбах“ на нагах. Кізіла ветліва прывітаўся з гэтым чалавекам. Той агледзеў яго, нешта запытаўся, выняў кавалак хлеба з-за пазухі і сунуў яго падарожнаму. Кізіла дапамог старому парэзаць сухастоіну. Потым, паклаўшы паленні на воз, яны выехалі на дарогу. Худая каняцінка выпіралася са скуры. Стары моўчкі ішоў за возам, а Кізіла з кавалкам хлеба ў руцэ вёў кабылу за аброць. Ён меў выгляд звычайнага вясковага хлапца. Акраўкі растаптаных за дарогу лапцей целяпаліся на яго нагах. Баранавая выцертая шапка спаўзла на вушы і прыкрыла сабой прышчываты вузкі лоб.

У Кублічы яны прыехалі завідна і, вельмі хутка прадаўшы дровы, папасвілі крыху каня, пакуль стары ў кааперацыі солі купіў, і потым паехалі. Адпачыўшая крыху і падкормленая кабылка рупна бегла па не зусім яшчэ разбітай дарозе. Вечарэла, браўся на ноч марозік. Каля Гушчынай гары стары спыніў кабылу і збегаў у бліжэйшую хату, здаецца ён аднёс туды соль. Ён хутка вярнуўся, і зноў хударлявая кабылка пачала вымерваць вузкую ўбітую дарогу. У Баравусе яны заехалі да знаёмых латышоў. Каля ветрака, прывязаўшы кабылу, самі пайшлі ў хату і былі там ажно да першых пеўняў. Падсілкавалася кабыла, пераапрануўся і адпачыў Кізіла. Ён зараз быў у лапленых не па назе ботах і паношанай жакетцы. На галаве-ж сядзела ўсё тая ж баранавая вушатка. На калёсы паставілі куфэрак з харчам. Ён быў прымкнуты іржавым замком ад жалезнага конскага пута. Кізіла сеў у задок. Стары ўзяўся за лейцы.

— Но!—сказаў ён, і кабылка падыбала добрай дарогаю, што ідзе праз жорсткі лес.

У Леплі на станцыі людзей было мала. І тыя, што былі, заспаныя і маркотныя, блукалі, нібы тыя мухі, мухамор пад'еўшы. Стары сам унёс куфэрак у памяшканне станцыі і, паставіўшы яго на вольную лаўку, сказаў:

— Ты, сынок, пасядзі, а я пайду кабылёне падкіну.

„Сын“ нічога не адказаў, а пачаў шукаць нечага ў кішэні. З боку калі глядзець, здавалася, што ён нечага сярдзіты на бацьку. Потым ён выцягнуў з кішэні капшук і, адшукаўшы кавалак газетнай паперы, пачаў круціць папяросу. Буйна насечаныя карані самасейкі падралі паперу, і ён адарваў другую. Прышоў „бацька“. Ён трымаў у руках церассядзельнік.

— Адвязаў, а то яшчэ валацуга які адвяжа.

— А тут іх хапае,—аўтарытэтна зазначыў сын.

Стары дастаў з-за пазухі табакерку і занюхаў табакі.

— Нюхні каплю,—сказаў ён сыну,—гэта,—што чарка, весялосці паддае.—Сын паслухаў. Але калі зажыў табакі, вельмі чыхаць пачаў. Так чыхаў, што ажно суседзяў рассмяшыў.

— Няхай яна згарыць твая табака,—казаў ён „бацьку“,—ледзь усю нюхалку не расперла.

Стары адвесіў ніжнюю губу і ўхмыльнуўся.

— Гэта без прывычкі, а так яно добра.

Перад адыходам цягніка стары ў вагон не палез. Ён на пероне перад усімі моцна ашчапіў сына і сказаў:

— Глядзі-ж, сынок, каб на старога вока меў, калі ў горадзе добра жыць будзеш... Бог-жа ведае, як ты там... Ты хоць паперы не шкадуй, пішы нам старым, і то ўцеха будзе. І, зняўшы шапку, ён пацалаваў сына і шапкай змахнуў з воч слёзы.

— Эх, тугое ты, жыццё!—звярнуўся ён да суседа.—Адзін сынок і таму дома рук няма да чаго прыкласці. Па людзях шалэндаўся, а цяпер ніхто не бярэ. А дзе дзявацца? Прыся, казаў той у горад. А там—таксама не вельмі соладка...

— Нічога, чалавеча, не зробіш, я таксама свайго адправіў, з чуласцю сказаў сусед.—Мой дык вось ужо колькі год паедзе на лета ў Віцебск і так-сяк на цагельнях капейку якую заробіць.

Стары і другі раз змахнуў шапкай з воч слязу. Паравоз падаў гудок, і хутка цягнік крануўся з месца. Стары бузянымі вачыма глядзеў услед цягніку.

## XXIV.

Перад сваёю паездкай Кізіла доўгі час там у дэфензіве набываў некалькі кваліфікацый. Ён ведаў, што гэта спатрэбіцца. І цяпер, маючы на руках добра сфабрыкаваны дакумант, ён паехаў адразу ў Менск. Упачатку ён падаўся на Эльвод, але там не было месца. Тады ён пайшоў на машынабудаўнічы. Тут слёсару былі рады, ды яшчэ такому слёсару. Жарты сказаць, чалавек колькі год батрачыў, і дзе? змалку ў млыне. А там, вядомая рэч, сам і слёсар, і столяр, і механік, і адначасова парабак і ваданос для гаспадара.

Кізіла пачаў працаваць. Ціхі і зважлівы, ён быў непрыкметным на заводзе чалавекам. Апрача варштата і выпадковага слова калі дзе давядзецца кінуць, ён ні з кім не гутарыў, нікога не чапаў, нікога не ведаў. Але-ж затое працаваў, працаваў, надворна шчыра і дасціпна адносіўся да кожнай работы. Стоячы за сваім варштатам, ён часам на працягу ўсяго дня нікому слова не кіне, і, убіўшыся ў работу, здаецца, нікога і нічога не бачыць. А між тым ён бачыў усё. Ён бачыў усіх. Бо ён добра памятаў слова свайго начальніка:

— Не запамятай, Адоль, той, хто разумна маўчыць, цэлы вернецца на бацькаўшчыну. Разумны і маўклівы заўсёды ўнікне бяды.

Кізіл трымаўся гэтага наказу і павольна, але цвёрда ўваходзіў у курс спраў. Праз год ён навучыўся за цэхам бачыць увесь завод, а за заводам узнёсласць усяе краіны. Ён працаваў і набітым вокам прыглядаўся да ўсяго. Нарочаны бацька часам дасылаў яму нязграбна напісаныя, у дрэнных, заклееных хлебам ці бульбінай, канвертах лісты. Гэта былі звычайныя лісты з традыцыйным пачаткам і канцом, з апісаннем усіх падрабязнасцей гаспадарчага жыцця старога. Але па гэтых лістах Кізіла дазнаваўся пра ўсё, чаго ад яго хочуць, што патрабуюць.

Ён адпісваў бацьку. Пісаў нязграбна і доўга. Пісаў аб усім. „Хваліўся бацьку заробкам і амаль у кожным лісце дасылаў старому

пяцёрку ці дзесятку. Ён пісаў бацьку аб заводзе, аб горадзе, аб тым, што такое пяцігодка, што новага і вялікага будуюць у горадзе. Стары дзякаваў сына за ласку, за ўвагу, за грошы.

Так праходзілі гады. Стары бацька некалькі раз прыязджаў да сына ў госці. Сын паказваў яму завод, вадзіў па горадзе. Бацька дуркавата на ўсё глядзеў, усяму дзівіўся і вельмі быў рад, што такога разумнага сына меў. Ён казаў аб гэтым кожнаму, калі толькі здаралася з кім пачаць гаворку. Гаспадыні, дзе жыў сын, стары Кізіла заўсёды казаў.

— Такога-б сына вам мець, пад старасць без куска хлеба не засталіся-б.—Ён вымаў сваю берасцяную табакерку і нюхаў цёртую самасейку. Часам ён чыхаў на ўсю хату, так што ажно гаспадыні рабілася ў роце горка.

Сын прыходзіў з работы звычайна позна і не адзін. То аднаго, то другога прывядзе з сабой. Пасядзяць пры бацьку, пагавораць, чарку якую перакуляць і разыдуцца. Нездарма-ж Кізілу лічылі ў зборачным сваім чалавекам.

— З ім,—казаў часам Анісенка,—і згубіць не шкода. А знайсці дык і таго лепш.

Казім таксама бачыў бацьку Кізілы. Разы са два давялося яму быць у таварыша, калі прыязджаў стары. Неяк аднаго разу Казіму давялося зайсці да Кізілы разам з Драгуном. Выпіўшы каплю, стары разгаварыўся, і са здаваленнем яны слухалі, як ён апавядаў пра свае заслугі перад чырвонымі.

— Прачулі гэта мы,—казаў ён,—што жаўнеры па падводы прыехалі. Я Хведара на каня, ды і ў лес. А сам гэта сяджу дома ды, „здаецца, лапці падплятаю. Ажно прыходзіць стараста з жаўнерам: „—Запрагай“,—кажа жаўнер. „—Няма каня,—кажу,—паночку“. „—Як няма?“ — крычыць той ды кажух рукой мацае. „—Няма,—кажу,—надоечы сын да паноў у падводы паехаў“. Не паверыў, трасца яму ў бок. Пайшоў у хлеў, абшарыў, абгледзеў. Але, скула ў бок, няма каня. І, думаеце, што ён зрабіў—заарыштаваў мяне. Прывёў гэта ён мяне да суседкі Агапкі—удавы і прымусіў запрагчы яе падлу. Які там конь той, косці ды скура толькі. Але што ты зробіш? Выцяг я падлу тую з хлява, так-гэтак запрог ды і кажу: „—Не пойдзе“. „—Пойдзе, ты яго, стары, пад хвост жэнць“. А каб цябе, думаю, жываты жэнцілі. Але што ты зробіш? Стаіць-жа ён над табой, як смерць тая. Ну, і давай я жэнціць. Агапка тая ў слёзы, клясці мяне. „—Каб не ты,—кажа,—дык майго каня не забралі-б“. А пры чым тут я, праўду кажучы, ці я сам набіўся? Панская-ж воля...

Так я мусіць тыдні са два на гэтым кані кацялкі жаўнераў вазіў. Але пад самым Пышнам конь паў. Не цягнуць-жа мне самому гэтыя кацялкі. Давай маліць, давай прасіць, каб дамоў адпусцілі. Пайшоў да каменданта. А той дык і слухаць не хоча. Я адзін, другі раз. Можа таму, што надакучыў яму, але-ткі злітаваўся... Выправіўся гэта я дамоў. Пайшоў на Езахватова. Там паноў не было. Золакам я падзёўбся на Бараўцы. Іду гэта каля лесу. Думаю, як там дома, ці ўцалеў конь з Хведарам? А можа Агапка вызверылася ды нацкавала. Думаю гэта ды іду. І раптам чую: кліча чалавек нейкі. Чалавек-жа не звер, кіруюся да яго. Ён гэта ў мяне пытаць, а дзе войска, а ці багата яго, а я маўчу. Ну што ты скажаш чалавеку, калі не ведаеш, з якім намерам ён да цябе звяртаецца. Я стаю ды маўчу. Ён тады гэта мяне пад гранату і павёў. Э, думаю, неладнае нешта. Думаю, а іду. Ногі трасуцца, хахол на дыбкі стаў, але што ты зробіш, трэба ісці. Доўга ішлі. Прывёў гэта ён мяне ажно пад Астраўскія імхі. Гляджу я, ажна

там войска. Ды якое войска—сваё, чырвонае. „—Навошта было чалавека пужаць?"—кажу я таму, хто мяне вёў. А ён смяецца ды на старшага паказвае. Тут я і расказаў усё. Расказаў, як здзекуюцца над намі жаўнеры, што бяруць яны апошняга падсвінаку і здзіраюць з плеч апошні кажух. Я паказаў ім ва ўсе бакі дарогу. А ў ночы разам з войскам і сам праважатым пайшоў. Я вывеў іх у Бараўцы, а там каля Ахвотня і Гуцешча ў Журкоўскі лес. У Звоне тады стаялі жаўнеры. На Званской Гары ў іх былі акопы і бліндажы, але жылі яны да часу ў самай вёсцы. Вось золакам і сцебанулі па іх чырвоныя. От, была тады пёрка, беглі паны ажна да Селішча без аглядкі...

Драгун уважліва слухае старога. Казім не прапускаў ніводнага слова. Ён проста зайдросціў гэтаму сівому дзеду. Толькі Хвёдар, як і заўсёды, спакойна сядзеў і, задаволены бацькам, гладзіў рукой шэрую кошку.

## XXV

— Ты мне скажы,—дамагаўся Казім,—скажы, адкуль ты ўзяў, што Кізіла знарок шкодзіць?

— Каб я мог гэта давесці на фактах, я-б давёў не толькі перад табой... Але, кроме таго выпадку са станінамі, я не маю нічога больш. Толькі мне здаецца, разумееш, я адчуваю, што чалавек... ну, чорт яго ведае, што гэта за чалавек.—Драгун развёў рукамі і, ступіўшы колькі крокаў, прысеў.

— З такім жа правам ты можаш складаць розныя здагадкі ў адносінах да кожнага з брыгады. Скажам, Доўнер, таксама колькі раз рабіў няправільную зборку. Урэшце я?

— Да кінь ты, Казім, што гэта, па-твойму, мы ў цацкі гуляем... Я табе проста кажу, не веру гэтаму чалавеку і не магу галасаваць за яго.

— Ну, а калі ўся брыгада будзе галасаваць?

— Не можа гэтага быць. Тады мы з табой і ламанай капейкі не варты.

— Так-то гэта так, але ты, брат, закручваеш так, што вельмі ўжо я баюся, каб мы не вылецелі з табою ў трубу.

— Ты мне, Казім, скажы проста, вось ты асабіста можаш паручыцца за Кізілу, ну за тое, што ён добрасумленна працуе?

— Я?.. Ну, як табе сказаць...

— У тым-то і рэч. Зразумей, што ні ты, ні я, ніхто гэтага зрабіць не можа, не ведаючы чалавека.

— Але-ж ён працуе, Драгун, лічыцца ўдарнікам?

— І добра, а вылучаць яго на прэмію—не варта і не можам мы.

— Але-ж брыгада?

— Што брыгада, а мы з табой не члены брыгады?

— Так, члены, нават кіраўнікі яе, але самі вырашаць такія справы—не можам... Ты гаварыў у бюро?

— Я гаварыў не толькі ў бюро.

— І што?

— Усе ў адзін голас заяўляюць, што самі мы павінны вырашаць. І яны маюць рацыю. Мы-ж на месцы. Мы кожны дзень з чалавекам. Значыць, мы павінны яго лепей ведаць. А калі мы не ведаем, значыць гэта толькі для нас горш: Ліскавенка, прыкладам, заявіў: „Калі,—кажа,—ёсць сумненні, трэба ўстрымацца, пагаварыць аб гэтым на брыгадзе".

— Не, брат, я бачу, што мы з табой пачынаем нечага шукаць, а чаго—і самі не ведаем.

— Гэта сабе не так, мы ведаем, чаго шукаем.

— Згадзіся, што так. Дапусцім, што ён вораг. Давай пакажам яму, што гэтага нават і ў думках не маем, а лічым яго сумленным і адданым чалавекам, давяраем яму. А тым часам яшчэ раз прыгледзімся.

— Чорт яго ведае? Падумаўшы, так і ты маеш рацыю... Давай разам пагаворым яшчэ з людзьмі.

На дварэ вечарэла, і ў хаце рабілася цемнавата. Па калідоры нехта ішоў. Крокі былі ціхія і асцярожныя. Пачуўся асцярожны стук у дзверы. Казім здагадліва адчыніў. Ён па кроках дагадаўся, што гэта ідзе яна—жаданы госць і прыяцель—Рэнька Карамец...

А вось і ён, заводскі майскі вечар. Перад гэтым на заводзе быў выходны, і Кізіла прывёў прыехаўшага на свята бацьку паглядзець завод. Стары і згорблены, ён прыйшоў у зборачны і стаў, абапёршыся, на пагнуты сукаваты кіёк. Сівы і пацёрты армячок нязграбна ахінаў яго худыя плечы. Сын паказваў яму свідравальны варштат. Бацька пазіраў то на сына, то на варштат, і з яго вачэй іскрылася задаволеная радасць. Ён паклаў руку на халодны метал і пагладзіў яго—халодны і чысты.

— Добрая штука,—сказаў ён.

— Самі вырабляем,—зазначыў сын. Бацька зірнуў на яго і падзёўбся следам. Насустрач ішоў Казім.

— На свята да сына?—сказаў ён і прывітаўся. А калі адышоў крыху, сын ціха звярнуўся да бацькі:

— Памятаеш яго? Злодзеем быў раней.

— Па вачах відаць. Але цемкі, прахвост.

— Работу ведае.

Яны выйшлі з корпуса. А ўвечары на ўрачыстасці Казім сядзеў у прэзідыуме. Юркавец зачытваў загад дырэкцыі. Ён чытаў аб дасягненнях завода, аб тым, што завод вырас і з невялікай майстэрні ператварыўся ў буйнае прадпрыемства. Ён спыніўся на дасягненнях пяцігодкі па ўсёй краіне і доўга гаварыў аб спаборніцтве і пры гэтым некалькі раз успамінаў зборачны цэх, Казіма і брыгаднікаў. Пачуліся воплескі. Кучмель таўхануў Казіма пад бок, як-бы жадаючы гэтым сказаць: „чуеш, гэта пра нас". Юркавец назваў прозвішча і вызначаную прэмію.

Тады Казім вадышоў да стала і спакойна ўраўнаважаны ўзяў першую прэмію. Зала гула ад воплескаў. Ён намерыўся нешта сказаць, але калі зірнуў на людзей—словы зніклі. Тады ён хапіў за руку Юркаўца і моцна паціснуў яе. І калі ўжо сеў, то ўбачыў, як на сцэну ідзе радасны Драгун. Казім кінуў погляд у залу. Ён сустрэў пытлівы зірк Кізілы. І вось, Кізіла ўзняўся і таксама паплыў на сцэну. Задаволены і радасны, трымаючы ў руках „скараходы", ён доўга кланяўся ўпачатку прэзідыуму, а потым усяму сходу. Гучныя воплескі праводзілі яго—героя і ўдарніка Хвёдара Кізілу. Стары пагорблены бацька радасна і задаволена ёрзаў па крэсле. Хіба-ж жартачкі, сына такога мець. А Юркавец чытаў, і на сцэну ўзыходзілі і пад гучныя воплескі зноў спускаліся ўніз усё новыя і новыя ўдарнікі іншых цэхаў. Шмат іх было, шмат людзей розных пакаленняў, якія ўзраслі на заводзе і ўзрасцілі завод.

А на трэці дзень увечары Драгун гаварыў з Ліскавенкам. Плячысты і моцны, ён сядзеў на скрыпучым крэсле і, лагодна абапёршыся аб стол, разважна і гучна казаў:

— Я, можна сказаць, даўно хацеў з табой гаварыць. З-закадычына, брат, у нас такая, што сам я і рады не дам.

Сакратар, адваліўшыся на спінку крэсла, уважліва слухаў.

— З-закадычына, брат,—як-бы ўспадобіўшы гэта слова, пераказаў Драгун.—Чалавек я, можна сказаць, з маленства рабочы, а ніколі са мной такой закадычыны не было, каб я чалавека не пазнаў. Я, павінен табе сказаць, спрактыкаваны на людзях. А вось тут і не разумею. Не разумею гэтага Кізілы. Я, можна сказаць, і веру яму і не веру.

— Дык што, па-твойму, ён вораг, шкоднік?—Ліскавенка паляпаў пальцамі па стале.

— Мушу сказаць, што і не чысты ён чалавек.

— А як, па-твойму, сумясціць яго актыўную барацьбу за здзельшчыну? Фактычна Казім і ён зарабляюць больш за вас усіх.

— Можна сказаць, гэта праўда. Але дай рады, наколькі я Казіму веру, нагэтулькі я Кізілу не веру. Мне ўсё здаецца, што ў гэтага чалавека за пазухай нож тарчыць...

Так седзячы ўдвух, яны доўга гаварылі між сабой. Разважны і ўпэўнены ў сабе і ў сваю справу Драгун вось ужо доўгі час, як адчувае, што недзе ў брыгадзе, нібы пад карой тако здаровага і моцнага дрэва, сядзіць чарвяк і памаленьку точыць моцныя дравяністыя слаі. Але вось дзе ён і хто ён гэты чарвяк Драгун не ведае. Ён даўно мае вока на Кізілу, толькі часам і самога ў тым сумненне бярэ, вельмі-ж гэта ўжо дасціпны і акуратны чалавек, ды к таму і ладны стаж заводскай работы мае. Толькі-ж хто тады, калі не ён? Няўжо Доўнер? Не можа быць. Бацька яго, Драгун ведае, на заводзе нарадзіўся тут і памёр, не дачакаўшыся прыходу рэволюцыі. А сам хлапец, кром завода і сваіх працавітых рук, нічога і нікога не мае. Ну, дык хто-ж Казім, Кучмель? Не. Гэтыя людзі без завода, што рыба без вады. Дык няўжо яны? Не, які-ж дурань будзе падсякаць сук, на якім сам сядзіць. І навошта Казіму, ці Кучмялю гэта рабіць? Што ў іх рэволюцыя палацы адабрала, валокі зямлі адрэзала? Не, іх рэволюцыя людзьмі зрабіла, а хіба-ж за гэта помсцяць?! Дык хто-ж тады, хто? Антон Адамавіч? Не, гэты чалавек ссівеў за станком і заслужона ганарыцца гэтым. Для яго зборачны,—што родны дом.

Значыць, значыць Кізіла? Але... Драгун часта б'ецца над гэтым, не знаходзячы выйсця. Ён нутром адчувае небяспеку і не ведае, дзе яна, не бачыць, адкуль і калі прыйдзе. Ён неяк зняверыўся ў людзях свае брыгады і разам з тым адчувае шмат перад кім сваю неправату. Ён адчувае, як у брыгадзе пачынаюць старожка ставіцца да яго. Нават Казім і той у бок хіліць пачаў. А добры ён малы, гэты Казім,— думае Драгун. Такі ён ветлівы, прыхільны, вёрткі і разам з тым такі здатны да работы. А ўпачатку Драгуну здалося, што гэта зусім звычайны і недалёкі на розум чалавек. Ён думае і дакарае сябе за гэта зманнае першае ўражанне. Вось можа, калі-б спачатку ён больш уважліва прыгледзеўся да Казіма—можа-б тады і не было гатай яго дружбы з Кізілам?..

Драгун разгінае стан і рукавом выцірае потны твар, потым зноў нагінаецца і разважна падпілоўвае шкіў. Чыгуннае пілавінне дробненькім дожджыкам сыплецца далоў. Казім падыходзіць да Драгуна з боку і ціханька выцягвае з кішэні капшук з тытунём. Ён міргае Доўнеру, каб той ішоў перакурыць. Павярнуўшы галаву, Драгун заўважае прапажу і, убачыўшы ўсмешку Казіма, сам смяецца і ідзе да хлапцоў.

— Ах ты, жулік,—кідае ён Казіму і лагодна круціць яго за вуха.

## XXVI

Далёка, далёка з-за лесу выйшла і паплыла па сіняй высі невялікая хмара. Яна была чорная і густая і, здавалася, вось-вось рассыплецца і паляціць на зямлю буйным дажджом ці градам. І хлапцы, каб захінуцца ад небяспекі, падаліся бліжэй да сасонніка. Ціхі вецер павольна гойдаў красаваўшае жыта, і манатонна шумелі старыя сосны. Леташнія шышкі і гліцы мулялі пад вокам, і Казім лянівай рукой даставаў іх і кідаў. Ён ляжаў дагары і глядзеў на чорную хмару і далёкае спакойнае сіняе неба. Ён глядзеў на тоўсты сасновы сук, які густымі лапкамі засланяў ускрай хмары. Крыху далей, дабротна развалі̇ўшыся, ляжаў і дыхаў шырокімі сваімі грудзьмі Кізіла. Ён глядзеў на прасторы жыта, якое танула ў красе, на просінь жытніх васількоў і, здавалася яму, чуў як гудзе—пераліваецца шматструнны, стракаты і пахучы зялёны луг. Яму здавалася, што роіцца вялікая неабсяжная зямля і ляціць, гудзе і радуецца неабсяжнаму сонцу. Шчабяталі над полем і лугам птушкі, і гулі, гулі над нівай пчолы, спакойна і дзіўна злівалася і цягнулася іх мелодыя.

І раптам выскачыла з лесу на дарогу грузавая машына. Зараўла гудам сваім моцным і гучным, падняла на дарозе пыл і хутка знікла за бліжэйшым узгоркам. Кізіла ад нечаканасці здрыгануўся. Казім зірнуў на яго, потым зноў перавёў погляд на калматы сасновы сук. І вось калі ён глядзеў, вецер прайшоўся міжігліц, закалыхалася голле і сарвалася з дрэва ды павольна паляцела леташняя сухая, невялічкая шышка. Яна доўга ляцела, круцілася ў паветры і звалілася недзе ў жыце. У высі, убок ад сонца плыла адзінокая хмара. А луг і поле, лес і далеч безупынна гулі сваім радасным гудам. І сонца залівала зямлю цеплынёй і святлом. Казім зірнуў на дружбака,—той спаў на поўныя грудзі...

Вечарэла, і хлапцы ішлі дамоў. Сонца садзілася над лесам, і з чыгункі даносіліся пераззвонныя гудкі. Было так цёпла і хораша.

— Ты, Федзя, кахаў калі-небудзь?—запытаўся Казім.

— Так, і нават моцна... А чаму пытаеш?

— Сябе вывяраць хачу.

— Разумею... Толькі мне цяпер усё гэта смешным здаецца.

— Чаму?

— Сам не ведаю. Я цяпер так кахаць, як ты кахаеш, не магу.

— Дзіўна.

— Нічога дзіўнага. Я больш не магу нікога пакахаць.

— Адкуль ты гэта ўзяў.

— Ты не дзівіся, я за цябе старэйшы і жыццё бачыў. Ты на заводзе другі год, а я шосты. А да завода колькі я па людзях пахадзіў.

— Ты да млына каровы пасвіў?

— Даводзілася. Я парабком быў, а гэта, вядома, рэч такая: будзеш рабіць тое, што загадаюць.

— Што, там і пакахаў?

— Ну так, там. Думаў, што звар'яцею. Але не выгарала.

— Гэта ў цябе таму, што ты ў кулачку.

— Ды не, не ў тым рэч, бабы—яны ўсе роўныя.

— Кінь, як гэта роўныя?

— А так што—роўныя.

— Я цябе не разумею.

— Ды тут і разумець нечага. Кожная з іх перад табой вунь якой добрай выдае сябе. Уся твая, хоць ты яе ў вушка кладзі, а як даверыўся, дык і лічы прапаў.

— Ой, брат, і злы-ж ты чалавек. Во, далася табе ў знакі тая кулачка.

— Ты не радуйся чужой бядзе, твая Рэнька і цябе падкуе. Ты, брат, памятай, што бабскае сэрца ў коле створана, і праўды ў ім— як у рэшаце вады.

— А кінь ты плесці. Адразу відаць, што цябе на гэтым месцы вельмі шыбанулі.

Вечар быў цёмны. Пачынаўся горад. У цьмяныя агні апранулася ўскраіна. Даносіўся шум і грукат цэнтра. У целе хлапцоў адчувалася прыемная стома дзённага адпачынку. Казіму вельмі хацелася спаць. Кізілу рупіла перакусіць і даведацца, ці прыйшоў ад бацькі ліст. Развіталіся за мастом, на скрыжаванні дарог. Дома іх чакала кожная свая радасць.

Калі Казім прыйшоў дамоў, маці падала яму ліст ад брата. Брат пісаў, што скончыў палкавую школу і думае застацца на звыштэрміновую службу. Казім узгодненаківаў галавой.

— Так яно і лепш,—казаў ён маці.—Няхай паслужыць, а там можа і вышэй у якую школу...

Маці моўчкі выцірала з воч слёзы. Ёй усёткі хацелася-б бачыць сына дома. Казім узяў газету і доўга блукаў па старонках, перачытваючы дзе якую мясціну. Раптам ён спыніўся і голасна прачытаў

ХРОНІКА

ЦСПС для ўзмацнення
работы ВоблСПС накіраваў
у г. Смаленск т. М. І. Каравай.

Казім прачытаў, пасядзеў, яшчэ раз пачытаў і, падумаўшы, узяў кавалак паперы і пачаў пісаць.

У той самы час Кізіла распячатываў бацькаў ліст. Гэта быў звычайны і разам з тым незвычайны ліст. Кізіла радаваўся і колькі раз перачытваў радкі: „Яшчэ кланяецца табе дарагі дзядзька Антось і дарагая цетка Аўгеня і шле свой паклон дачка іх Мальвіна Антосева“. Так яна ўсё чакае яго, такая добрая і шчырая панна Мальвіна. Яна прагне і марнее недзе там, пад Маладзечнам між фальваркаўскіх жаніхоў. Яна чакае? Ну, чакай, чакай, любая, мы хутка сустрэнемся. І вось зноў паўстаюць перад ім далёкія бацькаўскія мясціны, родная хата і вяселле сястры. Яно было багатым і па радыё перадавалася па ўсёй краіне. Як шкода, што не ведаў ён, у які-то вечар было. Ён напэўна навёў-бы свой прыёмнік і слухаў-бы, слухаў, як пяюць сваці, як разліваюцца галасы прыданых, як плача скрыпка... Ён падняў бы разам свой келех за здароўе заручаных, ён паслаў-бы сваё братняе пажаданне...—Эх!—вырываецца з болем з глыбіні нутра Кізілы... У дзверы стукае гаспадыня. Яна нясе гарбату і з цікавасцю распытвае, аб чым добрым пішуць з вёскі, як жывуць маці з бацькам.

— Так сабе. Просяць, каб на адпачынак прыехаў.

— І трэба, Хвёдар Прахоравіч, трэба паехаць да родных.

— Так, думаю паехаць, хочацца паглядзець на родныя куткі.—І ён радасна смяецца і павольна п‘е гарбату.

XXVII

Бясконцым ланцугом цягнуцца ўскраем неба хмары. Яны зацягнулі цеменню высь і заступілі сонца. Захмарыла над зямлёй, і вецер закурадымеў па дарозе. Прайшоўся ён і па заводскім двары. Недзе сарваў бляху са страхі і ляскаў ёю, барабаніў так, што ў вушах

рэзала. У зборачным гэты вецер-буян так прычыніў вакно, што некалькі шыб з бразгам высыпалася на зямлю.

— Во халера-б цябе хапіла,—вылаяўся Драгун і зашчапіў раму на кручок.

— Ты-б шапкай заткнуў,—пажартаваў Кізіла.

— Можа-б і языком чым-небудзь не шкодзіла...

Кізіла змоўчаў, а Драгун выцер з ілба густы пот і пайшоў шукаць кавалак фанеры, каб заладзіць дзіркі. Казім падганяў падшыпнікі для барабаннага валіка. Кізіла збіраў барабан. А за імі ішлі ўздоўж усяго корпуса, гудзелі і сквірчэлі варштаты, і рупныя людзі былі заняты кожны сваёю справаю. Вось Доўнер свідраваў у падкладках дзіркі і пасвістваў сабе пад нос. Анісенка дапамагаў Драгуну. Ён апілоўваў бакавыя лапкі трускоў. Кізіла, абапёршыся на барабан, старанна апілоўваў заклёпкі. Так іх счышчаў, што пры невялікім націску ў час працяжнай работы барабан абавязкова рассыпаўся на кавалкі. А ён рабіў і ўсміхаўся. Яму прыемна было бачыць і адчуваць сваю работу. Уласна, яго паслалі не для таго, каб ён рабіў гэта. Яму сурова наказалі рабіць сумленна, каб на рабоце ніякіх прыкмет не было. Яму загадалі выконваць работу шчыра, без ніякіх заган. Яго абавязалі даваць толькі інфармацыю, кароткую інфармацыю аб заводзе, аб горадзе і, па магчымасці, па магчымасці... аб усёй краіне. Ён выконваў гэты наказ і кожны дзень, кожную хвіліну чакаў, што вось, вось уздымецца навальніца і зрушыць, змяце гэты чужы яму свет. Ён марыў аб канцы для гэтых людзей, для гэтай работы. Але канец не надыходзіў, і адчай уласнай знямогі ўсё мацней і мацней грыз яго нутро. Яму рабілася балюча і сумна, крыўдна і горка. Лісты да „бацькі“ рабіліся дакучлівымі, а адказы не рочылі ніякіх змен. І вось, поўны нутраной кіпучай злосці, час ад-часу ён парываўся нешта зрабіць. Карыстаючыся даверлівасцю, ён часам скрадзе вельмі патрэбны кавалак металу і выкіне яго, як нястрэбу, ці ў рэчку, ці проста на сметнік.

А то не ў прыкмет падменіць часткі ў сабранай брыгаднікам машыне і тады доўга ўнутры рагоча над людскай даверлівасцю. Што ж, ён мае добрыя рукі, ён мае майстэрства добрага слёсара, ён лічыцца не маладым рабочым, ён нават ударнік і на сходзе ходзіць у скрыпучых чаравіках „Скараход“, якія атрымаў у парадку прэміі. Але яму надакучыла дваіцца, яму хочацца канца, ён часта марыць аб сваёй айчыне, дзе ён скіне гэтую надворную, чужую для яго, скуру і з форсам пройдзе перад сотнямі такіх самых, як ён, падняўшы высока галаву, у чыстым мундзіры пана паручніка. І будуць глядзець на яго з такой павагай і ветлівасцю, будуць схіляць перад ім галовы, дарыць цёплыя ўсмешкі і рукі ціснуць моцна і сардэчна. Цалаваць яго будуць ў самыя вусны і прасіць, каб ён расказаў, павелаў, аб гэтай барбарскай краіне. Будуць радавацца яго кожнаму радку ў газетах і часопісах, маляваць яго партрэты і радавацца яму. А ён напіша цэлыя кнігі, напіша томы аб гэтых людзях, аб гэтай краіне. Ён высмяе іх так, як яшчэ ніхто і ніколі не высмейваў людзей. Ён ведае гэтую краіну і гэтых людзей. Ён пабачыў усё, адчуў усё і зможа расказаць. І раптам...

— Федзя, ты мусіць хворы?—Чыясьці рука моцна сціснула яго за локаць.

— А... Казім...

— Ты перапілаваў барабанную планку.

— Што, што ты кажаш?!!

— Ты папсуў барабан. Ты хворы, Кізіла?

— Так, так, я хворы, я вельмі хворы.

Яго твар меў жудасны выгляд. Крывёю налітыя вочы глядзелі некуды ў далеч, цела ўздрыгвала і збочаная санка дрыжэла. Потым вочы заплюшчыліся і з роту пачала валіць пена. Твар зрабіўся белы і страшэнны. Усё цела выцягнулася і нервова дрыжэла...

— Падучка,—сказаў нехта.

— Гэты чалавек відаць шмат перацярпеў,—дадаў другі.

Кізіла расплюшчыў вочы. Ён спакойна паглядзеў навокал і запытаўся:

— Скажыце, што здарылася?

— З вамі быў легкі прыпадак,—адказаў доктар. Навокал сабралася багата людзей. Драгун трымаў кварту вады, яго рука дрыжэла. Казім нахіліўся і дапамог Кізілу ўстаць. Той устаў і, зняможаны, хілы, абапёрся на барабан. Ён паглядзеў на доктара, зірнуў навокал і ціха, не звяртаючы ні на кога ўвагі, сказаў:

— Упершыню гэта са мной здарылася, калі яшчэ быў парабкам. На млыне як працаваў — здароўе направілі: гаспадар такі быў, што душу выме з чалавека.—Ён папрасіў у Драгуна вады і, падзякаваўшы, прысеў. Людзі разыходзіліся. А за акном бясконцым ланцугом цягнуліся густыя і чорныя хмары.

XXVIII

Праз колькі дзён Казім запытаўся ў Драгуна:

— Ну, што ты на гэта скажаш?

— А тое самае, што і да гэтага казаў.

— Як гэта?—абурыўся Казім.—Няўжо ты не бачыш, што чалавек шчыра працуе, няўжо...

— У тым-та і рэч, што я бачу... Хвароба, хваробай, а барабан сапсуты. І справа, як ведаеш, не толькі ў гэтай адной планцы.

— Так, гэта я бачыў... Але-ж ты сам казаў, што чалавек імкнуўся зрабіць, як найлепш. Работа чыстая.

— Во, во, сапраўды работа чыстая... Ты вось што, Казім, кінь дзяцінніцца, зірні шырэй на рэчы.

— Я не ведаю, хто з нас дзяцінніцца. На маю думку, ты ўжо проста праз меру. Я, літаральна, абураны.

— Абурайся сабе, але я ад свайго не адступлюся.

Узрушаны і абураны Казім пасля работы быў у Юркаўца і Ліскавенкі.

— Я не магу з такім чалавекам працаваць. Ён літаральна ў кожным з нас ворага бачыць.

— А чаго ты абураешся ўласна?—запытаў Юркавец.

— Таго, што мне з гэтымі ўсімі людзьмі працаваць патрэбна. Брыгада-ж павінна існаваць. А тут вазьмі, сёння Драгун зноў сказаў на Кізілу тое самае, што і раней. Як быццам Кізіла такі чалавек, што нічога не заўважае. Сёння Кізіла мне заявіў: „Пры такіх адносінах да мяне я выйду з брыгады“.

— А што, па-твойму, Казім, каля Кізілы на пальчыках трэба хадзіць? Раз дрэнна працуе, значыць, трэба грэць. Памятаеш, як мы на бюро ўсыпалі Драгуну за той выпадак з машынкай? А чаму, скажы, Кізіла нарабіў гэтульКі промахаў, і вы нават на брыгадзе не пагаварылі аб гэтым?—Ліскавенка падумаў.—Навошта вы з ім цацкаецеся? Ты думаеш, калі будзеш змазываць памылкі і брак членаў сваёй брыгады, дык гэтым багата выйграеш? Ніколькі. Вось што, брат, збяры брыгаду, абгаварыце ўсё падрабязна, усе памылкі і ўсе промахі Кізілы, Анісенкі. І я табе кажу, людзі пачнуць працаваць за маліну, калі яны толькі хочуць працаваць.

Казім стаяў і ў знак згоды ківаў галавой. Потым ён пацёр далонню аб рог стала і сказаў:

— Добра, паставім. Толькі я вельмі буду прасіць, каб і вы, таварыш Юркавец, і вы, таварыш Ліскавенка, папрысутнічалі на нашым сходзе.

— Гэта можна.

І ўсёткі незадаволены і ўзрушаны ён накіраваўся дамоў. Багата што было для яго незразумела. Сумны, ён пайшоў увечары да Рэнькі і, як заўсёды, сустрэў яе радасную, задаволеную і вясёлую. Яны сядзелі каля рэчкі і час-ад-часу перакідаліся словамі. З-за густых туманаў і хмар выплыў светлы і чысты месяц. Ён павольна сунуўся па неабсяжнай высі і праз серабрыстае вецце заліваў святлом горад і купаўся ў Свіслачы. Заспакоены гэтым вечарам і сяброўскай рукой Рэнькі, Казім на час было забыўся пра турботы мінулага дня. Але калі пачалася гутарка пра заводскія справы, ён успомніў пра тое, што заўтра трэба будзе склікаць брыгадны сход.

— Слухай, Рэнька, ну вось ты комсамолка.

— А ты што, запамятаў гэта?

— Ды я не к таму; ты вось комсамолка і добрасумленна працуеш, але ў тваёй брыгадзе вось такія факты...—І Казім упершыню расказаў ёй усе брыгадныя справы. Яна сядзела і слухала. А калі ён скончыў, то так абыякава запытала.

— А што гэта за Кізіла?

— Чалавек: добры слёсар.

— Ды я не тое, ён стары ці малады?

— І не стары і не малады. Чаму ты пытаеш?

— А таму што ў нашай мясцовасці багата Кізілаў.

— А ты хіба з-за Лепля?

— Ну, канешне, хіба я табе не казала?

— Дык Кізіла таксама адтуль. З Гушчавай Гары, у яго бацька партызан,—выпаліў Казім.

— Чакай, чакай, з Гушчавай Гары, партызан нават?

— Ну, так, а ты чаго дзівішся?

— А таму, што ты проста блытаеш. Бо я шэсць ці пяць вёрст ад Гушчавай Гары жыла і добра ведаю, ніколі там партызанаў не было.

— Ды не там партызаны, ён у другім месцы партызанам зрабіўся.

— Я табе кажу, Казім, што там ніякіх партызанаў няма, я-ж з Судзілавіч.

— Дык можа бацьку Хведаравага ведаеш?

— Можа і ведаю. Як яго завуць?

— Здаецца Прахор. Я бачыў яго, ён такі прысадзісты дзед.

— Во, во, во прысадзісты, гэта ён, Прахор Кацялок. Толькі, Казімка, у Кацялка ніколі дзяцей не было.

— Ну, дык гэта значыць не той. Ён-жа не Кацялок, адкуль ты ўзяла?

— Можа і не той. Ён не лупаты, выпадкова?

— Лупаты.

— І картавіць, калі гаворыць, праўда?

— Так, крыху картавіць.

— Ну, дык гэта тады той, гэта Прахор Кацялок.

Казім задумаўся і развёў рукамі. Праз момант ён ціха пераказаў Рэньцы:

— Як-жа ён, калі ты кажаш, што ў яго і дзяцей не было?

— Ну, павер мне, што я ведаю, у Прахора ніколі дзяцей не было. Усе-ж ведаюць, што Кацялчыха бяздзетная. Нават за палякамі яшчэ ездзіла па знахарках, каб дзіцё мець.

— Адкуль-жа тады Хвёдар?

— Не ведаю.

— А што партызан, дык я сам чуў, калі ён расказваў, як чырвоных у тыл белых завёў.

— Ды не, Казімка, няпраўда. Гушчане ўсе яшчэ за тыдзень да прыходу чырвоных пачалі з Кубліч камендатуру ў Докшчыцы перавозіць... Яны ў згодзе жылі з жаўнерамі. Багатыя яны вельмі. Усе на хутарах. Да іх, бывала, як паедзе жаўнер, дык ужо прыедзе ў нашу вёску п'яны, як туз...

Казім зірнуў на Рэньку, потым павярнуў галаву і правёў поглядам па вадзе, а праз момант зноў вачыма ўставіўся ў твар Рэнькі. І заблытаная здагадка мільганула ў яго галаве. Прайшло колькі хвілін. Ён маўчаў і ўсё думаў. Рэнька таксама маўчала. І Казіму ўсё ясней і ясней рабілася, перад ім пачаў выступаць адкрэслены малюнак.

— Дык вось яно што!—сказаў ён урэшце.

З-за густых тumanoў і хмар над высокімі дрэвамі выплыў і стаў над горадам такі чысты, светлы і вялікі месяц.

1934 г.
Нова-Барысаў—Менск.

А. БУЗА

## ПЕСНЯ

У бары Алеся
Пад крывой сасонкай
Заспявала песню,
Заспявала звонка:

Пад зялёным дубам
Ды ля тэй паляны
Расстралялі любага
Ворагі-уланы.

Ляці песня, з ветрам,
Разлівайся морам
Над магілай Петрыка,
Над калгасным полем.

Над высокім лесам
Ды над маёй хатай
Узвівайся, песня,
Сокалам крылатым.

Відся ў паднябессі,
Пад гарачым сонцам
Усміхайся, песня,
Маладой старонцы.

Раcквітнелі ліпы,
Каштаны і клёны.
Калі прыдзе ліпень—
Возьмем сцяг чырвоны!

Прыдзем да цябе мы
З песняй, дружным строем
Свята вызвалення
Святкаваць з табою.

Сонцам закрасуе
Аржаное поле.
Табе раскажу я,
Як сустрэлі долю,

Як бушуе радасць,
Як жывём прыгожа,
Як квітуць прысады,
Як смяецца збожжа.

На тваю магілу
Прынясу вяночак.
Спі, мой Петрык мілы,
Спі, мой галубочак!

Май. 1934 г.

С. ПАРЫШ, Ю. ГАЛІНА.

# ПРЫСУДЖАНЫ

Партызаны шпарка адступалі ў глыб лесу. Славутая Белавежская пушча ўбірала ў сябе гэту жменьку адчаяных, адважных смельчакоў якія прадзіраліся праз заросль, заблытаны гушчар упэўнена, шпарка і злосна.

Саладкаваты пах гарэлага далучаўся да насычанага смалою паветра і настойліва напамінаў аб запаленым з двух бакоў жандарамі лесе. Машкара сляпіла вочы. Гарачыня была нясцерпная. Страшна хацелася піць, але не было часу затрымлівацца.

Партызан, пакінуты ззаду для прыкрыцця адступлення, ляжаў пад вялікай елкай, ніжняе вецце якой, растапыранае ва ўсе бакі, сваімі лахматымі калючымі канцамі скрэбла зямлю. Вострым поглядам узіраўся ён у гушчар лясных зарасцей, прагна ўслухоўваўся ў самыя нязначныя шолахі лесу, з асалодай удыхаў у сябе лясныя пахі, а пасля нечакана заўважваў жыццё, што капашылася каля яго на зямлі: цёмная вялікая мурашка заклапочана паўзла на сваю штодзённую працу, шмыгалі вёрткія яшчаркі. Чалавек узнімаў вочы і зноў увесь аддаваўся ўлоўліванню лясных шолахаў і шумаў. Кулямёт, як верны сабака, ляжаў побач, гатовы ў выпадку бяды кінуцца на выручку свайго гаспадара і сябра.

Не гледзячы на напружанае, напоўненае масай гукаў жыццё ў лесе,—цішыня была незвычайная. Напоеная, насычаная сокамі, замерла лясная прырода.

Па вузкай лясной сцежцы жандары пасоўваліся адзін за адным павольна і асцярожна. Наперадзе атрада ішлі побач удвух. Вельмі высокі сухарлявы, узяты з турмы, пажылы селянін і выпадкова злоўлены ў лесе худы і бледны хлопчык гадоў пятнаццаці.

Селянін крочыў упэўнена і на выгляд бадзёра, па старой салдацкай звычцы маладцавата размахваючы вялікімі рукамі. Толькі адзін куточак яго рота ледзь прыкметна перасмыкаўся. У турме ён доўга адмаўляўся паказаць, дзе знаходзіцца партызанскі штаб. Так-сяк перанёс пабоі. Але перад пагрозай разбурэння ўсёй яго, моцна зладжанай, нябеднай сялянскай гаспадаркі—не ўтрымаўся.

У хлапчука вочы так і шныпарылі па кустах і дрэвах. Хутка ён пачаў усё больш і больш стрымліваць свае крокі, азірацца бясконца па баках і нарэшце спыніўся зусім. Ён упарта ўпёрся вачыма ў зямлю.

— Далей не пайду,—мармытнуў ён панура. Схапіўся рукою за грудзі. Сэрца калацілася з усёй моцы.

Селянін непрыкметна адступіў у бок.

Хлапчук быў упэўнены, што зараз-жа на яго накінецца капрал, садане па вуху, шпурне на зямлю, будзе біць абсацамі і мучыць.

Моцна зажмурыўся ў балесным чаканні. Але высокі, моцны, туга сцягнуты ў поясе капрал стаяў у глыбокай задуменнасці. Машынальна, сам таго не заўважаючы, старанна душыў нагою паўзучых мошак, думаючы зусім аб іншым. Непрыкметным гэстам ён падазваў да сябе аднаго з атрада.

Падбег тоненькі, зусім яшчэ малады жандар, з кволым дзявочым тварам, але нешта цяжкое, што прыгнятала, было ў яго пагардлівым поглядзе.

Яны падвялі хлапчука да маленькага дрэўца і прыгнуліся да яго. Іхнія, нахіленыя над ім, дужыя, моцныя, уціснутыя ў мундзіры, такія чужыя фігуры і накіраваныя на яго вострыя ледзяныя вочы прыдушылі хлапчука страхам, горш за катаванні.

Ледзь выціскаючы з сябе словы, ледзь чутным шэптам ён адказаў на ўсе іх пытанні.

Пагаварыўшы пасля з начальнікам, пашаптаўшыся з селянінам, малады жандар шмыгнуў уперад, потым павярнуў направа і, старанна рассоўваючы вецце, пачаў аддаляцца шпарка, лёгка і бясшумна, а хутка і зусім знік з вачэй.

Капрал балюча ткнуў хлапчука касцюком пальца і паказаў на высокае дрэва. А сам ён, селянін і ўвесь атрад, захоўваючы яшчэ большую асцярожнасць, рушылі далей, штохвілінна спыняючыся, падазрона азіраючыся па баках і доўга ўважліва прыслухоўваючыся.

Спявалі птушкі. Перабягалі па высокіх галінах елак белкі. Кукавала недзе далёка зазюля. Надыходзіў вечар. Было прыгожа, ціха, адзінотна і жудасна.

На вершаліне вялікай сасны, на тонкай, але моцнай галіне, на прасторы і волі, пакалыхваўся, зліваючыся з прыродай, маленькі яе кавалачак—хлапчук. Пачакаўшы крыху, ён павярнуў галаву ў бок пайшоўшых, прыклаў далоні к губам і слаба, але рэзка крыкнуў, нагадваючы саву. Адказала здалёк другая птушка. Ледзь зашалясцелі дрэвы. І зноў усё змоўкла.

Прызвычаенае да самых нязначных шолахаў партызанскае вуха пачула далёкія гукі крокаў. Дальназоркія вочы разгледзелі мільгануўшыя паміж дрэвамі цёмныя сілуэты. Пачуў ён як быццам і крык савы. Прымасціўшы зручней каля ствала дрэва кулямёт, разлёгшыся на жываце, ён нарыхтаваўся да стральбы, каб, калі патрэбна будзе, не страціць ні адной секунды. Ён быў добры стралок, спрактыкаваны, трапны і вытрыманы, але палкая натура адчувалася. Ён хваляваўся.

Трэба было не толькі нанесці ворагу ўдар, страту ў людзях, але і зрабіць паніку, рассеяць, затрымаць, прымусіць уцякаць назад.

Ён скінуў пояс, праверыў на ўсякі выпадак наган. Вырашыў жывым ні за вошта не здавацца. Успомніў пайшоўшых у глыб лесу таварышаў.

— Мусіць, ужо жруць, чэрці.

Аблізнуўся, дабрадушна ўсміхнуўшыся.

Сонца адыходзіла. Яго апошнія разведчыкі, промні, затрымаліся чырванаватымі блікамі на дрэвах.

Разгледзець дакладна, колькі рухалася людзей, было немагчыма. Да того-ж яны не ішлі, а ледзь-ледзь брылі між дрэвамі.

Тужліва было чакаць іх.

Нарэшце вылучыўся нейкі адзін, худы і высокі. Партызан не адрываў ад яго вачэй. Чалавек выйшаў нарэшце на адкрытае месца. Партызан ірвануўся наперад.

— Вось дык штука! Дзядзька Тарас з нашай вёскі. Бацька нашага Андрушы!

Потым раптам нахмурыўся:

— Аднак чаго-ж ён сюды трапіў? Што яму тут трэба?

Высокі чалавек пільна паглядзеў ва ўсе бакі, азірнуўся назад і зрабіў знак рукою. Пацямнеў твар у партызана, загарэліся вочы.

— Так, дзядзька Тарас гасцей да нас вядзе! Што-ж, мы іх сустрэнем, як трэба, з гонарам. Пачастуем, як умеем. І цябе не забудзем.

Сціснуўся ў камяк, увесь напружыўся, як сталёвая спіраль.

У гушчары гарэшніка тоненькі жандар зняў новенькую шапку і пачаў ею абмахвацца. Заклапочана страсянуў з яе прыстаўшую галінку і раптам неспакойна пацягнуў носам. Сцяміўшы, у чым справа, з асалодай зацягнуўся гэтым паветрам, змешаным з пахам гарэлага. Гэты пах ажывіў яго, прыўзняў баявы дух.

Моцным баявым духам быў заражан і чырвоны партызан. Наводзячы кулямёт на жандараў, ён прагна шукаў вачыма Тараса. Але Тараса там не было. Бессвядома, але з поўнай увагай ён нацэліўся на падобнага да яго з выгляду высокага худога жандара. Ён яго адзначыў. З яго і пачаў.

Кулямёт і кулямётчык добра былі схаваны веццем елкі, а страляніна пачалася так нечакана, што жандары спалохана замітусіліся, кінуліся ў розныя бакі.

Забітых і параненых было шмат. Ніхто іх не падбіраў. Падобны да Тараса жандар зваліўся адразу.

Так дзіўна і дзіка было слухаць стогны і крыкі сярод гэтага цудоўнага, ляснога спакою.

Кулямёт скошваў дрэўцы. Абліваў сваім страшным мёртвым струменем людзей. Быў жорсткі, няўмольны і бязлітасны. Ён захопліваў людзей на хаду, спыняў, шпурляў на зямлю, знішчаў. Сеяў паніку і муку.

Франтаваты жандар, што знаходзіўся ў гарэшніку, збіраўся рушыць далей, калі непадалёк ад яго застукаў, застракатаў кулямёт. Уздрыгнула і ледзь не валілася з рук шапка. Шпарка і цвёрда надзеў ён яе зноў на галаву. Азірнуўся. Убачыў спіну страляўшага партызана. Хітравата падміргнуў некаму невядомаму. Крыкі і стогны сваіх прывялі яго ў шаленства.

Пад траскатню кулямёта, якая заглушала гукі крокаў, паляўнічы за чырвоным зверам непрыкметна падкраўся бліжэй і схаваўся ззаду страляўшага партызана за вялікую крывую, з двума ствaламі, бярозу.

Жандары, хаваючыся ад кулямётнага струменю, рассыпаліся ў беспарадку па лесе і пабеглі назад. Кулямёт ужо не даставаў іх, але партызан разгарэўся, захапіўся, забыўся на эканомію і асцярожнасць, здаволены такой удачай дражніў і пужаў іх наўздагон.

Тоненькі, з кволым тварам жандар (ён марыў аб павышэнні), таксама ўзбуджаны, усхвалёвана сачыў за ім, чакаючы спрыяльнага моманту.

Раптам кулямёт перастаў працаваць. Партызан нервова зацерабіў замок. Прыгнуўся да яго нізка, каб зразумець, у чым справа. Ён паспеў пачуць ззаду сябе лёгкі хруст хвоі. Паспеў ускочыць. Але абараніцца не паспеў. Моцны, з усяго размаху ўдар прыкладам па галаве—аглушыў яго і зваліў на зямлю.

Зваліўся ніцма.

На некалькіх мурашак, што варочаліся са здабычай, насунулася велізарная глыба, з-пад якой дзве шчасліва выпаўзлі, а астатнія загінулі.

Тарас стаяў над беспрытомным, груба павернутым на спіну, партызанам і пільна ўглядаўся ў яго. Ён адразу пазнаў гэтага партызана, але маўчаў, не адважваючыся назваць яго.

Падышоў капрал і ўпёрся ў Тараса поглядам. Тарас апусціў галаву і ледзь чутна прамармытаў нешта. Капрал здаволена цмокнуў языком і ўпэўнена, працягла свіснуў.

Франтаваты жандар важна паправіў плечы, як быццам на іх ужо красаваліся новыя пагоны.

Злоўлены аказаўся Дзямянам М., раённым атаманам трэцяй акругі штаба чырвоных партызан. Патрэбны работнік; гордасць усяе акругі, граза жандараў. Першы намеснік і правая рука акруговага атамана Скамароха.

Стомленыя доўгім пераходам партызаны ледзь брылі. Нарэшце ў поўнай знямозе яны спыніліся.

Непадалёку ад гэтага месца пачыналася непраходная дрыгва. Яна цягнулася цэлую вярсту. Месца—страшнае і для іх, але як прытулак—незаменнае.

Будка дзядзькі Андрэя выглянула на палянцы, як жывая. Самога лясніка не было дома.

Хлопцы накінуліся на ваду. Пілі проста з вялікага вядра. Напіўшыся, паваліліся, хто куды. На лаўках, пад лаўкай, на падлозе ў хаце, на падлозе ў сенцах, у пуні пад страхою, усюды чутно было соннае дыханне і адусюль нёсся здаровы магутны храп.

Вярнуўшыся змрокам, ляснік ледзь не ўпаў, спатыкнуўшыся на маладога асілка, што раскінуўся ўпоперак сянец.

Акруговы атаман яшчэ не спаў. Ён моўчкі смаргануў лясніка за рукаў і пацягну ў дасябе на печ. Ляглі побач, і дзядзька Андрэй падрабязна расказаў усё, што паспеў дазнацца ад таго-ж бледнага, худога хлапчука, а іменна, што Дзямян узят у палон непрытомны і што яго адвезлі ў бліжэйшую вёску.

Доўга і падрабязна абмяркоўвалі яны магчымасць нападу на вёску, каб адбіць Дзямяна. Але гэту думку прышлося адкінуць. Туды прыбыў добра ўзброены ўзмоцнены жандарскі полк. А іх было мала. Сабраць на ноч іншыя атрады было немагчыма. Да таго-ж і снарады канчаліся. Заставалася адно: дзейнічаць хітрыкамі і партызанскай смеласцю.

— Дзе чорт не возьме, туды партызан пашле,—сказаў Скамарох.

Для гэтага неабходна было высветліць становішча. Рашылі, што ляснік зноў пойдзе на разведку. На гэты раз ён павінен быў зайсці ў самую вёску.

Асцярожна ступаючы сярод наваленых на падлозе цел, ён выйшаў з хаты, прыпыніўся на парозе, глянуў на пахмурнае неба, паправіў вінтоўку, падцягнуў пояс і знік, растаў у лесе, поўным начных таямніц.

Насцярожаным сном спіць вёска. Ходзяць мернымі крокамі вартавыя, што ахоўваюць штаб, зброю і коняй прыбыўшага жандарскага атрада.

Ветліва свеціцца праз дрэвы агеньчык у хаце дзядзькі Мартына. Унутры хаты змрочна і нудна. Цьмяна гарыць невялічкая лямпачка над сталом, пакідаючы неасветленымі далёкія куты.

На падлозе супроць дзвярэй ляжыць звязаны Дзямян. Як і раней, непрытомны. Твар яго бледны, як у мерцвяка. Толькі там, дзе ўдарыў прыкладам тоненькі жандар, нахапіўся вялікі сіне-багровы бугор.

У цёмным кутку каля печы нізкарослы, ускудлачаны дзядзька Мартын нервова кусае сваю драўляную люльку.

У глыбокай задуме ён то панура апускае сваю ўскудлачаную галаву так, што злыя шэрыя кропкі хаваюцца зусім за густымі брывамі, то ўзнімае яе горда ўгару, разгінае сваю старую, стомленую спіну, і ў шэрых кропках з'яўляецца тады цвёрды, сталёвы бляск. Мартын дзелавіта і шпарка абмацвае гэтымі кропкамі хату, затрымліваючыся па чарзе то на прадметах—на печцы, на вакне, на дзвярах, то на людзях — на злоўленым партызане, на тоненькім жандары, на капрале.

Адна неадступная думка грызе, свідруе яго мозаг, не дае супакою.

На печы сядзіць здаровая, буйная цётка Дамінка. Не адрываючыся, глядзіць яна на беспрытомнага Дзямяна. Яе круглы твар выцягнуўся ў смешную грымасу, пачырванеў. Да таго ёй шкада маладога партызана, што хочацца загаласіць на ўсю хату, кінуцца на беспрытомнае цела, абхапіць яго рукамі і голасна выць, прыгаварваць над ім, як над нябошчыкам.

Устрымліваецца цётка. Толькі вусны ў яе ўздрыгваюць, ды вачыма часта міргае.

Капрал, як у сябе дома. Нядбайна сядзіць на табурэтцы. Злёгку гойдаючыся, задаволены, весела спявае гуллівы, модны матыўчык і задаволена пазірае круглымі, як у птушкі, вачыма на ляжачага ў беспрытомнасці чырвонага партызана.

Жандары размясціліся шчыльна на даўгой лаўцы і таксама лупаюць на „бандыта“ зацікаўленымі вачыма.

Сышліся сіне-чорныя бровы, зрасліся на бледным твары. Падаюць на ўпалыя шчокі цені ад даўгіх веек. Моцна сціснуты тонкія, бяскроўныя вусны. Трывожныя сінія цені кранулі куточкі носа і рота.

— Хутка здохне, сукін сын,—кінуў з пагардай стаяўшы ў баку франтаваты жандар. Кволы, дзявочы твар яго паружавеў.

— А смелы, сволач,—падхапіў другі.—На цэлы атрад выскачыў адзін са сваім кулямётам. І трапна страляе.

— Жывучыя яны, гады, — сказаў павучульна стары, сівы жандар з вялікім шрамам на твары,—выжыве і гэты.

Капрал мацней загойдаўся на табурэтцы.

— Выжыве, не выжыве, якая розніца? Усёроўна на світанні расстраляем.

У далёкім кутку за печчу ледзь крануўся маленькі, ускудлачаны, зразу згорбіўшыся, як пад ударам, дзядзька Мартын. Хрумснула лёгенька люлька ў яго зубах.

На печцы магутная цётка Дамінка гучна пацягнула ў сябе носам і ярасна выцерлася канцом фартуха.

А на падлозе страшны „бандыт“, раённы атаман штаба чырвоных партызан, Дзямян, не ў час апрытомнеў і пачуў вымаўлены над ім прыгавор. Яшчэ кружылася ад слабасці галава і няясная была свядомасць. Але самыя словы ён чуў. І паступова яны дайшлі да яго з поўнай выразнасцю і яснасцю. Віхуры думак закружыліся ў яго ў галаве. Вокамгненна перанёсся ён у свой дом, у сваю родную хату. Маладая, амаль дзяўчынка, жонка, дзіцё ажылі, загаманілі, закружыліся перад вачыма ў хаосе думак і пачуццяў. Маўклівыя, суровыя твары. Адвечным дакорам упіліся яму ў сэрца бацька і маці. Маці за яго многа білі. Зусім старой стала. Заўсёды хворая. Бацька пасля турмы пачаў загаварвацца. Мільганулі нібы ў сне дзіцячыя гульні і лепшыя сябры. Любімы сябра акруговы атаман. Выплылі з туману высокія зубчатыя сцены Крэмля. Масква! Рэволюцыя. Старая—ранейшая, і цяперашняя—

новая вёска. Паўсталі ў ваабражэнні тыя ранейшыя барадатыя, панурыя, раскіданыя па глухіх месцах, замучаныя бядой людзі, поўныя прыдушанай, захаванай глыбока нянавісці і глухога, гатовага на ўсё адчаю. І гэтыя цяперашнія, безбародыя і смелыя, згуртаваныя і моцныя, маладыя барацьбіты, што бадзёра і ўпэўнена б'юцца за вызваленне тых барадатых і панурых.

Партызаны!

Таварышы!

Родныя!

Свае!

Перанёсся к партызанам, к сваім, у свой любімы, цёмны і цудоўны лес і нібыта з боку убачыў сярод іх сябе здаровым, бадзёрым і дужым.

Так ярка адчуў сваю маладосць, так моцна захацелася зноў змагацца і жыць, так захацелася ў лес, на яго прастор і волю, такім бязглуздым, зусім немагчымым здалося паміраць, што ён напружыў з усёй сілы свае мышцы, трасянуў моцна-звязанымі рукамі, павярнуў галаву, ад болю глуха застагнаў, потым, нечакана для сябе і навакольных рэзка крыкнуў і зараз-жа расплюшчыў вочы.

Жандарам здалося, што ён развязаўся, да таго люты і ясны быў яго погляд. Двох кінулася на яго. Адзін прыдушыў яго зверху каленам. Другі ўхапіўся за звязаныя ногі. Тоненькі схапіўся за вінтоўку. Раптам ускочыў з табурэткі капрал.

— У чым справа?

Збянтэжана пераглянуліся не разумеючы самі жандары. Злоўлены быў моцна звязаны. Не кратаўся. Нязграбна і шпарка падняліся яны з падлогі і ціха, сарамліва адыйшлі ў бок.

Дзямян хутка выдахся ў сваім непатрэбным парыве. Цяжка разумеючы, з вялікім намаганнем пачаў абводзіць вачыма хату. Гаспадар высунуўся з цёмнага кута. Погляд яго і гаспадара, сустрэўшыся, зліліся ў адно. А погляд гаспадыні, яе бязупыннае смарканне нечакана перавярнулі ўсю яго душу. Яны ўзмоцнілі яго перадсмяротную журбу.

— Барацьба. Работа. Колькі не дароблена, не закончана і колькі засталося яшчэ зрабіць. Самы разгар барацьбы. Гэтак патрэбны людзі! А тут улопаўся. Сам схібіў. Захапіўся стралянінай. А якія агідныя кпіны, колькі нянавісці і злосці сустрэне яго ў апошнюю гадзіну.

Гаспадыня зноў заплакала. У Дзямяна адлягло на сэрцы. Яе вялікі круглы твар, уся яе буйная фігура, шырокія плечы, мілая, белая хустка на галаве, яе прастадушнае, бясхітраснае выражэнне спачування і гора—абудзілі ў ім даўно забытыя, простыя і дзіцячыя пачуцці. Здавалася яна яму то замужняй, старэйшай сястрой, то маткай...

Ён прагаварыў не сваім звычайным, а нейкім зусім іншым, ледзь чутным, смешным, дзіцячым і слабым голасам:

— Піць хачу.

Жанчына кінулася з печы, схапіла кварту, зачэрпала з вялікага чыгуна вады і, хоць дрыжэлі ад хвалявання яе развітыя, загарэлыя і агрубелыя ў працы вялікія рукі, напаіла Дзямяна добра, спрытна і хутка. І зрабілася яму адразу лягчэй, і кроў пацякла шпарчэй па жылах.

Ужо іншымі вачыма абвёў ён хату і зноў спыніўся на момант на старым. Тут не добры бацька, а таемны супольнік і стойкі, верны таварыш і сябра глянуў на яго з цёмнага кута хаты.

Дрэнна ўсвядомленая, цьмяная надзея мільганула ў заблытанай свядомасці Дзямяна пры поглядзе на шчупленькага, ускудлачанага

старога. Між іншым ён так зноў аслабеў, што ў зянмозе зноў заплюшчыў вочы і зараз-жа заснуў.

Але не спаў за яго стары гаспадар. Зірка аглянуўшы хату, ён пасунуўся бачком да дзвярэй.

— Куды?

Рэзкі крык капрала спыніў яго на месцы.

Але не дарэмна аднак так доўга прыгняталі бедняка-селяніна кічлівыя, гордыя паны. Прайшоўшы іх суровую школу, ён навучыўся быць не толькі знешне-ўслужлівым, нібы пакорным і ліслівым, але каварным і хітрым. Не забіты, цёмны селянін стаяў перад грозным абаронцам багатых і моцных, але спрытны і разумны актор.

Нібыта забыўшыся на сорам і сумленне перад начальнікам, у сваім халопскім неразуменні прыстойнасці, прастадушны мужычок, рашпільваючы на хаду порткі, спяшаўся да выхада.

— Ці данясе да двара, — думалі міжвольна ўсе, гледзячы на гэту растрэпаную, здэтанаваную карыкатурную фігуру.

Капрал пырснуў ад смеху ў вусы. А маленькі цёмны мужычок махнуў яму наспех вольнаю рукою і бегла кінуўся вон з хаты.

Чыстай карай было дабудзіцца Боркі. Бацька рашыў пасдаць яго ў лес папярэдзіць партызан аб прызначаным на світанні расстрэле Дзяміна. Але Борка спрасонку нічога не разумеў. Ён цёр кулакамі вочы і зноў валіўся, як нежывы, на лаўку. З хаты данёсся заглушаны стогн.

Гэта Дзямян нязручна крануўся ў сне. Стогн Борка пачуў. Ён раптам ускочыў.

— Хто гэта там у нас у хаце?—спалохана прашаптаў ён.

— Цішэй—пацягнуў яго за рукаў дзядзька Мартын.—Дзямян арыштаваны. Яго хочуць расстраляць. Бяжы хутчэй да Скамароха, папярэдзь.

Борка нерашуча глянуў у маленькае цёмнае вакенца. Зноў на гэты раз больш выразна пачуўся стогн. Хлапчук пасядзеў з хвіліну, апусціўшы галаву і прыслухоўваючыся, потым некалькі разоў пакруціў галавой, нібы страсаючы з сябе нешта, і гледзячы з-пад ілба на бацьку, вельмі ціха, але цвёрда сказаў:

— Добра, пайду. Гавары, што сказаць.

— Скажы Скамароху, што Дзямян у нас. Раніцой яго расстраляюць.

Дарослы мужчына не прапоўз-бы на жываце каля вартавога так непрыкметна, спрытна і хутка, як гэта зрабіў басаногі худзенькі, лёгкі, як пяро, дванаццацігадовых лапчук, які яшчэ ўчора цягаў у суседкі гарох. І цяпер, пералезшы цераз плот, Борка не ўтрымаўся і мімаходзь схапіў вялікі пучок гароху.

Трапіўшы на вільготную ад начной расы дарогу, ад страху ён кінуўся бегчы так шпарка, што ў яго ў вушах свістала, пакуль не спыніўся раптам каля вялікай дзікай ігрушы, каб перавесці дух.

Дзядзька Андрэй, што сядзеў у самай яе гушчы, і стараўся адтуль дазнацца, што робіцца ў вёсцы, даўно злез з дрэва і, стаіўшыся, з непакоем сачыў за бегшым ад вёскі маленькім чалавекам.

Быў няпоўны месяц. Ноч не давала выразных абрысаў. У галаву не прыйшло, дзядзьку Андрэю што магло бегчы дзіця.

Велізарныя рукі лясніка, нібы саван смяротніка, накінуліся адразу на хлапчука. Абхапілі ўсяго, зацініснулі рот, здушылі горла. Зазвінела ў вушах, пазелянела перад вачыма. Не было чым дыхаць. Вырвацца не ўдавалася, ды і бескарысна было. Адчуваючы рукамі і ўсім целам прыціхшую ахвяру, ляснiку прыйшла думка, што перад ім дзіцё. Ён

разняў, крыху свае цяжкія пудовыя лапы і загадаў расказаць, хто, куды, чаго і адкуль. Борка назваўся. Замест смяротнага савана, цяністая дуброва з шырокім мяккім веццем прыняла ў свае нетры Борку.

У лесе ў партызан гутарка была кароткая. Ды і не час быў валаводзіцца. Атаман Скамарох простай зразумелай мовай вытлумачыў Борку сутнасць справы. Пасля хлопцы сунулі яму ў абедзве кішэні па вялікай бутэльцы, далі на дарогу хлеба з салам і з дабратлівым штуршком адаслалі назад дадому.

Пасля партызанскага лесу не такі страшны здаваўся Борку шлях дадому. Не заўважыў сам, як ужо пералазіў плот. Пра гарох у суседкі і не ўспомніў. А на жываце каля вартавога поўз ужо не гарэзлівы разбітны блазан-хлапчук, а асцярожны, вопытны і хітры разведчык-партызан.

Прыгонны актор дзядзька Мартын удала разыграў другую дзею сваёй соцыяльна-бытавой драмы. Камедыйны штыршок, узмоцнены болямі ў жываце, зноў рассмяшыў і адцягнуў увагу суровага яго пана.

Капрал рагатаў да калацця.

Дзямян нарэшце прачнуўся. Сон асвяжыў яго і прыдаў новыя сілы. Нясцерпна захацелася есці.

— Есці хачу,—сказаў ён і радасна заўважыў, што пасля сну голас яго памацнеў.

Што зрабіла пасля гэтага цётка Дамінка не цяжка сабе ўявіць. Перш за ўсё, яна ледзь не звалілася з печы. Пасля зачапіла і перавярнула вялізны чыгун з вадой. Пасля яна замітусілася па хаце, хапаючы без толку розныя гаспадарчыя рэчы і не ведаючы, за што ўзяцца. Нарэшце яе прарвала. Яна спынілася сярод хаты і моцна загаласіла, прыказваючы і пытаючыся, што згатаваць ненагляднаму саколіку.

На гэты раз цётка Дамінка раззлавала партызана сваёй жаласлівасцю. „Яшчэ падумаюць, сволачы, што і я сябе шкадую, што баюся паміраць".

— Што мела плакаць ды галасіць, лепш бы перад смерцю блінцамі мяне пачаставала, цётка,—сказаў ён, сціскаючы ад болю зубы. Вяроўкі ўпіліся ў цела. Адна рука зацякла зусім, а ногі анямелі.

— „Дзе цяпер нашы? Ці паспелі яны ўцячы? Што будуць рабіць заўтра?"

Ён не паспеў сказаць Скамароху, што той далёкі атрад, трэба, як мага хутчэй, перакінуць сюды бліжэй, важна выйграць час. Сам таго не прыкмячаючы, ён пачаў абдумваць зусім новы план перагрупоўкі партызанскіх атрадаў, які прыйшоў яму ў галаву ўчора раніцою. „Заўтра збавязкова трэба гэта зрабіць",—падумаў ён пад канец сваіх меркаванняў. „Але што-ж я? Якое-ж заўтра?" Думкі яго абарваліся.

Вакол заклапочанай дабратлівай і дзябёлай жанчыны ўсё здавалася велізарным. Усё адпавядала яе вялікім моцным і простым пачуццям. Прынесенае бярэмя дроў. Палаючы агонь у печы. Расшчыненае цеста. Драўляная дзяжа, скаварада, вілкі. Усё было велізарнае. Ды і самую яе распірала ва ўсе бакі ад паўнаты пачуццяў.

Работа кіпела. Награвалі вугаллі ў печы. Лілося і сіпела сала. Пыхкаў на скаварадзе блін. Чароўныя прадметы!

Накрываючы на стол, гаспадыня заўважыла, што не толькі жандары, але і начальнік з галоднай нецярплівасцю пазіраюць на печ, неспакойна ўскакваюць і зноў садзяцца. Паправіўшы на галаве хустку, яна падышла ціхенька да капрала і, ветліва пакланіўшыся, папрасіла яго загадаць развязаць асуджанаму ногі, каб ён мог падыйсці да стала паесці.

Капрал нездаволена кіўнуў галавой.

Калі Дзямяну развязалі ногі, ён сеў на падлогу. Спачатку не мог крануць імі, да таго яны занямелі, а пасля пачаў гойдаць імі ў розныя бакі, каб пераканацца, што яны дзейнічаюць. Шумна, але важна размяшчаліся нежаданыя „пачэсныя“ госці вакол стала.

Прыгонны актор перайшоў да трэцяй дзеі. Цяпер ён іграў ролю шчодрага гаспадара, ледзь паспяваючы наліваць у адзіную шклянку гарэлку. Елі з асалодаю, шмат і доўга.

Дзямяна з развязанымі нагамі таўстуха пасадзіла каля печы на табурэтку, паставіўшы супроць яго высокі маленечкі зэдлік, а на ім высачэзную гару бліноў. Моцна звязаныя назад рукі страшэнна нылі, а галоўнае—нельга было есці. Ён азірнуўся, шукаючы выйсця. На яго ніхто не звяртаў увагі. „Прасіць, каб кармілі, як малое дзіця?“ Аднак і голад не цётка. Ды і трэба было падмацавацца, каб набрацца сіл і мужна сустрэць смерць. Ён пачаў хапаць бліны ротам, прагна ўцягваючы іх губамі, амаль не жуючы, глытаў іх цалком і зараз-жа кідаўся на другі.

Высокая горка бліноў шпарка раставала.

Панура глядзеў на гэту сцэну дзядзька Мартын. Ветліва падкінула свежых блінцоў гаспадыня. Рагаталі, ірзалі ад захаплення жандары. Троссяя грузным целам капрал. Пацеха выйшла вялікая. Адзін блін не трапіў у рот і скінуўся на падлогу.

Гаспадыня кінулася да капрала. Загаварыла адвечная звычка берагчы цяжка здабытае дабро. Капрал паслухмяна дазволіў развязаць Дзямяну і рукі. Цяпер цётка Дамінка не паспявала падкладваць на Дзямянаву талерку бліны. Пакуль яна адварочвалася да печы, ён з'ядаў тое, што было перад ім на вялікай талерцы. Спаборніцтва паміж едаком і гаспадыняй цягнулася доўга.

Нарэшце жанчына перамагла.

Уся потная, размораная, чырвоная, задыхаючыся ад гарачыні печы, яна паклала апошнюю, незвычайнай велічыні горку бліноў, але Дзямян ужо адваліўся, як адвальваецца дзіцянё, уволю насмактаўшыся мацярынскіх грудзей. Ён расчырванеўся. Вочы блішчэлі. Ён ап'янеў ад бліноў, ад свабоды сваіх рухаў, ад гарачыні печы.

Жандары і іх начальнікі былі п'яныя ад гарэлкі і ад празмернай яды. Гаспадыня—ад стараннасці і хвалявання. Поўнасцю валодаў усімі сваімі думкамі і пачуццямі адзін гаспадар. Ён і дзейнічаў.

Выцягнуўшы з адпаведнага запасу яшчэ адну вялікую бутэльку гарэлкі, гаспадар паставіў яе на стол. Капрал рашпіліў свой вузкі мундзір і зняў спераду з гузікаў тугія шлейкі. Жандары сцякалі потам. Яны знялі з плеч і паклалі каля сябе свае карабіны.

Дзямян паступова пачаў прыходзіць у сябе. Ён намагаўся думаць, але выцястая галава працавала дрэнна. Сагнуўшыся, сядзеў на табурэтцы, змучаны сваім бяссіллем.

Капрал уперся мутным поглядам у налітую да самых краёў шклянку. Піць больш ён не мог. Нудзіла.

— Ідзі сюды,—крыкнуў ён на партызана.

Дзямян цяжка падняўся і, не цвёрда ступаючы, падышоў да стала. Капрал агледзеў яго і ўсміхнуўся.

— Выпі перад смерцю за здароўе нашых бравых жандараў і іх начальніка.

Партызан сцепануў плячмі, блікнуў вачыма. Пры тым шпарка схапіў шклянку і залпам выпіў.

Як маці-сырая зямля надавала свежыя сілы прыпадаўшаму да яе волату Ілью Мурамцу, так і гарэлка разам надала Дзямяну новыя

сілы. А разам з сіламі прасвятлела і свядомасць. Напружана працаваў мозаг, шукаючы шляхоў да паратунку. Застукала, пагнала кроў па жылах маладое сэрца. Жыць! Змагацца і жыць, што-б там не было. Душа ірвалася ў лёс, да сваіх, а розум шукаў дарогі да ратунку.

Пакорна папрасіўшы ў капрала дазволу размяць зацёкшыя ногі. Дзямян устаў і пачаў павольна крочыць па ўскоснай лініі ад кута печы да ваконнага кута і назад. Аднак паступова, па меры таго, як паскорыўся ход яго думак, усё больш і больш паскараліся і яго крокі.

„Да світання блізка. Таварышы далёка. Ён павінен сам“.

Гаспадар зноў пайшоў у свой цёмны куток. Закурыў там сваю люльку і неадступна, не адрываючы ні на хвіліну погляда, сачыў за партызанам.

Як ні быў п'яны капрал і як ні цягнула яго да шырокай і мажной гаспадыні, звыклы службовы нюх праявіўся. Маргнуўшы аднаму з падначаленых, ён у момант паставіў самага здаравеннага і самага дзябёлага жандара каля нізенькіх уваходных дзвярэй.

За вакном то паказвалася, то знікала галава вартавога і верхняя частка вінтоўкі. Гулка аддаваліся ў цішы ночы цяжкія размераныя крокі. Цяпер і Дзямян крочыў у такт вартавому такімі-ж цяжкімі размеранымі крокамі. Ён перажываў карціну свайго расстрэла.

Гаспадыня стамілася. У знямозе яна апусцілася на высокі зэдлік, сцягнула на патыліцу хустку і пачала моцна ўздыхаць. Потым раптам сціхла.

Дзямян ішоў на яе, нічога не бачачы. Абедзве рукі яго былі апушчаны і моцна моцна сціснуты.

Маленькая лямпачка пачала гаснуць. Гаспадар сярдзіта дастаў няпоўную манерку з газай і, зняўшы асцярожна лямпу, не гасячы агню, пачаў падліваць у яе газу.

Капрал і жандары таксама неяк разам раскіслі, аселі. Іх нясцерпна пачало хіліць на сон. Голаснае, на ўвесь рот, да хрусту сківіц, пазяханне не супакоіла, а яшчэ горш раздражніла. Стараючыся перамагчы гэты сон, пачалі нястройна не даладу спяваць. Капрал, падсвістваючы дырыжаваў левай рукой, а правай непрыкметна прытрымліваў пад сталом заражаны рэвальвер, упартаназіраючы за партызанам.

Дзямян хадзіў усё шпарчэй і шпарчэй. Амаль бегаў. Вочы яго таксама бегалі, імчаліся па кутах, вокнах, па дзвярах. Думкі ляцелі. Ён меркаваў хутка, хутка.

Капрал паклаў палец на курок.

Гаспадар асунуўся і пахудзеў за гэту ноч, ледзь трымаўся на нагах і не знаходзіў сабе месца. Ён то ўставаў, то садзіўся, то курыў сваю люльку, то нервова гасіў яе і скідаў на падлогу попел. Потым ён пачаў старанна змятаць на стале і на вакне нейкія нябачныя крошкі. Ля вакна, моцна зачыненага на засаўку, ён корпаўся асабліва доўга. Наогул к канцу гэтай, бясконцай для яго ночы ён пачаў прыкметна траціць уласцівы яму суровы спакой.

Наадварот, стомленая, шчодрая жонка яго знайшла нарэшце поўнае заспакаенне ад усіх сваіх гаспадарчых трывог і клопатоў. Прытуліўшыся плячыма да печы, спусціўшы стомленую галаву на грудзі, злёгку гойдаючыся, нібы ехала ноччу ў вагоне, яна моцна спала, лёгка храпучы і пасвістваючы носам.

Жандары ў нецярплівасці ёрзалі на сваіх мясцах. Яны штохвілінна паглядалі на акно, чакаючы світання, каб хутчэй скончыць са службовымі справамі, расстраляць злоўленага партызана і заваліцца спаць. Чаканне раніцы рабілася для іх надзвычай прыкрым і нудным.

Дзямяна, які ўсё хадзіў безупынна, яны пачалі ненавідзець не толькі класавай і казённай службовай нянавісцю, але і асабістай. Ён быў адзінай перашкодай для спакойнага завяршэння гэтак прыемна праведзенай ночы. У дадатак да ўсяго ад яго безупыннага мільгання і шпаркіх, але роўных, крокаў іх яшчэ больш хіліла на сон. Усё часцей і часцей пачалі яны пытальна і выразна паглядаць на капрала.

Папраўленая зноў лямпа гарэла ярка. І ўсё-такі, не гледзячы на гэта, святло яе пачало паступова згасаць, а ў хату ўпаўзло зусім іншае, чым лямпавае, новае, рассеянае і непрыемнае шэрае святло.

Перадранішні туман схаваў вартавога ў акне.

У хляве Мартынавым залопаў крыллямі певень і голасна, бесцэрамонна і нахабна пракрычаў сваю перадсвітальную недарэчную песню.

Дзямяну стала зябка, як-бы ад ранішняга халадка.

Лянівa і сонна пацягнуўся капрал.

Зашоргалі нагамі жандары.

Дзямян хадзіў, адлічваючы павольнымі крокамі свае апошнія хвіліны жывога чалавека. Дапамогі не было. Надзея знікла. Нарэшце ён спыніўся.

Усё больш і больш бялеў твар дзядзькі Мартына. Актор разгрымiраваўся і ператварыўся ў звычайнага, перапалоханага чалавека, змучанага, але не пераможнага, прыгоннага раба. Кругі пайшлі ў яго перад вачыма. Люлька з рота вывалілася на падлогу. Ён дзіка ўставіўся позіркам на нерухомую і цёмную фігуру Дзямяна. Усяго яго трэсла дробнай дрыготкай.

Гаспадыні нешта паказалася ў сне. Яна ўскочыла і прачнулася. Убачыла дзіўныя твары жандараў і капрала, бледна-шэры твар мужа і нерухома стаяўшага з ссунутымі брывамі Дзямяна. Паўсонная, дрэнна ўсведамляючы, яна ўсё сядзела на сваім высокім зэдліку: хустка ссунулася на бок, рот быў адчынены, шырока раскрытыя вочы застылі.

Вартавы і яго штых выразна азначыліся на пасвятлеўшым акне. Вартавы стаяў, апёршыся на вінтоўку. Не катаўся. Стоячы, спаў.

Не да ладу, балюча і вельмі рэзка чырыкнуў за акном верабей.

Дзямян, страшэнна бледны, з палаючымі вачыма, стаяў сярод хаты. Адчуваючы, што цераз пяць, дзесяць хвілін будзе позна, ён яшчэ на адзін момант затрымаўся сярод хаты, а пасля адным магутным парывам, нібы бляск маланкі прарэзаў хату, нечакана і раптам кінуўся ў акно.

Пасыпалася шкло. З шумам расчыніліся аконныя рамы.

Выхапіўшы ў задрамаўшага вартавога вінтоўку, сагнуўшы спіну, Дзямян кінуўся к плоту, пераскочыў яго, але па той бок зачапіўся нагою за сук і ўпаў. Шпарка падняўся і пабег па няроўнай жытняй мяжы сярод каласоў, што калыхаліся ад ранішняга ветру.

У хаце перапалоханая гаспадыня ўбачыла, як Дзямян рынуўся ў акно, пачула за вакном мітусню і барацьбу, голасна ахнула і звалілася з лаўкі на падлогу. Гаспадар шпарка нагнуўся і падняў сваю люльку.

Капрал і жандары ад нечаканасці анямелі, потым раптам схамянуліся і кінуліся, жандары—у дзверы, а капрал—у акно.

Паваліўшыся разам з Дзямянам і не паспеўшы апамятацца і ўстаць, вартавы пачуў новы шум і зараз-жа адчуў, як другое цела, цяжкае і грузнае, навалілася на яго ўсёй сваёй масай, моцныя, здаровыя ногі сціснулі яго, а дужыя сталёвыя кулакі пачалі біць па твары, па патыліцы і па плячах.

Капрал да таго раз'юшыўся, што нават адчайныя, немыя крыкі свайго вартавога не прывялі яго да нармальных адчуванняў. Ён усё яшчэ шалёна лупцаваў увабражанага, паспеўшага ўцячы „бандыта".

Жандары спрытна пераскочалі цераз плот і кінуліся, страляючы на бягу, на дарогу. Іх стрэлы асабліва выразна гучэлі ў ранішнім паветры.

Абмінуўшы старую ігрушу, адбегшыся далей ад вёскі, Дзямян спыніўся і прыслухаўся. Ён чуў крокі бягучых жандараў, іх стрэлы і ўзнікшую ў вёсцы перастрэлку. Там узняўся страшэнны перапалох. Нехта крыкнуў, што нападаюць партызаны. Пачалася бязладная страляніна. Стралялі з кулямёта. Усе былі на нагах.

Жандары спыніліся ля старой ігрушы. У Дзямяна закружылася галава. Ён лёг на мяжы, зусім знямогшыся.

Пагутарыўшы пад дрэвам, жандары павярнулі назад у вёску. Па іх шпаркіх аддаленых кроках Дзямян здагадаўся, што яны пабеглі па коні. Крыху перадыхнуўшы, ён вельмі павольна папоўз далей. Штохвілінна апускаючы ад слабасці пабітую галаву потым з велізарнымі намаганнямі ўзнімаючы яе зноў, ён ледзь поўз.

Лес.

Так-сяк з апошніх сіл дапоўз ён да кустоў гарэшніка, забраўся ў самую гушчу і, зусім знясіліўшы, паваліўся.

Спяшаўшыя да яго на выручку партызаны чулі паасобныя стрэлы на дарозе і перастрэлку ў вёсцы. Ім здавалася, што там ідзе сапраўдны, адкрыты бой. Такая моцная была страляніна. Доўга не маглі яны зразумець, у чым справа. Моўчкі стаялі на самым краі лесу, ледзь схаваныя дрэвамі, глядзелі і слухалі.

Узышло сонца.

Дзямян відавочна быў расстрэляны. Не выручылі! Спазніліся!

Скамарох прыслухаўся. Ён пачуў стогн. Кінуліся на стогн. Нічога не чуваць. Нарэшце зноў стогн. Зусім блізка.

Ніколі пасля не маглі вытлумачыць партызаны, якім цудам паспелі яны, зрабіўшы з вінтовак насілкі, забраць з сабою знойдзенага ў кустах непрытомнага Дзямяча і самі выратавацца ад другога абкружэння. Гэта быў асаблівы ўздым, парыў, напружанне ўсіх сіл.

Дзямян ачуняў шмат пазней.

Дзядзьку Мартына цэлы тыдзень цягалі пасля на допыт і не раз білі, але доказаў не было, і яго, нарэшце, пакінулі ў спакоі.

---

М. СЯДНЕЎ

# З ПІСЬМА ДЗЯЎЧЫНЫ

ПАРАСЛА ЦЯПЕР ТРАВОЮ
НАША ДАЎНЯЯ ЛЮБОЎ...

З народнага

У дуброве ля крыніцы
Мы рассталіся з табой:
Ты на два гады вучыцца
Зноў паехаў у Тамбоў.

І была я вельмі рада,
Што вучоным будзеш ты.
Мая радасць, як расада,
Лапушылася тады.

Кляўся мне: — Ніхто не можа
Нас з табою разлучыць...
Часта-часта твой прыгожы
Вобраз сніўся мне ўначы.

Ад цябе я ўсё чакала
Абяцанага пісьма.
Нават крыху сумавала,
Што цябе са мной няма.

Сумавала. У Тамбове,
Добра знаю я, цяпер
Ходзіш з мілаю ты новай
Пасядзець на шумны сквер.

Ну, і што-ж? Я не шкадую,
Што цяпер мяне забыў.
Абнімай сабе другую,—
Час мінуў мае журбы.

Гэта толькі я згадала,
Паўз дуброву як ішла,
Паўз дуброву, дзе нямала
Я з табой адна была.

Прыязджай да нас з Тамбова,
І ты ўбачыш тады сам,
Што цяпер каханак новы
Да мяне прыходзіць у сад.

З весялосцю ён прыходзіць,
Як вячэрняя зара
Разгарыцца на пагоду,
Размалюе неба край.

Як прыедзе толькі з поля,
Спыніць трактарны матор.
Ён такі харошы, Толя,
Хоць да рання з ім прастой.

Пад чарэшняй мы гаворым
Пра наступны часта дзень,
І тады над намі зоры
Выглядаюць маладзей.

1934 г.

---

Д. КОНІК

# БЕЛАРУСКАЯ СОВЕЦКАЯ ЛІТАРАТУРА НА ЎЗДЫМЕ *

Таварышы, дазвольце мне перадаць ад імя ЦК комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі Першаму з'езду совецкіх пісьменнікаў Беларусі і ў вашай асобе ўсім энтузіястам, якія цвёрдым поступам ідуць да аўладання мастацкім словам, большэвіцкае прывітанне. (Апладысменты).

Значэнне гэтага з'езда велізарнае. Гэты з'езд увойдзе ў гісторыю беларускай совецкай літаратуры, як з'езд адзінства ўсіх совецкіх літаратурна-мастацкіх сіл рэспублікі, як з'езд перамогі.

Гістарычнае рашэнне ЦК ад 23 красавіка 1932 г.—вялікі дакумент трыумфа совецкай і пролетарскай літаратуры. Але гэтая трыумфальная працэсія—не „прогулка по садам словесности". Шлях совецкай літаратуры—гэта шлях найвастрэйшай класавай барацьбы. Найбольш утончаныя формы гэтай барацьбы—„ціхая сапа", як форма наступлення класавага ворага супроць дыктатуры пролетарыята,—знайшлі свой яркі адбітак на літаратурным фронце. У гэтай барацьбе загартаваліся асноўныя пісьменніцкія сілы, перабудаваліся і ідэйна палітычна ўзмацнелі для таго, каб аказацца на ўзроўні задач, пастаўленых ЦК партыі. Рашэнне ЦК указала нашай літаратуры шляхі правільнага і крытычнага асваення спадчыны мінулага, шляхі вучобы і пазнання рэчаіснасці метадам соцыялістычнага рэалізма і паслужыла асновай для магутнага росквіту літаратуры і мастацтва.

Са здавальненнем трэба адзначыць, што творчыя сілы літаратурнага фронта Беларусі таксама прыйшлі да свайго з'езда з вялікімі дасягненнямі. Даклады і спрэчкі сведчаць пра тое, што пад кіраўніцтвам нашай партыі мастацкая совецкая літаратура БССР згуртавалася, як ніколі.

З вялікім здавальненнем адзначаем рашучую перабудову старэйшага пакалення беларускіх пісьменнікаў—Янкі Купалы, Якуба Коласа, Бядулі і Цішкі Гартнага, якія сваёй творчасцю ўключыліся ў барацьбу за соцыялістычнае будаўніцтва.

Гэтак сама трэба адзначыць рост паслярэволюцыйнага пакалення беларускіх пісьменнікаў, якія далі ўжо не мала яркіх праўдзівых вобразаў нашай рэчаіснасці. Сапраўды надзвычай паказальны агульнакультурны рост нашай краіны, які забяспечвае магутны рост новых кадраў дзесяткаў і соцень рабочых і калгаснікаў, уступіўшых на шырокі літаратурна-творчы шлях. Сваёй творчасцю і ўпартаю вучобай яны становяцца ў першыя рады літаратурнага фронта. Шпаркімі тэмпамі ідзе працэс жанравага разгортвання нашай літаратуры. Асобна вылучаецца проза, але і наша паэзія заваявала саліднае месца не

* Прамова на Першым з'ездзе ССПБ.

толькі ў нашай рэспубліцы, а і ў маштабе Совецкага саюза. Наша драматургія за апошні перыяд прыкметна вырасла. Наша крытыка таксама значна прасунулася наперад. Ёсць усе падставы заявіць, што наша маладая крытыка намацала правільныя шляхі творчай дапамогі пісьменніку.

Таварышы, Першы з'езд совецкіх пісьменнікаў БССР адбываецца ў момант, аддзелены толькі некалькімі месяцамі ад XVII з'езда большэвіцкай партыі, з'езда найвялікшых перамог соцыялізма, з'езда пабудовы бяскласавага грамадства.

Пяць найвялікшых помнікаў, якія ўвайшлі ў скарбніцу сусветнай літаратуры, вызначаюць задачы нашай работы па барацьбе за ажыццяўленне ідэалаў комунізма:

1) прамова тав. Сталіна на з'ездзе гаспадарнікаў;

2) прамова тав. Сталіна на з'ездзе калгаснікаў пра работу ў вёсцы;

3) дзве прамовы тав. Сталіна на студзеньскім пленуме нашай партыі;

4) і—апошні дакумент эпохі—прамова тав. Сталіна на XVII з'ездзе партыі.

Гэтыя дакументы, як шэдэўры марксісцка-ленінскай дыялектыкі, увойдуць у гісторыю, як помнікі нараджэння новага чалавека, ствараючага бяскласавае грамадства. Яны адлюстроўваюць найвялікшыя зрухі, якія адбыліся ў нашай краіне і ў сусветнай капіталістычнай сістэме.

Як у люстэрку, у іх адлюстроўваецца пагібель і знікненне самага лютага, самага драпежнага класа эксплаатататараў—кулакоў.

З няўмольнай логікаю т. Сталін паказаў, як пролетарская рэволюцыя развязала нацыянальнае пытанне, доказам чаго з'яўляецца росквіт гаспадарчага і культурнага будаўніцтва сярод усіх нацыянальнасцей, усіх народаў, насяляючых вялікі Совецкі саюз.

Гэтыя дакументы эпохі—найярчэйшы паказальнік трыумфа ленінізма, трыумфа тэорыі лепшых розумаў гісторыі чалавецтва—Маркса—Энгельса—Леніна.

Гісторыя не ведае выпадка, каб пагібель аджыўшага класа адбылася без шалёнага супраціўлення з яго боку. У суровай класавай барацьбе перамагла лінія ленінізма, лінія партыі.

Ворагі былі розныя, і форма барацьбы на той ці іншай стадыі была розная.

Буржуазія, кулацтва, яшчэ недабітыя апартуністы ўсіх масцей, трацкісты, правыя, нацдэмы і шавіністы ў гэтай барацьбе аказвалі, шалёнае супраціўленне, аднак, не гледзячы на гэта, агульны баланс такі, што партыя ў гэтай барацьбе перамагла, і ўсялякія тэорыі і ідэі, накіраваныя да паслаблення і ліквідацыі пролетарскай дыктатуры, партыяй развеяны ў прах.

Барацьба на ідэалагічным фронце—на фронце навукі, мастацтва, літаратуры—гэта барацьба складаная.

Літаратура—гэта найбольш блізкі і даступны шырокім народным масам від творчасці. Літаратура размаўляе з масамі роднай, хвалюючай, народнай мовай. Літаратура—сапраўды востра адточаная зброя ў класавай барацьбе. Гэтая зброя павінна служыць пролетарыяту і працоўным. Трэба навучыцца па-майстэрску валодаць гэтай зброяй. Вось чаму партыя аддае такую вялікую ўвагу літаратуры.

Звычайна выступленні ад Цэнтральнага камітэта партыі на з'ездах і нарадах гаспадарнікаў і іншага парадку арганізацый пачынаюцца з таго, як работнікі гэтых арганізацый выконваюць свой промфінплан' бо гэта адзіны вымернік работы. Ці можна і перад вамі паставіць пытанне пра выкананне вамі свайго промфінплана? Сёй-той з вас можа

заявіць, што вы такога плана не атрымлівалі. Але гэта будзе памылкова. Вы свой промфінплан маеце. І ў галіне выканання вашага літаратурнага промфінплана перад вамі трэба паставіць рад пытанняў.

Выканаць свой літаратурны промфінплан — гэта значыць даць краіне добрыя творы. Я думаю, што ў асноўным вы свой промфінплан выканалі. Вы далі рад добрых твораў. Вы зрабілі рад спроб паказу нашага жыцця, насычанага героікай эпохі. Але няма чаго граха таіць, што з пункту погляду якасных паказальнікаў у вас не заўсёды ўсё добра—героі нашай літаратуры не заўсёды паказаны поўнацэнна. У вашай творчасці павінны быць дадзены вобразы, хвалюючыя нас. Не заўсёды вашы вобразы нас хвалююць. Вядома, можна назваць рад твораў беларускай літаратуры, у якіх паказ героя нашых дзён у асноўным вырашаецца не дрэнна.

Наша літаратура заваявала сабе месца не толькі ў БССР. Яна заваявала сабе пачэсное месца ў радах літаратуры Саюза. Імёны нашых лепшых пісьменнікаў вядомы ўсяму Совецкаму саюзу.

Наша літаратура правяла значную работу па выкарчоўванню карэнняў нацдэмаўшчыны. Яна прыкметна павярнулася тварам да актуальнай тэматыкі, яна прасунулася наперад і ў якасным сэнсе, але яна ўсё-ж значна адстае, яна яшчэ не паднялася да ўзроўню лепшых мастацкіх твораў Совецкага саюза, яна яшчэ не на ўзроўні нашай вялікай рэчаіснасці.

Чатыры месяцы прайшло з таго часу, як скончыў сваю работу XVII з'езд ВКП(б), які ўвайшоў у гісторыю нашай партыі, як з'езд пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

З'езд, прыняўшы праграму работ на другое пяцігоддзе, паставіў перад намі найвялікшыя задачы, ажыццяўленне якіх забяспечыць пабудову бяскласавага грамадства ў нашай краіне, якая з'яўляецца аплотам пролетарскай рэволюцыі ва ўсім свеце. Першая і разам з тым асноўная палітычная задача—гэта канчатковая ліквідацыя капіталістычных элементаў і класаў наогул, поўнае знішчэнне прычын, якія нараджваюць класавую рознасць і эксплаатацыю, і перамаганне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, ператварэнне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў свядомых і актыўных будаўнікоў бяскласавага соцыялістчнага грамадства. Другая задача—далейшы ўздым добрабыту рабочых і калгаснікаў і павышэнне ўзроўню спажывання працоўнымі ў $2^1/_2$—3 разы. Трэцяя задача—завяршэнне тэхнічнай рэканструкцыі ўсяе народнай гаспадаркі: прамысловасці, транспарта, сельскай гаспадаркі.

Літаратура можа і павінна актыўна ўдзельнічаць у арганізуючай і выхаваўчай рабоце партыі па лініі „перамагання перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей". Рэшткі ідэалогіі разбітых класаў і антыленінскіх груп жывуць не толькі ў свядомасці шырокіх рабочых і сялянскіх мас, гэтыя рэшткі жывуць і ў свядомасці асобных праслоек партыі. Тав. Сталін на XVII з'ездзе сказаў: „Але ці можна сказаць, што мы перамаглі ўжо ўсе перажыткі капіталізма ў эканоміцы? Не, нельга гэтага сказаць. Тым больш нельга сказаць, што мы перамаглі перажыткі капіталізма ў свядомасці людзей. Нельга гэтага сказаць не толькі таму, што свядомасць людзей у іх развіцці адстае ад іх эканамічнага становішча, але і таму, што ўсё яшчэ існуе капіталістычнае акружэнне, якое стараецца ажыўляць і падтрымліваць перажыткі капіталізма ў эканоміцы і ў свядомасці людзей у СССР і супроць якога мы, большэвікі, павінны ўвесь час трымаць порах сухім".

Асноўная задача літаратуры: барацьба з перажыткамі капіталізма, асабліва ў свядомасці людзей і—„увесь час трымаць порах сухім"

Літаратура Совецкага саюза, з'яўляючыся рычагом ідэалагічнага ўздзейнічання на шырокія працоўныя масы, павінна падняць сілу свайго ўплыву на масы такім чынам, каб сапраўды стаць вартай свае вялікае эпохі, эпохі пабудовы бяскласавага грамадства.

XVII з'езд партыі падвёў вынікі вялікай гістарычнай паласе. За перыяд ад XVI да XVII з'езда партыі ў нас, у Совецкім саюзе ў цэлым і, у прыватнасці, у Совецкай Беларусі адбыўся рад буйнейшых падзей. У галіне будаўніцтва соцыялізма самы трудны перыяд астаўся ззаду. На аснове навейшай тэхнікі створана магутная соцыялістычная прамысловасць. Асноўная большасць працоўнага сялянства цвёрда і беспаваротна стала пад чырвоны сцяг соцыялізма, а калгасы і соўгасы з'яўляюцца цяпер асноўным тыпам гаспадаркі ў галіне земляробства. Працоўныя масы Совецкага саюза, пад кіраўніцтвам партыі Леніна і Сталіна, вытрымалі апошні і рашучы бой з элементамі капіталізма ўнутры нашай краіны, разграмілі яго апошні аплот,—кулацтва. На справе даведзена тэарэтычна і практычна магчымасць пабудовы соцыялізма ў нашай краіне.

Усё гэта з'яўляецца вынікам таго, што наша партыя развеяла ў пух і прах апошнія рэшткі апартуністычных плыняў, што наша трохмільённая партыя моцна згуртавана вакол свайго вялікага і геніяльнага правадыра т. Сталіна, які абараніў чыстату ленінскага вучэння, цвёрда кіруе будаўніцтвам соцыялістычнага грамадства, развіў вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна і даў стройную і закончаную тэорыю пераходнага перыяду.

З матэрыялаў студзеньскага пленума мінулага году, са справаздачных выступленняў т. Сталіна і іншых членаў Палітбюро ЦК на XVII з'ездзе ВКП(б) ярка відаць найвялікшыя вынікі першай пяцігодкі.

Гэтыя вынікі забяспечылі ў нас:

1) ліквідацыю паразітычных класаў і знікненне эксплаатацыі чалавека чалавекам;

2) знікненне беспрацоўя ў СССР тады, як у буржуазных краінах больш як сорак мільёнаў беспрацоўных жывуць у нястачы і пакутах праз адсутнасць работы;

3) знікненне кулацкай кабалы і знікненне жабрацтва ў вёсцы.

Змянілася абліччa нашых буйных гарадоў і прамысловых цэнтраў. Калі ў буржуазных краінах непазбежнаю адзнакаю гарадоў з'яўляюцца цёмныя, сырыя, брудныя падвальныя і напоўпадвальныя трушчобы, у якіх, праклінаючы лёс, туліцца бедны рабочы люд, дык у СССР гэтыя трушчобы зніклі назаўсёды. Яны заменены новапабудаванымі найлепшымі, чыстымі, светлымі кватэрамі.

Яшчэ больш змянілася абліччa нашай вёскі. Вось што гаворыць з гэтага повади т. Сталін:

„Старая вёска з царквою на самым відным месцы, з яе лепшымі дамамі ўрадніка, папа, кулака—на першым плане, з яе напоўразбуранымі хатамі сялян—на заднім плане, пачынаюць знікаць. На яе месца выступае новая вёска, з яе грамадска-гаспадарчымі будынкамі, з яе клубамі, радыё, кіно, школамі, бібліятэкамі і яслямі, з яе трактарамі, камбайнамі, малатарнямі, аўтамабілямі. Зніклі старыя знатныя фігуры кулака і эксплаататара, ліхвяра крывесмока, купца-спекулянта, бацюшкі, урадніка. Цяпер знатнымі людзьмі з'яўляюцца дзеячы калгасаў і соўгасаў, школ і клубаў, старшыя трактарысты ды камбайнёры, брыгадзіры па паляводству і жывёлагадоўлі, лепшыя ўдарнікі і ўдарніцы калгасных палёў". (Сталін, справаздача на XVII з'ездзе ВКП(б).

Знікае ў нас процілегласць паміж горадам і вёскай.

„Горад перастае быць у вачах сялян цэнтрам іх эксплаатацыі. Усё мацней становіцца ніць гаспадарчай і культурнай змычкі паміж горадам і вёскай. Ад горада і яго прамысловасці вёска атрымлівае цяпер дапамогу—трактарамі, сельгасмашынамі, аўтамабілямі, людзьмі, сродкамі. Дый і сама вёска мае цяпер сваю прамысловасць у выглядзе машынатрактарнай станцыі, рамонтных майстэрняў, усякага роду прамысловых прадпрыемстваў калгасаў, электрастанцый невялікіх і да т. п. Культурная прорва паміж горадам і вёскай запаўняецца". (Сталін, справаздача XVII з'езду ВКП(б).

Такія буйнейшыя вынікі нашага росту. Я не буду падаваць вядомых вам лічбаў, якія характарызуюць размах работ Совецкага саюза на другое пяцігоддзе. Скажу толькі, што к канцу 1937 году каля 50 проц. прамысловай прадукцыі будзе выраблянца на новых прадпрыемствах. Новае абсталяванне на совецкіх прадпрыемствах, пабудаваных за другую пяцігодку, будзе складаць 50—60 проц. усяго таго абсталявання, якім будзе распараджацца ў 1937 г. совецкая краіна. Колькасць МТС павялічваецца з 2446 у 1932 годзе да 6000 у 1937 годзе. І ўсе калгасы будуць ахоплены машына-трактарнымі станцыямі. Трактарны парк узрасце з 2225 тыс. конскіх сіл у 1932 годзе да 8200 тыс. у 1937 годзе, г. зн. у 3,7 разы. Парк камбайнаў павялічваецца да 100 тыс. штук, і аўтамабільны парк у сельскай гаспадарцы да 170 тыс штук, г. зн. больш чым у 12 разоў. К 1937 году лік кваліфікаваных спецыялістаў ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі ўзрасце з 2,7 млн. чалавек да 4 млн. чалавек ці на 46,5 проц. За другое пяцігоддзе нашы ВНУ выпусцяць 340 тыс. спецыялістаў супроць 170,7 тыс. у першай пяцігодцы. Тэхнікумы дадуць 850 тыс. спецыялістаў супроць 303 тыс., г. зн. у 3 разы больш. За гэты перыяд у $2^{1}/_{2}$—3 разы ўзрасце матэрыяльны і культурны ўзровень рабочых і працоўных у горадзе і ў вёсцы. Гэта рост небывалы ў гісторыі чалавецтва. Поруч з гэтым ростам нашага вялікага Совецкага саюза, на аснове правільнага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі партыі, расце і мацнее Совецкая Беларусь.

Чым была Беларусь напярэдадні Кастрычніка?

Беларусь у мінулым—гэта калонія царскай імперыі, краіна соцыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, краіна эканамічнай і культурнай адсталасці.

Пра мінулае Беларусі сведчаць наступныя дадзеныя:

Даход ад прамысловасці ў 1913 годзе складаў каля 17 проц., прамысловасць насіла рамесніцка-саматужны характар; прадукцыя фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў складала каля 28,4 проц. прадукцыі ўсяе прамысловасці; нацыянальны даход ад фабрычна-заводскай прамысловасці ў Беларусі ў даваенны час складаў 4,9 проц.; рабочых налічвалася прыблізна 23 тыс. чалавек.

Да рэволюцыі больш паловы ўсяе зямлі Беларусі (сюды ўключаецца Менская, Віцебская, Магілеўская, Віленская, Гродненская губерні) належала купцам, панам, князям, папам: з 22.228.000 дзесяцін належала памешчыкам, князям, цэрквам, манастырам 11.645.000 дзесяцін, а на долю ўсіх сялян, уключаючы і кулакоў, прыходзілася 10.384.000 дзесяцін. Такая колькасць зямлі была ў руках 4 млн. сялян-беднякоў, сераднякоў, у тым ліку і кулакоў.

У Беларусі было 200 тыс. батракоў. Малазямелле і беззямелле прымушалі сялянскую беднату ісці на заработкі і перасяляцца ў іншыя краіны. За 20 год перасялілася ў Сібір 642 тыс. чалавек. Выехала ў Амерыку 800 тыс, а іншая беднага і маласільная частка сераднякоў гнулі спіну на рабоце ў кулакоў і памешчыкаў.

Паводле перапісі 1891 г. у вясковых мясцовасцях Беларусі на тысячу душ насельніцтва прыходзілася ўсяго 142 граматных. К прыходу совецкай улады нягараматных у Беларусі было больш як 75 процантаў. Царскі ўрад забараняў выкладанне ў школе на роднай мове; праз школу праводзілася прымусовая русіфікацыя беларускага, польскага і яўрэйскага насельніцтва. Беларускай школы ў царскай Расіі не было. Не было ў Беларусі ніводнай вышэйшай навучальнай установы.

Паводле вестак Менскага гістарычнага музея ў 1915 годзе на тэрыторыі Беларусі (Менская, Віцебская, Магілеўская губ.) было 78 мужчынскіх і жаночых гімназій і прагімназій, якія ахоплівалі каля 12 тыс. вучняў—сынкоў і дочак памешчыкаў, папоў, кулакоў і буйных чыноўнікаў. Паводле тых-жа вестак у Беларусі было ў 1915 г. толькі 1280 настаўнікаў.

Да рэволюцыі на ўсёй тэрыторыі сучаснае Беларусі выдавалася менш як 20 друкаваных газет. Гэтак, у 19 2 годзе ў Менску выходзіла 6 буржуазных памешчыцкіх газет: „Голос“, „Газета-копейка“, „Русское слово“, „Епархиальные ведомости“, „Губернские ведомости“. Усе гэтыя газеты выходзілі выключна на рускай мове, і толькі адна штотыднёвая газета „Еженедельник“ выдавалася на яўрэйскай мове.

У былой Віцебскай губерні выдавалася чатыры газеты: „Витебский вестник“, „Полоцкие епархиальные ведомости“, „Губернские ведомости“, „Провинция“. У былой Магілеўскай губ.—чатыры газеты: „Могилевский вестник“, „Губернские ведомости“, „Епархиальные ведомости“, „Приднепровский край“. У Гомелі—дзве газеты: „Копейка“, „Полесье“.

Некалькі чорнасоценных манархісцкіх лісткоў, дзесятак чыноўніцкіх і папоўскіх ведамасцей—вось што ўяўляў сабою друк былой Беларусі—калоніі царскага самадзяржаўя.

Рэволюцыя рашучым чынам змяніла твар Беларусі.

БССР стала індустрыяльна-аграрнай краінай. Валавая прадукцыя прамысловасці вырасла ў параўнанні з даваенным часам у дзесяць разоў. Асноўныя фонды прамысловасці Беларусі за першую пяцігодку выраслі ў 5 разоў. Пабудаваны буйнейшыя заводы, як Гомсельмаш, шклозавод, фабрыка штучнага шоўку, „Сцяг індустрыялізацыі“, імя „КІМ“ і інш. Старыя, па сутнасці саматужныя, заводыператвораны ў буйнейшыя прадпрыемствы (завод імя Варашылава, „Комунар“ у Менску, „Чырвоны металіст“ у Віцебску і інш.). Выраслі новыя галіны прамысловасці.

Уся прадукцыя прамысловасці Беларусі ў 1913 годзе выражалася ў суме 5 млн. руб., а ў 1933 годзе прамысловасць Совецкай Беларусі выпусціла прадукцыі на 109,2 млн. руб. у цэнах 1927—28 г. Колькасць рабочых складае 497.000 чалавек у 1933 годзе супроць 23.000 у 1913 годзе.

Калектывізацыя ахапіла 52 проц. сялянскіх гаспадарак. Колькасць соўгасаў вырасла да 268. На тэрыторыі БССР—66 МТС з 1.565 трактарамі. Мы маем вялізарнае павелічэнне іншых складаных і напоўскладаных сельскагаспадарчых машын.

Партыя дамаглася сур'ёзных поспехаў у справе выканання лозунга т. Сталіна—„зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі“. Указанне ЦК ВКП(б) на рад памылак, якія КП(б)Б дапусціла ў справе нарыхтовак у 1932 годзе, у справе прысядзібных участкаў, у справе Сцяпуры, выпраўленне памылак і ліквідацыя шкодніцкіх арганізацый,—забяспечылі далейшы рух наперад нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Сёлета наша рэспубліка адной з першых у СССР выканала план веснавой сяўбы. Беларуская ССР выканала ў 1934 г. 23 мая, г. зн. на месяц раней у параўнанні з леташнім годам) план веснавой сяўбы на 101,4 проц. Гэта значыць, што ўвесну гэтага года працоўныя масы БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, зрабілі сур'ёзны і вялікі крок да ажыццяўлення заклiка тав. Гікало аб тым, каб вынікамі сельскагаспадарчых работ у гэтым годзе заваяваць права на атрыманне БССР вышэйшай саюзнай узнагароды—Ордэна Леніна.

Совецкая Беларусь першая ў Саюзе Советаў, пры брацкай дапамозе СССР, здзейсніла пастанову ЦК ВКП(б) ад 25/VII 1930 г. пра ўсеагульнае абавязковае пачатковае навучанне, якое азначае „найвялікшую перамогу не толькі на культурным, але і на палітычным і гаспадарчым фронце". (Сталін).

У 1933—1934 навучальным годзе пачатковай і сярэдняй школай Беларусі ахоплена 937 тыс. дзяцей.

Усеагульнае абавязковае навучанне за няпоўную сярэднюю школу ў гарадах БССР па сутнасці ўжо праведзена. Пачынаецца здзейсненне яго ў вёсцы.

Дзеці ўсіх нацыянальнасцей, насяляючых Совецкую Беларусь, навучаюцца на роднай мове.

Вось табліца, як адзін з паказальнікаў найвялікшага размаху совецкай культуры, Беларусі нацыянальнай па форме, социялістычнай па зместу.

| Навучальныя ўстановы | Колькасць | Колькі вучняў |
|---|---|---|
| ВНУ . . . . . . . . | 19 | 11.468 |
| Тэхнікумы . . . . . | 81 | 320.351 |
| Рабфакі . . . . . . | 36 | 11.013 |
| Фабзавучы . . . . . | 98 | 13.309 |
| Сямігодкі . . . . . | 1587 | 937.000 |
| Пачатковыя школы . | 6961 | |

Мы маем Беларускую акадэмію навук, 37 навукова-даследчых інстытутаў, аспірантуру, курсы марксізма-ленінізма, КІЖ, Вышэйшую комуністычную сельгасшколу. Адных настаўнікаў налічваецца ў БССР больш як 25 тыс.

Характэрныя дадзеныя пра выдаткі па народнай асвеце.

На адну душу насельніцтва царскай Расіі выдаткоўвалася 81 кап. У БССР на адну душу насельніцтва ў 1931—32 навучальным годзе—22,5 руб. („Ком. выхаванне" № 1—2).

У БССР выходзіць 256 друкаваных газет: 11 цэнтральных, 75 раённых, 6 транспартных, 44 газеты палітаддзелаў МТС, 29 газет палітаддзелаў соўгасаў і 55 фабрычна-заводскіх, 36 шматтыражак вышэйшых навучальных устаноў, дарожных і г. д. і 8 часопісаў.

Гэтыя газеты выходзяць амаль у 1 млн. экз. Значная большасць газет выходзіць на беларускай мове. Тры газеты на яўрэйскай мове, 2—на польскай, 1—на літоўскай. У 11 раённых газетах арганізаваны польскія старонкі, у 10—яўрэйскія.

Кожная раённая газета мае сваю друкарню. 20 друкарань арганізавана ў палітаддзелах МТС.

Апрача 256 друкаваных газет бадай кожны калгас, соўгас, прадпрыемства мае свой насценны друк. У цэхах, брыгадах фабрык і заводаў, у тысячах калгасных брыгад выдаюцца насценныя газеты.

За 30 апошніх год існавання царскай Расіі было выдадзена 2.069 млн. экземпляраў кніг. За 15 год у СССР выдадзена круглым лікам 5 млрд. экземпляраў кніг. Кнігі выдадзены больш як на ста мовах. У тэрмін у 2 разы меншы выдадзена ў 2,5 разы больш кніг. Як адзін з яркіх паказальнікаў культурнага росту Совецкага саюза можа быць прыведзена распаўсюджанне мастацкай літаратуры як па Совецкаму саюзу, так і па БССР. За гады 1929—1934 г., зн. за пяцігодку, па СССР творы Горкага разышліся ў колькасці 18.963 тыс. экземпляраў, творы Гладкова—1.889 тыс., Всев. Іванова—521 тыс., В. Катаева—213 тыс., Леонава—343 тыс., Новікава-Прыбоя—1.977 тыс., Панферава—1.291 тыс., Ал. Талстога—202 тыс., Собалева, які нядаўна выступіў на літаратурнай ніве — 40 тыс., Канст Федзіна — 220 тыс., Шолахава 2100 тыс.

За 1928—1934 г. у БССР выпушчана 1.450 назваў мастацкай літаратуры тыражом 4 млн. 472 тыс. экземпляраў і колькасцю ў 25,25 млн. друкаваных лістоў-адбіткаў. За гэты-ж перыяд у БССР творы беларускіх пісьменнікаў разышліся ў дзесятках тысяч экземпляраў: творы Лынькова ў колькасці 71 тыс. экземпляраў, Коласа—63 тыс. экземпляраў, Купалы—56 тыс., Алесандровіча—50 тыс., Галавача – 41 тыс. Творы маладога пісьменніка Броўкі ужо разышліся ў колькасці больш як 30 тыс. экземпляраў. Вышаўшы з друку ў 1933 годзе зборнік пачынаючых беларускіх пісьменнікаў—„Ударнікі"—разышоўся на працягу месяца.

Гэта нечувана, каб мастацкія творы разыходзіліся з такой хуткасцю. Велізарны попыт на мастацкую літаратуру прад'яўляе калгасная вёска. І разыходзяцца не толькі творы сучасных пісьменнікаў. Ці снілася калі-небудзь Фанвізіну, што яго „Недарасль" будзе разыходзіцца ў 75—100 тыс. экземпляраў. Грыбаедаў разыходзіцца ў 100 тыс. экземпляраў.

Калі выдалі аднатомнік любімага паэта Совецкага саюза А. С. Пушкіна ў 45 тыс. экземпляраў, ён разышоўся літаральна за некалькі дзён. Масавыя выданні яго твораў разыходзяцца ў сотнях тысяч экземпляраў.

Такія паказальнікі нашага росту. Яны гавораць пра перамогу ленінскай нацыянальнай палітыкі, пра наш няўхільны і шпаркі рух наперад да канчатковай перамогі соцыялізма.

Гэтых поспехаў мы дасягнулі дзякуючы таму, што БССР з'яўляецца неадлучнаю часткаю нашага вялікага Совецкага саюза.

Гэтых поспехаў мы дасягнулі дзякуючы таму, што справай соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР кіруе наш ленінскі ЦК ВКП(б) на чале з тав. Сталіным.

Гэтых поспехаў мы дасягнулі дзякуючы таму, што КП(б)Б няўхільна змагаецца за генеральную лінію партыі, за пролетарскі інтэрнацыяналізм, за інтэрнацыянальнае выхаванне шырокіх працоўных мас, правільна праводзячы ленінскую нацыянальную палітыку, якая, як заўсёды, так і цяпер, з'яўляецца магутнай зброяй умацавання дыктатуры пролетарыята.

КП(б)Б скрышыла спробы вялікадзяржаўных элементаў зрываць справу большэвіцкай беларусізацыі. КП(б)Б разграміла беларускіх нацдэмаў, якія імкнуліся, пры дапамозе самай подлай зброі эксплататарскіх класаў—распальвання нацыянальнай розні, падрыхтаваць адрыў Беларусі ад ССР і ператварыць БССР у калонію імперыялізма.

Для працоўных мас Беларусі адрыў ад Совецкага саюза азначае зварот пад ярмо памешчыкаў і капіталістаў, ператварэнне Беларусі ў калонію чужаземнага капітала. Вось чаму VIII пленум ЦК КП(б)Б у снежні 1933 года прыняў пастанову аб тым, што:

„Вялікадзяржаўны рускі шавінізм з'яўляецца галоўнай небяспекай ўсяго Совецкага саюза і ўсяе ВКП(б), але гэта ні ў якай меры не супярэчыць таму, што ў дадзены момант у Беларусі галоўную небяспеку становіць мясцовы беларускі нацыяналізм, які змыкаецца з імперыялісцкімі інтэрвентамі. Неабходна асабліва меть на ўвазе новую тактыку рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў і беларускіх нацыяналістаў, падтрымліваемых усёй контррэволюцыяй, у тым ліку і трацкістамі, якія на цяперашнім этапе блакуюцца паміж сабою на агульнай платформе адрыву БССР ад СССР для паслаблення пазіцый СССР і ўмацавання пазіцый капіталізма".

Кожны, хто спрабуе, хоць у малейшай ступені, паслабіць ці падарваць сувязь Беларусі з Совецкім саюзам, хто сее рознь паміж працоўнымі Совецкіх рэспублік, той робіць справу ворага, справу беларускай і рускай конррэволюцыі, той аддае Беларусь пад ярмо польскіх і іншых памешчыкаў і капіталістаў.

## ПРАМОВЫ ТАВ. СТАЛІНА—НЕВЫЧАРПАЛЬНАЯ КРЫНІЦА МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ ТВОРЧАСЦІ

Наша совецкая літаратура прышла да свайго з'езда з вялікімі дасягненнямі. Усе віды і жанры літаратурнай творчасці далі значны рост. Абагацілася наша літаратура такімі каштоўнейшымі творамі прозы, як „Дрыгва" і „Адшчапенец" Якуба Коласа, „На чырвоных лядах" Лынькова, „Спалох на загонах" Галавача, „Бацькаўшчына" Чорнага, „Тэорыя Каленбрун" Самуйлёнкі і цэлы рад іншых твораў.

Вялікія дасягненні мы маем таксама па лініі нашай паэзіі ў надзвычайных творах Янкі Купалы „Над ракою Арэсай", Андрэя Александровіча „Цені на сонцы", „Большэвік Бахрым", „Напор", „Векапомная восень", „Шчаслівая дарога"; П. Броўкі „Так пачыналася маладосць", „Мінеральныя воды", і інш. П. Глебкі, Хведаровіча, Куляшова і інш.

Не малыя дасягненні мае наша літаратура ў галіне драматургіі:— „Канец дружбы" Крапівы, „Бацькаўшчына" Кузьмы Чорнага. і інш. Выраслі новыя кадры нашай літаратуры.

Вялікія дасягненні можам адзначыць і па лініі росту літаратуры нацыянальных меншасцей. Яўрэйская совецкая літаратура Беларусі з'яўляецца значным атрадам яўрэйскай совецкай літаратуры ўсяго Совецкага саюза. Такія творы, як Харыка „Круглыя тыдні", „Ад полюса да полюса", Кульбака „Чайльд Гарольд з Дзісны", вершы Аксельрода, Камянецкага, Тэйфа,—стаяць у радзе лепшых твораў літаратурнай творчасці Совецкай Беларусі. Маладая польская совецкая літаратура заняла таксама прыкметнае месца ў літаратурнай творчасці Беларусі (Жарскі, Кавальскі, Раманоўская). Рад добрых твораў дала і наша маладая растучая літоўская літаратура.

Сотні таленавітых рабочых і калгаснікаў уцягнуты ў актыўную літаратурную творчасць. Мы маем не мала рабочых-ударнікаў, калгаснікаў, трактарыстаў, конюхаў, якія моцна валодаюць пяром і выказваюць свае страсці і подвігі ў літаратурных творах. Вось рабочы-комсамолец калгаса „Чыжэвічы" пачынае спрабаваць сваё творчае пяро і наступным чынам апісвае ход большэвіцкай сяўбы:

Па калгасных палёх
Гулка трактар гурчыць,
Люба глянуць здалёк,—
Бы маланкай імчыць.
А за ім ў тры рады
Рэжа землю метал.
Трактарыст малады
Ціха песню пачаў.

Ні на хвіліну нельга забыць, што дасягненні нашай літаратуры з'яўляюцца вынікам росту соцыялістычнага будаўніцтва, росту літаратуры Совецкага саюза. Толькі пры брацкай дапамозе Совецкага саюза і перадавога атрада совецкай літаратуры—рускай літаратуры дамагліся мы гэтых велізарных дасягненняў.

Літаратура Совецкага саюза, пад кіраўніцтвам партыі, выгадавала плеяду выдатных пісьменнікаў, мастакоў, вартых свайго класа. Досыць назваць такія імёны, як Шолахаў, Панфераў, Стаўскі, Аўдзеенка і інш. Гэта людзі вялікай эпохі, і яны па-майстэрску адлюстроўваюць вялікую барацьбу гэтай эпохі. „Паднятая цаліна", „Брускі", „Разбег", „Людзі трактарнага", „Белморканалбуд", „Я люблю" і інш. адлюстроўваюць на вялікіх мастацкіх палотнах гераізм нашай эпохі—эпохі найвялікшых у свеце дасягненняў, эпохі вялікага Саюза совецкіх рэспублік.

Развіццё нашай літаратуры не ў малой ступені абавязана значнаму ўплыву літаратуры ўсяго Совецкага саюза, асабліва перадавому атраду—рускай літаратуры. Наша літаратура не з'яўляецца „самабытнай" „ізаляванай літаратурай", як гэта сцвярджалі нацдэмы.

Нельга не адзначыць той велізарнай дапамогі, якую даў нам аргкамітэт совецкіх пісьменнікаў Саюза прысылкай да нас для практычнай дапамогі нашым таварышам брыгады маскоўскіх пісьменнікаў на чале з тав. Бахмецьевым і ў складзе Бруно Ясенскага, Лідзіна, Міх. Галоднага, Огнева, Леўмана. Падобная форма кіраўніцтва з боку аргкамітэта пісьменнікаў цалкам сябе апраўдала як па лініі дапамогі нашым пісьменнікам, так і па азнаямленню з нашай беларускай літаратурай пісьменнікаў брацкіх нам рэспублік. Нельга таксама не адзначыць недастатковасці перакладаў твораў на іншыя мовы нацрэспублік і арганізацыі крытыкі іх і дэталёвага разбору асноўных нашых твораў на паседжаннях саюзнага аргкамітэта.

Мы можам цяпер на ўвесь голас і на ўвесь свет заявіць, што наш рабочы клас, усе працоўныя Совецкага саюза, уся наша краіна—ударная брыгада сусветнай пролетарскай рэволюцыі,—стварыла перадавую літаратуру, якая не мае сябе роўнай у сусветнай літаратуры. На нашай літаратуры вучацца прадстаўнікі рабочых усіх краін. Наша літаратура адлюстроўвае праўду жыцця вялікай краіны—краіны соцыялізма.

Адзначаючы нашы вялікія дасягненні, мы не павінны на з'ездзе хаваць нашых недахопаў. Наша літаратура, якая разгарнула свае творчыя сілы і ступіла на шырокі шлях росту, усё-ж значна адстае ад тэмпаў развіцця нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Адставанне нашай літаратуры ад росту соцыялістычнага будаўніцтва моцна дае сябе адчуваць. Рост палітычнага і агульнага ўзроўню шырокіх рабочых і калгасных мас, як непасрэдны вынік нашых дасягненняў на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, прад'яўляе велізарныя патрабаванні да нашых літаратурных арганізацый і да нашых пісьменнікаў.

Рабочы патрабуе сабе не абы толькі кніжкі, а кнігі высокай якасці як у ідэйным, так і мастацкім сэнсе, кнігі з хвалюючай яго тэматыкай. Ён патрабуе, каб наша літаратура паказала мастацкім шляхам працэс і перапробку людзей, усю глыбіню росту новага чалавека ў нашай краіне, ён патрабуе, каб героіка нашага багатага жыцця знайшла сваё вартае адлюстраванне ў нашай літаратуры.

Змена аблічча нашай вёскі, трыумф палітыкі партыі ў галіне калектывізацыі забяспечылі таксама агульны культурны і палітычны рост калгасных працоўных мас.

Расце цікавасць шырокіх калгасных мас да мастацкай літаратуры. Вёсцы патрэбна добрая кніга пра соцыялістычны горад, пра нашу Чырвоную армію, пра герояў нашага Совецкага саюза, аўтабіяграфіі нашых вялікіх людзей, жыццё і дзейнасць правадыроў нашай партыі. Усяго гэтага пакуль што няма, і не таму гэтых твораў у нас няма, што пісаць няма каму, іх няма таму, што нашы пісьменнікі яшчэ не ўсвядомілі важнасці і актуальнасці гэтых твораў, шчыльна да іх не падышлі. Тэматыка нашай літаратуры далёка яшчэ не вычэрпвае ўсяго багацця нашага жыцця.

Усе нашы лепшыя творы: Чорнага „Бацькаўшчына", Бядулі „Язэп Крушынскі", Галавача „Спалох на загонах", Коласа „Дрыгва" і „Адшчапенец", Лынькова „На чырвоных лядах", Крапівы „Мядзведзічы"—усё яшчэ пабудаваны на сялянскай тэматыцы.

Пісаць пра рабочага, вядома, не лёгка. Гэта значыць—разгарнуць палатно пяцігодкі і адлюстраваць гераізм пролетарыята вялікай эпохі. Гэта значыць паказаць новага чалавека, якога не было яшчэ ў літаратуры, які ў сапраўднасці існуе, творыць. Гэта значыць—паказаць сінтэтычнага героя эпохі так, як гэта рабілі творцы мастацкай літаратуры эпохі дваранства і ўзыходзячай буржуазіі. У гэтых адносінах трэба вучыцца ў заснавальніка рускай літаратуры А. С. Пушкіна.

Наша эпоха рознастайней, шматгранней, рэзка адрозніваецца ад эпохі Пушкіна. Даць сінтэтычны тып нашай эпохі, „чалавека—барацьбіта за соцыялізм", „чалавека—героя, творцу"—справа больш складаная і цяжкая.

„Мастак павінен валодаць здольнасцю абагульнення, — піша А. М. Горкі,—мастацтва слоўнай творчасці, мастацтва стварэння характараў і „тыпаў" патрабуе ўвабражэння, дагадкі, „выдумкі". Апісаўшы аднаго знаёмага яму крамніка, чыноўніка, рабочага, літаратар зробіць больш ці менш удачную фатаграфію іменна аднаго чалавека, але-ж гэта будзе толькі фатаграфія, пазбаўленая соцыяльна-выхаваўчага значэння, і яна бадай нічога не дасць для пашырэння, паглыблення нашага пазнання пра чалавека, пра жыццё. Але калі пісьменнікі здолеюць узяць ад кожнага з дваццаці, пяцідзесяці, сотні крамнікаў, чыноўнікаў, рабочых найбольш характэрныя класавыя рысы, прывычкі, густы, жаданні, вераванні, ход мовы і т. д.—узяць і аб'яднаць іх у адным крамніку, чыноўніку, рабочым,—гэтым прыёмам пісьменнік створыць „тып"—гэта будзе мастацтва".

Гэтае зусім правільнае ўказанне А. М. Горкага павінны ўлічыць работнікі нашай літаратурнай творчасці, калі яны сапраўды імкнуцца даць высокамастацкія творы.

Колькі каштоўнейшых указанняў у гэтай галіне даў нашай літаратуры т. Сталін! Возьмем хоць-бы адзін фрагмент т. Сталіна—яго выступленне на студзеньскім пленуме ЦК „Пра работу ў вёсцы". Факт-жа, што наша мастацкая літаратура яшчэ не ўзялася за распрацоўку гэтага каштоўнейшага дакумента. Падамо некаторыя вытрымкі з прамовы тав. Сталіна, паказваючыя, якія задачы высоўвае перад нашай мастацкай літаратурай тав. Сталін.

Гаворачы пра недахопы нашай работы ў вёсцы, тав. Сталін кажа: „У чым тут рэч? Дзе прычыны гэтага недахопу нашай работы? Чым растлумачыць гэту неадпаведнасць?

Тлумачыцца гэта перш за ўсе тым, што нашы таварышы на мясцах, нашы вясковыя работнікі не здолелі ўлічыць новай абстаноўкі ў вёсцы, створанай абвяшчэннем калгаснага гандлю хлебам.

Селянін меркаваў так: „Абвешчаны калгасны гандаль хлебам, легалізавана рыначная цана, на рынку я магу за тую-ж колькасць

хлеба атрымаць больш, чым пры здачы хлеба дзяржаве,—значыць калі я не дурань, я павінен хлеб прытрымаць, здаваць яго дзяржаве меніш, пакінуць яго для калгаснага гандлю больш і, такім чынам, дамагчыся таго, каб выручыць больш за тую-ж колькасць прададзенага хлеба".

Самая простая і натуральная логіка!

Але бяда тут заключаецца ў тым, што нашы вясковыя работнікі, ва ўсякім выпадку многія з іх, не зразумелі гэтай простай рэчы".

Хто з літаратараў і драматургаў арганізаваў паказ гэтай гістарычнай праўды? Я сцвярджаю, што ніхто.

Або возьмем характарыстыку, дадзеную т. Сталіным некаторым работнікам нашага апарата па пытанню кіраўніцтва вёскаю.

„...А што мы бачым на справе? На справе мы бачым адарванасць цэлага раду раённых, абласных арганізацый ад жыцця калгасаў ад іх патрэб.

Сядзяць людзі ў канцылярыях і самаздаволена скрыпяць пер'ямі, а развіццё калгасаў ідзе паміма бюракратычнай канцылярыі. У паасобных выпадках адарванасць у калгасах даходзіла да таго, што некаторыя члены краявых аранізацый дазнаваліся пра справы калгаса ў сябе ў краі не ад адпаведных раённых арганізацый, а ад члену ЦК у Маскве. Гэта сумна, але гэта факт".

Колькі сарказма, якая знішчальная характарыстыка нашага бюракратызма! А хто з мастакоў-літаратараў перанёс гэтую рашучую характарыстыку на літаратурнае палатно?

Тав. Сталін з празорлівасцю вялікага правадыра партыі вызначыў новыя формы класавай барацьбы, паказваючы тып кулака такім, якім ён ёсць на дадзенай стадыі развіцця соцыялістычнага будаўніцтва. Ён гаварыў: „Шукаюць класавага ворага па-за калгасам, шукаюць яго ў выглядзе людзей з зверскай фізіяноміяй, з вялізнымі зубамі, з тоўстай шыяй, з адрэзам у руках. Шукаюць кулака, якім мы яго ведаем з плакатаў. Але такіх кулакоў даўно ўжо няма на паверхні. Цяперашнія кулакі і падкулачнікі, цяперашнія антысовецкія элементы ў вёсцы—гэта большаю часткаю людзі „ціхія", „салодзенькія", амаль „святыя".

...Яны ніколі не скажуць „далоў калгасы".

...Яны ніколі не скажуць „далоў хлебанарыхтоўкі".

Наша мастацкая літаратура і гэтае пытанне недастаткова паказала ў сваёй творчасці. Я падаў толькі некалькі вытрымак з адной прамовы правадыра нашай партыі для таго, каб паказаць тую невычарпальную крыніцу, з якой наша літаратура можа чэрпаць незлічоныя багацці вучобы для свае творчасці, і якое вялікае адставанне нашай літаратуры ад асноўных задач нашага будаўніцтва.

Мастацкім разцом абавязаны мы ачышчаць свядомасць селяніна ад рэштак прыватна-ўласніцкай іржы і адточваць яго соцыялістычнае ўспрыняцце. Перад пісьменнікамі і паэтамі стаяць у гэтым сэнсе гіганцкія задачы.

У нашай літаратуры не закрануты праблемы бацькаўшчыны і соцыялістычнай творчасці ў процілегласць буржуазнай бацькаўшчыне і радзіме.

А якое шырокае поле для нашай літаратурнай творчасці адкрывае сама пастаноўка гэтай праблемы. Пра бацькаўшчыну-ж працоўныя масы і лепшыя розумы чалавецтва даўно пісалі ўжо, але ўсе яны пасылалі праклены бацькаўшчыне. Варта ўспомніць песню Гейне „Сілез-

скія ткачы", песню паўстаўшых рабочых, прыдушаных урадавымі войскамі Германіі.

Проклятие отечеству, родине лживой,
Где лишь позор и низость счастливы,
Где рано растоптан каждый цветок,
Где плесень точит любой росток.

Мы ткем, мы ткем!

Станок скрипит, челноку не лень,
Мы ткем неустанно и ночь, и день,
Германия старая, ткем саван свой,
Тройное проклятие ведем каймой.

Мы ткем, мы ткем!

Паэт пушкінскага пакалення Веневіцінаў, спачуваючы дзекабрыстам, у 1826 годзе пісаў:

РОДИНА

Природа наша, точно мерзость,
Смиренно-плоские поля.
В России самая земля
Считает высоту за дерзость,
Дрянные избы, кабаки,
Брюхаты бабы, босы ноги,
В лаптях дырявах мужики,
Непроходимые дороги,
Да шпицы вечные церквей—
С клистирных трубок снимок верный...
Грязь, мерзость, вонь и тараканы,
И надо всем хозяйский кнут—
И вот что многие болваны
„Священной родиной" зовут.

Такая была краіна „дрянных изб и кабаков". Прынцыпова змяніліся адносіны да свае бацькаўшчыны мільёнаў працоўных Совецкага саюза. Рабочыя з казачным гераізмам абаранялі кожную пядзю совецкай зямлі, праліта не мала крыві лепшых сыноў чалавецтва за першую ў свеце пролетарскую бацькаўшчыну.

Якія кнігі могуць быць названы, што поўна паказвалі-б жыццё нашай вялікай бацькаўшчыны? Такіх твораў наша літаратура яшчэ не мае. А якое шырокае поле дзейнасці для нашай літаратуры ў галіне ўспамінаў шырокіх мас шляхам мастацкага адлюстравання ў нашай літаратуры, у галіне бязмежнай любасці мільёнаў да свае социялістычнае бацькаўшчыны.

## СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫ РЭАЛІЗМ

Заклікаючы пісьменніка паказаць у сваіх творах істотныя бакі рэчаіснасці ў праўдзівых мастацкіх вобразах, лозунг соцыялістычнага рэалізма штурхае пісьменніка да актыўнага ўключэння ў барацьбу за комунізм, да сапраўднага вывучэння рэчаіснасці, бо, не вывучаючы абекта, нельга яго праўдзіва паказаць. Актыўнае-ж уключэнне пісьменніка ў самую гушчу жыцця, вывучэнне нашай соцыялістычнай эпохі, шчырае жаданне яго дапамагчы будаўнікам соцыялізма праўдзівым мастацкім паказам рэчаіснасці ў сваіх творах—самым радыкальным чынам садзейнічае перабудове ўсяго светапогляду пісьменніка.

Непасрэднае практычнае ўключэнне пісьменніка ў вывучэнне соцыялістычнай рэчаіснасці, актыўная барацьба яго за справу соцыялізма—гэта і ёсць найкарацейшы шлях да вышынь пролетарскай ідэалогіі марксізма-ленінізма.

Шлях гэты ў кожнага з прадстаўнікоў мастацкай інтэлігенцыі своеасаблівы. Індывідуальныя якасці пісьменніка, яго біяграфія, асяроддзе, з якога ён выйшаў, яго мастацкі талент і т. д.—усё тут іграе сваю ролю.

Гэтак, напрыклад, Аляксей Талстой ідзе да разумення нашай рэчаіснасці праз гісторыка-матэрыялістычнае асэнсоўванне мінулага (раман „Пётр I“); Янка Купала праз паэму „Над ракою Арэсай“, Якуб Колас праз раманы „Дрыгву“ і „Адшчапенец“, Бядуля праз сваю аповесць „Язэп Крушынскі“ і т. д.

Як, на нашу думку, трэба разумець пытанне пра перабудову пісьменніка?

Некаторыя думаюць пра перабудову, выходзячы з таго, колькі разоў пісьменнік заявіў, што ён не супроць калгасаў, што ён за пяцігодку, ці на аснове таго, што ён напісаў пра соцыялістычнае будаўніцтва і расставіў усіх сваіх персанажаў згодна з штампам.

Не, гэта яшчэ далёка не перабудова. Нас цікавіць „нутро“ твора, тэмпература яго, голас, якім гаворыць мастак, яго героі, а не голая фатаграфія. Нам патрэбна сапраўдная літаратура эпохі вялікага класа пролетарыята.

Пісьменнік павінен быць не палоннікам падзеі, стыхіі, фактаў, а гегемонам гаспадаром іх. Факт-жа, што шмат якія нашы пісьменнікі захлынаюцца матэрыялам. Героі, створаныя мастаком, хапаюць за горла самога мастака, адводзяць яго ад праўды жыцця, ад нашай рэальнай соцыялістычнай рэчаіснасці.

Перабудавацца—гэта значыць не падслухоўванне жыцця з боку, а ўключэнне ўсяго сябе ў нашу практыку, без астатка, рашуча парваўшы са старым „я“, якое падточвае арганізм і цягне назад.

Раскрываючы праўду жыцця метадам соцыялістычнага рэалізма, пісьменнік здолее даць сапраўды мастацкі твор змястоўнага і шматграннага жыцця Совецкай краіны.

Тыя творы, якія набліжаюцца да паказу гэтай вялікай героікі класа—ці то „Дрыгва“ Коласа, ці „Над ракою Арэсай“ Купалы, ці „Бацькаўшчына“ Чорнага і інш.,—адлюстроўваюць сапраўдную перабудову пісьменніка і сведчаць пра тое, што пісьменнік толькі на аснове соцыялістычнага рэалізма, як метада паказу нашай рэчаіснасці, можа даць яркія творы.

Колас ілюструе сваю перабудову разгортваннем вялікага палатна партызанскага руху на Палессі. Ён паказвае гістарычную ролю нацдэмакратызма, чые інтарэсы ён сам раней абараняў. Вобразамі Талаша, героя рамана „Дрыгва“, і падпольшчыка Нявіднага Колас сцвярджае сябе на пазіцыях совецкай літаратуры. Своеасаблівы шлях перабудовы Бядулі. Бядуля прайшоў вялікі шлях ад нацыянал-дэмакратызма да разрыву з ім і да паказу контррэволюцыйнага твару нацдэмаў. У яго другой кнізе „Язэп Крушынскі“ вы знойдзеце рад памфлетаў, накіраваных супроць нацдэмаўскіх інтэрвентаў.

Бядуля пановаму глядзіць цяпер на свет. Ён бачыць тыя працэсы інтэрнацыянальнай салідарнасці, якія характарызуюць совецкую рэчаіснасць.

„Сустрэліся дзяды пасярэдзіне хаты, падалі адзін аднаму рукі з такім выглядам, нібы яны два асілкі, якія за апошнія гады вельмі аслаблі.

— Сваток,—дрыжачым голасам прагаварыў Марцінаў бацька.— Сваток.

— Мехутн,—паправіў бацька Меры.—Панашаму гэта будзе мехутн...

— Няхай сабе хамуты, усё роўна, братка,—дадаў Марцінаў бацька.— Унучка ў нас адна—Зорка.

— Сорка,—паправіў бацька Меры.

Старыя абняліся і заплакалі". (З. Бядуля „Язэп Крушынскі").

Тут дадзены яркі паказ інтэрнацыянальнага перавыхавання людзей ва ўмовах совецкай рэчаіснасці: стары яўрэй сустракаецца са сваім „сватком"—беларусам-селянінам, і паміну няма пра нацыянальную рознь.

Мы маем каштоўную спробу разгорнутага паказу класавай барацьбы і рэволюцыйнага руху ў Беларусі ў рамане К. Чорнага „Бацькаўшчына", а К. Чорны таксама-ж у мінулым быў пад уплывам нацыяналізма.

Шлях батрака селяніна Леапольда Гушкі ад ідэй прыватнай уласнасці спробаў „устроіцца" ва ўмовах капіталізма—да пролетарскай рэволюцыі паказан ярка ў рамане К. Чорнага „Бацькаўшчына".

Лозунг социялістычнага рэалізма штурхае пісьменніка да той перабудовы, узор якой я толькі што падаў.

Лозунг—социялістычны рэалізм—штурхае пісьменніка да вывучэння рэчаіснасці (рэчаіснасць гэта не мора для плавання, яе трэба вывучыць).

Дапасаваць метад социялістычнага рэалізма да літаратурнай творчасці гэта значыць: паказаць вялікую сілу, якая прывяла ў рух мільёны, сілу вялікай большэвіцкай партыі; правільна адцяніць гэтыя сілы і тую рэволюцыйную энергію, якая была выклікана Кастрычніцкай рэволюцыяй: абагуліць складанейшыя працэсы краіны Советаў, краіны былога жандара капіталізма на ўсходзе,—цяпер краіны перадавой ударнай брыгады сусветнага пролетарыята; паказаць краіну былых калоній, варварства, рабства, цяпер краіну росквіту нацыянальных рэспублік, вялікую бацькаўшчыну сусветнага пролетарыята; паказаць, як 60 мільёнаў жанчын—палавіна чалавецтва адной шостай часткі зямнога шара—пакончыла з праклятым мінулым і вышла ў сям'ю роўных з мужчынам. Гэта значыць—паказаць сілу і моц нашай партыі і ролю вялікага правадыра нашай краіны і прыгнечаных усяго свету.

Усё, што памастацку рысуе гістарычную ролю перадавога класа, усё, што садзейнічае руху рэволюцыйнага класа наперад—усё гэта праўдзіва, усё гэта—социялістычны рэалізм.

Социялістычны рэалізм—гэта паказ мільёнаў у будаўніцтве социялізма.

Перамога социялізма дала гіганцкі штуршок развіццю навукі новага маштаба, як па глыбіні даследванняў, так і па размаху праяўленага нябачнага гераізма, па заваяванню яшчэ нязведаных для чалавецтва і неадкрытых з'яў. Гэты размах гераізма ў нашай мастацкай літаратуры не знаходзіць адпаведнага адлюстравання. Слова, „гераізм", „герой", ужо з'яўляюцца недасканалым тэрмінам для паказу нябачнай адвагі і доблесці. Тут мы маем яўнае адставанне мовы ад тых зрухаў, якія створаны новым чалавекам, чалавекам социялізма.

Большэвік-ударнік, пяцігодка—гэтыя словы мастацкай літаратурай яшчэ не раскрыты. Гэтыя словы ўскрываюць змест цэлай эпохі і развіцця чалавечай гісторыі. Слова ўдарнік—можа быць вобразна параўнана з атамам, які пры расшчапленні вылучае найвялікшы зарад патэнцыяльнай энергіі,—гэтак і раскрыццё ў мастацкай літаратуры слова ўдарнік дае вылучэнне найвялікшага зарада рэволюцыйнай энергіі.

Большэвік—гэта сінонім нараджэння новага чалавека, узыходзячага новага класа, які вядзе чалавечае грамадства да бяскласавага грамадства. Гэты сінонім яшчэ не падняты нашай мастацкай літаратурай.

Але мы, будаўнікі новага жыцця, выйшлі з старога мінулага, чужога нам свету. Мы яшчэ цягнем на сабе шмат напластаванняў вякоў ста-

рой буржуазнай культуры, груз мінулых традыцый, звычак, думак, укаранёных у нашу свядомасць векавым прыгнётам эксплаатуючымі класамі.

Усё гэта павінна быць ускрыта проста, ясна, глыбока, чулліва, так, каб захапляла ўсяго цябе, усю тваю свядомасць—вось такая задача нашай літаратуры.

## ПЫТАННІ АЎЛАДАННЯ ЛІТАРАТУРНАЙ СПАДЧЫНАЙ МІНУЛАГА

Справа вывучэння культурнай спадчыны для нас—справа сугуба ідэйна-прынцыповая. Літаратурная спадчына ў нас яшчэ не распрацавана. Адсутнасць сур'ёзнага разбору і адбору літаратурнай спадчыны мінулага дае спажыву аж да гэтага часу сяму-таму з нацдэмаўскіх элементаў.

Мы ствараем нацыянальную культуру і літаратуру новай соцыяльнай якасці на аснове заваяванняў пролетарскай рэволюцыі. Нацыянальная па форме, соцыялістычная па зместу наша культура будуецца з улікам неабходнасці крытычнага засваення культурнай спадчыны і скарыстання яе дэмакратычных і соцыялістычных элементаў. Аднак гэтага палажэння нельга разумець у тым сэнсе, што совецкая культура з'яўляецца працягам у рэволюцыйным сэнсе гэтага слова, культуры буржуазна-нацыяналістычнай, як гэта імкнуліся давесці нацдэмы. Соцыялістычная якасць нацыянальнай па форме культуры расце на аснове непрымірымай і паслядоўнай барацьбы супроць нацыяналістычных ухілаў ад генеральнай лініі партыі.

Ленін прыдаваў аграмаднае значэнне крытычнаму засваенню і перапрацоўцы пролетарыятам культурнай спадчыны мінулага. Ужо ва ўмовах дыктатуры пролетарыята Ленін пісаў, што „гвозд пытання ў тым, каб ва ўмовах пролетарскай улады лепшыя дасягненні буржуазнай культуры сталі дасягненнямі мас".

Толькі дакладным веданнем культуры, створанай усім развіццём чалавецтва, толькі перапрацоўкай яе можна будаваць пролетарскую культуру". Калі Леніну ў гэтым пытанні даводзілася нямала змагацца з ліквідатарскімі нігілістычнымі плынямі ў мастацтве, дык Марксу і Энгельсу даводзілася таксама нямала змагацца з аналагічнымі тэндэнцыямі „скідання класікаў з борта сучасн асці, нямала змагацца супроць усякіх тэорый адмаўлення ролі мастацтва ў барацьбе рабочага і працоўных мас за сваё вызваленне. З пункту погляду стаячых перад намі асноўных задач у галіне асваення спадчыны мінулага мы абавязаны кіравацца наступнымі ўказаннямі т. Леніна:

„У кожнай нацыянальнай культуры ёсць хоць-бы не развітыя элементы дэмакратычнай і соцыялістычнай культуры, таму што ў кожнай нацыі ёсць працоўныя і эксплаатуемая маса, умовы жыцця якой непазбежна параджаюць ідэалогію дэмакратычную і соцыялістычную. Але ў кожнай нацыі ёсць таксама культура буржуазная (а ў большасці яшчэ чорнасоценная і клерыкальная)—пры тым не ў выглядзе толькі „элементаў", а ў выглядзе пануючай культуры...

Ставячы лозунг „інтэрнацыянальнай культуры дэмакратызма і сусветнага рабочага руху, мы з кожнай нацыянальнай культуры бярэм толькі яе дэмакратычныя і яе соцыялістычныя элементы, бярэм іх толькі і безумоўна ў працілегласць буржуазнай культуры, буржуазнаму нацыяналізму кожнай нацыі" (т. XVII, стар. 137).

Асабліва завострана гэтае пытанне ў статуце саюза совецкіх пісьменнікаў. Яно пастаўлена як адно з актуальнейшых пытанняў развіцця совецкай літаратуры на дадзеным этапе.

У статуце зусім правільна ўказана, што соцыялістычны рэалізм склаўся ў выніку „з аднаго боку, крытычнага асваення літаратурнай спадчыны мінулага, і з другога боку—на аснове вывучэння вопыту пераможнага будаўніцтва соцыялізма і росту соцыялістычнай культуры“.

Савецкая літаратура не з'явілася гатовай, яна наследвала і наследуе ўсё самае перадавое і лепшае, што створана было мастакамі мінулага. Цяпер, калі ў рады савецкіх пісьменнікаў усё больш шырокім фронтам уступае пісьменніцкі маладняк, які расце ва нашых соцыялістычных будоўлях, на фабрыках, у соўгасах, у калгасах,—з асаблівай сілай павінна быць падкрэслена задача крытычнага засваення літаратурнай спадчыны ў нас у Беларусі.

Каб развязаць гэту задачу ў нашых умовах, трэба выкрыць і разбіць да канца яшчэ недабітыя рэшткі контррэволюцыйнага нацдэмакратызма і іншых відаў буржуазнага ахвосця, даць правільны марксісцка-ленінскі аналіз, ацэнку спадчыны мінулага беларускай літаратуры.

У гэтых адносінах трэба весці бязлітасную барацьбу з усялякімі рэшткамі нацдэмаўскага „адраджанізма“, асабліва з буржуазна-кулацкай „нашаніўшчынай“. Справа ў тым, што і гістарычна і з пункту погляду класавага свайго зместу сучасны беларускі контррэволюцыйны нацдэмакратызм ідзе сваімі карэннямі ў „Нашу ніву“, якая, як гэта вядома, праграмным лейтматывам свае дзейнасці агаласіла „служыць не толькі аднаму мужыку, але і пану, і мужыку“, якая ўсе сілы аддала прапагандзе ідэй адзінства беларускай нацыі ў мэтах закабалення беларускіх працоўных мас.

Вядома, што „Наша ніва“ з'ўлялася ярым апалагетам і праваднікам контррэволюцыйнай сталыпіншчыны; што ва ўздыме рабочага руху напярэдадні імперыялістычнай вайны яна ўбачыла толькі тое, што народ і прамыслоўцы разбураюцца і „бяднее краіна“; што ў барацьбе супроць рэволюцыі яна пайшла на згоду з вялікадзяржаўнай, вялікарускай контррэволюцыяй.

Вось як у 1915 г. у „Национальных проблемах“, характарызуючы „нашаніўскі перыяд“, пісаў Багдановіч:

„Беларускі народ (як і яго інтэлігенцыя) цалкам належыць да працоўных класаў насельніцтва. Таму абарона і падкрэсліванне нацыянальных праў беларускага народу—гэта абарона і падкрэсліванне праў працоўнага пласта краю. Разуменне „нацыя“ і „дэмакратыя“ ў дадзеным выпадку якраз супадае. Гэта пазбавіла беларускі рух ад паталагічных бакоў гэтак нярэдкіх у нацыяналізме шматкласавых народаў“.

Каб бачыць, якую культуру нясла гэтая „надкласавая“ „Наша ніва“, падамо наступны прыклад: у адным з нумароў „Нашай нівы“ у артыкуле, прысвечаным „Калядзе“, мы чытаем:

„Шмат яшчэ і цяпер звычаяў, што адбываюцца ў дзень нараджэння Хрыста, захавалася і асталося ад паганскіх (богахвальскіх) часоў, але народ разглядае іх ужо як хрысціянскія звычаі. Сумна тое, што за апошнія гады народ пачаў забываць звычаі сваіх дзядоў і нават сям-там і саромеецца іх. Трэба любіць мінулае дзеля мінулага. Таму што ў добрым мінулым народа ёсць моц, яго сіла, і калі народ любіць сваё мінулае, дык яго не так лёгка адолеюць (змацуюць) цёмныя сілы ворагаў“.

З арсенала „Нашай нівы“, „адраджанізма“ ў яго розных варыяцыях, „абагачаючы“ яго, нацдэмы і нацапартуністы чэрпалі матывы і аргументы для барацьбы супроць пролетарскай рэволюцыі, для ідэалагічнай падрыхтоўкі рэстаўрацыі капіталізма і імперыялістычнай інтэрвенцыі.

і ў галіне культуры, літаратурнай крытыкі і гісторыі беларускай літаратуры нацдэмы аддалі пачэснае месца нашаніўству.

У сваім кароткім нарысе нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі, які выйшаў у Менску ў 1921 годзе, Ігнатоўскі (як выявілася—агент польскай дэфензівы) прапагандаваў ідэю пра тое, што інтэлігенцыя—галава народу, што вёска ад шчырага сэрца прывітала сваю газету („Н. Н.") тым, што прыняла яе да сябе. У канцы Ігнатоўскі дае нашаніўскую нацдэмаўскую „філасофію гісторыі" адраджанізма:

„Так праз цэлае 19-е сталецце ішла памалу работа па адраджэнню Беларусі. Працавала шмат народу. Працавалі палякі, велікарусы і беларусы. Цяпер у нас маецца навучнае становішча і для будучага культурна-нацыянальнага руху. Якая будзе далейшая доля, залежыць цалкам ад нас—беларусаў. Мы павінны ўрэшце ўзяць справу ў свае ўласныя рукі. Магчыма думаць, што штандар руху дэмакратычны, што рух апіраецца на земляроба і работніка нашай зямелькі.

Ужо прачынаецца гэты працоўны люд Беларусі ад векавечнага сну. Настануць часы, калі ён працягне сваю мазолістую руку інтэлігенту, які падышоў да яго, выйшаў з яго і прабудзіў яго. І пойдуць яны рука аб руку, крок у крок шукаць сваёй лепшай долі, і пэўне знойдуць яе. І ты, зямелька наша, многапакутная Беларусь, сустракаеш вясну свайго жыцця" (стар. 77).

У такім духу і кірунку разгарнулі сваю дзейнасць як „гісторыкі" так і „крытыкі" контррэволюцыянеры, буржуазна-кулацкія рэстаўратары Ігнатоўскія ўжо пры совецкай уладзе.

Гэтак, напрыклад, у 1922 г. у брашурцы пра „Матывы лірыкі Чарота", выступаючы як „літаратурны крытык", Ігнатоўскі цалкам абодвума нагамі стаіць на глебе ідэалогіі „Н. Н.". Ён прыкрывае свой буржуазны нацыялістычны падыход да разбору творчасці Чарота такімі „азначэннямі", як „пролетарска-сялянскі настрой", „пролетарска-сялянскія інтарэсы" і т. д. З пазіцый „нашаніўскага адраджанізма", якія завуаляваны пад выглядам „пролетарска-сялянскага адраджэння", Ігнатоўскі хваліць якраз найбольш слабыя і адмоўныя бакі творчасці Чарота ў мінулым—яго нацыяналізм, індывідуалізм і г. д. і зусім не прыцягвае ўвагі да таго, новага, што ва ўмовах Совецкай Беларусі дадзена ў творчасці паэта, і як паэт у сваёй паэме рве з мінулым („Босыя на вогнішчы").

Падам некаторыя прыклады, якія сведчаць пра тое, як нацдэмаўскія погляды, па сутнасці таго-ж нашаніўскага характару, знайшлі сваё выражэнне ў розных работах па літаратурнай крытыцы і гісторыі беларускай літаратуры. Гэтак напрыклад у „Літаратурна-навуковым весніку інстытута беларускай культуры" (нацдэмаўскае гняздо, як гэта відаць па большасці ўдзельнікаў) за 1922 год у № 1, які і носіць назву „Адраджэнне", што сведчыць пра яго палітычную платформу, ёсць артыкул праф. Піотуховіча. Даволі падаць адтуль некалькі мясцін, каб упэўніцца, які кірунак і які характар дадзенага ў гэтым артыкуле разбору творчасці Коласа. Пачынаецца артыкул з агульнай філасофіі".

„І тэорыя кожнага народу ёсць выяўленне нацыянальнага характара з боку валявога; літаратура ёсць выяўленне гэтага характару з боку інтэлектуальнага і, галоўным чынам, эмацыянальнага: у літаратуры адлюстроўваецца складаны комплекс мысляй і пачуццяў народу, гэта люстэрка яго ўнутранага жыцця, яго псіхікі".

Пасля гэтай шавіністычнай устаноўкі і ідэалістычнай папоўскай беліберды даюцца наступныя азначэнні творчасці Купалы і Коласа:

„Матыў абуджэння беларускага народу найбольш поўна выяўлен у творчасці Я. Купалы: ён прарок беларускага адраджэння, ён яго ідэйны правадыр". А вось „у Я. Коласа мы знаходзім найбольш поўнае мастацкае выяўленне псіхікі беларуса, складу яго розуму і сэрца".

Але што-ж тады ўяўляе псіхіка беларуса?

І Піотуховіч паказвае на дзве адзнакі:—„гэта лірызм і філасофская рэфлексія, задумлівасць".

А вось далей яшчэ больш разгорнута.

„З асаблівай напружанасцю народны розум накіроўван на развязванне маральных пытанняў. Этычны крытэрый народ дапасоўвае да развязвання самых балючых для яго соцыяльна-эканамічных пытанняў".

Палітычны сэнс гэтай ідэалістычнай беліберды ясны. Хіба можна пасля гэтага гаварыць пра класавую барацьбу, пра класы і т. д. і т. п. Робячы падобную аперацыю над беларускім народам, Піотуховіч і заключае, што ў творчасці Коласа „знайшлі сабе адлюстраванне галоўныя рысы беларускага народу"... „Яго чуласць да хараства, пяшчотнасць думы, смутны настрой, які скрашваецца гумарам, і, нарэшце, філасофская дапытлівасць розуму і здаровае сумленне", і што такім чынам „Якуб Колас сапраўдны нацыянальны паэт".

Не дзіўна, што ў сваіх „Нарысах гісторыі беларускай літаратуры", якія выйшлі ўжо ў 1928 г., гаворачы пра творчасць Багушэвіча, Піотуховіч сцвярджае, што „ідэйны бок літаратурнай спадчыны Багушэвіча асабліва звяртае на сябе ўвагу ў наш час, калі пад сцягам пралетарскай рэволюцыі закладаюцца магутныя падваліны культурна-нацыянальнага і соцыяльнага адраджэння Беларусі. У думках Багушэвіча, паэта другога адраджэння, можна выявіць і першапачатковае адраджэнне, так сказаць, эмбрыён тых ідэалаў, якія з'яўляюцца баявым лозунгам сёнешняга дня (падкрэслена мною—*Д. К.*).

Лішнім было-б тут гаварыць пра характар гэтай ад пачатку да канца нацдэмаўскай фальсіфікацыі, якая мае толькі адну мэту—падмяняць беларускую соцыялістычную культуру буржуазна-нацыяналістычным „адраджанізмам", простаю зброяй у барацьбе за рэстаўрацыю капіталізма.

Нагадаем яшчэ, што ў 1928 годзе ДВБ выдала кнігу Клейнборта „Очерк современной белорусской литературы", у якой аўтар на працягу ў 500 старонак развівае бязграматную беліберду, якая ад пачатку да канца нам класава-варожая і з'яўляецца буржуазна-нацыяналістычнай фальсіфікацый горшага выгляду.

Ці варта падаваць прыклады? Такімі „перламі", як сцвярджэнне пра тое, што трэба трактаваць беларускую літаратуру, „як асобны тып літаратурнага руху", што ў аснове яе своеасаблівасці „ляжыць злітасць нацыянальнага і соцыяльнага моманту—рыса, характэрная для лёсу гістарычнага развіцця Беларусі, як такога" (падкрэслена самім аўтарам); ці што „асноўная плынь беларускай літаратуры ў нашаніўскі перыяд адпавядае рабоча-сялянскаму ядру літаратуры велікарускай, высунутаму прафесіянальным рабочым друкам, эпохай „Правды" і „Звезды" і г. д. і д. т. п. Гэтым напоўнена ўся кніга. Думаю, што каментарыі не патрэбны.

Наша барацьба за асваенне культурнай спадчыны, разумеецца, нічога агульнага не мае з тым фактам, што буржуазны нацыяналізм шырока прапагандуе па пытанню асваення „літаратурнай спадчыны мінулага". У цяперашні час у краінах фашызма шырокая кампанія разгорнута ў карысць рэстаўрацыі самага варварскага сярэдневечча. Наўпярок здароваму сэнсу гістарычнага развіцця, фашысты імкнуцца

павярнуць калясо гісторыі назад. У інтарэсах панавання фашызма гістарычныя факты „мадэрнізуюцца“ ў духу сучаснага нацыяналізма. Рад фашысцкіх літаратуразнаўцаў займаецца тым, што выкопваюць з запыленых архіваў творчасць тых дзеячоў, якія змагаліся з рэвалюцыйным рухам і з прынцыпамі Вялікай французскай і інш. рэвалюцый. Яны гальванізуюць групу самых рэакцыйных пісьменнікаў, яны паднімаюць на шчыт такіх, як Адам Міллер, якога Маркс заклеймаваў, як сікафанта рамантыкі. Лепшыя творы класікаў літаратуры спальваюцца фашысцкімі культур-падпальшчыкамі, а нямецкі фашызм нават ухітрыўся такіх, як Гётэ, ператварыць у аднаго з папярэднікаў нацыянал-фашызма.

Мэтавая ўстаноўка фашысцкіх літаратуразнаўцаў ясная: не аб'ектыўная гісторыя рэчаіснасці ім патрэбна, не лепшае, што стварыла чалавечая думка, таму што ўсё лепшае ў сусветнай літаратуры накіравана супроць самых асноў і ўсяе сістэмы фашызма. Нацыяналістычная рамантыка мінулага непасрэдна змыкаецца з палітычным цяперашнім, з сучасным панаваннем фашызма. У процівагу фашысцкай трактоўцы мінулага і праблем гістарычных шляхоў развіцця „нацыі“, „самабытнасці“ яе і т. д. мы павінны разгарнуць большэвіцкую работу ў галіне асваення спадчыны.

Усё гэта высоўвае перад нашай беларускай літаратурай наступныя задачы:

а) Папершае, мы павінны даць разгорнутае выкрыццё ўсяго буржуазна-нацыяналістычнага „адраджанізма“, асабліва „нашаніўства“ і ўсяго нацдэмаўскага кірунку пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, паказаць яго сапраўдныя класавы, буржуазна-кулацка-рэстаўратарскі і інтэрвенцыянісцкі твар.

Неабходна вырваць з коранем усякія яго рэцыдывы, якія з'яўляюцца выражэннем адчайнага супраціўлення засуджаных на канчатковую пагібель недабітых рэштак класавага ворага.

б) Распрацаваць у святле тэорыі Маркса—Леніна—Сталіна пытанне пра спадчыну. У прыватнасці, калі пытанне ідзе пра такіх выдатных беларускіх пісьменнікаў, як Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля і Ц. Гартны.

Мы павінны з усёй выразнасцю аналізаваць розныя этапы ў іх творчасці і паказаць:

1) Што складае буржуазна-нацыяналістычнае, нацдэмаўскае ў іх спадчыне і гэта выкрыць і ўскрыць іхныя класавыя карэнні (у перыяд „Н. Н.“, доўгі час пасля Кастрычніка і г. д.).

2) Найлепшыя, рэвалюцыйна-дэмакратычныя элементы ў іхнай дакастрычніцкай творчасці (перыяд рэв. 1905 г. і г. д.), аналіз і класавыя карэнні.

3) Новыя зрухі ў іхнай творчасці на цяперашнім этапе; паказаць перабудову, ідэйна-творчы паварот у бок совецкай улады, соцыялістычнага будаўніцтва, як новы якасны бок, як уздым на новую вышыню лепшых элементаў іх мінулай творчасці.

4) Неабходна стварыць гісторыю беларускай літаратуры ў вытрыманым марксісцка-ленінскім асвятленні, даць правільнае асвятленне яе розных этапаў, выкрываючы контррэвалюцыйную нацдэмаўшчыну і паднімаючы на новую вышыню ўсе праблемы, звязаныя з барацьбой за соцыялістычны рэалізм і г. д.

Барацьба за ленінскае асваенне культурнай спадчыны набывае выключнае значэнне ў справе пастаноўкі сістэматычнай вучобы маладых пачынаючых пісьменнікаў. Неабходна проста заявіць, што вучоба пачынаючых і маладых пісьменнікаў пастаўлена наогул нездавальняюча.

Да гэтага часу Саюз совецкіх пісьменнікаў не справіўся з арганізацыяй літгурткоў як у сэнсе колькаснага ахопу, так і з пункту погляду якасці вучобы ў іх. Нездавальняюча працуе літаратурная кансультацыя, якая дзякуючы свайму павярхоўнаму, а часам і вульгарызатарскаму падыходу, не стварае спрыяючых умоў для творчага росту пачынаючых пісьменнікаў. Асабліва дрэнна стаіць справа па ўцягненню пачынаючых кадраў у сістэматычнае вывучэнне класікаў сусветнай літаратуры. Вучоба маладых—вузкае месца работы пісьменніцкіх арганізацый.

Добра было-б, і мы ўсямерна гэта віталі-б, калі-б вопытныя нашы пісьменнікі ўзялі на сябе задачу папрацаваць сур'ёзна з літаратурным маладняком. Гэта робіцца недастаткова. Але і пры максімальных намаганнях з іх боку адным ім не справіцца з гэтай справай, бо маладняка гэтага ў нас надзвычай многа, а пісьменнікаў, вопытных майстраў, мы маем пакуль што мала. Пытанне пра культурны, мастацкі рост маладых пісьменніцкіх кадраў павінна быць пастаўлена шырэй. Праз усю сетку нашых культурных устаноў, праз газеты і часопісы, пры дапамозе ўсіх рычагоў культурнага будаўніцтва, павінны мы развязаць гэту задачу—задачу дапамогі росту маладому пісьменніку.

## ПРАБЛЕМА ТВОРЧАГА МЕТАДА І ПАКАЗ ВОБРАЗА БОЛЬШЭВІКА Ў ЛІТАРАТУРЫ

Пазнаёміўшыся з паасобнымі творамі нашых пісьменнікаў, як „Дрыгва", „Адшчапенец" Коласа, „Спалох на загонах" Галавача, „На чырвоных лядах", „Апошні зверыядавец" Лынькова і інш., трэба канстатаваць, што ўсе яны ўвязаны між сабою агульнай ніццю. Калі прачытаць верш „На чырвоных лядах" Лынькова, пасля „Дрыгва" Коласа і „Спалох на загонах" Галавача, дык атрымаецца агульная карціна гісторыі росту самасвядомасці рабочага класа, сялянства Беларусі. У Лынькова мы сустракаем такіх герояў, якія перакачавалі ў „Дрыгву". Гэтак, напрыклад, Сямён у Лынькова перарос у Коласавага партызана Талаша. Лынькоўскі Іван Іванавіч вызваліўся ад вузкай вясковай абмежаванасці, уступіў у партыю і стаў Нявідным у рамане „Дрыгва" Коласа. Партызаны Палесся, якія абмяркоўваюць у лесе паход на палякаў, моцна асталяваліся ў „Адшчапенцы", пайшлі ў калгас у „Спалоху на загонах" Галавача.

Наша эпоха ў гэтых творах адлюстравана ў радзе месц вельмі ярка. Чытаючы гэтыя творы, знаёмішся з ходам класавай барацьбы і ходам соцыялістычнага будаўніцтва Беларусі.

Чаму так выйшла, што ўсе творы паміж сабою ўвязаны агульнай ніццю?

Творчая думка пісьменніка працуе ў адным кірунку. Пісьменнік імкнецца рэалістычна паказаць соцыялістычнае будаўніцтва. Якую-б праблему нашы совецкія пісьменнікі ні імкнуліся развязаць, яна заўсёды будзе звязана паасобнымі ніткамі ў той ці іншай ступені з іншымі ўжо існуючымі творамі. Гэтая сувязь будзе тым мацней, чым мацней звязана творчасць паасобных пісьменнікаў агульнасцю іх светапогляду. У дадзеным канкрэтным прыкладзе сувязь названых твораў з'яўляецца вынікам іх агульнага імкнення адлюстраваць у мастацкай форме развіццё рэволюцыйных сіл, перамогі пролетарскай рэволюцыі і трыумф палітыкі партыі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва.

Нашы празаікі—Колас, Бядуля, Гартны, Лынькоў, Галавач, К. Чорны, Крапіва, Самуйлёнак, Мікуліч, далі, памойму, рад таленавітых кніг,

адлюстроўваючых ход развіцця нашай рэволюцыі. Іхныя творы з'яўляюцца сур'ёзнымі мастацкімі творамі нашай літаратуры.

З усяго комплекса творчых пытанняў нашай літаратуры, дазвольце мне вылучыць адно выключна важнае пытанне—пытанне пра паказ кіруючай ролі нашай партыі і паасобных яе членаў на тым ці іншым участку социялістычнага будаўніцтва. Большэвік—гэта вядучы чалавек нашай эпохі,—гэта кіраўнік і арганізатар мільённых мас за будаўніцтва новага жыцця, за пераробку свядомасці людзей. Памастацку адлюстраваць большэвіка—гэта значыць паказаць сілу перамогшага класа, сілу і моц нашай слаўнай партыі. Вобраз большэвіка так, як ён ёсць, як ён жыве і змагаецца за новае жыццё, нашай мастацкай літаратурай яшчэ не дадзены. Гэта не значыць, што совецкі пісьменнік абыходзіць гэты вобраз. Гэты вобраз пападаецца ў шмат якіх вашых творах. Не гледзячы на гэта, на жаль, не можам назваць ніводнага вашага твора, які даў-бы поўнацэнны вобраз большэвіка. У тых творах, у якіх пішуць пра члена партыі, пра яго работу, пра яго барацьбу з класавым ворагам, ён, як правіла, не паказан як поўнацэнны чалавек і адлюстроўваецца неяк аднабока, не поўна, суха і фармальна, ці на хадулях рыторыкі.

Большэвік у нашай літаратуры часта паказан, як саматужнік-адзіночка і далёка ад мас.

Але-ж будаўніцтва социялізма ў нашай краіне ідзе пад кіраўніцтвам нашай партыі і канкрэтна здзейсніваецца паасобнымі комуністамі. Першая задача нашай літаратуры—паказаць вобраз нашага комуніста! Недаацэньваць кіруючай ролі партыі і комуніста—гэта значыць скажаць рэчаіснасць, гэта значыць стаяць „у баку" ад класа. Усякія сцвярджэнні пра асваенне метаду социялістычнага рэалізма нашай літаратурай без рэальнага адлюстравання большэвіка-ўдарніка, комсамольца, калгасніка не будзе мець пад сабой глебы, і гэта будзе далёка ад социялістычнага рэалізма, ад рэчаіснасці.

У класікаў марксізма мы можам шмат чаму павучыцца ў гэтым кірунку.

У 1924 г. тав. Сталін паставіў пытанне пра стыль ленінізма, які заключаецца ў злучэнні двух асаблівасцей—рускага рэволюцыйнага размаху і амерыканскай дзелавітасці. Увесь гэты перыяд ішла ўпартая барацьба за тое, каб гэты стыль стаў галоўнай рысай большэвіка, і гэты стыль стаў галоўнай асаблівасцю большэвіка. Адзін з самых моцных бакоў большэвіка—яго арганізацыйная дзейнасць разам з палітычнай празорлівасцю.

Вельмі рэзка на XVII з'ездзе партыі т. Кагановіч падкрэсліў: „Галоўная прыкмета партыйнасці большэвіка—роля авангарднага байца за социялістычныя адносіны да працы, роля арганізатара социялістычнага спосаба вытворчасці ў прамысловасці і ў сельскай гаспадарцы".

Толькі кіруючыся гэтымі паказаннямі ў сваёй творчай дзейнасці, наша літаратура здолее даць мастацкі вобраз большэвіка.

Вобраз большэвіка ў беларускай літаратуры мае сваю гісторыю. За гэты вобраз пісьменнікі браліся для розных класавых мэт.

Адны браліся за паказ вобраза большэвіка для больш праўдзівага і глыбокага паказу рэчаіснасці, другія—для паклёпу на яе, для кампраметацыі большэвіка. Да ліку апошніх адносіцца спроба Цішкі Гартнага ў яго творы „Здарэнне з камісарамі", некаторыя спробы ранняга Зарэцкага. Для гэтых пісьменнікаў таго часу характэрна было паказаць большэвіка як размякшага інтэлігента, рэфлектуючага, слінявага.

Іменна да першых трэба аднесці разглядаемых мною аўтараў—Коласа, Лынькова, Галавача, якія сёе-тое ўжо зрабілі, каб дамагчыся праўдзівага адлюстравання большэвіка, як кіраўніка соцыялістычнага будаўніцтва. Працуе над гэтым вобразам і Цішка Гартны („Наступ на Горны").

У дакладах і спрэчках на з'ездзе наша крытыка і пісьменнікі ўжо адзначалі, што Я. Колас не даў поўнацэннага вобраза большэвіка. Я таксама схілен канстатаваць, што ў паказе большэвіка Нявіднага ёсць павярхоўнасць і адсюль зацямненне ролі партыі ў кіраўніцтве партызанскім рухам на Беларусі, як і грамадзянскай вайной.

Роля большэвіка ў „Дрыгве" Коласа значна прыніжана ў параўнанні з іншымі яго героямі „Дрыгвы". Большэвік Нявідны слаба відзён, а дзе ён відзён, як кіраўнік партарганізацыі, дык ён выглядае па меншай меры нявопытным падпольшчыкам. Досыць падаць наступны дыялог Нявіднага з Нічыпарам, каб упэўніцца, наколькі слабы Нявідны, як кіраўнік падпольнай партарганізацыі.

„Нявідны і Нічыпар таксама рушылі з месца. Ідучы гутарылі.

— Сакратар арыштован?

— Арыштован, таварыш Нявідны,—панура адказаў Нічыпар.

— Якую-ж работу рабілі вы тут?

— Збіралі сходы, агітавалі супроць белапалякаў, выступалі за советы.

— І якія вынікі?

— Да ўжо згуртавалі чалавек дванаццаць хлопцаў. А вось цяпер работа прыціхла, і паліцыя пачала дужа насядаць. Шпіянаж наногі паставілі. А тут і настаўніка забралі... Настрой зніжаны" (стар. 174—175).

Як-жа ацэньвае Нявідны такое становішча?

А вось як:

— Ні чорта вы не зрабілі: і грош цана такой вашай рабоце.—Ціхі і лагодны з віду Нявідны загаварыў цвёрда і жорстка.—Як-жа гэта вы не паставілі людзей, здольных узяць у рукі зброю? (стар. 175).

Нявідны далей працягвае:

— „Няма ў вас арганізацыі, няма ў вас работы... людзей у вас няма".

Ясна, што такім метадам падпольна кіраваць нельга.

Якуб Колас паказаў Нявіднага ў ролі абстрактнага „сейбіта буры", філасофія якога ў радзе месц аддае народніцтвам.

Міхась Лынькоў у рамане „На чырвоных лядах" разгарнуў шырокае палатно. Гэты раман мастацкі не дрэнна паказвае рост класавых супярэчнасцей у дарэволюцыйнай вёсцы і ў мястэчку, і ярка паказвае нарастанне рэволюцыйных сіл. У рамане відзён майстар, які дэталёва вывучыў дарэволюцыйны перыяд беларускага мястэчка і вёскі.

Да недахопаў твора трэба аднесці наступныя моманты: пісьменнік астаўся ў палоне вузкай вясковай тэматыкі, хоць у шэрагу месц тонка, па-майстэрску, авалодаў псіхалогіяй бедняка, серадняка і кулака. Зусім слаба паказаны ніці, што ідуць з горада, і ўплыў горада на дыферэнцыяцыю сялянства. Не ўскрыты спружыны самадзяржаўнага прыгнёту і нацыянальнай розні ў мястэчку. Станоўчае ў аўтара—гэта спроба паказаць рост рэволюцыйнай самасвядомасці рабочага ў асобе Івана Іванавіча.

Асноўны недахоп кнігі—грамоздскасць галерэі вобразаў, на што зусім правільна паказаў Колас у яго крытыцы. Раман сур'ёзны, глыбокі, але, на жаль, нашай крытыкай слаба даведзен да шырокага чытача.

У ацэнцы тав. Лынькова правільную пазіцыю заняў тав. Клімковіч. У рамане відзён вялікі майстар слова, але адчуваецца, што крыллі

ў Лынькова ў недастатковай ступені распраўлены. Я не сумняваюся, што тав. Лынькоў у другой частцы рамана разгорне вялікую эпапею эпохі.

З поваду спрэчак пра тое, як патрэбна разумець героя Лынькова—Івана Іванавіча: ці вытрыманы ён рабочы, ці большэвік Іван Іванавіч і г. д. Мне думаецца, што Лынькоў у асобе Івана Іванавіча ўдала паказаў местачковага рабочага каваля, самасвядомасць якога знаходзіцца ў стадыі стыхійнай, зародкавай свядомасці.

Палітычная спеласць Івана Іванавіча паказана ў радзе яго гутарак.

Вядома, няправільна думаюць тыя таварышы, якія лічаць Івана Іванавіча большэвіком. Іван Іванавіч яшчэ ў поўнай меры не ўсвядоміў сябе.

Многія лаюць Міхася Лынькова за яго „пладавітасць“,—мнагавата, нібы, вапладзіў герояў. Я ў гэтых адносінах з Якубам Коласам згодзен, але нельга абысці маўчаннем і таго, што рад герояў Лынькова пададзены ў высокамастацкім ідэйным і гістарычным паказе, які дае сапраўдны паказ рэчаіснасці.

Возьмем такі вобраз, як Настуля-салдатка. Гэты вобраз жыццёвы, жывы. Расказаная гісторыя здзекаў з салдаткі, сцэна з канфіскацыяй цялушкі—гэта кавалак жыцця, гэта жыццёвая праўда, удала схопленая пісьменнікам. У гэтым вобразе адчуваецца жывы чалавек, яго пачуцці, злосць. Пісьменніку ўдалося гэты вобраз перадаць у яго руку, у яго росце.

Не дрэнна таксама ўдаліся аўтару вобразы Цымбала і Хвядоса. У гэтых вобразах пісьменнік здолеў больш глыбока паказаць прыроду кулака, паказаць, як ён расце, канцэнтруе зямлю і капіталы, як ён, не здавальняючыся адной зямлёй, робіцца прадпрыемцам.

Аўтар не дрэнна паказаў спекулянта Лейбу, да якога прышоў шавец Мотэль пазычыць паўсотні рублёў:

„Мотэль уцінае галаву ў плечы. І мулка яму робіцца чагосьці ў каўняры. Патрэбны выцяжкі, да зарэзу патрэбны.

— Дык от бярыце сабе на здаровейка сорак пяць рублёў, аддасце праз якія там месяцы паўтары паўсотні...—не дае адумацца яму пане Лейба.

— Ну дзякаваць вам, пане Лейба! Што-б было... Падумайце толькі, што-б было, калі-б не было вас у мястэчку...

— Чаму-ж не дамапагчы яўрэю... Хто яму тады дапаможа?

— Гэта вы правільна... Дык бывайце здаровенькія, дык няхай будуць вясёлымі вашы дзеткі, ды дзякуюць богу за такога бацьку!

Мотэль бокам выходзіць з пакоя і асцярожна—без стуку і рыпу—прычыняе дзверы“.

Наша моладзь не бачыла гэтых местачковых тыпаў. Пагэтаму вобразу яна будзе мець уяўленне пра местачковага павука-крывасмока.

Лынькоў таксама не адолеў вузкай абмежаванасці свайго большэвіка Анатоля з аповесці „Апошні зверыядавец“.

Гэта яркі, мастацкі твор пра рабочых на вытворчасці, пра рабочы побыт, пра складаную абстаноўку класавай барацьбы на заводзе ў правінцыі. У гэтай аповесці пісьменнік паказвае суровы жорсткі побыт, у якім моцна яшчэ спадчына мінулага (антысемітызм, п'янка, шкодніцтва дырэктара—былога белага афіцэра), і адначасова паказвае барацьбу супроць старога з боку растучага і мацнеючага новага. Не дрэнна паказана роля партыйнага кіраўніцтва не публіцыстычна, а ў мастацкіх жывых вобразах. Большэвік Анатоль, які выкрыў дырэктара, былога белага афіцэра, паказан рэалістычна праўдзіва. Але і ў гэтым не дрэнна паказаным большэвіку Лынькоў дапусціў рад зрываў.

Досыць падаць адно разважанне Анатоля, каб паказаць, якія ўпадніцкія настроі надаў Лынькоў свайму герою.

„Вось, скажам, снег. Не рад я яму, як ліхой бядзе... А калісьці, як ашалелы, бегаў пры першых сняжынках. Як-жа: снежкі, санкі, а пакоўзацца па ільду... І летам, і ўвосень былі свае прынады. А вясной, калі разальюцца першыя ручайкі, зашуміць паводка па лагчынах... А першы жаўранак, а першая пралеска ў лесе, а раннія вясеннія вечары, калі так цвёрда пад нагамі аддаецца зямля, храбусцяць ільдзінкі, а ў паветры струменіць нешта дзіўнае, незвычайнае, нібы пах цяпла, нібы хмель такі падбадзёрваючы, такі дзіўна чароўны. А першыя баранчыкі на лазе, а першая муха—дззы-ы-ы... і так прыпякае сонца, аж курацца парай сцены і ўвачавідкі падсыхаюць двары. І сам як заварожаны, заварожаны—і першым лістком і першаю мухаю.

Цяпер нішто не кранае сэрца, нішто не дзівіць, не захапляе, не радуе ні вясна, ні лета. Вось і восень неўзаметку перакінулася ў зіму, і няхай сабе, на тое яна і зіма, яе чарод. Будзе вясна і таксама адбудзе сваю чаргу. І яшчэ вясна, і яшчэ вясна—пройдуць усе сваёю чаргою, і што з таго?“ (стар. 194—195).

Адкуль з'явіліся падобныя настроі ў большэвіка Анатоля—ці ад таго, што ён выкрыў белага афіцэра, ці ад таго, што ён выканаў добра дырэктыву партыйнага камітэта? Проста незразумела для чытача.

Як твор, які адлюстроўвае пачатковы перыяд калектывізацыі, „Спалох на загонах“ Галавача як па глыбіні аналізу, так і па шырыні пастаўленых ім праблем, безумоўна, стаіць вышэй за многія творы, закранаючыя гэтую-ж тэму калектывізацыі. Галавач у сваім творы падыходзіць да развязання праблемы калектывізацыі з пункту погляду пролетарыята і яго кіраўніцтва. Пісьменнік стараецца паказаць труднасці арганізацыйнага перыяду не толькі на вёсцы, але і паасобныя хістанні, выклікаными ў паасобных праслойках рабочага класа і партыі.

Прыгадайце, як сакратар райпарткома Сідар прыняў за жарт хістанні Кліма, не ўнікаючы ў сутнасць гэтых настрояў. Падобнае кіраўніцтва, як вядома, прывяло да тых перагібаў, пра якія тав. Сталін пісаў у сваім артыкуле „Галавакружэнне ад поспехаў“, паказваючы адмоўныя бакі кіраўніцтва вёскаю.

Але і ў гэтым рамане паказ большэвіка вельмі слабы. Аўтар выпусціў з-пад увагі арганізацыйную ролю партыі на вёсцы. І асабліва рэльефна гэта можна прасачыць па Панасу—кіраўніку арганізацыяй калгасаў, які паказан у большай ступені як агітатар, і то падчас палітычна бязграматны, а яго арганізуючая роля ў арганізацыі калгасаў не відаць. Вось як Панас агітаваў за калгасы:

„—... Ну, дык як-жа ці пішуцца хоць дзе людзі да цябе ў калгас?

— Будуць пісацца,—адказаў Панас,—не ўсе-ж адразу. Я хачу, каб цярэшкаўцы першымі запісаліся.

— Э-е, не не, мы ўжо потым, за другімі хіба.

— Усе вы потым. А хай-бы-ж другім прыклад паказалі. Я вось дзіўлюся на Пётраву маёмасць. І ў хляве са страхі рэбры тырчаць, і ў каровы рэбры тырчаць. А ў вас-жа ва ўсіх амаль такая маемасць... І я разумею, ну калі чалавек яшчэ троху багата жыве, ды баіцца новага, шкадуе, а то-ж не жывуць, а гніюць людзі!..

— Ды яно праўда, гніюць,—азваўся адзін з мужчын.

— Бо жыць не даюць,—перабіў яго другі.

— О! зноў тое-ж, жыць не даюць. Ды хто не дае? Ну, няўжо-ж вам вось ад таго жыцця шкода адчурацца? Гэта-ж пекла, а не жыццё. Ужо горшага пэўне-ж нідзе не знойдзеш“.

Гэтак ацаніў Панас жыццё сялянства. Паводле слоў Панаса, рэвалюцыя, апрача пекла, сялянству нічога не дала.

Партыя паставіла пытанне пра калектывізацыю сельскай гаспадаркі не таму, што жыццё беднаты і серадняцкіх гаспадарак—гэта пякельнае жыццё, а таму, што к гэтаму часу паспелі ўмовы на базе індустрыялізацыі нашай краіны да стварэння калектыўных форм гаспадаркі. Гэта форма, напоўненая бальшэвіцкім зместам, забяспечвае заможнае жыццё ўсяму калгаснаму сялянству, забяспечвае ліквідацыю супроцлегласцей паміж горадам і вёскай і хутчэйшае прасоўванне да соцыялізма.

Вось як выглядае той-жа агітатар Панас:

— Хіба страшыць хто?

— А як-жа.

— Хто?

Селянін падумаў крыху і тады сказаў:

— Ды так, што самі сябе... А мо' хто і запішацца.

— Нічога, запішацца хто-ніхто, а потым усе".

Панасава самаўпэўненасць не падмацавана ні масавай, ні палітычнай арганізацыйнай работай. Адсюль і страта класавай чуласці—Панас не мог разгадаць манеўра класавага ворага. Панас вельмі настойлівы, але бездапаможны, у яго аргументацыі няма сілы пераканання („Лепшае жыццё будзе, дзядзька, для іх жыцця хачу лепшага" і г. д.).

Панас больш перажывае і чакае, чым кіруе і арганізоўвае.

„Сэрца Панасава крыўдай балючай сціскаецца,чаму не разумеюць, што калгас—іхняя гэта гаспадарка.

— Чаму ў парабкі?—пытае ён.—Калгас-жа ваш, ваша гаспадарка будзе. Усіх вас.

— Не, ваш! Ваш! а не наш!—адказвае жанчына.—Што вы захочаце, тое і будзе".

Панас не знаходзіць слоў для адказу.

На яўна кулацкія выступленні Мышкіна Панас таксама не рэагаваў. Вось гаворыць Мышкін:

„— Што цяжка нам, дык улада гэта ведае, бо сама-ж улада гэта і падатак з нас бярэ і ўсё такое. Уладзе яно, знацца, больш відаць, як трэба. Народ расце, а зямлі мала, хлеба мала. Рабочых у горадзе ў нас багата стала, хлеб-жа, трэба, дык вось я кажу. Праўда, бывала горад нас і крыўдзіў часам, а цяпер мо' не будзе, цяпер мо' і сітчыку больш дасць і падшэвачкі... Раз пролетарыят,—значыць гаспадар, дык слухаць трэба...

Панас чуў словы Мышкіна і хоць адчуваў у іх штосьці такое, што не павінна гучэць у словах таго, хто выказваецца за калгас, не мог разгадаць іхнага сэнсу. Увага ягоная была занята ў гэты час іншым. Ён абавязкова хацеў дамагчыся выступлення хоць каго з дэлегатаў, бо адчуваў чамусьці, што іхнае выступленне прынясе яму перамогу над сходам".

Але прыгледзімся бліжэй да агітацыі Панаса за калгасны лад. Яна не выходзіць з рамак агульных слоў, нападабенства: „лепшае жыццё будзе, дзядзька". У сваіх довадах за калгасны лад Панас выходзіць з практычнага жыццёвага вопыта самога селяніна. Для яго прамоў і размоў характэрна агульшчына, а не бальшэвіцкая канкрэтнасць, выцякаючая з канкрэтнасці жыцця самога сялянства. Ясна, што такой агітацыяй за калгаснае жыццё Панас дасягаў мала, чаго, не гледзячы на тое, што ў яго заўсёды было жаданне „трэба сказаць ім так, каб зразумелі, што я для іх, для іх жыцця хачу лепшага". Ясна, што такой агітацыяй ён не мог супроцьстаяць кулацкай агітацыі.

Я таму падрабязна спыніўся на дадзеным вобразе большэвіка, каб паказаць, якія недахопы мае наша літаратура ў галіне паказу сапраўднага члена партыі.

Але нельга не адзначыць таго месца, дзе Галавач яркімі фарбамі мастацкі рысуе барацьбу і раздваенне ўчарашняга аднаасобніка—сёнешняга калгасніка Камеку, які ўступае ў калгас.

„Раніцою Галіна з мужам пайшла ў ток. Трэба было ссыпаць у мяшкі звеяны ўчора авёс і набраць авечкам мурагу. Калі насыпалі ў мяшок пудоў пяць аўса, муж пацягнуў мяшок па таку да тарпы кулёў. Пасля адкінуў некалькі кулёў у бок і паказаў Галіне, каб яна дапамагала пакласці мяшок паміж кулёў і сена. Галіна не зразумела, для чаго ён хоча гэта рабіць і не краталася з месца. Тады муж растлумачыў:

— Гэта на ўсялякі выпадак,—сказаў ён,—мала што може быць. Ссыплем, а гэта ўсё не надоўга, дык тады дзе возьмеш? А што ссыплеш, таго ўжо не возьмеш, дудкі...“

У гэтым урыўку пісьменнік удала паказаў псіхалогію ўчарашняга аднаасобніка, які хістаецца і з болем адрэзвае пупавіну векавых напластаванняў індывідуальнага жыцця. Гэтае месца варта таго, каб быць занесеным у хрэстаматыю для дзяцей, як лепшы ўзор, які паказвае канец індывідуальнай гаспадаркі.

Некалькі слоў пра пісьменніка Эдуарда Самуйлёнка. Наша крытыка ўпарта ўхіляецца, каб ацаніць гэтага пісьменніка, выкручваецца тым, што Самуйлёнак малады, растучы пісьменнік. Я павінен да гэтага дадаць, што гэта не толькі малады растучы, але і таленавіты пісьменнік. Паказ большэвіка ў Самуйлёнкі сведчыць пра ўдумлівую работу аўтара.

Самуйлёнак не дрэнна паказаў рост фашызма і карэнні фашызма, паказаў, як фашызм разбураецца і гніе на карані. У яго героі Пфэрц-Дабравольскім ён гэтае разбурэнне не дрэнна паказаў.

З пафасам і цеплынёй паказвае ён смерць большэвіка Дроба.

Самуйлёнак у сваёй кнізе „Тэорыя Каленбрун“ не толькі дае гістарычны раман пра работу падпольнай арганізацыі ў фашысцкай краіне. Ён паказаў, як працуюць нашы таварышы ў краінах фашызма цяпер.

Гэты твор з'яўляецца каштоўным укладам у беларускую літаратуру, у якой класавая барацьба на Захадзе мала адлюстравана.

Гэта, зразумела, не значыць, што ў творы Самуйлёнка няма недахопаў. Займальнасць гэтай кнігі часта ідзе за кошт паглыбленага пісхалагічнага паказу вобразу і быта.

*Канец будзе*

М. КЛІМКОВІЧ

# ЛІТАРАТУРА СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ ЗА 15 ГОД*

На рубяжы, які аддзяляе сабою ўсю папярэднюю гісторыю развіцця літаратурнага руху на Беларусі ад сучаснага этапа - этапа дзейнасці адзінага Союза совецкіх пісьменнікаў—варта аглянуцца назад, на пройдзеныя шляхі. Варта праанілізаваць гэтыя шляхі, варта высветліць расстаноўку класавых сіл на літаратурным фронце, праанілізаваць формы класавай барацьбы, шляхі і метады, якія прывялі совецкую беларускую літаратуру да нашых сёнешніх перамог. Гэта тым больш неабходна, што мы стаім на такім паваротным пункце развіцця літаратуры, калі мы шчыльна падыйшлі да пабудовы сапраўдных „магнітабудаў“ у літаратуры, на аснове авалодання культурнай спадчынай мінулага, на аснове ўсяго вопыта нашай пятнаццацігадовай барацьбы за правядзенне партыйнай ленінскай лініі ў літаратуры, на аснове агромністых дасягненняў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва—ад індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі да „трыумфа (торжества) нацыянальнай культуры, пролетарскай, соцыялістычнай па зместу“. Нашы дасягненні ў галіне аднаўлення ўсёй народнай гаспарадкі, у галіне стварэння новай буйнейшай прамысловасці, якая не толькі ў 10 разоў перавышае, даваенную, але па сваёй прадукцыі перавышае прадукцыю сельскай гаспадаркі (гэта ў колішняй „лапцюжнай“, архі-адсталай „сялянскай“ Беларусі), рост індустрыяльнага пролетарыята і непараўнальны ўздым яго культурнага і палітычнага ўзроўню, нашы дасягненні ў галіне соцыялістычнай перадзелкі сельскай гаспадаркі, якая зараз механізацыяй (МТС, МТМ, с.-г. заводы) і арганізацыйнай работай вялікай партыі Леніна-Сталіна (палітаддзелы МТС і соўгасаў) замацавана назаўсёды на шляху комуністычнага развіцця—вось аснова, фундамент і жывіцельная сіла росту нашай совецкай беларускай літаратуры. У галіне гаспадарчай мы не толькі пабудавалі фундамент соцыялістычнай эканомікі (а значыць і фундамент усякіх надбудоў, у тым ліку і літаратуры), але вось ужо другі год ударна будуем, з большэвіцкай упартасцю авалодваючы тэхнікай, муры соцыялістычнай гаспадаркі—стварaем усё новыя і новыя элементы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, з тым, каб да канца другой пяцігодкі пабудаваць гэтае грамадства, ліквідаваўшы рэшткі капіталізма ў краіне.

Літаратура—адзін з важнейшых вагароў ліквідацыі капіталістычнай спадчыны ў свядомасці людзей - адстае ад агульных тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Дапускаючы некаторую вольнасць, можна сказаць, што мы ў літаратуры СССР толькі зараз закончылі фундамент,

* Справаздачны даклад Аргкамітэта Саюза совецкіх пісьменнікаў БССР першаму з'езду пісьменнікаў.

на якім разгорнутым фронтам можна будаваць літаратуру, роўную задачам другой пяцігодкі — літаратуру эпохі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Мы разбілі шмат класава-варожых (у нашых умовах шавіністычных) тэорый у літаратуры, мы выкрываем і дабіваем іх рэшткі і іх уплывы. Мы ў значнай ступені ачысцілі літаратурную арганізацыю ад класава-варожых нацыяналістычных элементаў. Мы дабіліся разумення соцыялістычнага рэалізма, як адзінага метада стварэння высокаякаснай пролетарскай літаратуры. Мы па-баявому паставілі барацьбу за якасць мовы і ўсёй літаратуры ў цэлым. Мы рабілі гэта рукамі ўсёй пісьменніцкай арганізацыі, выхоўваючы яе ў гэтай барацьбе і паднімаючы культурны, палітычны ўзровень шырокіх пісьменніцкіх мас.

Мы арганізацыйна стварылі „адточаны інструмант“ для выканання задач, пастаўленых перад літаратурай, — Саюз совецкіх пісьменнікаў, саюз майстроў мастацкага слова. Мы маем рад твораў, якія стаяць на высокім узроўні. Нарэшце, поспехі соцыялістычнага будаўніцтва, велізарнейшая ўвага з боку шырачайшых мас да літаратуры, сістэматычнае канкрэтнае кіраўніцтва партыі і таварыша Сталіна дае нам права сказаць, што мы і ў галіне літаратуры закончылі фундамант, на якім можна больш паспяхова і больш шырока будаваць соцыялістычную літаратуру. Справа за намі, за нашым уменнем, энтузіязма, за нашай арганізацыяй работы. Вось чаму асабліва важна праглядзець пройдзеныя шляхі, праглядзець, супроць каго і за што мы змагаліся, якія здабыткі мы маем у сваім актыве і што старое, капіталістычнае ёсць не толькі ў нашых радах, але ў творчасці, у метадах, у звычках, у традыцыях, у грамадскасці пісьменнікаў.

З'езд пісьменнікаў не толькі парад нашых дасягненняў (хаця яны і сапраўды вялізарныя), менш за ўсё парад—гэта агляд сіл перад наступам на рэшткі капіталізма на тым участку, які даверан нам нашым класам, нашай большэвіцкай партыяй. Пролетарская культура не з'яўляецца раптоўна, не даецца гатовай, яна ствараецца пролетарыятам на аснове авалодання ўсёй культурнай спадчынай, „пролетарская культура павінна з'явіцца законамерным развіццём тых запасаў ведаў, якія чалавецтва выпрацавала пад гнётам капіталістычна-памешчыцкага грамадства, чыноўніцкага грамадства“—гаварыў тав. Ленін. Гэта справядліва і ў адносінах да літаратуры.

Што мы мелі ў якасці буржуазнай літаратурнай спадчыны і як мы яе скарысталі, вытрусіўшы непатрэбнае нам і крытычна пераварыўшы здаровае, патрэбнае?

Разумеецца, вузка і няправільна было-б сказаць, што ў якасці літаратурнай спадчыны беларуская літаратура мае толькі прыгонніцкую паэзію Дуніна-Марцінкевіча, буржуазныя творы Багушэвіча, Ядвігіна Ш. часоў нараджэння і барацьбы за сваю ўладу маладой тады нацыянальнай буржуазіі, рэволюцыйна-дэмакратычную паэзію і прозу Коласа, Купалы часоў рэволюцыі 1905 года, нацыяналістычныя творы буржуазных і дробнабуржуазных пісьменнікаў (у тым ліку творы Купалы, Коласа, Бядулі, Гартнага і інш.—часоў рэакцыі 1907 г. і пазней). Сучасная беларуская літаратура можа выкарыстаць і выкарыстоўвае літаратурную спадчыну не толькі дакастрычніцкіх беларускіх пісьменнікаў, да рэчы—малую і ў значнай частцы абсалютна нізкую па мастацкіх якасцях (Чачот, Каганец, Неслухоўскі). Яна выкарыстоўвае спадчынку ўсёй рускай і сусветнай класікі. Недарма мы, разбіраючы пытанне соцыялістычнага рэалізма, спасылаемся на буржуазных рэалістаў часоў узыхода буржуазіі і барацьбы яе з феадалізмам, калі буржуазія была яшчэ перадавым, прагрэсіўным класам. Недарма мы

прыводзім шэкспіраўскую жывасць, уменне тыпізаваць герояў і абставіны іх дзеянняў—у прыклад нашым сучасным пісьменнікам. Недарма мы нашым навелістам раім вучыцца пабудове навел у Чэхава, а нашым майстрам вялікага палатна—раім скарыстоўваць усё багацце класікаў рускай дакастрычніцкай літаратуры. Асваенне (але не эпігонства) літаратурнай спадчыны мінулага—гэта галоўныя слупы, на якіх будуецца фундамент соцыялістычнай літаратуры. Я падкрэсліваю слова „не эпігонства“ таму, што на працягу доўгага часу пасля Кастрычніка—у беларускай літаратуры была, бытавала і прапагандавалася нацдэмамі лінія эпігонства буржуазнай літаратуры; якая перапляталася з лініяй заалагічнага нацыяналізма. Падымаючы на шчыт „прарадзіцеляў беларускасці“—Багушэвіча, Каганца, Багдановіча, нацдэмаўскія крытыкі і паэты—Дубоўкі і Пушчы, Бабарэкі, Ігнатоўскія і Гарэцкія—прышчаплялі беларускай літаратуры практыку голага наследвання не толькі нацыяналістычных ідэй іх, але і звязаных з гэтымі ідэямі мовы, вобразаў, тыпаў, тэматыкі стылю.

Гэта асабліва яскрава відаць пры аналізе нацдэмаўскай крытыкі. Прапаганда ідэі „адраджэнчаства“, класавай аднароднасці „беларускага народа“, адзінай беларускай душы“—і „ўласцівага“ ёй рамантызма ў іх творах ідзе поруч з падняццем на шчыт нацыяналістычнага мінулага і нацыяналістычных твораў пасля Кастрычніка—старэйшых беларускіх пісьменнікаў Купалы, Коласа, Бядулі, Гартнага,—з захвальваннем нацыяналістычных памылак моладзі, з замоўчваннем (тады, калі небяспечна было проста ахаяць) парасткаў новай пролетарскай літаратуры (М. Чарота, А. Александровіча і інш.).

Варта ўспомніць адзін выпадак з гісторыі барацьбы нашай пролетарскай літаратуры з нацыяналістамі. Гэта тое месца з паэмы асновапаложніка беларускай пролетарскай паэзіі—тав. Чарота, дзе ён падняў з возера—„таго, хто спаў адвечным сном“—„самаго князя“—сярэдневяковую фігуру—вобраз і сімбал нацыяналістаў ад літаратуры, які павінен быў уваасабляць ідэю „збіраценя зямлі беларускай пад гідай нацыяналістычнай буржуазіі“. Вы памятаеце арнаментоўку гэтага вобраза:

> Не ціхне бура. Стогне лес.
> На ўсе лады віхура свішча.
> Лясун стары к русалкам злез
> Спраўляць над возерам ігрышча.

Тав. Чарот свядома і знарок дае гэтую арнаментоўку вобраза князя, традыцыйную глуш, лес, міфалагічныя вобразы, якімі былі звычайна насычаны творы нацдэмаў. Робіць тав. Чарот гэта для ўзрывання знутры гэтых нацдэмаўскіх літаратурных вобразаў. Для гэтага Чарот у нацыяналістычна-сімвалічную арнаментоўку ўводзіць: чырвоны колер у іх хваль—чырвоны ад крыві з палёў грамадзянскай вайны, якая падняла нацыяналістычнага рыцара са дна возера.

> Не далі спаць. Вайна, агонь
> Руйнуе ўсю яго краіну...

Князь кліча сваю дружыну—„Твая дружына там з табой“—адказаў яму „русалак рогат“.

> А дзе паслушны мой народ?
> Ён за мяне у бойцы ляжа.
> І чуе шум крывавых вод:
> „Цяпер ён сам сабою княжыць“.

Мароз ідзе за скурай нацдэмаўскага рыцара (і рыцараў нацдэмізма ў жыцці).

І нічога не заставалася яму, як апусціцца зноў на дно, „заслаўшы возера туманам“.

Міхась Чарот паказаў нацдэмаўскі трафарэтны вобраз для таго, каб сказаць, што ён чужд паўстаўшаму пролетарыяту (які „сам сабой над краем княжыць“), як чужда яму ўся нацыяналістычная літаратура. З яшчэ большай сілай—у канцы паэмы, Чарот кідае нацыяналістычнай інтэлігенцыі:

А помніце, як вы кляліся
Братам, сялянам і рабочым.
Што вы не здрадзіце ніколі.
Пявун не прапяяў тры краты,
Вы адракліся...
Супастаты...

Ускрываючы мастацкую вобразную шырму нацдэмаўскай контррэволюцыі, тав. Чарот, разумеецца, выклікаў абурэнне нацыяналістаў. Ды і было ад чаго абурацца—пролетарская паэзія вуснамі Чарота заяўляла, што яна не толькі нараджаецца, але ўступае ў актыўны бой з нацыяналістычнай літаратурай. Бяда нацыяналістаў заключалася яшчэ і ў тым, што абурацца яны маглі толькі цішком, ці эзопаўскай мовай „навукова-крытычнай“ (на справе ілжэнавуковай) балбатні—пра анархічнасць „босых“, пра „сялянскасць“ паэзіі Чарота. Яшчэ большае шаленства ўзнёс у рады нацыяналістаў другі пролетарскі паэт Андрэй Александровіч, накіраваўшы ў варожы стан сваю паэму „Цені на сонцы“, у якой вывеў такія красачныя партрэты нацдэмаўскіх слупоў, што не толькі яны пазнавалі сябе, але іх пазнавала і совецкая грамадскасць. Такую-ж звярынную злосць і шалёнае супраціўленне выклікалі ў свой час пастаноўкі двух п'ес пролетарскіх пісьменнікаў—„Качагары“ т. Гурскага і „Гута“ т. Кобеца.

Нацдэмаўскія крытыкі, бачачы рост пролетарскіх пісьменнікаў, пусκаліся на простае жульніцтва, падтасоўку і перадзёргванне фактаў (напрыклад, залічваючы Чаротаву пяэзію ў разрад „сялянскай“), а нацдэмы—кіраўнікі НКА, Галоўмастацтва і Дзяржвыдата, пакладалі ўсе свае сілы, каб не даць магчымасці гэтым творам дайсці да шырокага чытача.

Нацдэмы падымалі на шчыт сялянскую ўбогую мову („прыгожая народная мова, народныя вобразы народны склад вершаў“ Каганца), узбагачэнне літаратурнай мовы бачылі толькі двума шляхамі: шляхам скарыстання пісьменнікам мовы сваёй бабкі, „якая ніколі з-за межаў вёскі не выходзіла“, і шляхам адраджэння архаічных слоў, якія зніклі з жывой сучаснай мовы і захаваліся ў архіўных дакументах. Буржуазныя нацыяналісты, прабраўшыся ў кіраўніцтва культурнымі ўстановамі (у тым ліку ў кіраўніцтве літаратурна-выдавецкай справай), тварылі тую-ж контррэволюцыйную справу, што і Прышчэпаў у НКЗ, Баліцкі ў НКА, Ігнатоўскі ў Акадэміі навук,—насаджэнне „самабытнага“ (г. зн. буржуазна-нацыяналістычнага) развіцця Беларусі, адрыў яе ад Совецкага саюза, арыентацыя на буржуазны Захад. І калі Прышчэпаў па „дацкаму ўзору“ стараўся перетварыць Беларусь у хутаранскую, знішчаючы соўгасы і ўсімі сродкамі затрымліваючы калектывізацыю і нават машынізацыю сельскай гаспадаркі—разумеецца такую машынізацыю, якая садзейнічала калектыўным формам работы, напрыклад, трактарызацыю,—то Зарэцкі захваляў гэтую кулацкую „новую зямлю“. Калі правакатар і шпіон Ігнатоўскі фальсіфікаваў гісторыю, то гэтую фальсіфікацыю ўцеляснялі ў мастацкай літаратуры і тэтральных паказах асобныя пісьменнікі (п'есы „Кастусь Каліноўскі“, „Апраметная“, „Тутэйшыя“).

Гэты этап—этап найбольш адкрытых форм нацыяналізма—пройдзены. Нацыяналісты, з адкрытым забралам і з іезуіцкай маскай лаяльнасці—выкрыты, разаблачоны і атрымалі па заслугах. Буйнейшыя пісьменнікі, якія доўгі час былі ў палоне нацыяналізма, падтрымлівалі нацыяналістычную лінію развіцця літаратуры, былі глашатаямі ідэй нацыяналізма,—пераглядзелі свой творчы і палітычны шлях і, уключыўшыся ў практыку соцыялістычнага будаўніцтва, сталі на шлях актыўнага падтрымання платформы совецкай улады. Разгром нацыянал-дэмакратычнай арганізацыі ў 1929-30 г., значная ачыстка літаратурнай арганізацыі ад нацыяналістычных элементаў у 1932 г. (пасля нахабнай вылазкі нацдэмаў Нікановіча, Сідарэнкі і інш.), раскрыццё і ліквідацыя контррэволюцыйнай шайкі „паслоў"—гэтыя сакрушальныя ўдары нашай партыі па нацыяналізму і нацыяналістычнай лініі ў літаратуры,—у асноўным ліквідавалі гэтую кулацкую лінію. І хаця вораг жывучы, хаця ён спрабуе знайсці новыя маскі і на асобных участках, у тым ліку і ў літаратуры, будзе прабаваць актывізавацца,—мы на першым Усебеларускім з'ездзе пісьменнікаў павінны адзначыць гэтую перамогу над нацыяналізмам, як адно з велізарнейшых дасягненняў.

Куды вяла беларускую літаратуру лінія нацдэмаў?

1. Да адрыву ад сучаснаснасці, у сярэдневечча па тэматыцы, вобразах і мове. „Абратны ход"—у гісторыю пры велізарным руху наперад рабочых і сялян з кожным часам павялічваў-бы разрыў паміж пісьменнікамі і працоўным чытачом. Нават тады, калі-б падобная літаратура не была адкінута, як непатрэбная масам і шкодная, яна аказалася-б здабыткам толькі выміраючай часткі грамадства—г. зн. капіталістычных элементаў. А мы добра ведаем, што гэты адрыў ад сучаснасці, гэты адыход у сярэдневечча меў зусім сучасныя задачы: ён быў шырмай сугуба-сучаснай барацьбы нацыяналістаў супроць палітыкі і практыкі партыі і пролетарыята. Гэта была літаратурная атрута, якая, па думцы нацыяналістаў, павінна была сцвярджаць іх ідэалогію, рыхтаваць ім кадры. Нядрэмлючае вока дыктатуры пролетарыята,—наша партыя выкрыла гэты манеўр ворага.

2. Да аголенага звярынага нацыяналізма, г. зн. на той шлях, на якім зараз агнём і дубінай арудуюць гітлераўскія малайцы. А „культурныя поспехі" і „заслуга перад чалавецтвам" (якая заключаецца ў знішчэнні амаль усіх культурных каштоўнасцей, што набыты чалавецтвам) гітлераўскіх „расістаў"—агульнавядома. Яны не выклікаюць спагады не толькі ў працоўных, але і ў больш сумленнай часткі буржуазнай інтэлігенцыі: агідныя, антычалавечныя не толькі метады іх работы, але і ідэі, і мэты.

3. Да падтрымання і насаджэння ідэалогіі класа, гісторыяй прыгаворанага да знішчэння. Вопыт літаратур—зарубежна-рускай, літоўскай, латвійскай, вопыт літаратур усіх буржуазных краін—паказвае, што гэты шлях—шлях гніення, мерзасці і запусцення. Арыентацыя на Захад, што высоўвалі нацдэмы, як адзіны шлях увахода беларускай літаратуры ў сусветную літаратуру—апрача таго, што такая арыентацыя была літаратурнай шырмай інтэрвенцкіх планаў нацдэмаўшчыны яна фактычна была паказам шляху на могільнік, закіданы гніючымі і смуроднымі трупамі.

Варта ўспомніць лёс нацыянал-фашысцкай літаратуры Заходняй Беларусі. Нацыянал-фашысты не змаглі высунуць ніводнага колькі-небудзь вядомага імя ў літаратуры, не змаглі даць ніводнай мастацкай рэчы. Лёкаі абшарніка-пана і жандара-акупанта вымушаны гаварыць дэмагагічныя нацыяналістычныя пропаведзі, заклікаць „Прачніся,

крывіч!" (вершы Бярозкі),—абстаўляючы свой заклік усімі атрыбутамі папоўшчыны. Другі нацдэмаўскі „салавей"—Машара—дае паміма сваёй волі характарыстыку творчага тупіка літаратуры нацдэмізма:

У гэтым моры цемры і адчаю
Чую я, чую я голас другі... *

Пра тое, што ён чуе нейкі голас (аж да голаса Хрыста) нацдэмаўскі салавей мог зманіць, а вось наконт мора цемры і адчаю—гэта можа і верна, мусіць верна. Паняволі прыдзеш да адчаю, калі нават за золата ахранкі не ўдаецца выцiснуць з сябе пару прылічных радкоў, якія былі-б і панам-жандарам да спадобы і працоўныя масы іх зразу разаблачыць бы не змаглі. Піск нацдэмаўскіх літаратараў, гэта пыхлівае кваканне лягушак у гнілым і смярдзючым балоце нацыяналізма і здрады.

Не пайшла і не пойдзе па гэтаму шляху беларуская савецкая літаратура. Яна знайшла пад кіраўніцтвам КП(б)Б верны шлях у сусветную літаратуру, як частка ўсесаюзнай літаратуры—перадавой літаратуры света.

Аднак, ці ўсё „радзімыя пятны капіталізма" ўдалося ліквідаваць за гэтыя гады ў літаратуры? Ці ўдалося знішчыць усе налёты нацыяналізма і яго атрутнай прапаганды пасля гістарычнай пастановы ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. і пастановы ЦК КП(б)Б ад 27 мая 1933 года? На жаль, не ўсё, далёка не ўсе.

Перад першым з'ездам Саюза пісьменнікаў БССР Аргкамітэт павінен сказаць, што барацьба супроць рэштак нацыяналізма ў літаратуры разгарнулася ў нас сапраўды шырока толькі пасля вядомай ўсім пастановы ЦК ад 27 студзеня 1933 г., у якой ЦК КП(б)Б асудзіў гніла-ліберальныя адносіны Аргкамітэта да нацыяналістычных элементаў у літаратурным руху і прытупленне класавай пільнасці рада работнікаў літаратурна-выдавецкай справы. Ды і то на першых парах гэтага барацьба абмяжоўвалася выкарчоўваннем найбольш адкрытых вылазак нацыяналістаў, без патрэбнай паглыбленай расчысткі савецкай беларускай літаратуры ад нацдэмаўскага захламлення. Кажучы вобразна, мы высякалі і выкарчоўвалі нацыяналістычны хмызняк і гнілыя пні, якія перашкаджалі нашаму руху, але не зварочвалі ўвагі на атрутныя і чужаедныя расліны і пырнікі, якія засмечваюць культурнае поле савецкай літаратуры. Толькі ў апошні час, перад з'ездам мы пачалі такую ачыстку. З'езд павінен зрабіць яе яшчэ больш глыбокай.

З'езд павінен яшчэ большую ўвагу пісьменнікаў сканцэнтраваць на пытанні барацьбы за ачыстку літаратурнай мовы ад нацдэмаўскага хлама, за ачыстку літаратуры ад рэштак нацыяналістычных вобразаў, ад сантыментальна-васільковатага стыля, ад вясковага ўбогага сюжэту, ад слязлівага аплаквання з'яў нашай сучаснасці, ад сялянскі мелкага бытаапісацельства. А гэтыя „перлы" так шчодра і багата прывіваліся нашай беларускай літаратуры нацдэмаўскімі „кіраўнікамі" літаратуры і крытыкамі, што мы і зараз яшчэ не змаглі ад іх вызваліцца цалкам і поўнасцю. Яны з'яўляюцца агромністым, грузам, які можа абцяжарыць нас у нашым уздыме на новую ступень. Разбіць іх дашчэнту на канкрэтным матэрыяле нашых апошніх (ды і папярэдніх) твораў—гэта значыць ліквідаваць адзін з асноўных тармазоў нашага руху наперад, гэта значыць аказаць вялікую дапамогу пісьменніку, асабліва маладому пісьменніку, які зачастую некрытычна наследуе замаскаваныя парады нацдэмаў праз літаратуру, слоўнікі, падручнікі.

* Цытую па газеце „ЛІМ".

А як зараз абстаіць справа з гэтымі формамі буржуазных уплываў у нас у літаратуры?

Возьмем некалькі прыкладаў.

Нельга зараз чакаць, што класавы вораг і яго ідэолаг выступіць з простай заявай, скажам, аб заходняй арыентацыі, як гэта рабілі ў свой час нацдэмаўскія крытыкі з „Узвышша“. Шукаць такога нацдэма ў літаратуры—гэта ўсёроўна, як шукаць зараз у калгасе кулака з клыкамі і абрэзам. Класавая барацьба прымае больш складаныя і больш тонкія формы. Кулак маскуецца пад салодзенькага, ціханькага чалавека, які ніжэй травы, цішэй вады, які за калгасы, за збожжанарыхтоўкі, за план, але які ціхай сапай робіць усё для таго, каб узарваць калгас з сярэдзіны, сарваць планы і нарыхтоўкі. Маскуецца ідэолаг кулака, вольны ці нявольны, і асабліва маскуецца ён у літаратуры. І калі вы ўважліва прачытаеце Юрку Віцьбіча, (хаця-б такія апавяданні, як „Лшона габоо бірушалаім“, „Смерць Ірмы Лаймінг“, „Крыж Габрыэля Каўкі“, „Янак Гай“ і інш.)—вы ўбачыце, што пры паказе нянавісці да польскіх акупантаў, акая безумоўна ёсць у Віцьбіча—у яго ўсё-ж панує жаль па старынных дваранскіх замках, па шырокім шляхецкім жыцці, па касцельным звоне. Недарма залівае сум, спакойны, усепраглынаючы, непазбыўны сум, паказ Віцьбічам сялянскага бунта ў Заходняй Беларусі („Крыж Габрыеля Каўкі“). Так і здаецца, што Віцьбічавы званы „па душах змарлых“ адбіваюць славутае: „Так было, так будзе“. Больш таго,—замілаванне замкам каралевы Ванды. Трагічнасць смерці ксяндза Вайноўскага, шляхціча Галькеевіча, дваранкі Ірмы Лаймінг—усё гэта непаддзельны для Віцьбіча сум па беззваротна—на нашу радасць—мінуламу, якое, на жаль, яшчэ існуе на буржуазным Захадзе. Адсюль зусім зразумелы паланізмы ў творах Віцьбіча, зразумелы і архаізмы. Нельга, вядома, прыпісваць Віцьбічу таго, чаго ў яго няма: ён не ідэалізуе сучасны Захад, ён бачыць нацыянальны і часамі соцыяльны ўціск у Заходняй Беларусі, у бужуазнай Латвіі, ён абураецца супроць гэтага ўціску. Аднак гэта абурэнне „ад розума, а не ад сэрца“. Ад цёплых і мастацка-высокіх месц—дзе Віцьбіч піша пра старажытнасць, пра тое над чым ён сумуе і што блізка яму—да зрываў, да голай рыторыкі, да разважлівага дыялога ў тых мясцах, дзе пачынаецца „совецкая ідэалогія“ (гл. канец „Ціхай Рубы“). Я не хачу аналізаваць—аб'ектыўна ці суб'ектыўна прыносіць шкоду Віцьбіч сваімі творамі, сваім „замілаваннем“ бандытамі („Янак Гай“, „Лшона габоо бірушалайм“). Адно ясна, што праз вокны зрываў Віцьбіча гаворыць класавы вораг, у нашых умовах апрануты ў нацыяналістычную вопратку. Гэта трэба поўным голасам сказаць на з'ездзе пісьменнікаў таму, што Віцьбіч не зразумеў нашай крытыкі яго памылак, зашыўся ў куток і адседжваецца,—гэтым самым падкрэсліваючы невыпадковасць сваіх памылак. Мы павінны перад Віцьбічам паставіць пытанне: або поўнае прызнанне сваіх памылак і поўнае раззбраенне, або Віцьбіч перастане быць совецкім пісьменнікам.

На прыкладзе Віцьбіча мы бачым, з якой уважлівасцю, з якой цярплівасцю наша партыя адносіцца да пісьменніка—хай сабе не вялікага, хай сабе пачынаючага нават тады, калі яго памылкі ў шмат разоў перавышаюць яго здольнасці, як цярпліва наша партыя дае яму ўсе магчымасці выправіцца, стаць карысным пролетарыяту. Ад Віцьбіча зараз залежыць: ці стаць савецкім пісьменнікам, ці павярнуцца ў лагер класавага ворага—з усімі вынікамі, якія з гэтага выцякаюць.

Зусім інакшае мы бачым у тов. Шынклера, і гэта яшчэ раз падкрэслівае наш тэзіс, што памылкі тав. Шынклера маюць зусім дру-

гія карэнні, чым памылкі Віцьбіча. Калі ў „Сонца пад шпалы“ было 339 правінцыялізмаў (па падліку Віцьбіча), дык у „Запісках інструктара Томана“ іх засталося вельмі мала; мова стала абсалютна зразумелай, радок, захоўваючы ўласцівы Шынклеру стыль, стаў значна больш дынамічным і простым. А змест і вобразы тав. Шынклеру мяняць і не было патрэбна: яны і ў „Сонца пад шпалы“ былі нашы, совецкія. У гэты-ж час Віцьбіч, нават у „Пейзажы Клода Лорэна“— поўнасцю захаваў цяжкую мову, незразумелую звычайнаму сярэдняму чытачу, хаця фармальна ён вызваліўся таксама ад многіх правінцыялізмаў і архаізмаў.

Па лініі эпігонства нацыянал-буржуазнага адлюстравання совецкай рэчаіснасці пайшоў і другі малады, але ўжо не таленавіты, пачынаючы пісьменнік Зазека. У сваёй аповесці „Хто ваш бацька?“, як і ў радзе апавяданняў („Не ўдалося“, „Сіла маладосці“) ён, апрача таго, што піша незразумелай мовай, прадстаўляе свае старонкі ў поўнае распараджэнне класава-варожым элементам, якія адчуваюць (разумеецца, па волі аўтара) там сябе, як дома: сыплюць антысовецкія афарызмы, рысуюцца сваёй сілай. Нізкая культура аўтара (не гледзячы на тое, што ён увесь час пыжыцца паказаць сваю культурнасць, перасыпаючы ўсю сваю аповесць будаўнічымі тэхнічнымі назвамі і тырадамі з падручнікаў па архітэктуры), пераверзеўская ўстаноўка, што вобраз жыве паміма аўтара і аўтар за яго не адказвае—паміма суб'ектыўнага жадання Зазекі, ставяць яго ўжо з першых крокаў на літаратурным шляху ў рады шкодных літаратараў.

Да рэчы, мы адчуваем яшчэ адну небяспеку ў творчасці маладых пісьменнікаў, якая можа разрасціся ў небяспеку скажонага паказу нашай рэчаіснасці. Так, маладыя пісьменнікі Пасканнеў і Манцэвіч у пагоні за напружанасцю палажэнняў і канфліктаў дапускаюць такі паказ класава-варожага нам, які выклікае мімаволі спачуванне яму з боку абывацельскай часткі чытачоў. Падобны паказ становіцца такім чынам ідэалагічным стрыжнем, мабілізуючым адсталыя часткі насельніцтва ў іх супраціўленні справе „ліквідацыі перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей“. Вельмі станоўчым з'яўляецца тое, што тав. Пасканнеў і Манцэвіч свядома і хутка пайшлі на выпраўленне сваіх памылак (Пасканнеў—пасля апавядання пра ляснічага з арганічнай тэорыяй грамадства даў два апавяданні, не маючыя палітычных памылак. Манцэвіч—пасля ўказанняў тав. Чорнага выправіў сцэну раскулачвання).

Аднак, калі мы гаварылі пра гэтыя небяспекі і „атавізмы“ буржуазных метадаў адлюстравання рэчаіснасці ў моладзі, якія больш-менш лёгка адсячы (у паасобных выпадках—разам з аўтарамі, мы не буржуазныя гуманісты і партыйнасць нашай літаратуры з'яўляецца непарушным прынцыпам), дык не трэба забываць, што нацыяналістычныя і буржуазныя ўплывы спатыкаем мы не толькі ў моладзі. Прынамсі—спатыкалі ў недалёкім мінулым.

Возьмем к прыкладу тав. Зарэцкага. З'яўляецца агульна ўстаноўленым, што ў сваім мінулым тав. Зарэцкі стаяў на няправільных пазіцыях—не толькі ў сэнсе ідэалогіі сваіх твораў, але ў адпаведнасці з гэтым і ў сваім творчым метадзе, у адборы тэматыкі, вобразаў, герояў, нават у арыентыроўцы на чытача. Яго герой—лішні чалавек, інтэлігент, не прыстасаваны да сучасных совецкіх умоў, але ён па-звярынаму хоча жыць. Яго мараль і дзейнасць падначалены гэтаму прынцыпу. Разумеецца, такі чалавек немінуча прыдзе да канфлікта з совецкай рэчаіснасцю. Рамантызаваны лішні чалавек у гэтым канфлікце падаваўся тав. Зарэцкім такім чынам, што ён не можа не

выклікаць да сябе вядомай долі спачування. Закранаючы струны „ветхага Адама“ ў сучысным чалавеку, тав. Зарэцкі сваімі вобразамі і творчым метадам не заклікаў наперад, а цягнуў назад. На нашу думку, тав. Зарэцкі зараз зразумеў памылковасць сваіх пазіцый і хаця павольна, але з яўным жаданнем (паказальна ў даным выпадку п‘еса „Сымон Карызна“) перабудоўваецца, мяняючы не толькі героў, але і тэматыку сваёй творчасці. Мы шмат чаго чакаем у гэтым сэнсе ад новага твору Зарэцкага на матэрыялах Касцюкоўскага шклозавода.

Падобную-ж памылку буржуазна-рамантычнага парадку ў свой час зрабіў тав. Мурашка ў аповесці „У іхным доме“, а калі дадаць да гэтага тыя моцныя налёты сантыменталізма, якія мы ў свой час адзначалі на пленуме Аргкамітэта ў яго творы „Сын“ (сантыментальны пейзаж—стар. 85—161, „ап‘яняючай“ любоў—стар. 166 і інш., меладраматызацыя смерці Ігнася і Ларысы, стар. 396)—дык сам сабою напрошваецца вывад, што тав. Мурашка, які ў свой час актыўна змагаўся супроць нацдэмаўшчыны—не толькі публіцыстычнымі выступленнямі, але і сваёй творчасцю (раман „Сын“ востра накіраваны супроць нацдэмаўскіх тэндэнцый)—не пазбаўлен у гэтых творах уплываў дробнабуржуазнай ідэалогіі. Супроць гэтых уплываў ён павінен жорстка і рашуча выступіць сваёй сучаснай творчасцю.

Тое-ж самае трэба сказаць і пра тав. Гурскага, які скарыстаў у п‘есе „Маці“ заштампаваны нацыяналістамі вобраз вясковай дзяўчынкі Алеські, непатрэбны ў п‘есе і ні ў якім разе не ўскрыты т. Гурскім. Падобнае скарыстанне пісьменнікамі штампаваных вобразаў нацыяналістычнай літаратуры асабліва часта сустракаецца ў творчасці маладых пачынаючых пісьменнікаў, якія гола наследуюць, не крытычна ўспрымаюць літаратурную спадчыну, аж да так званага „васількавага стыля“. Пісьменнікі, вядома, памятаюць навелу М. Багдановіча „Апокрыф“—пра хрыста, які хадзіў „па Меншчыне, Віленшчыне, Магілеўшчыне і Задзвінскай зямлі“ і вызначыў месца паэта ў грамадстве—як не звязанага з соцыяльным жыццём музыкі і васілька ў жыцці, які хаця і шкодны, але аздабляе выгляд поля. Музыкальна ўзнесены, хоць пусты па сутнасці, узяты спецыяльна для лірычнага аздаблення літаратурнага палатна, сялянскі па лексіцы,—гэты стыль часамі яшчэ сустракаецца не толькі ў паэтаў, але і ў празаікаў.

Так абстаіць справа з нацыяналістычнай плынню ў літаратуры, з разбітымі, але недабітымі яе рэшткамі і карэннямі цяпер. Я падкрэсліваю яшчэ раз, што барацьба з нацыяналізмам у літаратуры не скончана, як не скончана барацьба з кулаком, з рэшткамі разбітых эксплаататарскіх класаў у краіне. Больш таго, новы этап соцыялістычнага будаўніцтва—этап поўнай ліквідацыі капіталістычных элементаў, як правільна ўказаў тав. Сталін,—будзе суправаджацца яшчэ большым абвастрэннем класавай барацьбы. Мясцовыя беларускія нацыяналісты, прадстаўляючыя галоўную небяспеку для Беларусі на даным этапе—будуць спрабаваць пад рознымі маскамі працягнуць сваю ідэалогію ў літаратуру. Тым больш, што нацыяналісты бачаць, як з кожным годам надзеі на ўнутраную апору контррэволюцыі змяншаюцца, у сувязі з чым адпаведна павялічваецца іх работа па арганізацыі сіл інтэрвенцыі—гэта значыць сувязь з ваяўнічым фашызмам. Для нас павінна быць яснай лінія ворага ў літаратуры.

Гэта лінія ішла:

па лініі кадраў—прасочванне ў літаратурныя гурткі прадпрыемстваў і навучальных установ (найменш абароненае намі месца, дзе ворагу лягчэй за ўсё прапагандаваць свае ідэі). Такія выпадкі мы мелі на заводзе „Комунар“. Такія выпадкі мы маем у Магілеве, дзе

ходзяць падпольна вершы і вершыкі антысовецкага зместу. Такі выпадак у гэтым годзе мы маем у ВПІ, дзе група маладых пісьменнікаў, у тым ліку Маракоў і Юрка Лявонны, удзельнічалі ў напісанні палітычна шкодных вершыкаў;

па лініі тэматыкі і вобразаў: гіпербалізацыя сілы класавага ворага, паказ трагічнасці „жертвенности" рэштак разбітага намі класа, дача трыбуны класаваму ворагу са старонак літаратурных твораў, хаця-б пад маскай „адмоўных тыпаў", якія гінуць—пераможаныя сілай рэволюцыі[1], ідэалізацыя фашызма (хаця-б у форме смакавання бандыцкіх нападаў), упадніцтва, багемшчына, эротыка, псіхокапацельства;

па лініі творчых метадаў і спецыфікі літаратуры. Буржуазны рамантызм, падфарбаваны ў вадзяніста-чырвоны колер, голы натуралізм у адлюстраванні „задняга двара рэволюцыі", голая рыторыка, нават ультра-рэволюцыйная, якая павінна дыскрэдытаваць совецкае мастацтва, засмечванне мовы кулацкімі правінцыялізмамі, архаізмамі, паланізмамі і новатворамі нацыяналісцкага тыпу.

Ведаць небяспеку—значыць падрыхтавацца да адпору, да знішчальнага ўдара па ёй. Ведаць лінію ворага—значыць вызначыць сваю лінію адпора і знішчэння пошукаў ворага. Ведаць сілу і небяспеку ворага—гэта значыць узмацніць сваю класавую пільнасць і непрымірымасць.

Некаторым здаецца, што адсутнасць у апошні час класава варожых вылазак у літаратуры—ёсць адзнака ліквідацыі нацыяналістычных і дробнабуржуазных элементаў. Гэта далёка не так. Гэта азначае толькі, што ўзмацнілася наша партыйная пільнасць, што мы больш зорка стаім на варце партыйнасці нашага друкаванага слова, што класавы вораг адчувае націск не толькі партгрупы пісьменнікаў, але націск грамадскай думкі ўсёй пісьменніцкай арганізацыі, усіх асноўных, найбольш кваліфікаваных пісьменнікаў, якія свядома і горача падтрымлівалі і падтрымліваюць усе мерапрыемствы партыі і ўлады па барацьбе з нацыяналізмам, па ліквідацыі рэштак капіталізма. Але вораг не толькі труслівы, ён нахабны, малейшае паслабленне класавай пільнасці ён скарыстае для барацьбы з лініяй партыі ў літаратуры, ён скарыстае палітычную няўстойлівасць, палітычную малапісьменнасць асобных пісьменнікаў, каб пранікнуць у літаратуру, сказаць сваё слова іх вуснамі.

Што мы проціпаставілі нацыяналістычнай плыні ў літаратуры на працягу гэтых пятнаццаці год і асабліва пасля разгрома нацыяналістаў? Мы проціпаставілі ёй—пачынаючы з Кастрычніка на Беларусі, партыйную большэвіцкую лінію ў літаратуры. Пачынаючы з такіх пролетарскіх твораў, як „Босыя на вогнішчы" Чарота, „Цені на сонцы" Александровіча, „Спалох на загонах" Галавача і канчаючы творамі рада пісьменнікаў, якія ўсё больш і больш набліжаюцца да пролетарыята: „Бацькаўшчына" Чорнага, „Канец дружбы" Крапівы і інш., наша партыя, спачатку сіламі комуністаў—пісьменнікаў, а потым усё больш і больш аб'ядноўваючы навакол комуністаў лепшых беспартыйных пісьменнікаў,—біла і б'е нацыяналістычныя канцэпцыі ў літаратуры, ствараючы сваю совецкую пролетарскую літаратуру. Пад кіраўніцтвам партыі пісьменніцкая арганізацыя БССР проціпаставіла нацдэмаўскаму вобразу „маці-Беларусі" совецкую індустрыяльна-калгасную Беларусь, частку Совецкага саюза—бацькаўшчыны пролетарыяў усіх краін. Вершамі Александровіча, Харыка, Броўкі, раманам і п'есай „Бацькаўшчына", у значнай ступені п'есай Гурскага „Маці"—узарваны і знішчаны вобраз „маці-Беларусі". З. Бядуля ў „Язэпе Крушынскім", Гурскі ў „Маці", Вольны і Барашка ў новых сцэнарыях паказалі, як і за якую „маці-Беларусь" змагаліся нацдэмы—цэпныя

сабакі інтэрвенцыі, рыцары бізуна і шыбеніц. Васпяваннем сучаснай Беларусі, параўнаннем яе з прыгнечанай Заходняй Беларуссю, васпяваннем і адлюстраваннем нашага будаўніцтва, якое ідзе ў шчыльнай сувязі і пры дапамозе Совецкага саюза, васпяваннем Совецкай Беларусі—дружнай сям'і працоўных усіх нацыянальна.цей, гераічна змагаючыхся за соцыялізм на заходнім фарпосце Саюза Саветаў,—нашы паэты, нашы пісьменнікі сцвярджаюць сапраўдную любоў да нашай бацькаўшчыны, пролетарскай Совецкай Беларусі. Яны абуджаюць не квасны, прадажніцкі патрыятызм іудушак-нацдэмаў, а такую любоў да бацькаўшчыны працоўных, якая заражае энтузіязмам не толькі на будаўніцтва, але і на сталёвую абарону краіны ад любога ворага, які спрабаваў-бы пасягнуць на заваёвы Кастрычніка. Не кулацка-хутаранскую, не нацыяналістычную, не тую, якая знаходзілася-б пад уладай замежнага капітала—мы любім і васпяваем індустрыяльна-калгасную Беларусь, неадлучную частку Совецкага саюза. Не „маці" капіталістычнай нацыяналістычнай інтэлігенцыі і кулацтва (гэта калі „маці" была-б шалёнай мачыхай працоўных), а сапраўдную бацькаўшчыну пролетарыяў—БССР (тады яна стала і будзе надалей непахісным і непадкупным ворагам эксплаататараў і нацыяналістаў)—мы любім і будзем абараняць не толькі мастацкім словам, а, калі трэба, і зброяй ад заходняга фашызма і ад „самабытнага" кулака і нацдэма.

Літаратура БССР проціпаставіла арыентацыі на захад—правільны паказ буржуазнага захада і арыентацыю—адкрытую і поўную—на пролетарскую Маскву. Такімі кнігамі, як „Тэорыя Каленбрун" Самуйлёнка, „Дрыгва" Коласа, асобнымі часткамі п'еса „Канец дружбы" Крапівы—літаратура БССР яшчэ раз паказала, што нясе працоўным заходняя арыентацыя. Тав. Самуйлёнак паказаў у „Тэорыі Каленбрун" (тэорыя фашысцкага маёра ўзарваць ВКП(б) з сярэдзіны, шляхам перакідкі, пад відам рэволюцыянераў, агентаў дэфензівы на тэрыторыю Совецкага саюза)—не толькі звярыны твар нашых ворагаў—тых, хто з'яўляецца саюзнікам нацдэмаў, але паказаў і нашых саюзнікаў, падпольныя комуністычныя арганізацыі, здольныя не толькі выкрыць і адвесці небяспеку ад Совецкага саюза, але, калі гэта будзе трэба, павярнуць зброю супроць нашых супольных ворагаў. Тав. Зіскінд Леў у сваёй п'есе „Паўстанне жняцоў" паказаў тую сілу—інтэрнацыянальную салідарнасць падняўшыхся супроць сваіх прыгнятальнікаў, якая з'яўляецца не толькі нашай надзеяй, але стане нашай апорай у выпадку нападу на нас узброенага ворага. Тав. Кавальскі—паэмай „Чалавек з Альтоны" даказаў, што фізічнае знішчэнне фашызмам асобных комуністаў не знішчае комунізма, гэты дынаміт, які ўзарве і знішчыць фашызм. Тав. Галаўчынер—п'есай „Великодушие"—уваскрасіў геройскія вобразы Парыжскай комуны, чые гераічныя сцягі рэюць зараз над $1/6$ часткай света, у краіне соцыялістычных Саветаў.

Я прывёў апошнія творы на чатырох дзяржаўных мовах БССР, як прыклады нашага паказу Захада, у процівагу нацдэмаўскай „заходняй арыентацыі". Наладжванне цеснай брацкай сувязі з пісьменнікамі СССР (рускімі, украінскімі, мардоўскімі, малдаўскімі, грузінскімі, Заходняй вобласці), актыўная дапамога рускіх пісьменнікаў (асабліва беларускай брыгады Усесаюзнага аргкамітэта на чале з тав. Бахмецьевым), персанальная ўвага да нацыянальных літаратур з боку старшыні Усесаюзнага аргкамітэта Аляксея Максімавіча Горкага і ўсяго аргкамітэта ў цэлым—дала совецкай беларускай літаратуры агромністую сілу для ачысткі ад нацдэмаўскага груза, агромністую дапамогу ў справе насычання літаратур пролетарскім баявым інтэр-

нацыяналізмам, агромністую дапамогу ў справе мастацкага росту. Гэта дало магчымасць савецкай літаратуры БССР стаць часткай усесаюзнай літаратуры не толькі па арганізацыйнай адзнацы, але і па сутнасці. Савецкая літаратура БССР супроцьпаставіла нацдэмаўскай нацыянальнай абмежаванасці—не толькі інтэрнацыянальны змест сваіх твораў, але пашырэнне тэматыкі. Уключэнне такіх аб'ектаў, як Магнітабуд, як Беламорска-Балтыцкі канал, у якасці тэматыкі твораў—гэта першыя крокі на шляху выхада беларускай літаратуры на шырокую арэну ўсесаюзнай літаратуры нават па тэматыцы.

Савецкая літаратура БССР супроцьпаставіла нацдэмаўскай сялянскай абмежаванасці, слязліваму аплакванню балот і зязюлек—паказ індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Дастаткова напомніць купалаўскую „Над ракой Арэсай"—адну з лепшых паэм народнага паэта рэспублікі, які на вопыце комуны БВА змог з вялікай эмоцыянальнасцю і майстэрствам даць бой нацдэмаўскаму гнілому ныццю над балотамі і паказаць, на што здольна большэвіцкая сіла і напорыстасць. Тав. Колас у аповесці „Адшчапенец"—панoваму паказаў вёску, якая прышла ў новую эпоху свайго жыцця, у эпоху калектывізацыі. Па-новаму паказалі вёску тав. Крапіва ў „Мядзведзічах" і тав. Лынькоў у „Чырвоных лядах"—паказалі класавае расслаенне ў ёй, паказалі сапраўдныя сілы, якія выводзілі вёску з ідыятызму вясковага жыцця, на новы, светлы шлях. Я не кажу ўжо пра „Спалох на загонах" Галавача, „Векапомную восень", „Хлебную зіму" Александровіча і рад другіх рэчаў комуністаў-пісьменнікаў, у якіх па-новаму гучыць наша беларуская вёска, рэалістычна, мастацкі адлюстраваная беларускімі пісьменнікамі.

„Напор" тав. Александровіча, „Каландры" Броўкі, „Сонца пад шпалы" і „Запіскі інструктара Томана" Шынклера, „Біяграфія майго героя" Знаёмага, „Шоўк" Доўгапольскага, апошняя частка рамана „Дужасць" Мілуліча—вось хай яшчэ недастатковы, але важкі фонд нашай індустрыяльнай тэматыкі, кінуты савецкай беларускай літаратурай у бой супроць сялянскай абмежаванасці літаратуры.

Адных гэтых прыкладаў нам дастаткова, каб паказаць агромністы рост савецкай беларускай літаратуры, які дае нам—першаму Ўсебеларускаму з'езду пісьменнікаў—права сцвярджаць, што мы непамерна выраслі, асабліва за апошнія два гады, ва ўсіх адносінах, выраслі так, што можам ставіць перад сабою яшчэ больш грандыёзныя задачы з поўнай надзеяй на поспехі.

Асноўнай умовай нашага далейшага росту з'яўляецца барацьба за якасць. Якое-ж становішча ў нас у гэтай справе?

Пад якасцю літаратуры мы разумеем:

а) глыбокае ідэйнае насычэнне твора (палітычна-правільная ідэя, своечасовасць яе прапаганды, філасофскае абагульненне з'яў сапраўднасці, ці на аснове абагульнення гэтых з'яў перспектыўны погляд на будучае);

б) рэалістычнае адлюстраванне сучаснасці, ці мінулага, з правільным паказам расстаноўкі класавых сіл і перспектыў іх развіцця;

в) цікавасць твора (сюжэтнасць, глыбокая назіральнасць аўтара, якая выліваецца ў адборы найбольш тыповага, мастацкі вымесел, які дае магчымасць завастрыць канфлікты);

г) павучальнасць твора (абагульненне сапраўднага жыццёвага вопыта, пабудова твора на навуковай аснове);

д) мастацкасць мовы.

Калі мы падыходзім з такой меркай да маючыхся ўжо твораў савецкай беларускай літаратуры—мы маем поўнае права сцвярджаць,

што нашы дасягненні ў параўнанні з ранейшымі гадамі вялікія, хаця і не такія, якія маглі-б нас і нашага чытача задаволіць.

Сапраўды так. Возьмем буйнейшыя творы апошніх двух год.

Я бяру „Дрыгву“ Якуба Коласа і раўняю яе са зборнікам апавяданняў пра грамадзянскую вайну. Якія ідэі ўкладваліся ў апавяданні: 1) сялянства не хоча вайны ў імя якіх-бы то ні было інтарэсаў, 2) вайна—зло, яна па-звярынаму губіць тых, хто не хоча і не павінен паміраць, яна псіхалагічна калечыць людзей, 3) пацыфізм—найлепшая ідэалогія чалавецтва. Якая ідэя ўкладзена ў „Дрыгву“? Нельга цярпець здзекі наглай белапольскай акупацыі; само жыццё штурхае нават такога далёкага ад палітыкі старога, як дзед Талаш, не толькі на супраціўленне класаваму ворагу, але на арганізацыю і ўзначальванне гэтага супраціўлення. Барацьба, нават распачатая стыхійна, падымае Талаша на новую, больш высокую ступень, падымае яго ад звычайных, вузка-сялянскіх, будзённых клопатаў і інтарэсаў да агульна-класавых задач, да ролі здольнага арганізатара вялікай справы і адданага рэволюцыі барацьбіта. Грамадзянская вайна не толькі цярпіма, але законна, яна неабходна, бо без яе не вызваліцца ад звярынага панавання эксплаататарскіх класаў. Калі ў расказах—комуністычная партыя або адсутнічала, або паказвалася з пазіцый палітычна малапісьменнага селяніна, паказвалася „з боку“, прычым з вядомай доляй недаверлівасці, (хай сабе да дзеянняў асобных комуністаў), то ў „Дрыгве“ партыйнае кіраўніцтва паказана ўжо проста, як неабходная ўмова і арганізатар пасьпяховай барацьбы. „Дрыгва“—вельмі своечасовы твор, ён адказвае на нашы думкі пра надыходзячую вайну, ён не толькі абагульняе вопыт партызанскай барацьбы 1920 г., але ён перспектыўна паказвае, што будзе ў тылу ворага, калі ён паспрабуе напасці на нас.

Мастацкія якасці твора:

Перш за ўсё—„Дрыгва“—твор з прасталінейнай, разгорнутай фабулай, і гэтай фабульнасці варта ў Коласа павучыцца нашым пісьменнікам. Колас паказвае адно здарэнне за другім, надзвычай рэдка 2-3 разы), перарываючы расказ, каб перанесці чытача ў другія абставіны, якія ішлі поруч з асноўнай лініяй непасрэдна звязанай з Талашом, але мелі непасрэднае дачыненне да яго партызанскай работы. Расказваючы прыгоды Талаша, Колас ідзе ўвесь час па лініі нарастання і ўскладнення абставін навакол партызан, каб даць магчымасць усё больш і больш разгарнуцца характару Талаша. Спачатку невялікае здарэнне (забіраюць палякі сена), якое стыхіна выкінула старога селяніна за межы агульнага для ўсіх сялян яго вёскі жыцця. Потым—арышт сына і спатканне з Рылем наштурхоўваюць яго на думку арганізаваць партызанскі атрад. Гэтая думка ажыццяўляецца пры дапамозе Чырвонай арміі і ўмацоўваецца першымі поспехамі. Дзед Талаш становіцца атаманам партызан, адначасова набывае вайсковыя веды. Заканчваецца аповесць некалькімі ўдачнымі аперацыямі, адна другой складаней і адказней: разбіт атрад, прыведзены Саўкам Мільгуном; выратаваны чырвонаармейцы батальёна Шалёхіна, спален маёнтак пана Длугошыца, разбіт вялікі карны атрад пана Крулеўскага. У працэсе гэтай барацьбы стары селянін, былы батрак, потым бядняк, сталы, разважлівы, здольны на рызыку, толькі тады, калі крыху пападп'е якому „неяк страшна было, што няма ніякай улады“ ў першыя дні рэволюцыі, — становіцца не толькі актыўным партызанам, але не дрэнным палкаводцам. Калі не лічыць некаторых слаба абгрунтаваных месц у пачатку (ст. 3), дзе ў Талаша сціраюцца яго асабістыя крыўды, а на першы план выпінаецца агульнае ліха сялянскай галечы толькі дзякуючы чуткам пра белапольскія здзекі, без паказа іх, без

аналіза перажыванняў Талаша з поваду канкрэтных здарэнняў; ст. 62, вельмі наіўная размова Талаша і Рыля пра зброю, пасля чаго Талаш гаворыць патэтычна ўзнятую тыраду, якая канчаецца абсалютна непераканальна),—калі не лічыць гэтых слабасцей,—тав. Колас паказам Талаша і яго работы прымушае чытача верыць у такое перараджэнне, у такі рост Талаша, хаця ўся аповесць падана ў плане гераічнасці, і тон усёй аповесці некалькі ўзнесены. Гэтаму не перашкаджаюць асобныя, відавочныя для чытача недасканаласці, якія ідуць галоўным чынам па лініі гіперабалізацыі якасцей і ўчынкаў Талаша: напрыклад, яго двухкратнае выратаванне ад трох польскіх салдат (ст. 13: „павярнуў сваімі шырокімі плячыма“, „крутануўся, і тры жаўнеры паразляталіся як шчэпкі“), асобныя выразы (ст. 40: „Дзед Талаш, зацяты і горды, як дзікі арол“, у другім месцы „Дзед Талаш горды арол палескіх пушчаў“), гіпербалізавана любоў дзела Талаша, да эфектыўных сцэн (ст. 121) настолькі гіпербалізавана, што губляе пераканальнасць, як і гісторыя з вепрам і ваўком на балоце. Паміж іншым, тут тав. Колас дапускае такую-ж недасканаласць, як, скажам, Лынькоў з шайкай ў „Чырвоных лядах“. Вепр зарыўся ў зямлю так, што відаць адзін хрыбет. Воўк, ускочыўшы на вепра, умудраецца выпусціць з-пад нізу кішкі, пасля чаго толькі вепр выскаквае з ямы. Але гэта дробязь. Гісторыя з ваўком, гісторыя з водпускам на ўсе чатыры бакі правакатара Саўкі Мільгуна пісьменнікам уведзены для таго, каб узняць Талаша, як ідэал справядлівасці і міласэрднасці ў процівагу драпежніцтву і дзікай лютасці тых, супроць каго ён змагаецца. Колас сам захоплен Талашом. Гэтае захапленне, у агуле здаровае і патрэбнае, аднак у асобных мясцінах яно шкодзіць. Так, Колас прымушае часамі Талаша гаварыць неўласцівай яму ўзнятай мовай (стар. 63—64: „Народ збіраць, бухтарыць яго на вялікае рушэнне супроць катаў, гвалтаўнікоў... Хоць-бы дзесятак адважных абаружаных людзей. Я пайду шукаць гэтых людзей, але шукай іх і ты. І божа цябе барані расказаць гэта ворагу. Я пракляну цябе праклёнам бацькі, і ты згінеш...“ „Хачу ўпэўніцца ў табе, і вочы твае мне кажуць, што ты не лжэш“. Тут Талаш, па-першае, вырастае ў прарока, звыш-чалавека, а, па-другое, пачынае заклікаць Рыля, які раззброіў польскі канвой, уцёк, адабраўшы вінтоўку ад капрала і такім чынам, для якога спатканне з ворагамі, а не толькі перадача ім замыслаў Талаша—грозіць расстрэлам. Аднак, я яшчэ раз падкрэсліваю, што некаторая гіпербалізацыя вобраза Талаша ўроўнаважваецца надзвычай цёплай падачай усяго вобраза і радам (большасцю) паказаў яго, як зусім рэальнага тыпізаванага чалавека. Да рэчы, каб закончыць пра Талаша,—не зусім пераканаўча пададзена сцэна, якая паказвае, як знайшлі Талаш і Нупрэй дзедавага сына Панаса (стар. 113).

З другіх вобразаў—не зусім пераканаўча пададзена Аўгіня. Тут тав. Колас крыху паграшыў супроць ісціны, падаючы яе некалькі рамантызаванай, з яе эксцэнтрычнасцю, якая прывяла ў сям'ю кулака Басыгі толькі таму, што яе цягнула багацце (без прымусу з боку бацькоў), у той час, як яна любіла і на працягу 10—11 год любіць Мартына Рыля. Аўгіня—не тып сялянкі, а хутчэй тып складанай, пакрожанай жыццём інтэлігенткі, якая не знаходзіць канкрэтных задач жыцця, сама сабе стварае супярэчнасці і „перажывае“ іх (дзявоцкае жыццё Аўгіні, выхад замуж, апошняя сварка з Васілём, сцэна спаткання з Мартынам Рылем у лесе).

З заган падачы тав. Нявіднага трэба адзначыць, што пра яго работу мы даведваемся або з думак Талаша, або з разваг самога Коласа. На канкрэтнай рабоце Нявідны паказан толькі тры разы: 1) калі ён

распякае Нічыпара за правал работы ў ячэйцы вёскі Паставы, 2) калі ён выступае на мітынгу партызан дзеда Талаша, 3) калі яго злавілі шпікі. Нельга сказаць, каб ва ўсіх гэтых выпадках тав. Нявідны быў паказан усебакова, або нават глыбока. Ён паказан пункцірна. Аднак тое, што тав. Коласам раскідана па ўсім творы, што ён сам расказвае пра Нявіднага—дае агульную абмалёўку кіраўніцтва арганізацыяй партызанскага руху з боку нашай партыі і вобраз самога Нявіднага набывае акрэсленасць. Заганай, якая перашкодзіла тав. Коласу больш выпукла даць вобраз Нявіднага, з'яўляецца тое, што тав. Колас не ўзяў комуніста-кіраўніка партызанскага атрада, або ўдзельніка самога атрада, а ўзяў „прызрак, які бродзіць" па Палессю, але не нясе штодзённай кіраўнічай канкрэтнай функцыі.

Публіцыстычныя радкі, якімі час ад часу перасыпае тав. Колас твор, маюць сваёй мэтай увесці чытача ў тагачасныя абставіны, а таксама выказаць адносіны аўтара да гістарычных падзей таго часу, у тым ліку да польскай акупацыі і метадаў насаджэння „польскай дзяржаўнасці". Правільна палітычна і эмацыянальна насычаныя, гэтыя радкі не абцяжарваюць аповесці, хаця некаторыя з іх магчыма было апусціць, бо адносіны аўтара да акупантаў абсалютна відавочны з паказа людзей, з паказа падзей. Я прывяду толькі адзін прыклад, дзе тав. Колас малюе двор пана Длугошыца.

„Ціха спачывае ў глыбокім сне маёнтак пана Длугошыца, той самы маёнтак, дзе зімой было так шумна і весела, дзе грымела ваенная музыка і весялілася шляхта разам з шыкарным афіцэрстам". Напамінкам пра гэта вяселле тав. Колас уваскрашае ў памяці чытача, што пан Длугошыц з'яўляецца цэнтрам антысовецкіх сіл, аж да прадажніцкай зграі нацдэмаў, а словамі „шыкарным афіцэрстам"—падкрэслівае не толькі пустазвонны лоск кіраўніцтва арміяй, але ўваскрашае ў памяці чытача вобраз пана Крулеўскага—надутага і пустога, зверападобнага па ўчынках афіцэра і вобраз такіх-жа „шыкарных афіцэраў", якіх узяў у палон Бакрэй і Талаш са сваёй экспедыцыяй. „Старасвецкі панскі палац, старое гняздо польскай фаміліі, утуліўшы ў полаг цемры сваю вежу, панура вырысоўваецца на фоне цёмнага неба. Стайні, стадолы, свірны і клуні зліваюцца са змрокам і яшчэ, здаецца, ніжэй туляцца да зямлі. Ціха ў маёнтку пана Длугошыца". Мне здаецца—не трэба каментараў: пейзаж намаляваны так, што ён перадае настроі польскай шляхты ў акупаванай Беларусі, перадае адносіны самога Коласа да гэтай шляхты. Нянавісць да акупантаў, да грабіцеляў і глаўтаўнікоў шугае вялікім полымем у малюнку пажара маёнтка Длугошыца. Пейзаж у тав. Коласа ў аповесці заўсёды падаецца на месцы, ён умантыраваны ў асноўнае палатно, ён дапамагае больш чоткай характарыстыцы людзей і з'яў. Мова аповесці простая, блізкая да народнай, багатая і разам з тым скупая—стаіць на ўзроўні коласаўскіх твораў. Вельмі і вельмі рэдка спатыкаюцца не зусім зразумелыя для шырокага чытача словы: „закарвашкі душы, дзе тлела вера", „адрэзаў гамёлку сала", „а чаго папаў сюды гэты галамоўза?" Аднак, тав. Колас умее так ужыць гэтыя словы, што сэнс сказа вытлумачвае той вобраз, які ён укладае ў слова, слаба вядомае чытачу. Спатыкаюцца, але таксама 2—3 на ўсю аповесць, русіцызмы: „караулю" не ў вайсковым значэнні гэтага слова, „няма дуракоў", „настаяшчая стрэльба".

Нарэшце, патрэбна сказаць пра дзве дробязі: першае—гэта сцэна з прысягай на лапцю, недарэчная і штучная і яе можна было з поспехам зусім апусціць; другое—два афарызмы, якія ідуць ад ранейшага ўспрымання тав. Коласам беларускай вёскі (ст. 19 „Торба—адвечны паспарт сялянскай долі", ст. 45, „Лапаць—сцяг нашай мужыц-

кай долі"), якія безумоўна гучаць цяпер анахранізмам. Трэба сказаць што тав. Коласу ўдалося паказаць класавае расслаенне беларускай вёскі, паказаць беларускага кулака (не зусім правільна паказаны толькі адносіны кулака Бусыгі да сваёй жонкі Аўгінні), яго супольную работу з польскімі абшарнікамі і ваеншчынай. Гэтым самым тав. Колас разам з усёй пісьменніцкай масай руйнуе нацдэмаўскія літаратурныя вобразы і ўстаноўкі.

Возьмем паэму тав. Кавальскага—„Шымон Свісь". Змест гэтага твора: ад белапольскіх войск партызаны ўцяклі і схаваліся пад вербамі, у пустых ветраках. Начальнікам партызан—комсамолец Шымон Свісь. Ён заклапочан ненадзейнасцю гэтага прытулку. Коні пачулі праз віхор і мяцеліцу ворага—і Шымон Свісь, не гледзячы на пратэст аднаго з партызан—„Чорнага твару",—уводзіць партызан у лес. Па дарозе знікае „Чорны твар". Тым часам да партызан прыбягае селянін з вёскі Воўчыя Долы—гэтую вёску паляць белапалякі, якія згвалцілі яго дачку, а самога ранілі. Паміраючы, селянін просіць партызан ісці на ратунак вёскі. Свісь аддзяляе 10 чалавек пад камандай парабка Савы—ехаць у аб'езд, а сам з астатнімі накіроўваецца для нападу ў лоб. Даецца мастацкі малюнак дарогі атрада Савы, яго спыненне над рэчкай, адкуль відаць вёска, што гарыць. Аднак напад Савы не ўдаўся. Белыя скасілі кулямётам 6 чалавек, у тым ліку самога Саву. „Чорны твар", які аказаўся польскім афіцэрам, здзекуецца над палоннымі, збівае іх, аднак скончыць экзекуцыю яму не ўдалося. Наляцеў Шымон Свісь, белапалякі разбіты, дваццаць з іх узяты ў палон, у тым ліку і афіцэр-абшарнік „Чорны твар". Яго вядуць да дрэва, дзе ён сваімі ўласнымі рукамі павесіў жандара (чым увёў у зман партызан). Тут кароткі суд, які патрабуе павесіць афіцэра-шпіёна. Як бачыце, тут узяты чатыры эпізоды з барацьбы партызан. Эпізоды звязаны паміж сабою толькі трыма (калі не лічыць Сівога дзеда) героямі (Шымон Свісь, Сава і „Чорны твар"), фабулы ў паэме амаль няма. Шымон Свісь з самага пачатку станоўчы герой: ён вывеў партызан ад пагоні (хаця невядома як), ён сочыць за небяспекай, ён у лесе з'яўляецца да партызан, як усемагутная сіла, да яго, нямаведама як уведаўшы бяжыць селянін ад белапалякаў, ён абрушваецца на белапалякоў і знішчае іх, бярэ ў палон „Чорнага твара". Маюцца ў яго хібы: ён не разгледзеў здрадніцтва „Чорнага твара", хаця той вельмі выразна паказаў сябе, адгаварваючы партызан рухацца з ветракоў, не гледзячы на відавочную небяснеку. Сам Кавальскі разаблачае „Чорнага твара", пачынаючы з другой песні (нават з самой назвы чалавека): „Чорны твар", аглядаючы палі і ветракі, думае: „усё паранейшаму, толькі жыццё—сцерва, не такое". Калі „Чорны твар" збег, Сівы дзед і Сава—не могуць нічога кампраметуючага „Чорнага твара" прыпомніць, апрача таго, што ён у атрадзе невядомы і што яго знайшлі ў лесе і па „дакументах ён аказаўся нашым".

Такім чынам асноўная загана паэмы і слабая акрэсленасць канкрэтных вобразаў, іх агульнасць, як вынік агульнай бессюжэтнай пабудовы паэмы. Паэту няма на чым выявіць характар сваіх герояў, таму ён абмяжоўваецца агульнымі дыялагамі (дыялаг Сівога дзеда і Савы, дыялог селяніна і Сівога дзеда, „Чорнага твара" і Савы) ці апісацельствам падзей. Ён не знайшоў адзнак, якія апраўдалі-б назву комсамольца для Свіся, а таму абмяжоўваецца толькі тым, што Свіся называе комсамольцам Сава. Тав. Кавальскі ўдала малюе пейзаж, аднак скарыстоўвае яго няўдала. Прыкладам з пачатку паэмы: даючы малюнак халоднага і галоднага віхру, які засыпае снегам вербы, ветракі і коняй, Кавальскі перапыняе гэты малюнак радком. „Свісь рад

такому ветру". А праз дзесяць радкоў Кавальскі кажа, што „Шымон хіліць маладую галаву, у схіленай галаве Свіся кружыцца віхрам думка: „Шымон Свісь, Шымон Свісь"—віхор вые: „Трупам будзеш вісець". Такім чынам аўтар не ведае сам, як ставіцца да створанага ім пейзажа—ці станоўча, ці адмоўна. З аднаго боку, віхор навявае думку пра немінучую пагібель атрада партызан: яшчэ зловяць і павесяць паны. Вецер зларадствуе над гэтай перспектывай. А, з другога боку, віхор замятае сляды і такім чынам проста карысны для партызанаў. Аднак малюнак прыроды ў Кавальскага носіць хутчэй сімвалічную функцыю—ён праўбраз стыхійнай рэвалюцыйнай барацьбы сялянства супроць памешчыкаў і іх узброеных сіл (у літаратуры вядома і, да рэчы, парочны вобраз). Але тав. Кавальскі не вытрымоўвае і гэткага плана—бо віхор сее безнадзейнасць, з адценнем некаторай варожасці да партызан. Тут адбываецца змяшэнне двух планаў—рэалістычнага і рамантычнага. Таксама не адпавядае ходу падзеі пейзажны малюнак, вельмі ўдалы і вельмі мастацкі ў час ад'езда атрада Савы на белых: усё бадзёрыць партызан, сосны іх благаслаўляюць—і раптам зусім бясслаўны канец бою: партызаны разбіты белымі, прычым партызаны нават не далі адзінага стрэлу. Відавочна, што тав. Кавальскаму патрэбна адмовіцца ад „віхорнай" сімволікі, бо яна яго блытае і аддаляе ад рэалізма.

Мова паэмы яшчэ не ўстанавіўшаяся. Часамі яна ўзнесена—патэтычная (песня пра сосны), музычна насычана гука-перайманняні (бойка, тупат капытоў), часамі спускаецца да звычайнай празаічнай мовы (малюнак у лесе). Нарэшце—канец паэмы занадта расцягнут. Нават калі мы знішчаем ворага—не варта падаваць такія дэталі, якія падае Кавальскі: яны не ўзнімаюць гневу супроць ворага, а дзякуючы сваёй расцягнутасці, зніжаюць яго.

Я падвяргаю такой жорсткай крытыцы гэту паэму таму, што тав. Кавальскі вельмі здольны паэт, вырас настолькі і палітычна, і творча, што самая жорстка крытыка прынясе яму толькі карысць, узмоцніць яго барацьбу за якасць кожнага радка, кожнага слова. А што тав. Кавальскі здольны паэт—паказвае ў гэтай паэме актуальнасць тэматыкі (барацьба сялян польскай вёскі супроць белапольскіх войск), удалы паказ ворага, які для маскіроўкі згодзен павесіць свайго брата-жандара, цёплы лірычны паказ станоўчых герояў у радзе месц паэмы, мастацка-высокія лірычныя адступленні. Шкода, што іншы раз гэтыя адступленні перарываюцца меладраматычным ойканнем і неакрэсленасцю адносін паэта да паасобных з'яў („вецер у дроце пеў невядома аб чым").

Станоўчым з'яўляецца тое што тав. Кавальскі ўпарта стараецца на нашай совецкай тэматыцы стварыць лірыка-эпічную паэму, вялікае паэтычнае палатно. Прычым гэтыя стаpанні выліваюцца ў нядрэнныя, а часамі і добрыя рэчы. Аднак, для таго, каб стварыць такую паэму—тав. Кавальскаму, як бачыце, патрэбна большая сюжэтная цэласнасць і напружанасць твору, большая сціслaсць і нават скупасць у апісаннях, большы адбор слоўнага матэрыяла, поўнае вызваленне ад уплываў рамантычнага (дробнабуржуазнага) стылю (я не кажу пра рэвалюцыйную рамантыку і ўзнёслацьь, якую патрэбна пашыраць), большая апрацоўка ўсяго матэрыяла, каб не было зусім нізкіх мясцін паміж мастацка зробленымі добра. Апрача таго, патрэбна большая акрэсленасць ідэйнага стрыжня, а то ў тав. Кавальскага ён часцяком расплыўчаты.

Возьмем раман Лынькова „На чырвоных лядах". Падрабязны разбор рамана быў дадзен на II пашыраным пленуме Аргкамітэта. Напэўна

на ім спыніцца і дакладчык па прозе. Аднак нельга абыйсці ўжо таму, што ён з'яўляецца адным з лепшых буйных твораў беларускай літаратуры, не гледзячы на ўсе недахопы рамана.

Ідэалагічная насычанасць „На чырвоных лядах": а) паказ дарэвалюцыйнай вёскі, яе класавага расслаення, паказ тыповых людзей для кожнай праслойкі сялянства і мястэчковага жыхарства, як спосаб абвяржэння мастацкім словам тэзіса нацдэмаў і нацыяналістычных яўрэйскіх партый пра маналітнасць, аднастайнасць вёскі і мястэчка; б) паказ рабочых—сапраўдных кіраўнікоў і арганізатараў рэволюцыі ў вёсцы, як абвяржэнне другога тэзіса нацдэмаў пра нібыта рэволюцыйную ролю эсэраў, пра вядучую ролю інтэлігенцыі; в) паказ крыніц і шляхоў развіцця кулацтва, інтэрнацыянальнага адзінства эксплаататараў перад тварам надыходзячай рэволюцыі ў процівагу гэтаму—паказ інтэрнацыянальнай салідарнасці працоўных для супольнай барацьбы супроць эксплаатататараў.

Пры ўсім гэтым палітычныя ісціны падаены так, што яны выцякаюць з матэрыяла, з паводзін герояў, а не з голай публіцыстыкі.

На пленуме тав. Лынькову кідалася абвінавачванне ў тым, што ён даў паказ вёскі занадта шэрым, сумрачным, а сваіх герояў—аднатыпо-вымі людзьмі, чые інтарэсы не выходзілі з рамкі будзённага біолагічнага бытавання. Кідалася абвінавачванне і ў тым, што няправільна дадзены вобразы Івана Іванавіча і настаўніцы Зіначкі. Наўрад ці можна, не грэшачы супроць соцыялістычнага рэалізма, паказаць нашу перадваенную вёску, заціснутую звонку памешчыцкімі дварамі, а з сярэдзіны кулакамі, у светлых тонах. Спасылка на рэволюцыю 1905 года, без уліку таго адпячатка, які наклала на вёску рэакцыя 1907-1912 гг., без уліку таго, што сялянства не магло палітычна асмысліць урокаў 1905 года, без дастатковай прапагандысцкай работы соцыял-дэмакратыі,—такая спасылка можа штурхнуць пісьменніка на шлях „ультра-рэволюцыйнай" лакіроўкі. І наадварот, патрабаванне паказаць упраўляючага дваром Мацвея Юльевіча—больш чалавечным (каб ён не выганяў старых рабочых не біў морды Валодзьку, не выгнаў з саду калеку), такое патрабаванне ідзе ў разрэз з сапраўднасцю. Адчуваючы, і нават ведаючы (глядзі размову гасцей упраўляючага), што глеба накалена да адказу, што асобныя ўспышкі сялянскага незадавалення з'яўляюцца толькі паказчыкамі вялікага ўнутранага агня і гневу—пануючы клас не мог не рабіць глупства, ен нерваваўся, стараючыся паказаць сваю сілу, сваю моцнасць і непахіснасць. Тым больш, што ён атрымаў дармавую рабочую сілу—палонных аўстрыйцаў. Няправільна патрабаванне вывесці Івана Іванавіча стопроцантным бальшэвіком-пуцілаўцам—ён такім у жыцці не быў. Іван Іванавіч не экзальтаваны народнік, не інтэлігент, „пайшоўшы ў народ". Ён добра ведае селяніна, які можа „страха ради иудейска", „от берега крутого оттолкнуть веслом"—не толькі мёртвае цела Лявона (да рэчы, Лаўрэн, знаёмы з кулакамі начальніка дыстанцыі, інакш зрабіць не мог), але і экзальтаванага прапаведніка рэволюцыі, калі прыдзецца бараніць уласную серадняцкую „безапаснасць" ад жандараў. Таму Іван Іванавіч не выходзіць на вуліцу, не наладжвае мітынгаў, а падштурхоўвае ўласную думку селяніна, яго ўласнае нездавальненне, дапамагае ім аформіцца. На ст. 58 Іван Іванавіч, скарыстоўваючы выраз селяніна, што пан пра сваю карысць клапоціцца—развівае гэтую думку: „Паны вечна клапоцяцца пра свае інтарэсы. Аб іх яны клапоцяцца і цяпер. Хоць-бы і машыны сабе—зноў-жа каму ад іх больш карысці, нашаму хіба брату"? Іван Іванавіч дадае, што ў капіталістычных умовах машына павялічвае колькасць беспрацоўных. Калі селянін спрабуе зваліць адказнасць за дрэннае

становішча на вайну,—Іван Іванавіч яго папраўляе: „Пры чым тут вайна? Вайна сама сабою. А хіба вайна карысць якую дае?“ Селянін вымушан адказаць, прыводзячы вядомыя яму прыклады социяльнай несправядлівасці капіталістычнага ладу. Гэта патрэбна было Івану Іванавічу—ён закінуў у душу селяніна думку аб непатрэбнасці паноў аб непатрэбнасці вайны, адказнасці за вайну цара, ён дыскрэдытаваў цара. Ён упэўнен, што гэта думка будзе варочацца ў цяжкіх мыслях сялянскіх мазгоў— і ў свой час дасць карысць. Больш таго, ён мімаходзь кідае другую думку—паражэнчаскага парадку.

Сяляне разышліся, застаўся больш вузкі круг: Лазакрут, Пінька ды закройшчык Мойша Гінкі. Іван Іванавіч—у звычайнай гутарцы дае правільную характырыстыку становішча тагачаснай Расіі (ст. 60).

Парады, якія ён дае, не гуляць у маўчанку, скарыстаць тое, што заправіламі сіяністаў з'яўляюцца нянавісныя рабочым меламеды, крамнікі ды багацеі, на гэтым будаваць сваю агітацыю. Парады абсалютна правільныя.

На ст. 130 Іван Іванавіч—Лявону Ражку і Барташысе: „Рабочы чалавек, чаго захоча, таго і можа дабіцца. Ды яшчэ, скажам, калі селянін спаць не будзе, а дапаможа яму, ды пачне паноў падкурваць патроху“.

А што Іван Іванавіч вядзе агітацыю сярод сялян, паказвае размова дэзертыраў з царскай арміі:

„— Мацей кажа (ст. 214): „Ці не ад Івана Іванавіча ты навучаешся? Той усё пра вайну ды пра багацеяў—няма ўяго другой гаворкі“.

Яму адказвае Антон: „Пра Івана Іванавіча ты, Мацей, кінь. Нічога тут ты не разумееш. А Іван Іванавіч—гэта, брат, чалавек наскі, пабольш бы такіх людзей“.

Іван Іванавіч зусім адкрыта вядзе агітацыю супроць закона, супроць цара, калі ідзе па дарозе з адсідкі з Жаранковым, але іменна тады, калі Жаранкоў пабываў ужо ў паліцыі, калі яго ні за што ні пра што збілі.

„А ты разумей, пакуль будзе цар, датуль будзеш ты за некага ў турме сядзець, датуль будуць рабочыя з голаду пухнуць“. Справядлівасць патрабуе сказаць, што Іван Іванавіч сам недастаткова разумее значэнне забастоўкі рабочых і няправільна тлумачыць яе селяніну.

Зусім зразумела, што Іван Іванавіч абрадаваўся, калі па яго парадзе сяляне пачалі „падкурваць“ пана.

Скарыстоўваючы той выпадак, што я спыніўся так доўга на Іван Іванавічу—я хачу падкрэсліць, што тав. Лынькову ўдалося даць вобраз станоўчага тыпа рэволюцыйна-настроенага рабочага перадваенных часоў на вёсцы. Разумеецца, можна было развіць і ўдасканаліць яго паказ, павялічыць тыя месцы, дзе ён вядзе агітацыю сярод сялян (...„Усё пра вайну ды пра багацеяў — няма ў яго другой гаворкі“), аднак, калі тав. Колас кажа, што Іван Іванавіч акрэслен добра, але па характару свайму з'яўляецца „ацеслівым“, я дазволю сабе не згадзіцца з яго ацэнкай („ацеслівы“) і настойваць на сваёй ацэнцы Івана Іванавіча („брадзіла“, якое падштурхоўвае сялянскую думку, дапамагае ёй аформіцца і накіроўвае яе ў патрэбнае для сябе, як рэволюцыянера, рэчышча). Большэвік Іван Іванавіч, ці не большэвік? Папраўляючы свае папярэднія фармуліроўкі, я лічу, што мы не маем падставы сцвярджаць, што Іван Іванавіч большэвік (глядзі размову Карнея з Іван Іванавічам, на ст. 290, дзе яго не лічыць большэвіком і брат яго. Праўда размова пададзена ў гумарыстычным плане). Аднак роль Івана Іванавіча ў вёсцы, яго паводзіны, яго агітацыі даюць усе пад.

ставы лічыць яго блізкім для партыі, а яго дырэктыўныя ўказанні Піньку і Гінкі даюць падставы лічыць яго нават кіраўніком мясцовай арганізацыі. Канчатковая вырысоўка Івнна Іванавіча, як партыйца, справа другога тома „На чырвоных лядах“.

Так абстаіць справа з галоўным героем рамана. Няправільным з'яўляецца сцвярджэнне, што героі Лынькова шэрыя, аднолькавыя. Паспрабуйце зблытаць Лаўрэна, Цыбала і Сяргея-рыбака, хаця-б пасля першай сцэнкі іх спаткання на беразе Дняпра (ст. 7—11). Да рэчы, гэтая сцэнка высока-мастацкі паказ трох праслоек вёскі — бедняка, серадняка і кулака. Паспрабуйце зблытаць Хвядоса Мялу і Аніса-шахцёра, або салдатку Насту з другімі жаночымі персанажамі рамана.

Абсалютна правільна, што героям вывеў Лынькоў занадта многа і таму частка іх ачэрчана не толькі слаба, а дрэнна. Безумоўна правільна, што адсутнасць сюжэтнасці і стылёвыя асаблівасці—прыніжаюць якасць рамана. Але пра гэта досыць гаварылася, ніжэй я пра гэта буду яшчэ гаварыць.

Возьмем дзве паэмы тав. Александровіча.

Паэма „Пагранічная вясна“—лірычная паэма. У ёй паэт перадае свае настроі, свае думы ў сувязі з тым, што ён бачыць перад сабою на граніцы, у сувязі з тымі з'явамі палітычнага парадку, якія звязаны з акаляючымі яго відамі. Лірыка „Пагранічнай вясны“, як і абсалютнай большасці паэзіі Александровіча, сугуба палітычная. Для паказа сваіх адчуванняў, апрача месц, дзе ён непасрэдна гаворыць ад першай асобы—Андрэй Александровіч стварае асобныя вобразы, не звязаныя паміж сабою нічым, апрача ідэі („граніца разлучае два непараўнальныя міры“). Першы вобраз: „зялёны гоман“, які пералятае праз граніцу і прыносіць размову віленскіх гоняй. Гэты гоман ідзе паверсе ў выглядзе ветра, у выглядзе пераклічкі лясных гушчароў, курганоў, і пад зямлёю, у выглядзе падземнага гулу—правобраза рэвалюцыйнай патэнцыяльнай энергіі працоўных мас. Другі вобраз — маці (правобраз Зах. Беларусі), якая „праз лясы, праз горы і вазёры“ дзень і ноч па свеце ходзіць, шукаючы сваіх сыноў. Ёй спачувае аўтар, як спачувае прырода, яе ўсцешваюць, што няволя гартуе дух яе сыноў, бо:

„Хай сёння край—суцэльная турма,
У турме таксама кузня вызвалення“.

Потым даецца панарама Совецкай Беларусі, якая калектывізуецца, радуецца і смела глядзіць на будучыню.

У самым пачатку паэмы вобразы дадзены раскідана, расплывчата настолькі, што чытач іх не ўлоўлівае і з ахвотай пераходзіць да больш рэальнай рэчы: песні віленскіх гоняй, песні падземнага гулу. Гэтыя песні—вялікай палітычнай насычанасці і гневу, вялікай музычнасці—адлюстроўваюць сапраўднае становішча працоўных Заходняй Беларусі. Тут т. Александровіч народнае гора падае ў вобразе мацеры, якая шукае сваіх сыноў. Лірычна і ўзнята пададзены тыя ўсцешанні, якія аер і возера кідаюць мацеры—„твае сыны спаткаюцца з табою“.

„Каму вясну за кратамі ўстрымаць?
Хто сонца-полымя паставіць на калені?
Хай сёння край—суцэльная турма,
У турме таксама кузня вызвалення“.

І маці разам з пераклічкаю прастораў кідае вокліч:

„—Пачаць сяўбу.
Чым больш агню-зерня,
Хутчэй залечыць раны
Край забраны“.

Пераход на совецкую тэматыку зроблен ужо цалкам рэалістычна, метафары, параўнанні абматэрыялізаваны. „Вароты вясны раскрываюцца насцеж“. Нашай рэспублікі сцелецца шлях“. „Раніца пераступае туманам у ночы пракладзены мост“, нават „І сонца ў трусіках з дзятвой за панібрата“. На фоне гэтых абматэрыялізаваных вобразаў пра рэчы, якія добра вядомы паэту, пра якія яму ёсць што сказаць,— вобразы першай часткі паэмы шмат губляюць. „Хвалі вясны“, „пялёсткавыя крыллі зялёнага гомана, якія зямля акроплівае крынічнай вадою, прыгавор „сівога веку, які свішча“ і нават маці, у якой усе сыны „на выспах катавых у катаржным палоне“. Варожыя рэвалюцыі сілы—у паэме падаюцца ў вобразах туманаў (у другі раз туман станоўчы—ён будуе мост для раніцы), хмары дыму („зялёны дым стаў горкім, як ніколі“—хацця зялёны шум—з'ява станоўчая). Сілы рэвалюцыі асоцыіруюцца ў тав. Александровіча з вобразамі „зялёны гоман, хвалі вясны, вясна (пры чым вясна не заўсёды цвёрда азначана, як станоўчае: вясна ў адным месцы—сум і пакута, у другім—„вясна гарачая, сярдзітая вясна дыміцца ўздыбленай трывогай над зямлёю“, у трэццім—вясна—заклік да рэвалюцыі, і нават—рэвалюцыя: „Каму вясну за кратамі ўтрымаць“), хвалі падземнага гулу, аер і возера, зарыва („заравам іскрыцца ў полі рунь“), навальніца („ой загудзіць нявольніцкі ўраджай агнямі вызваленчай навальніцы“), сонца („твае сыны пад сонцам будуць зноў“), пяруны, мяцеліца маланак, віхор. Як бачыце, усё гэта ў большасці вобразы стыхійных з'яў прыроды, яны ўжыты таму, што паэт акцэнтуе на неабходнасці разбурэння існуючага за мяжой ладу. Разумеецца, гэта не павінна было-б абмяжоўваць вобразаў рэвалюцыі толькі стыхійнымі разбураючымі сіламі, неабходна было ўжываць і такія вобразы, якія-б адлюстроўвалі арганізаваныя сілы рэвалюцыі. На жаль, нават паказам людзей тав. Александровіч не выпраўляе гэтай памылкі, бо арганізацыя ў турме — не дзейсная арганізацыя.

Да адмоўных момантаў трэба аднесці і надзвычайную вобразную перагрузку асобных радкоў:

„І слёз тваіх гарачае зярно
Узбожваецца рунню агнявою.“

„І маці сціснула рукамі помсты скроні,
Вачэй пралескавых чалмой віецца дым“.

„У хвалях зараслей аветраны нырцуе“.

„... Ён ужо гатоў—
Віхор расплаты, шчасця і спакою“.

Апошнія два прыклады, апрача вобразнай перагрузкі, маюць другія недакладнасці—пралескі могуць рабіць уражанне дыму, аднак тады ніяк не можна разглядзець асобныя вочы пралескі, тады гэты вобраз „вачэй“ павінен быць знят. У другім прыкладзе віхор не можа быць „віхрам спакою“—гэта-ж „бязгучны гром“, тав. Александровіч.

Паэма „Пагранічная вясна“ хоць бясфабульная, але мастацкі высокая рэч, якая параўноўвае Заходнюю Беларусь з Совецкай Беларуссю, пераконвае мастацкімі вобразамі ў перавазе дыктатуры пролетарыята, заклікае працоўных да барацьбы за сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Паэма ў абсалютнай сваёй большасці мастацкі зроблена добра і гучыць музычна, бадзёра і ўздымна, а асобныя мясціны яе— залаты фонд нашай пролетарскай паэзіі. Зусім неістотныя папраўкі зрабілі-б яе цалкам добрай, але нават і так яна ўваходзіць у актыў нашай паэзіі.

На большай вышыні стаіць апошняя паэма тав. Александровіча „Векапомная восень“. Гэта паэма лірыка-эпічная. У ёй маецца фабула,

яна трактуе добра вядомае паэту, таму вобразы ў ёй больш акрэслены, у ёй застаецца той самы, што і ў „Пагранічнай вясне“, вялікі гнеў супроць буржуазіі (супроць недабітых эксплаататарскіх класаў—кулака), у ёй застаецца тое самае замілаванне новым і радасная вера, што новае пераможа. Пры гэтым вера з'яўляецца не толькі ў мастацка-маляўнічай казцы пра спатканне Янука з праўдай, але і ў паказе калгаса, у якім Янук за старшыню, і ў пераможнай песні—лірычнай канцоўцы паэмы. Ва ўступе тав. Александровіч вельмі ўдала падае малюнак узлёту ў марах і песні Янука да Праўды. Два прыклады—а) „Рэжа крыллем сакаліным неба шоўк“, б) „Сеў як з маткай, з праўдай разам. Пра свой лёс гаварыў. Янук расказваў мовай кроз“.—Вобразнасць мовы тут спалучаецца з абсалютна рэальнымі вобразамі жыцця парабка, сама мова дапамагае характарызаваць Янука („Ты скажы, вандроўнік сонца, добрым будзь“. „Поўз густой сцяной аднекуль статак хмар“, „Ружай свет здаецца ў песні Януку“ і т. д.). Вобразы і параўнанні, не гледзячы на сказачнасць пачатку паэмы, не губляюць дотыка да рэчаіснасці. Паўтараюцца, праўда, вобразныя формы „Пагранічнай вясны“: станоўчыя сілы—гром грымучы, сонца, мора (падаецца як станоўчае: „уздрыгнула мора людскога дню“), агонь („уздыбленай сілай шугалі агні“); адмоўныя сілы: скалы (гнеў-скала), хмары (яны асоцыіруюцца з цяжарам здзекаў кулака), віхор, мора („а ля гор бушуе · мора, грозны вал“). Аднак гэтыя вобразы спатыкаюцца толькі ў першай частцы паэмы і носяць нават не другарадны і трэцярадны характар, і калі А. Александровічу патрабавалася даць малюнак вайны і рэволюцыі—ён знайшоў новыя рэалістычныя больш канкрэтныя і класава-акрэсленыя вобразы—каб паказаць і цяжар вайны і напружанасць рэволюцыйнай барацьбы:

„Варам салёным ад слёзаў былі  
Міналі дні  
Скрогатам жвіру курганнай зямлі  
Міналі дні.  
А праз гады, праз радасць і самоту.  
Праз жах і роспач катавых налётаў,  
Праз партызанскую гарэзную адвагу...  
...Праз лямант скону дзедаўскіх палосак...  
...Вялікай праўды творцам стаў Янук“.

Справядлівасць патрабуе сказаць, што Александровіч і тут не зусім вызваліўся ад сваіх „стыхійна-магутных“ вобразаў (смерч, грымоты пяруна, свіст вайны, грознае „яно“ і праз кожны радок рэволюцыі „агонь“—„вогнішчы“, „агнявое зерня“, „шугалі агні“). Ад гэтых вобразаў, як і ў „Пагранічнай вясне“, яго вызваляе пераход на канкрэтны матэрыял. Малюнак пачатку заможнасці калгаснікаў зроблен надзвычай удала. Удала скарыстана фальклорная дзяжа.

„Пачэсны кут займае ў светлай хаце  
Заквашаная хлебная дзяжа“.

Тав. Александровіч не прамінае выпадка, каб мастацкі ўдарыць па нацдэмаўскіх вобразах:

„А старцы-лірнікі, а старцы-дудары,  
Як цудам здзіўлены, што ў панскія палацы  
Калгаснай хаце звозяцца дары“.

Развязку асноўнай ідэі твору („Хто быў нічым, той стане ўсім“) тав. Александровіч падае ў канцы сцэнай выкрывання кулака. Гэта сцэна, паміж іншым, таксама мае мэтай паказаць справядлівасць станоўчага героя, аднак класавую сравядлівасць без таго налёта гуманнасці якую надае тав. Колас дзеду Талашу. Канчае паэму тав. Александровіч, як і заўсёды, музычнай уздымнай песняй.

Адмоўных бакоў у паэме мала, ды і тыя ў большасці дробязь, калі не лічыць недастатковай напружанасці сюжэтнай лініі.

Ёсць рад неапраўданых месц. Напрыклад:

„Лес пакінуў Януку злосць", а вось злосці потым Янук нідзе не праяўляе.

— І здалося—вось маячыць гнеў-скала. Праўду тут Янук убачыў, тут жыла". Неапраўдана, чаму на гнеў-скале жыла такая ласкавая і добрая праўда.

На маю думку, непатрэбна і паўтор: „Праўда ветліва сустрэла веем ласк", тым больш што, веі ласкі—вобраз неакрэслены. Таксама непатрэбна падкрэсліванне, што ўся першая частка толькі мары. „Вось на крыллях мар юнацтва ў добры час". „Вось у думках бачыць горы". „І здалося—вось маячыць гнеў-скала". „Гаварыў Янук, расказваў мовай кроз", у той час, калі пачатак сна—„Марыць, што, як птах праменны ўзвіўся ён" і канец сна: „Ой, ты слаўная хвіліна—слодыч мар"—дастаткова ўпэўняюць чытача, што гэта не яў, а мары, сон. Не зусім удалы зварот:

„Не быць узрушаным, і радасным, і шчасным
Не мае права—добры старшыня",

прычым само слова „добры" невыразна—ці добры сэрцам, ці добры работай. Такая-ж неакрэсленасць у слове „раздаў" „Янук раздаў калгаснае зярно")—ці раздаў—размеркаваў па працаднях, ці проста разбазарыў. Аднак, гэта зусім нязначныя дробязі, якія ні ў якай ступені не псуюць значымасці гэтай паэмы.

Якія агульныя вывады мы можам зрабіць з гэтых твораў—ды і з усіх твораў совецкай літаратуры БССР?

1. Значна павысіўся ідэйна-палітычны ўзровень нашай літаратуры. Як правіла, буйнейшыя творы апошніх двух год ставяць і правільна трактуюць найбольш вострыя праблемы нашай сучаснасці. Наша літаратура, гэта не літаратура дробнага факта, не літаратура аднаго, хоць і цікавага здарэння, а гэта ў значнай меры літаратура значных філасофскіх абагульненняў. Аднак, гэты тэрмін можа быць прыложан далёка яшчэ не да ўсіх твораў. Паставіўшы цікавую праблему, наш пісьменнік не заўсёды здолен яе падняць і развязаць мастацкімі сродкамі. Так здарылася з тав. Ільінскім, з тав. Рамановічам, у некаторай частцы з тав. Гурскім—па лініі п'ес, з тав. Хведаровічам, Кляшторным Дарожным—па лініі паэзіі, з тт. Мурашка, Лімаоўскім—па лініі прозы.

2. Пашырылася ў патрэбным нам кірунку тэматыка па індустрыялізацыі краіны (Знаёмы, Шынклер, Даўгапольскі, Дарожны), па абароне краіны (Шапавалаў, Крапачоў, Кручкін, Самуйлёнак і інш) па адлюстраванню МТС і МТМ (Міровіч, Глазырын). Аднак, гэта пашырэнне яўна нездавальняючае. Індустрыяльне крыло літаратуры вельмі малое і маладое (па аўтарах). Яно чакае прыхода старых майстроў літаратурнага слова, недаацэнка абароннай тэматыкі, як вынік своеасаблівага пацыфізму, а ў дачыненні да комуністаў-пісьменнікаў, дазвольце ўжыць тэрмін: апартуністычныя адносіны да абарончай тэматыкі—яшчэ не зжыты, а яны павінны быць зжыты ва што-б там ні стала. Прамова тав. Сталіна на XVII з'ездзе ВКП(б), наша міжнароднае становішча, фашызацыя прымежных з намі дзяржаў кажа нам пра гэта, як не трэба ясней.

Паказ работы МТМ і МТС палітаддзелаў соўгасаў—МТС—пакуль, што толькі пачаты. Так званая вясковая тэматыка, якая часамі трымалася на веданні старой вёскі (хай з жыцця, хай па кнігах) далей пад сабою грунту не мае. Або яна ўключыць у сябе адлюстраванне работы палітаддзелаў, або яна выключыць сябе з літаратуры.

3. Вывад герояў і дзей за межы Совецкай Беларусі (не толькі ў гістарычным рамане і не толькі на Захад, які, да рэчы, мы дрэнна ведаем і дрэнна вывучаем), авалоданне ўсесаюзнай тэматыкай—чаму мы таксама паклалі пачатак (Харык, Лынькоў, Мікуліч)—усё-ж у нас абстаіць дрэнна. Мы мала самі бываем на буйнейшых новабудовах Саюза, у яго індустрыяльных цэнтрах. Больш таго, мы ганебна мала чытаем пра іх. У сваіх ведах індустрыялізацыі Совецкага саюза мы ведаем не больш звычайнага радавога рабочага. А калі да гэтага дадаць, як мала мы ведаем тэхніку, як слаба знаёмы з навейшымі дасягненнямі навукі—становіцца ясным, што на гэтым фронце ў нас паграджаючы прарыў, прычым такі, які кавалерыйскім наскокам не возьмеш. Гэты прарыў можна ліквідаваць упартай вучобай, упартым авалоданнем тэхнікі, навукай, працяжным азнаямленнем з Совецкім саюзам.

4. Не гледзячы на тое, што рад пісьменнікаў узняліся на адну-дзве ступенькі ў справе стварэння станоўчага вобраза, мы яшчэ поўнакроўнага станоўчага вобраза не маем.

Возьмем Карнейчыка з „Канца дружбы“—пры ўсіх станоўчых якасцях яго (адвага ў барацьбе з белапалякамі, здольнасць разведчыка, чуласць да таварыша, здольнасць адсекчы асабістае, калі яно перашкаджае грамадскаму, упартасць у авалоданні тэхнікай)—Карнейчык не паказан, як арганізатар вытворчасці, як кіраўнік-гаспадарнік, як чалавек, які здольны глыбока абагульваць палітычныя з'явы. Ён здолен накрычаць на работнікаў, даць дзве-тры прымітыўныя парады. але кіраваць вытворчасцю—складанай і новай—ён яшчэ не можа. Ён задумываецца над тым, што ясна любому гледачу п'есы (выгнаць ці не выгнаць Касабуцкага з завода, першыя рэплікі на заўвагі сакратара парткалектыва пра дружбу з Лютынскім). Я ведаю, ёсць такія настроі, што праблема дружбы не актуальна. Гэта няпраўда. Чыстка партыі паставіла гэту праблему, можна сказаць, у масавым маштабе. Т. Крапіва вельмі чула рэагаваў на гэта сваёй п'есай.

Возьмем Размысловіча—з „Запісак інструктара Томана“—тав. Шынклера. Разам з Вейсам, разам з Койнішам—ён паказан, як тып старога кадравага рабочага. Цёплы гумар яго мовы, уважлівасць да работы, да старых рабочых, энергія і актыўнасць, якасці масавіка—гэта тыя рысы, якія надаў яму тав. Шынклер. Але поруч з імі—абсалютнае непартыйнае прымірэнцтва да апартунізма Расамахі—старшыні МК, бездапаможнасць у барацьбе са штодзённымі непаладкамі ў дэпо, няўменне замацаваць тое, што дасягнута.

Возьмем Панаса са „Спалоха на загонах“—гэта тып большэвіка, які гарыць жаданнем даказаць сялянам выгаду калектывізацыі, як формы новага, больш светлага, шчаслівага жыцця. Ён, перамагаючы кулацкую хлусню, дабіваецца арганізацыі калгаса і сам адчувае велізарнейшы ўздым ад гэтай перамогі, спалучаючы такім чынам цвёрдую ўпартасць, няўстойлівасць агітатара, здольнасці арганізатара і пачуццёвую ўзнёсласць чалавека. Станоўчыя якасці Панаса—т. Галавач павялічвае яшчэ яго гераічнай смерцю, якая цэментуе справу калектывізацыі, наперакор жаданням і надзеям кулацтва. Аднак, Панас у Галавача не заўважае самай звычайнай кулацкай агітацыі, якую-б заўважыў піонер, ён не чапляецца за гэту нітачку, каб выратаваць калгас ад разбурэння, а сябе ад смерці. А так, разумеецца, сапраўдны большэвік не паступіў-бы. Гераічная смерць—справа паэтычна-заманлівая, аднак, калі патрэбных вынікаў можна дасягнуць без яе, толькі непапраўны рамантык-інтэлігент, а не большэвік, пойдзе на смерць, а вярней сказаць—толькі непапраўны рамантык-пісьменнік, не зразумеўшы большэвіка, дасць такую смерць большэвіку ў сваім творы.

Тут мне ўспамінаецца пара апавяданняў маладых пісьменнікаў. Т. Зарэчны ў адным сваім апаваданні аддае на мукі, на гвалтаванне комсамолку, якую пасля бандыты расстрэльваюць, у той час, як яна здалася ў палон, маючы дзесятак узброеных комсамольцаў. Дзе была гераічная смерць—ці са зброяй у руках у баю з бандытамі, ці „над вялікім абрывам, на беразе рэчкі"—пасля здзекаў банды? Разумеецца, у першым выпадку. Да рэчы, і Віцьбіч, які ўвесь час носіцца з ідэяй гераічнай смерці ў сваіх творах, замест паказа гераічнай смерці—часцяком паказвае свае садыстычныя адносіны да гераіньз пролетарскага асяроддзя (комсамолка з „Янак Гай", партыйка з „Лшона гобо бірушалаім", Магда з „Раўнанне з адным невядомым").

Праблема смерці—вельмі адказная праблема, а таму нельга мімаходзь брацца за яе, іначай яна ператворыцца ў сваю процілегласць. Праўда, гераічная смерць Панаса мастацкі апраўдана, аднак ёю зніжан паказ Панаса, як station ўчага тыпа большэвіка. Яшчэ больш зніжаецца Панас сваёй агітацыяй за калгас сярод сялян. Ні моўнымі сродкамі, ні вобразамі, ні палітычнымі абагульненнямі ён не стаіць вышэй тых, каго ён агітуе. Пры гэтым характэрна, што ён не зніжаецца да сялян з мэтай прыстасавання да іх узроўню, а ён проста не паднімаецца вышэй іх. Сам Панас тут, зразумела, ні пры чым, тут Платон (Галавач) вінават.

Возьмем яшчэ адзін станочы вобраз—Казім--Сяргея Знаёмага. Вобраз дадзен у сваім развіцці—ад вулічнага хлапчука добрага кішэнніка, да комсамольца-ўдарніка машынабудаўнічага завода. Як ён вырас, перарадзіўся? Падштырхнула яго Карава—таксама станоўчы вобраз, але зроблен ён у стылі дамы-патранесы, якая выключна з гуманістычных пачуццяў выратавала беспрытульнага і нават, да рэчы, не супроць таго, каб крыху пафліртаваць з „облагодетельствованным". Далей штурхае яго каханне Рэнькі (хаця гэта каханне не суправаджалася жаданнем паставіць яго—свайго будучага мужа—на больш высокую ступень культурнай і палітычнай свядомасці). Нарэшце, канчатковае станаўленне Казіма, як станоўчага тыпа, адбываецца ў барацьбе Казіма супроць ацэнкі, якую даюць яго прыяцелю Кізіле партыйцы (Кізіла—кулак і дыверсант з-за мяжы). Крах давер'я да Кізілы—апошні мост да станоўчасці (положительности) Казіма, вярней да сцверджання гэтай станоўчасці ў далейшым. На маю думку, Казім не можа стаць узорам развіцця станоўчасці (положительности) героя, бо тут не паказаны ўсе формы ўплыву, якія перавыхоўвалі героя, не паказана, як адбіваліся ў ідэалогіі героя тыя сутыканні, тыя канфлікты, якія ўведзены аўтарам для паказу шляхоў развіцця станоўчага героя.

Так абстаіць справа са станоўчым героем. Рэзюмірую:

Нашым пісьменнікам удалося падмеціць і адлюстраваць:

а) упартасць, настойлівасць большэвіка;

б) уменне без гарачкі, здрава, разважліва, але хутка знайсці выхад з вельмі трудных і адказных момантаў (Глазырын—„Фронт");

в) уменне прыслухоўвацца да мас, скарыстоўваць іх вопыт;

г) уменне безраздзельна аддавацца рабоце—не перастаючы быць чалавекам (сем'янінам, маючым свае слабасці, радзімыя пятны і т. д.).

Чаго не ўдалося паказаць? —Не ўдалося паказаць большэвіка-арганізатара.

Дзе-ж прычына гэтага? Прычына не толькі ў тым, што мы мала назіраем работу лепшых большэвікоў, лепшых ударнікаў, герояў пяцігодкі. Прычына не ў тым, што мы не збіраем крупіцы вопыту, рысак характэра гэтага новага, нараджаючагася ў працэсе будаўніцтва чалавека. Прычына не толькі ў гэтым. Прычына перш за ўсё ў тым,

што мы слаба вывучаем, слаба ведаем тую справу, якую ў жыцці робяць станоўчыя героі.

„Пісаць пра тое, што добра ведаеш,—добра ведаць тое, пра што збіраешся пісаць"—лозуг зразумелы па сваёй прастаце для дзяцей. Аднак, гэты лозунг—аснова соцыялістычнага рэалізма і патрабуе для свайго ажыццяўлення велізарнейшай работы пісьменніка. У чым памылкі і няўдача тав. Сташэўскага ў яго двух апошніх п'есах „Амерыка" і „Песня о Цío"?—Ён пісаў пра тое, чаго добра не ведаў. Гэтым тлумачыцца і тое, што тав. Ліманоўскі змог пакуль што даць толькі адну рэч, а потым на доўгі час змоўк. Ажывіць яго можа толькі перакідка ў самую гушчу жыцця. Гэта забываюць многія пісьменнікі, якія свае творчыя камандыроўкі скарыстоўваюць на паездку на курорт, на лёгкае падарожжа ў Маскву, у Ленінград, дзе далей тэатра, кафэ і гасцініцы не бываюць. А быць то ім трэба было на заводзе, у цэху, на вытворчай нарадзе, на сходзе ІТР, на нарадзе вынаходцаў, у рабочым клубе (ды не ў прэзідыуме, а ў зале), у рабочай сям'і, на занятках вячэрняй школы. Асаблівы ўпор трэба зрабіць на вывучэнне асобных тэхнічных праблем, на авалоданне навукай. На маю думку, у бліжэйшай будучыні—мастацкая рэч, якая не развязвае, не закранае пытанняў, звязаных у той ці іншай меры з навуковымі дасягненнямі—будзе лічыцца нездавальняючай: расце культурнасць чытача, яго тэхнічная ўзброенасць на рабоце, яго навуковая пісьменнасць. Для ўсіх пісьменнікаў, якія жадаюць стварыць станоўчы вобраз,—а такімі з'яўляюцца ўсе пісьменнікі,—я настойліва раю ўважліва прапрацаваць яшчэ раз даклад тав. Кагановіча на XVII з'ездзе ВКП(б) па арганізацыйных пытаннях. Паказаць бальшэвіка-арганізатара—вось чаго нам не хапае.

Не хапае ў нас у літаратуры вобраза жанчыны. Мы пакуль што абыходзімся трафарэтамі (Алеська—у Гурскага, жанчына-інтэлігентка ў Зарэцкага, „баба"-сялянка ў Лынькова, тып пустой хахатушкі ў тав. Глазырына). Новае ў паказе жанчыны мы маем у тав. Шынклера (жанчыны мыюць паравоз Зінчанкі), у тав. Лынькова—Тацяна (дробны штрых яе „развітання" з Банадысем), у Скрыгана—расказ пра работніцу, у Крапівы—вобраз настаўніцы, жонкі Лютынскага. Гэта новае толькі нараджаецца, яно толькі маленькімі кропелькамі прабіваецца, ў творах. Тут нас жыццё апярэдзіла на многа міль.

Маецца ў нас рост нашага літаратурнага маладняка, які цвёрда і ўпэўнена стаў абодвума нагамі ў літаратуру—гэта Мікуліч, Шынклер, Самуйлёнак, Куляшоў, Кавальскі, Раманоўская, Кацовіч, Крапачоў; за імі падымаюцца Паслядовіч, Цэлеш, Кацова, Дзехцяр, Рэйзін, Бужан, Люгоўскі і больш маладое пакаленне—Бацюшкоў, Шаўцоў, Зоммерфельд, Кручкін, Пасканнеў, Сабаленка, Гуцаў і інш.

Масавы літаратурны рух ужо зараз высоўвае рад літгурткоўцаў, якія маюць усе перспектывы вырасці сталымі пісьменнікамі. Мы правялі нараду маладых празаікаў, усебеларускі злёт літгурткоўцаў. На гэтых нарадах мы падрабязна спыніліся на творчасці нашага маладога пісьменніка, і каб не зацягваць больш свайго даклада, я на іх спыняцца не буду. Мне-б хацелася адзначыць толькі некалькі небяспек, якія падсцерагаюць асобных маладых пісьменнікаў, як гэта відаць з іх творчасці.

Тав. Мікуліч—здольны пісьменнік, мае назіральнасць (пра гэта сведчыць не дрэнны аналіз псіхалогіі герояў розных соцыяльных груп), умее праводзіць досыць шырокія абгульненні, тыпізацыю герояў, валодае літаратурнай мовай. Аднак, перад ім простая небяспека—„закніжыць" свае творы, зрабіць іх надуманымі, не аснованымі на дэта-

лёвым вывучэнні жыцця. Успомніце хаця-б сцэну, дзе Юткевіч ганяецца па доўгіх пакоях за Эльгай Райх. Колькі тут наварочана кніжнага, вычурнага рамантызма. Або ўспомніце канец артыста Юткевіча, яго сувязь з каралём зладзейскага свету—тут таксама надуманая канцоўка, а не „жывое жыццё".

Тав. Крапачоў—не дрэнны фабуліст. Ён моцна працуе над сваімі творамі з часоў грамадзянскай вайны, працуе над словам, над вобразамі. Аднак, гэта апрацоўка і жаданне сціснуць твор прымушае тав. Крапачова адкінуць іншы раз вельмі істотныя дэталі і нават персанажы, якія-б маглі падкрэсліць канкрэтную гістарычную абстаноўку тых дзеянняў, якім прысвечан твор. Напрыклад, аповесць „Шахимарданская мечеть". Не ўвёўшы ў аповесць двух трох персанажаў з мясцовага насельніцтва, актыўна настроеных за советы, дапамагаючых Чырвонай арміі супроць бандытызма,—тав. Крапачоў пазбавіў сябе магчымасці рэзка паказаць розніцу паміж Чырвонай арміяй у яе барацьбе з басмачамі ад звычайных „усмирителей" (некалькі гуманістычна падфарбованай капіталістычнай арміі). Апрача гэтага, тав. Крапачоў шмат траціць, не пераключаючыся на тэматыку сучаснай Чырвонай арміі.

Тав. Кручкін—другі вайсковы пісьменнік—вельмі пладавіты паэт і празаік. У паэтычнай творчасці тав. Кручкіна ёсць вельмі значны недахоп: ён стаіць яшчэ на пазіцыях рэволюцыйнай рыторыкі, не спусціўся яшчэ на шлях канкрэтызацыі вобраза, дзеі; слаба апрацоўвае свае вершы, чаму асобныя радкі „вопиюще" не паэтычны і псуюць увесь твор. Проза тав. Кручкіна значна лепшая, аднак і тут у яго вялікі недахоп, ён не ўмее яшчэ востра падкрэсліць розніцу паміж совецкім тыпажом і падобнымі персанажамі старой літаратуры. Сказваецца некрытычнае асваенне старой літаратурнай спадчыны, напрыклад—перажыванні і паводзіны—на першым этапе—комвзвода Шыханава ў сувязі з уходам ад яго жонкі).

Тав. Бацюшкоў залішне абцяжарвае свой радок абзацамі, чаму робіць яго незразумелым. Тав. Бацюшкову варта прадумаць творчы шлях тав. Хадыкі, які падобным абцяжарваннем свайго радка і завумным манернічаннем згубіў вельмі значную колькасць сваіх мінулых твораў, якія не толькі аказаліся адкінутымі чытацельскай масай, але і шкоднымі па зместу. Тады тав. Бацюшкову будзе зразумела, што ісці па шляху, які прызнан самым тав. Хадыка несастаяцельным,—наўрад ці варта.

Мы маем значныя дасягненні ў галіне дзіцячай літаратуры. Пакідаючы за тав. Якімовічам асноўны разбор дзіцячай літаратуры, яе станоўчых і адмоўных бакоў, я хачу падкрэсліць толькі, што наша пісьменніцкая арганізацыя зразумела ўсю важнасць і адказнасць гэтага ўчастка літаратуры. Аб гэтым сведчыць рад імён буйнейшых беларускіх і яўрэйскіх пісьменнікаў, якія прымалі ўдзел у конкурсе на дзіцячы твор. Да рэчы, конкурс, як форма арганізаванай барацьбы за якасць літаратурнай прадукцыі на вопыце двух праведзеных намі конкурсаў—сабе цалкам і поўнасцю апраўдаў. Ведаючы скромнасць тав. Якімовіча, я скарыстоўваю сваё выступленне, каб сказаць, што творы самога тав. Якімовіча для дзяцей стаяць на высокім узроўні—як мастацкім, так і палітычным, і з вялікай цікавасцю чытаюцца нашымі юнымі чытачамі. Да недахопаў дзіцячай літаратуры трэба аднесці амаль поўную адсутнасць літаратуры для дашкольнікаў. Думаю, што кожны пісьменнік адчувае гэта на сваёй уласнай спіне, калі не можа знайсці ў Выдавецтве і магазінах задавалення патрэбнасцей уласных дзяцей.

Па таму-ж рэцэпту я вымушан пастуніць з драматургіяй—гэта значыць спаслацца на даклад тав. Вольскага, які дасць разгорнутую характарыстыку становішча і сапраўды вялікіх поспехаў, якія мы маем у гэтай галіне літаратуры. Дазвольце мне абмежавацца толькі парай-другой заўваг.

Першая і асноўная заўвага—гэта пра вопыт конкурса. Журы конкурса не магло даць першай прэміі ні за адзін твор з 65-ці п'ес, прадстаўленых на конкурс. Гэта вельмі і вельмі сур'ёзны сімптом. Гэта азначае, што ў сваёй барацьбе за якасць мы не дасягнулі яшчэ патрэбных вышынь. Дарэмна таварышы заспакойваюць сябе тым, што і Ўсесаюзны конкурс не даў п'есы першага гатунку. На ўчастку драматургіі мы адсталі ад братэрскіх рэспублік на дзве галавы: мы не атрымалі ніводнай прэміі на конкурсе СНК СССР. Палітычны змест лепшых нашых п'ес быў станоўчым, праблемы, якія яны падымалі,. былі цікавымі, вобразы ў большасці былі тыповымі і акрэсленымі досыць удала. Чаго-ж не хапала нашым п'есам? У першую чаргу—цікавасці, гэта значыць напружанасці канфліктаў, сутычак. Па-другое, глыбіні філасофскіх абагульненняў. Па-трэцяе, звычайнага жыццярадаснага смеху, баявой бадзёрасці, якая адлюстроўвала-б настрой класа-пераможцы.

Другім недахопам нашых п'ес была амаль поўная адсутнасць індустрыяльнай і абароннай тэматыкі. Прычыны тут агульныя для ўсёй літаратуры, аднак яны больш за ўсё агаліліся ў драматургіі, як у найбольш цяжкім і складаным жанры. Сюды павінны быць перанесены намаганні нашых драматургаў, прычым гэтую вышыню нельга ўзяць штурмам, кавалерыйскай атакай, яе трэба будзе браць доўгай асадай.

Трэцім недахопам з'яўляецца агромністы разрыў паміж колькасцю дробаякасных п'ес і тым шлакам, які пайшоў па руслу конкурса. З 65 п'ес прэміяваны—II прэміяй—п'еса тав. Крапівы і тав. З. Лева, III прэміявана толькі адна п'еса тав. Галаўчынера, на другую III-ю прэмію не знайшлося кандыдатуры. Паказальнік для вымярэння якасці нашых п'ес—вельмі і вельмі адмоўны. Рэкамендаваны для пастаноўкі—п'еса тав. Гурскага „Маці", п'еса тав. Шашалевіча „Сімфонія гневу", п'еса тав. Глазырына „Фронт", п'еса тав. Кацовіча „Фабрыка жабракоў" і п'еса тав. Зарэцкага „Сымон Карызна". Як бачыце з 65-ці п'ес добрых вельмі мала. Чым тлумачыцца гэтакі разрыў? Перш за ўсё тым, што ў напісанне п'ес уключылася мала сёнешніх членаў саюза,—пісаў, галоўным чынам, маладняк. Другое, тым, што на нашу моладзь яшчэ вельмі ўплыў робіць псеўда-рэволюцыйная тарабаршчына, якая доўгі час панавала на сцэне правінцыяльнага тэатра (не пазбаўлены мы і ўплыву нацдэмаўскіх трафарэтак—п'ес для вёскі). Мы пажынаем плён нашай няўважлівасці да мастацкасці так званага клубнага і вясковага рэпертуара. Конкурс не даў у гэтым напрамку аніякага зруху—гэты ўчастак застаўся аголеным.

Думаю такім-жа чынам абмежавацца некалькімі заўвагамі і ў адносінах да літаратуры народаў, насяляючых БССР, бо тт. Дунец, Жарскі і Вайшнорас будуць падрабязна спыняцца на канкрэтным матэрыяле гэтых літаратур. Я хачу адзначыць толькі, што яўрэйская літаратура БССР за апошнія два гады значна ўзняла свой мастацкі і ідэйны ўзровень і ў сэнсе росту ідзе поруч з беларускай літаратурай. Адсталым участкам гэтай літаратуры з'яўляецца проза і драматургія. З прозы мы можам прывесці толькі дзве вялікія рэчы—„Зелменьяне" Кульбака і „Шоўк" Доўгапольскага, а з драматургіі—п'есы З. Лева і Кацовіча. Гэтага, безумоўна, надзвычай мала, і нашай яўрэйскай

літаратуры трэба з асаблівай клапатлівасцю вырошчваць празаікаў і драматургаў. Польская літаратура за апошні год значна вырасла і мае ўсе перспектывы праз год, максімум два, стаць досыць моцным атрадам нашай совецкай літаратуры. Вочавідны рост такіх пісьменнікаў, як тав. Кавальскі, тав. Раманоўская, Краінскі і інш., ідзе поруч з пашырэннем масавага літаратурнага руху, які яднаецца навакол газеты „Орка" і польскай нашай секцыі. Нашым польскім таварышам не хапае глыбокай прапрацоўкі сваіх твораў, не хапае канкрэтнай крытыкі. Думаю, што тав. Жарскі і ўвесь з'езд папоўняць гэты прабел. У значна горшым становішчы маладая літоўская літаратура, як па ўзроўню апошніх год творчасці, так і па літаратурных сілах, а таксама па базе апоры—па масаваму літаратурнаму руху. Вінаваты тут ва многім самі літоўскія таварышы—надзвычай слаба звязаныя з масамі, некалькі замкнутыя ў сваім асяроддзі. Вінават і Аргкамітэт, які не зварочваў дастатковай увагі на работу сваіх нацыянальных секцый.

Для нацыянальных літаратур характэрны ўсе тыя адмоўныя бакі, пра якія я гаварыў, разглядаючы беларускія творы. Мне хацелася-б толькі падкрэсліць асаблівую важнасць для польскай і літоўскай літаратуры авалодання вытворчай тэматыкай і пасіленне тэматыкі пра рэволюцыйнае змаганне рабочага класа на Захадзе. Бо гэта тэматыка адыграе сваю станоўчую ролю для рабочых нашых капіталістычных суседзяў, а таксама і вялікую інтэрнацыянальна-выхаваўчую ролю для нас саміх.

Перадапошняе пытанне: гэта наша крытыка. Стала ўжо афарызмам: „Крытыка адстае нават ад літаратуры". Аднак, сказаць толькі гэта—роўназначна таму, што сказаць пісьменніку: „Вы напісалі дрэнную рэч", не растлумачыўшы, чым гэтая рэч дрэнная. У чым адстае наша крытыка? Перш за ўсё яна адстае ў разглядзе, аналізе і разгроме былой нацдэмаўскай крытыкі, а такі аналіз мог-бы нам шмат чаго вытлумачыць у зрывах рада пісьменнікаў з „Узвышша", „Полымя, мог-бы вытлумачыць і нацыяналістычныя зрывы ў некаторых крытычных работах тав. Кучара (прыкладна, у артыкуле пра Купалу). Мне на днях прышлося чытаць артыкулы акадэміка Замоціна пра Крапіву і Глебку. Акадэмік Замоцін—чалавек вялікай літаратурнай эрудыцыі, аднак, дзякуючы таму, што не аналізавана, як след, нацдэмаўская крытыка, тав. Замоцін разводзіць рукамі, калі патрэбна даць канкрэтныя прыклады зрываў у тав. Крапівы і Глебкі часоў „Узвышша", а яшчэ больш—калі трэба высветліць прычыны гэтых зрываў. Ён абсалютна бездапаможны і чыстасардэчна заяўляе, што ён гэтых прычын не ведае. Аднак, калі вы возьмеце хаця-б вастрату баек Крапівы таго часу (а многія з іх былі літаральна бяззубымі), разрыў паміж мастацкім матэрыялам і вывадзімай з яго мараллю, такая падача матэрыяла, што класавы вораг выклікае толькі ўсмешку, а не знішчальны смех—вы маглі-б нашчупаць уплывы „Узвышша" на ранняга Крапіву на канкрэтным матэрыяле. Гэтая бяззубасць, змаганне без дастатковай страснасці знішчаецца тады, калі тав. Крапіва перамог свае зрывы і цвёрда стаў на шлях актыўнага служэння пролетарыяту. Акадэмік Замоцін у сваім дакладзе пра творчасць Глебкі праходзіць міма абсалютна двухсэнсовых месц у яго ранняй творчасці часоў „Узвышша". А між тым гэта двухсэнсовасць, адлюстроўваючы раздваенне думак пісьменніка (можа таму, што на яго з аднаго боку ўплывалі нацыяналісты, а з другога боку на яго ўплывалі нашы перамогі)—павінна была падпасці асабліва ўважліваму аналізу крытыка. Нельга, зразумела, прыняць усур'ёз і параду тав. Замоціна, дзе ён, нападаючы на

Крапіву за тое, што той не паказвае класавай барацьбы на звычайнай вясковай вечарынцы, як-бы патрабуе ад пісьменніка абавязковага агалення палітычнай схемы нават там, дзе яна абсалютна не неабходна. Пры ўсіх вельмі станоўчых якасцях акадэміка Замоціна, як высока кваліфікаванага крытыка, прыведзеныя мною прыклады сведчаць пра недастатковую часамі чоткасць палітычнага аналіза ім твораў пісьменнікаў.

Гэтым грэхам грэшыць і частка работ праф. Піотуховіча. У сваім артыкуле пра дарэволюцыйную творчасць Бядулі, праф. Піотуховіч некалькі змазвае актыўную нацыяналістычную работу Зм. Бядулі, паказваючы яго толькі, як падпаўшага пад уплыў асяроддзя „Нашай нівы", што, зразумела, не так. Наогул таварышу Бядулі не шануце—ён нездаволен і артыкулам тав. Кучара пра яго паслякастрычніцкую творчасць. Я таксама заўважыў памылковасць сцверджання тав Кучара, што нацыяналізм у аповесці „Салавей"—заключаецца ў тым, што Бядуля вывёў паноў абшарнікаў выключна з польскімі прозвішчамі. Кампанія пана Вашамірскага магла складацца выключна з людзей, якія маюць польскія прозвішчы—тут ніякага намёку на тое, што эксплататарамі на Беларусі былі палякі, няма. Налёты нацыяналізма ў аповесці „Салавей" ёсць. Яны там, дзе тав. Бядуля выводзіць маляра-мастака, які з вялікай ахвотай малюе выключна беларускія пейзажы. Тут тав. Бядуля замыкае мастака-беларуса толькі ў рамкі нацыянальнага, за межамі якога для яго няма мастацтва. Тут праглядвае расавая тэорыя мастацтва, а тав. Кучар гэтага не заўважыў. Маецца і другое месца з яўным уплывам нацыяналізма, якое таксама не заўважыў, тав. Кучар. Вобраз яўрэя-рыбака, які песняй-малітвай прывёў у „трепет" магнатаў—ёсць кандэнсіраваны вобраз яўрэйства, магутнага і непераможнага сваёй верай у Егову. Вось гэтыя мясціны тав. Бядулю трэба было папраўляць. Абсалютна няправы тыя т. т., якія агульна ахайваюць усю крытыку, лічаць, што яна засталася на групавых пазіцыях, што яна ідзе з „аглядкай на асобы" і абсалютна ніякай дапамогі пісьменніку не дае. Варта ўспомніць канкрэтную крытыку таго-ж тав. Кучара Бядулевых твораў, твораў раду нашых паэтаў, варта ўспомніць крытычныя выступленні на нашых творчых нарадах, значна ўзмацніўшуюся канкрэтную крытыку ў газеце „ЛіМ", варта, нарэшце, прывесці работы тав. Браништэйна пра Зарэцкага, аб праблемах стылю творчасці маладых празаікаў і рад іншых яго твораў, каб сказаць, што агульнае абвінавачанне нашай крытыкі ў „агульшчыне"—нічым не абгрунтавана. Гэта асабліва не абгрунтавана ў адносінах да тав. Браништэйна, які ўзняў рад высокапрынцыповых пытанняў, значных праблем у нашай літаратуры, стаўшы за гэты кароткі час сапраўды вядучым крытыкам у беларускай літаратуры.

Калі чытаеш работы нашага крытычнага маладняка, часта заўважаеш, што яны разбіраюць толькі адну якую-небудзь рэч пісьменніка, адарвана ад усяго папярэдняга шляху яго творчасці. Яны не здолелі абняць увесь творчы шлях, часта яго не ведаюць, а таму парады іх прымаюцца пісьменнікам, у лепшым выпадку, скептычна, на жаль, і тады, калі гэты скептыцызм нічым, апрача маладосці крытыка, не абгрунтаваны. У адносінах крытыкі крытыкаў варта прад'явіць тыя самыя патрабаванні, якія да крытыкі прозы і паэзіі: крытыкуй канкрэтныя творы, канкрэтныя памылкі крытыка.

## АРГПЫТАННІ

Аргпытанні тав. Кагановіч на XVII з'ездзе партыі назваў „адточаным інструментам для паспяховага ажыццяўлення палітычных і эканамічных задач, пастаўленых партыяй, зразумець сутнасць якіх магчыма толькі, зра-

зумеўшы і адчуўшы ўсю веліч пастаўленых намі задач, так яркаасветленых магутным пражэктарам справаздачнага даклада тав. Сталіна. Тав. Кагановіч прывёў нават прыклад з жыцця літаратурных арганізацый (пра перабудову ў адпаведнасці з пастановай ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г.), каб пацвердзіць свой тэзіс пра агромністае значэнне аргпытанняў. На другім пленуме Аргкамітэта мы з вамі падвялі вынікі нашай перабудовы. Я не хацеў-бы паўтарацца. Таму зазначу толькі адно.

Стварэннем Аргкамітэта, падборам людзей, ЦК КП(б)Б і пад яго кіраўніцтвам комуністычная група Аргкамітэта забяспечылі перабудову работы пісьменніцкай арганізацыі, ліквідавалі групавую барацьбу ўнутры арганізацыі, стварылі ўсе ўмовы для дружнай карыснай работы ўсіх пісьменнікаў, якія сапраўды сталі на платформу совецкай улады і партыі, актыўна падтрымлівалі гэту платформу і жадалі ўдзельнічаць у соцыялістычным будаўніцтве. ЦК КП(б)Б увесь час сачыў за нашай работай, па-большэвіцку выпраўляў нашы памылкі, канкрэтна і аператыўна кіраваў літаратурнай справай. Гэта забяспечыла нашы поспехі. Такую-ж увагу да пісьменнікаў, да літаратуры аказвалі органы совецкай улады, Совет народных камісараў, Цэнтральны выканаўчы камітэт. Вялікую дапамогу аказваў Народны камісарыят асветы і Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. Мы мелі поўную і ўсечасную дапамогу з боку органаў партыі і ўлады не толькі ў цэнтры, але і на мясцах, мы мелі канкрэтнае простае кіраўніцтва з боку партыі і совецкай улады, ажыццяўляючае мудрую палітыку, вялікай партыі Леніна-Сталіна. Гэтае ўмелае, мудрае, уважлівае кіраўніцтва забяспечыла поспехі совецкай літаратуры, яно забяспечвае і наш далейшы рост. У парадку выканання дырэктывы партыі, выкладзенай у пастанове ад 23/IV—33 г., сваімі арганізацыйнымі мерамі Аргкамітэт імкнуўся кансалідаваць пісьменніцкія рады. Ён уцягваў пісьменнікаў, якія не ўваходзілі раней у БелАПП, у актыўную кіруючую і грамадскую работу. Гэта дапамагала палітычнай і творчай актывізацыі пісьменнікаў. Аргкамітэт змагаўся з рэшткамі групаўшчыны, з групавой крытыкай. Асабліва яскравы прыклад гэтаму—наш апошні пленум, які канчаткова дабіў групавую крытыку.

Аргкамітэт, праводзячы творчыя вечары і творчыя нарады, імкнуўся не без поспехаў—скласці такую творчую атмасферу, якая-б спрыяла творчай рабоце пісьменніка, давала-б яму канкрэтную дапамогу. Арганізуючы штогодна творчыя камандыроўкі значнай часткі пісьменнікаў, Аргакамітэт пашырыў пісьменніку магчымасці творчых нарыхтовак матэрыялаў. Рэарганізацыяй кіраўніцтва (творчыя вечары з чыткай асобных твораў)—удалося некалькі палепшыць канкрэтную дапамогу пісьменнікам, калі не з боку нашай „адстаючай" крытыкі, дык з боку ўсяго пісьменніцкага калектыва.

Аднак, у арганізацыйнай рабоце камітэта ёсць шмат буйных недахопаў. Першы і асноўны вялікі прарыў у рабоце Аргкамітэта гэта неналаджанасць палітычнай і творчай вучобы, асабліва па лініі падрыхтоўкі маладых пісьменнікаў. Другі недахоп—незабяспечанасць эфектыўнасці тых мерапрыемстваў, якія праводзіліся Аргкамітэтам, пачынаючы ад нарад (якія часамі дрэнна падрыхтоўваліся) і канчаючы творчымі камандыроўкамі (якія, як правіла, дрэнна выкарыстоўваліся). Да недахопаў нашай работы патрэбна аднесці і балбатню пакуль што пра супольную работу з комсамолам і профсаюзамі.

Ні з комсамолам, ні з профсаюзамі ў нас сапраўднай большэвіцкай работы няма, хаця рад мерапрыемстваў мы з імі эпізодычна праводзілі, і праводзілі не дрэнна. Па лініі масавай работы, асабліва ў апошнія месяцы, мы працавалі не дрэнна, ахапіўшы ёю ўсе буйней-

шыя гарады Беларусі. Асабліва я павінен адзначыць Гомель, дзе гарком КП(б)Б прымае жывы, непасрэдны ўдзел у рабоце пісьменніцкай арганізацыі, а „Палеская праўда“ сістэматычна займаецца пытаннямі літаратуры. У выніку гэтага мы маем у Гомелі і ў Менску (дзе ГК КП(б)Б таксама аддаваў пытанням літаратуры вялікую ўвагу) нашы лепшыя літаратурныя гурткі (Добруш, „Варашылаў“, „Бальшэвік“).

У апошні час мы правялі адну з асноўных арганізацыйных работ афармленне нашай саюзнай арганізацыі. Гэта не толькі фармальная работа. Гэта работа мае выключнае палітычнае і практычнае значэнне для літаратуры. Арганізацыя Саюза—гэта ў першую чаргу азначае арганізацыю атрада ўсесаюзнай літаратуры. Уважлівы адбор у адпаведнасці з умовамі статута адзінага Саюза совецкіх пісьменнікаў СССР азначае, у першую чаргу, павышаныя запатрабаванні да прынятых у саюз: іх творчасць павінна стаяць на ўзроўні ўсёй усесаюзнай літаратуры. Арганізацыя саюза азначае павышэнне якасці літаратуры, ліквідацыю адставання яе ад тэмпаў і задач соцыялістычнага будаўніцтва, бо Саюз совецкіх пісьменнікаў—гэта аб‘яднанне самых моцных, самых кваліфікаваных майстраў мастацкага слова, сваёй тварчасцю, даказаўшых жаданне і ўменне змагацца за соцыялізм. Арганізацыя саюза ў шмат раз павялічвае адказнасць усёй пісьменніцкай арганізацыі і кожнага пісьменніка перад чытачом, перад партыяй, перад рабочым класам, перад сусветным пролетарыятам. Арганізацыя саюза ў шмат раз павінна ўзмацніць усю нашу работу—арганізацыі і кіраўніцтва. Мы прынялі ў саюз 65 чал. Мы прымалі не толькі „масцітых майстроў“, мы прымалі літаратурную моладзь, якая сваімі творамі паказала ўжо свае літаратурныя мастацкія здольнасці. Саюз пісьменнікаў не застыўшая карпарацыя, гэта жывы арганізм, які папаўняецца і будзе папаўняцца новымі і новымі падрастаючымі пісьменнікамі. Аднак, задача не разжыжаць саюз, не зніжаць кваліфікацыйныя запатрабаванні—прымусіла нас 12 пісьменнікаў прыняць толькі ў кандыдаты.

Прыём у кандыдаты ішоў, галоўным чынам, па наступных крытэрыях: або малады пісьменнік здольны, аднак не даў яшчэ такіх твораў, якія маюць самастойнае мастацкае значэнне і сведчаць пра неабходнасць яшчэ падрасці, папрацаваць над сваімі творамі (Агнявет, Маракоў, Піваварaў, Шведзік), або таварыш, які мае ўжо рад друкаваных твораў, аднак якасць гэтых твораў недастаткова высокая ў сувязі з тым, што ён сур‘ёзна над імі не працаваў (Ільінскі і інш.). Абедзве гэтыя катэгорыі будуць прыняты ў саюз толькі ў тым выпадку, калі яны дадуць у бліжэйшы год-паўтара высокаякасныя творы. Такім чынам прыём у кандыдаты з‘яўляецца вялікім стымулам творчага росту. Мы ўстрымаліся ад прыёму ў саюз раду маладых пісьменнікаў, якія яшчэ не далі колькі-небудзь значных твораў, аднак мы ім не адмовілі: яны павінны ўпарта працаваць над сваімі творамі, расці, каб потым стаць у рады совецкіх пісьменнікаў і з гонарам насіць гэту адказнейшую назву. Мы адмовілі толькі 6 чалавекам, якія безнадзейны ў сэнсе іх росту, як літаратараў. Як бачыце, мы гэтай арганізацыйнай мерай фактычна расставілі так сілы, каб рухацца наперад яшчэ больш паспяхова, яшчэ больш арганізавана і з большымі перамогамі.

Таварышы. Па меры сіл і здольнасцей я імкнуўся даць аналіз становішча і задач совецкай літаратуры БССР. Гэтыя задачы нам ясны, як ясны шляхі нашага мінулага, яго перамог і прарываў. Мы дасягнулі значных перамог, дзякуючы мудрэйшаму кіраўніцтву ленінскай партыі, дзякуючы празорлівейшаму кіраўніцтву вялікага Сталіна.

Стальная фігура сусветнай пролетарскай рэволюцыі, непахісны большэвік, арганізатар перамог пролетарыята ў баях соцыялізма з капіталізмам, палкаводзец ленінскай гвардыі і ўсяго працоўнага чалавецтва, які вядзе працоўныя масы Совецкага саюза на штурм апошніх вышынь, за якімі адкрываецца светлае соцыялістычнае жыццё, які вядзе сусветны пролетарыят у апошні бой з капіталізмам,—таварыш Сталін, як ніхто другі, паказаў і паказвае шляхі развіцця совецкай літаратуры. Лозунг соцыялістычнага рэалізма, указанні, што ўсякі пісьменнік, калі толькі сумленна ён будзе адлюстроўваць нашу сапраўднасць—ён нязбежна прыдзе да комунізма, простая ацэнка асобных твораў пісьменніка і творчых шляхоў літаратуры, нарэшце, усе тэарэтычныя работы таварыша Сталіна, яго даклад на XVII з'ездзе ВКП(б)—вось што асвятляло, вяло і будзе весці надалей нашу совецкую літаратуру. У святле магутнага пражэктара сталінскага даклада на з'ездзе нам ясны і шлях пагібелі капіталістычнага свету, яго культуры і літаратуры, і шлях, які вядзе—праз таржаство нацыянальных культур і літаратур, праз усямернае развіццё і расцвет іх—да адзінай культуры і літаратуры бяскласавага комуністычнага грамадства, з адной агульна-чалавечай мовай. Наша задача адна—выконваючы геніяльныя ўказанні правадыра партыі, гістарычныя пастановы XVII з'езда ВКП(б), ажыццяўляючы праграмы для ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва палажэнні даклада тав. Сталіна на XVII з'ездзе,—упарта і аддана, з велічайшай любоўю і энтузіязмам, авалодваючы тэхнікай і тэорыяй сваёй справы, ствараць мастацкія палотны, вартыя нашай непаўторнай эпохі, адлюстроўваць гераічную барацьбу будаўнікоў соцыялізма, адлюстроўваць нашу партыю—самае лепшае, што магло даць чалавецтва. Нам трэба, насычаючы свае творы энтузіязмам тварцоў соцыялізма, зваць, арганізоўваць, запальваць рады барацьбітоў на канчатковую пабудову комуністычнага грамадства ва ўсім свеце.

Мы гэту задачу выканаем. Таму, што, кажучы словамі пролетарскага паэта Александровіча:

„Скрышаючы косці развалін старызны,
Грыміць перамогамі слаўны салют,
Агнямі ўрачыстасці соцыялізма
Заліт рэволюцыі нашай маршрут.

Таму толькі шчасцем мы ўсе заўладалі,
Што сэрцам з'яднаныя дружна раслі.
А нашае сэрца—усёй нашай зямлі—
Наш родны, любімы наш Сталін".

---

# БІБЛІЯГРАФІЯ

**ЛІТАРАТУРНЫ ГОМЕЛЬ", альманах Гомельскага аргбюро савецкіх пісьменнікаў, 1934 г., ст. 140.**

Альманах „Літаратурны Гомель" з'яўляецца поўным падагульненнем працы гомельскіх пісьменнікаў за апошнія часы.

Гэты альманах сведчыць пра значны рост літаратурна-масавага руху ў Гомелі, пра значны творчы рост маладых і пачынаючых пісьменнікаў, выгадаваных на прадпрыемствах і ў Чырвонай арміі.

Поруч з творамі гэтай літаратурнай моладзі ў зборніку мы маем і творы больш старэйшага пакалення літаратурнай інтэлігенцыі—творы, якія сабою становяць не малы ўклад у беларускую савецкую літаратуру.

Найбольш цікавымі з усіх матэрыялаў, змешчаных у альманаху, з'яўляецца апавяданне Крапачова „Шахимарданская мечеть" і п'еса Е. Міровіча „У вясновую ноч".

А. Крапачоў—малады, нядаўна прышоўшы ў літаратуру пісьменнік. Фактычна, свой прыход у літаратуру Крапачоў замацаваў апавяданнем „Шахимарданская мечеть". Гэты твор вызначае Крапачова як літаратурна-культурнага і здольнага пісьменніка. Тэма апавядання ўзята з эпохі змагання Чырвонай арміі з унутранай контррэволюцыяй Узбекістана. Паказваючы класавыя ўзаемаадносіны таго часу, разгортваючы падзеі—Крапачоў імкнецца захаваць нацыянальны каларыт гэтых падзей, гэтых класавых сутычак. І гэта пісьменніку ў значнай меры ўдаецца.

Нацыянальнай рэльефнасці ў сваім творы Крапачоў дасягае шляхам індывідуалізацыі мовы персанажаў, падборам характэрных лакальных вобразаў. Апавяданне „Шахимарданская мечеть" пачынаецца так: „Лениво, как старый верблюд, тянулась жизнь долинного кишлака Имрали". Крыху ніжэй аўтар кажа: „Жизнь была бедна событиями, как бедны водой долго нечищенные арыки". Гэтымі скупымі, але сакавітымі і яркімі фарбамі аўтар дае фон дарэволюцыйнага Узбекістана.

Параўнанне жыцця дарэволюцыйнага Узбекістана са старым вярблюдам, які ледзь-ледзь цягнецца, прыдушаны да зямлі цяжарам ускладзенага грузу,—не зніжае вобраз да натуралізма, а паказвае на сацыяльную прыбітасць, адсталасць старога Узбекістана і адначасова рэльефна падкрэслівае рысы нацыянальных асаблівасцей Узбекістана.

Крапачову ў значнай меры ўдаецца тыпізаваць героя праз яго мову. У гэтых адносінах асабліва ярка выступае фігура ўзбека-чырвонаармейца, адданага справе рэволюцыі—Іргаша.

Іргаш, прышоўшы з разведкі, гаворыць партыйцу Шыцікаву і камандзіру эскадрона Смірнову: „Этот старый шакал Ярмат, приказал собрать дехканам сухой камыш и засыпать мечеть и двор. Дехкан не хочет. Ярмат трех зарезал. Мулла разрешил жечь мечеть и говорил дехканам, чтобы несли камыш.

— Кафиры опоганили святую мечеть Аллах не будет слушать в ней наши молитвы.—Дехкане легли на улице и сказали: не пойдем. Ярмат ездил на коне и бил всех камчей. Дехкан не поднялся. Ярмат убил еще двух.—Не может больше спокойно рассказывать Иргаш.

— Джигиты совсем как жулик стал. Каранчить стал. Воровать стал. Жители боятся. Мне бичера дехкан гамазом говорит:

— Иргаш, советская власть хорош.

Шитиков хлопает Иргаша по плечу:

— Дехкан якши, Иргаш.

Иргаш отходит в сторону и, дернув за рукав, тянет к себе Смирнова.

— Вот бестия, наверное, наверное неприятность какая-нибудь, хитер, не хочет говорить при всех,—догадывается Смирнов.

Иргаш торопливо шепчет:

— Товариш командир, Ярмат позвал еще три курбаша. Пришел Ташмат, Нур-Мимбаши. Басмач тысяча будет. Завтра мечеть жечь будут. Бай мардикеров посылает за камышем. Ярмат охрану дал—боится, убегут мардикеры. Красноармейцы близко нет" (ст 45).

У гэтай мове узбекскага селяніна-батрака Іргаша, мове, перамешанай напалову з рускай, —адчуваецца ўнутраная цяга Іргаша да сваіх класавых братоў, чырвонаармейцаў, жаданне разам з імі абараняць свае класавыя інтарэсы.

Апрача Іргаша найбольш удалымі вобразамі ў апавяданні з'яўляюцца вобразы чырвонаармейца Нікана ва і камузвода Кувалдзіна.

Вобраз Ніканава не новы ў літаратуры, асабліва ў рускай. Але Крапачоў падаў яго арыгінальна жыва і даволі глыбока.

Ніканаў—аптыміст. Ён ніколі і ні пры якіх выпадках не аддаецца суму, рэфлексіі. Ніканаў вельмі любіць жыццё. Ён цесна зросся з чырвонаармейскімі паходамі, з абстаноўкай. Замілаванне да жыцця, непарыўная сувязь з масамі, і кіпучая праца чырвонармейца не дае яму ніводнай хвіліны аддавацца розным хваравітым рэфлексіям. У ім сканцэнтравана пераможная радасць жыцця, што ідзе праз гарматны агонь, франты, жудасць рэволюцыйнага разбурэння і стварэння. Ніканава нельга параўнаць з тыпам „аптыміста-рэволюцыянера“, для якога „мора па калені. Яго радасць—гэта радасць чалавека, які перажывае і пакідае свае „грехи крестьянина“ і які пачынае жыць для рэволюцыі, „жить так, чтобы некогда было и умереть“.

Сустракаем мы Ніканава ў апавяданні ў вобразе „веселого парнишки с балалайкой“, які спявае складзеныя ім самім песні: развявае зморанасць і часовы сум чырвонаармейцаў.

Пакідаючы жыццё і старонкі апавядання, Ніканаў кажа: „Эй, дай дорогу Никонову, жаль, балалайки нет!“ Гэта гаворыцца ў той час, калі вырашаецца лёс цэлага эскадрона, які прыціснуты ворагам, прымушан прыкрывацца ля сцен Шахімарданскай мечэці і выйсця для якога амаль няма.

На першы погляд гэтыя словы нагадваюць лёгкадумнага чалавека. Гэта—як-бы парадаксальна. У сапраўднасці безвыходнае становішча патрабавала вялікай мужнасці, дысцыпліны чырвонаармейцаў. Людзей, скованых часовым адчаем, трэба было дысцыплінаваць, заспакоіць іх нечым больш вясёлым, больш жыццерадасным, больш звычайным чалавечым, нават весельна-радасным, і адначасова чымсьці такім, што сапраўды памагло-б выратавацца з безвыходнасці, чымсьці ахвярным у імя агульнага. Балалайка і Ніканаў гэта зрабілі.

Бледнымі выйшлі вобразы Смірнова, Шыцікава і старшыні эскадрона Зуева.

Смірноў—вельмі спрошчаны як вобраз чалавека, партыйца і таварыша. Гэты вобраз нагадвае вобраз партыйца „в кожаной тужурке з наганом“, вобраз „жалеза-бетоннага партыйца“, партыйца, які фігуруе ў шмат якіх творах рускай спадарожніцкай літаратуры эпохі грамадзянскай вайны і аднаўленчага перыяду. Зуеў і Шыцікаў—бледныя шэрэнькія людзі, якім дазволена быць невялічкімі трубкамі ў механізме падзей.

Крапачоў у сваім апавяданні зрабіў памылку, якая вынікае з таго, што аўтар строга прытрымліваўся гістарычнай дакладнасці фактаў. У канцы твора пісьменнік кажа: „Эпизод гибели отряда Шахимарданской мечети передан мною точно“. А гэта не зусім добра. Падаючы дакладна гэты факт, фатаграфуючы яго, аўтар не мог даць дастаткова месца творчай фантазіі—аднаму з неабходнейшых элементаў ідэйна мастацкага абагульнення. Следуючы за фактам, аўтар папаў у палон выпадковасці.

Атрад чырвонаармейцаў, прымушаны хавацца ад басмачоў у Шахімарданскай мечэці, як вядома з апавядання, павінен быў увесь загінуць. Выратаванне атрада поўнасцю залежала не ад гераізма гэтага атрада, а ад гераізма часцей палка, якія выпадкова для сябе даведаліся аб становішчы атрада. Асноўнае ў гераізме трэба аднесці на часці палка, а не на атрад. Гераізм атрада заключаецца толькі ў тым, што чырвонаармейцы змаглі ўсе чэсна памерці,—і ўсё. А аўтар усё-ж імкнуўся паказаць гераізм атрада. Адсюль—гэты гераізм няпоўны, аднабаковы.

Тав. Міровіч у п'есе „У вясновую ноч“ распрацаваў вельмі актуальную тэму—падрыхтоўка да вясновай сяўбы, удзел у вясновай сяўбе палітаддзелаў МТС, новая форма барацьбы кулака і інш.

Трэба сказаць, што Міровіч у гэтай сваёй п'есе ў асноўным з пастаўленымі задачамі справіўся. П'еса соцыяльна насычана. Тэма разгорнута праз шэраг канфліктаў, калізій, перапетый. Захоўваючы класічнае адзінства часу, мінімальную колькасць дзейных асоб,—Міровіч змог паказаць асноўныя задачы падрыхтоўкі да вясновай сяўбы.

Мінімальная колькасць персанажаў, прастата, (не прымітыўная) у паказе дзейных асоб, прастата мовы—усё гэта робіць п'есу вельмі каштоўным укладам у вясковы клубны рэпертуар. Такіх п'ес для нашай калгаснай вёскі патрэбна больш.

Новым і цікавым у п'есе Міровіча з'яўляецца тое, што тут аўтар спрабуе падаць на фоне класавага змагання новы быт, новыя адносіны да працы, адносіны паміж бацькамі і дзяцьмі.

Некаторыя персанажы Міровічу не ўдаліся, асабліва Мікола Фядотавіч, начальнік участка МТС. Гэты вобраз залішне спрошчаны. Мікола залішне „партыец“, ён сузірае, правярае, а сам у працу не ўключаецца. Добра пададзен вобраз Аўдоцці (жонкі Фядота—механіка ў званне МТС), вобраз самога Фядота, вобраз трактарыст Алеся.

Барыс Пасканнеў змясціў у альманаху два апавяданні—„Сэрца“ і „Жыццё“. Па арыгінальнасці распрацоўкі тэмы і па творчай фантазіі найбольш удалым з іх з'яўляецца апавяданне „Сэрца“.

Пасканнеў навучыўся сюжэтна, досыць цікава будаваць свой твор. Гэта якраз тое, чаго нехапае шмат каму з беларускіх пісьменнікаў. У гэтым апавяданні аўтар выходзіць з рамак звычайнага тэматычнага кола, бяручы тэмай для „Сэрца“ пытанні медыцыны.

Дадатным з'яўляецца і тое, што Пасканнеў не фатаграфуе рэчаіснасць, што

ён не баіцца творчага вымыслу, фантазіі. Але тут хаваецца і небяспека адрыву ад рэчаіснасці. Захапляючыся магчымым, а не існым, Пасканнеў пападае ў палон немагчымага. А трэба памятаць, што фантазія толькі тады каштоўная і валодае вялікай творчай сілай, калі яна выражае магчымае. Адлучыць сэрца ад арганізма хоць-бы на некаторы час—немагчыма. А гэтага не ўлічвае Пасканнеў у сваім творы „Сэрца".

У другім апавяданні—„Жыццё" Пасканнеў пападае ў іншую крайнасць. Тут пісьменнік залішне абцяжарвае апавяданне асобнымі фактамі, без якіх твор змог-бы абыйсціся. Непатрэбны ў апавяданні вобразы Кабана, Рыцыны. Яны толькі нясуць такую-сякую нагрузку кампазіцыйную. А гэтага для твора вельмі мала.

Малады навеліст Саламон Мельнікаў у сваіх навелах „Адвага", „Хваляванне", „Дакор"—выяўляе бясспрэчныя здольнасці.

У навеле „Хваляванне" Мельнікаў майстэрскі дае псіхалагічны эцюд: фарбы Мельнікава вельмі скупыя, але пісьменнік можа ўмела імі карыстацца: два тры мазкі, і перад намі малюнак жывога пачуцця, жывога хвалявання чалавека. Найбольш удаецца Мельнікаву псіхалагічны эцюд-навела. Мельнікаў робіць устаноўку на „нутро" рэчы, з'явы і праз іх паказвае знадворнае, навакольнае і адносіны да яго. Мова Мельнікава — адточаная, лаканічная, абрывістая, што стварае знадворную дынамічнасць твора.

Асноўнай небяспекай для Мельнікава з'яўляецца небяспека зрабіцца педантам „душы" рэчы, з'явы, факта, дэталі. Аўтар часамі спыняе ўвагу на дробным моманце псіхалогіі з'явы і з гэтага дробнага моманту імкнецца будаваць цэлы твор.

Аддзел паэзіі прадстаўлен творамі Хведаровіча, Сабаленкі, Тітова, Партнога, Гуцава, Дубасава, Кручкіна. Паэзія альманаха па сваёй якасці стаіць значна ніжэй прозы.

Урывак з паэмы пад назвай „Палітаддзел МТС" Міколы Хведаровіча пабудаваны на цікавым матэрыяле. Тэма палітаддзела МТС—у нашай літаратуры і асабліва ў паэзіі амаль зусім не закранута. Але вартасць твора змяншаецца не толькі ў тэме. Узяўшы актуальнае і важнае пытанне, Хведаровіч не справіўся з ім. Асноўным недахопам урыўка з'яўляецца тое, што Хведаровіч як паэт у мастацкай форме не паказаў таго новага, што прынёс у калгаснае будаўніцтва палітаддзел МТС. Хведаровіч гаворыць, (а не паказвае ў мастацкіх фарбах) пра ўдзел палітаддзела МТС у барацьбе з кулацтвам. Але-ж функцыя палітаддзела не абмяжоўваецца толькі гэтым. Апрача палітычнага ўмацавання калгасаў, палітаддзел МТС адыгрывае вялікую ролю ў справе гаспадарчага і культурнага ўмацавання калгаснага будаўніцтва. А гэтага Федаровіч це заўважыў.

У раздзеле „Дні палітаддзела", які як быццам прэтэндуе на паказ гэтых пытанняў, мы нічога апрача голых заўваг аўтара аб тым, што палітаддзел сустракаюць як любага госця прасторы палёў і прыветны калгас", апрача заўваг, што раз'язджаюць трактары, апрача агульнага ўсхвалення нашых дасягненняў на вёсцы,—мы нічога не маем.

Хведаровічу трэба задумацца над сваім далейшым творчым шляхам.

Амаль нічым не адрозніваецца ад гэтага „паэтычнага" твора ўрывак з паэмы пад назвай „На палях калгасных" Р. Сабаленкі. Тэма, узятая Сабаленкам, значна шырэйшая, чымся ў Хведаровіча. Здавалася, аўтар павінен адчуваць яшчэ большую адказнасць. У сапраўднасці-ж паэма вельмі агульная і паверхоўная. Гаворачы пра ўчынкі кулацтва, Сабаленка забываецца, што падпал калгаса—гэты стары метад барацьбы кулака, што кулацтва сёння знаходзіць больш тонкія і складаныя метады барацьбы.

Падагульняючы гутарку пра калгаснае будаўніцтва, Сабаленка вызначае жыццёвы максімум калгасніка. Гэты жыццёвы максімум у Сабаленкі вельмі абмежаваны. Прыводзім поўнасцю радкі:

„Што-ж чалавеку трэба?
Трэба
Новы кажух купіць,
Жонцы паліто пашыць,
У новую хату—
Зелень вазонаў.
Жыць, як учора,
Нельга-ж сёння.
Зноўку турботы,
Зноў неспакой,—
Столькі-ж у хаце
Пустых куткоў!
Тут вось паставім
Вазон лапушысты,
Там, пад партрэтам,
дубовы камод,
Фіранкі на вокны
Павесім чыстыя,
На тое-ж рабілі
Ударны год.
Хай-жа і ў нашай
Прасторнай хаце
Будзе ўтульнасць—
Родная маці".

Гаворыць, што чалавеку, апрача кажуха, вазонаў і г. д. нічога не трэба—па меншай меры мяшчанская абмежаванасць, мяшчанскі жыццёвы максімум, які амаль нічым не адрозніваецца ад патрабаванняў „культурнага гаспадара"-кулака.

З пачынаючых найбольшай увагі заслугоўваюць вершы Тітова „Дзве думы" і Дубасава „Чонгарский марш".

Вершы Гуцава („Марш ударнікаў") і Партнога („Стихи о дружбе и весне") надзвычай слабыя ў мастацкіх адносінах. У іх вельмі агульныя і шаблонныя мастацкія сродкі.

**В. Х.**

**З. ПІВАВАРАЎ, „Лірыка двух нараджэнняў, *вершы. ЛіМ, ДВБ. 1934 год.***

З. Піваваpaў з'яўляецца маладым камсамольскім паэтам. У сваёй першай кніжцы вершаў „Лірыка двух нараджэнняў" паэт сабраў усё лепшае, што было напісана ім за апошнія часы. У гэтай кніжцы змешчана ўсяго толькі восем вершаў. Аднак гаварыць пра вершы Піваварава патрэбна, паколькі ў яго ёсць свая творчая манера, некаторая арыгінальнасць, і яшчэ таму, што іменна цяпер, у працэсе росту паэта, варта намеціць далейшыя шляхі, па якіх павінна развівацца яго творчасць.

Лепшымі вершамі ў зборніку трэба лічыць два: „Мы — рабочыя-такелажнікі" і „Лірыка двух нараджэнняў". У вершы „Мы — рабочыя-такелажнікі" (1931 год) паэт паказвае геройства і адданасць рабочых сваёй справе. У гэтым вершы рабочыя пададзены не схематычна:

„Душа на росхрыст
веерам
Але...
удумны
важкі
рух.
І калі
не хапае
канвеераў,
Цiснем
на канвееры
ўласных рук".

І не якім-небудзь „ура-выкрыкам", а эмацыянальнасцю гучыць канцоўка гэтага верша:

„Акіяны
матэрыкі мо'
Затопяць
у вадзе.
Але
цела
Уласнай крывёю
сагрэта
Калі трэба,—
жыццё сваё
пакладзем
за кавалачак
чырвані
нашай планеты.
Мы—рабочыя—
такелажнікі!.."

Пасля добрага паказу рабочых заключныя словы верша „Мы—рабочыя такелажнікі" не гучаць фальшыва, а набываюць пэўную сілу і эмацыянальнасць. У вершы „З гістарычных дат" З. Піваваpaў выкрывае прадажніцкі твар пацыфістаў, якія кідаюць вадаспады высокіх фраз аб раззбраенні, а на самай справе займаюцца самым сапраўдным узбраеннем, вынаходзяць новыя газы і аэрапланы, рыхтуюць новыя эскадрыллі, каб:

Закрэсліць нас
На еўрапейскай
карце,

І таму:

А мы
ў сталёвым гарце
Будзем
на варце!

Верш „Гутарка з электраманцёрам" (які, між іншым, быў перакладзен на рускую мову І. Садоф'евым) дыша нянавісцю да нашых ворагаў. У гэтым вершы электраманцёр гаворыць:

А мы ўключым электраток
Нават сонца-дружа, не кажы,
Каб электрычнасці кожны глыток
Змог
іх
задушыць.

У вершы „Размова са швецкім майстрам" З. Піваваpaў ставіць і правільна выражае праблему скарыстання замежнай інтэлігенцыі на нашым будаўніцтве.

Верш „Голад і цывілізацыя" вызначаецца тым, што ў ім класавыя супярэчнасці ў Германіі паказаны не агульнымі разважаннямі, а пры дапамозе адной мастацкай дэталі.

Нямецкія рабочыя асуджаюць „танную цывілізацыю", якой захапілася маладая работніца Берта, купіўшы за апошнія грошы сабе (замест хлеба) „арэхавую мазь на загар" і паміраючы ад голаду.

Тонкая мода
цывілізацыі таннай
Цяжкі клумак
з пустымі рэчамі
Стоп,
не пройдзеш хадою
вульгарнай
Па рабочых кварталах
Нямеччыны!

Безумоўна, што, пішучы пра буржуазны захад, З. Піваваpaў мог значна разгарнуць, значна пашырыць рамкі свайго верша, не спыняючыся на адной з вышэйзначаных дэталей. Ён мог шляхам кантрастаў паказаць, як жывуць маладыя работніцы ў нашай краіне, ён змог бы даць некалькі яскравых замалёвак барацьбы нямецкіх рабочых з буржуазіяй. Але тады-б ужо верш разросся ў паэму. І што-ж? Гэта было-б не дрэнна!

У вершы „Лірыка двух нараджэнняў"—адным з лепшых вершаў свайго зборніка З. Піваваpaў паказвае, што селянін-бядняк заўсёды' пры ўсіх сацыяльна эканамічных фармацыях, страшэнна пакутваў, што пра яго пакуты могуць расказаць „вякі і пакаленні", і толькі пры савецкай уладзе гэты селянін сапраўды выходзіць на светлы радасны шлях. „Крывенькая хатка", „хлеб з мякінаю, ці з лебядою", „цэлае мора слёз",— гэта першае нараджэнне селяніна; уступленне селяніна на шлях калектывізацыі, бязмежная радасць маладых і чырвонашчокіх дзяцей", якія жывуць у нашу эпоху,—

другое нараджэнне. Гэты верш Піваварава падымаецца да пэўнай вышыні абагульнення.

Разгледзеўшы вершы З. Піваварава за апошнія гады, можна сказаць, што ён дасягнуў многага. У яго вершах з'явілася не толькі актуальная тэматыка, новыя ідэі, новыя праблемы, але гэта ўсё пацягнула за сабой палепшанне формы яго вершаў, новыя вобразы. Як пэўны мінус у творчасці Піваварава, патрэбна адзначыць амаль поўную адсутнасць паказу комсамола. Гэты прабел у сваёй творчасці паэт павінен у самым хуткім часе запоўніць.

Для таго, каб паказаць, што новыя тэмы пацягнулі за сабой новыя вобразы, прывядзем адну-дзве вытрымкі:

1. „У бараках ноч, як данбаскі вугаль,
чорная
І цішыня нацята
застыглай,
топкай
(з верша „Мінулае камандзіра“).

2. „А потым:
ноч крывавая
выпінаецца
нібыта воспа,
з вогненай імглы
(з верша З„ гістарычных дат“).

З. Піваварaў вучыцца ў паэтаў: Багрыцкага, Пастэрнака, Лугаўскога, Маякоўскага. Але на большасці яго вершаў усё-ж ляжыць уплыў Маякоўскага.

Асаблівасць большасці вершаў Піваварава заключаецца ў тым, што ён імкнецца даць рытарычную, аратарскую мову, але гэтая рытарычнасць заўсёды звязана з пэўнай эмацыянальнасцю. З. Піваварaў імкнецца сваю паэзію наблізіць да добрай прамовы, прамовы эмацыянальнай, пераканаўчай. З. Піваварaў піша свае вершы самымі рознастайнымі памерамі. І гэта не дрэнна. Правільна ў свой час гаварыў пра рознастайнасць памераў Н. Асееў.

„Палірытмія—гэта не зброд памераў, як шмат хто думае, пужаючыся яе і не рашаючыся перайсці да яе, а ёю кіруе найстрожэйшая, больш тонкая і больш выразная аснова жывой інтанацыі. Яна падпарадкавана гэтай інтанацыі, сведчачы пра сілу даравання, якое ўмее арыентавацца ў безлічы магчымасцей, у той час, як аднастайнасць аднаго ўзятага памера прывучае слых паэта і ягоннае пачуццё рытму хадзіць на шлейках, падцягваючы яго, як набрушнік, прыдаючы толькі вонкавую стройнасць яго выгляду“.

Але праз усе гэтыя памеры вершаў у паэта павінны праходзіць радыёхвалі нашай эпохі, гэтыя вершы павінны быць тыповымі для нашай эпохі. Яны павінны быць пачуццёвымі, яны павінны быць насычаны пафасам нашага будаўніцтва.

А крыніцы гэтага пафаса і гэтай пачуццёвасці заключаюцца ў тым, што паэт павінен добра ведаць, за што ён змагаецца, што ён павінен перабудоўваць свае пачуцці ў той бок, у які перабудоўваюцца пачуцці новага чалавека—удзельніка вялікага соцыялістычнага будаўніцтва.

Наш паэт павінен ставіцца да сваіх вершаў так, як ставіцца лепшы ўдарнік нашых прадпрыемстваў да выканання свае штодзённай работы.

*С. Левін.*

---

**АДКАЗНЫ РЭДАКТАР** *М. ЛЫНЬКОЎ.*

**РЭДКАЛЕГІЯ:** *Я. Бранштэйн, П. Галавач, П. Глебка, З. Жылуновіч, К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны.*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** *Менск, Савецкая, 68. Дом пісьменніка.*

# ЗМЕСТ

